


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**11** (1033)

ЛІСТАПАД

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2015

# ЗМЕСТ



**Уладзімір СЦЯПАН**

# ГУЛЬНІ

*Дакументальная аповесць*

## Падзенне

Спачатку чую свіст. Кідаю сняданак, падхопліваюся з крэсла, выбягаю на балкон. Там, у двары, на мяжы святла і ценю, стаіць мой сябар. Паміж жалезных слупоў хістаецца бялізна: прасціны, кашулі, ручнікі… Цень майго сябра доўгі, ён пераломліваецца на бардзюры. Валодзька левай рукой трымае ровар, пальцы правай у роце. Ён свішча на ўсю вуліцу, на ўвесь свет. Я радасна крычу, што зараз выйду, але ён не чуе…

Цень нашага чатырохпавярховага дома, зялёная трава, асветлены асфальт, празрысты цень старой акацыі, лава, цень сябра з роварам. Цень такі, што можна пруткі колаў пералічыць. Валодзька ўздымае руку, смяецца. Хапаю намазаны маслам кавалак батона і бягу на вуліцу, туды, дзе святло і цень.

Ні зімой, ні летам, ні восенню, а, менавіта напрыканцы вясны, на самым пачатку лета, мяне ахоплівае хваляванне і радасць. Такім жа ранкам мы ляцелі на ровары. Я сядзеў на раме, а Валодзька круціў педалі і свістаў, ды так моцна, што ў мяне вушы пазакладала. Наскочылі на бардзюр, упалі, пабіліся. Ляжалі, асветленыя сонцам, і сварыліся. І ровар ляжаў, пярэдняе кола круцілася. Спачатку хутка, потым цішэй. Выламаная спіца дзынькала. Пабітая рука балела, і бок балеў, але мы пачалі смяяцца. Спачатку ціха, а потым гучна. Ляжалі на асфальце і смяяліся, а потым змоўклі і толькі ў неба глядзелі, на белую і мяккую аблачыну. Глядзелі, пакуль яна не сплыла за рог нашага дома.

Падняліся і пайшлі пад кран мыцца.

## Карты

У нашым сёмым, калі ў цябе не было няхай і зашмальцаванай калоды картаў, то цябе і за чалавека не лічылі. Не было картаў толькі ў Валодзькі Гарбачова, па мянушцы Гарбач. Як не было ў яго і піянерскага гальштука, бо

---

*__Сцяпан Уладзімір (Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч)__ нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава (1977) і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Служыў у войску. Працаваў мастаком, рэдактарам на тэлебачанні, займаўся кніжнай графікай.*

*Аўтар кніжак прозы «Вежа» (1990), «Сам-насам» (1990), «Адна капейка» (2012). Піша таксама вершы, п’есы, сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў.*

і сам Валодзька, і дзве ягоныя сястры, і бацькі — сектанты. Аднакласнік не курыў, падглядаць у жаночую лазню не хадзіў, не краў, не біўся, у карты не гуляў, але і вучыўся кепска. У астатніх хлопцаў-аднакласнікаў карты былі.

Гарбач сядзеў за адной партай з Віцькам (мянушка Руды). У Віцькі жыў на кватэры муляр, які клаў новы заводскі комін. Мужчына вясёлы і паважаны, бо працаваў на вышыні, там дзе птушкі лётаюць. Потым той муляр абрынецца з вышыні, паляціць, заб'ецца, што нікога не здзівіць, вось каб застаўся жывым, то — дзіва. У таго муляра Віцька скраў калоду парнаграфічных картаў. У той самы дзень, як муляр забіўся. Нябожчыку ж карты не трэба.

Гуляць тымі картамі было немагчыма, бо блыталіся дамы з валетамі, шасцёркі з дзясяткамі, каралі з тузамі, віновыя дзеўкі з крыжовымі. Карацей, выявы расплываліся ў вачах…

Вось гэтыя карты, па адной, Віцька Руды, падсоўваў Валодзку Гарбачу, каб перавыхаваць хлопца, каб вярнуць яго да жыцця сапраўднага, людскага, хлапечага. Гарбач адпіхваў тыя карты, а Руды падсоўваў. Гарбач чырванеў, палатнеў, а Руды пасмейваўся. «Гарбач, ты хоць адным вокам зірні, гэта валет з цыцкамі, а вось сямёрачка, не адварочвайся, падла, глядзі…» — шаптаў Віцька і штурхаў успатнелага, чырвонага Валодзьку пад рэбры.

Не перавыхаваў, не хапіла часу. Валодзька адпіхнуў сямёрку, адмахнуўся, і тая карта затрапятала ў паветры, апусцілася на падлогу. І каб жа яна легла выявай на дошкі, то, можа, і абышлося б. Дык не! Настаўніца карту ўбачыла, схапіла, глянула, войкнула, да дырэктара пабегла. Дырэктар з'явіўся хутка. Усю калоду знайшлі ў партфельчыку сектанта-Гарбача.

Можна было б на гэтым моманце і спыніцца. Фінал! Але познім вечарам мы з Віцькам, ды яшчэ і Віталька з Сашкам Дупанам залезлі ў школьны сад. У настаўніцкай (школа наша аднапавярховая), як і ў кабінеце дырэктара, гарэла святло. Залезлі мы на яблыні. Дырэктар і настаўнік чарчэння-малявання сядзелі за сталом адзін насупраць другога і гулялі Віцькавымі картамі. Твары засяроджаныя, акуляры бліскаюць, над кожным ходам старанна думаюць, быццам не ў карты рэжуцца, а ў шахматы гуляюць. На стале, у жалезных падшклянках рудая гарбата стыне.

Нас яны не заўважылі.

Віцька Руды даўно загінуў на Поўначы, здаецца, у Сургуце. У Валодзькі Гарбача сямёра дзяцей (шэсць дачок, а вось самы малодшы — сын).

## Цок

Крываногі і лабаты Лёнька з Кастрычніцкай і Сямён, жыхар аднаго з Заходніх завулкаў, хаця не, Сямён, худы і лёгкі, як трэска, тады яшчэ не пераехаў са сваёй вуліцы Чапаева.

Гэтыя падлеткі — галоўныя героі. Саракагадовы, тады ён здаваўся мне старым, хірург гэпэшнай бальніцы па прозвішчы Сухадолаў, які аперацыю не пачынаў, пакуль не каўтане спірту — таксама герой, але не галоўны. Яшчэ чалавек сем: Віцька Руды, Сяргей Макарэц, Толік Купрык, Дупан, Бабок, Віцька Чорны і я — масоўка таго кароткага кіна, якое часам гляджу і гляджу, без розніцы з якога месца.

Пра тое, як мы плавілі свінец і адлівалі важкія цюхі, калі-небудзь потым раскажу. Між іншым, знакамітая гульня «цюха», у нашым гэпэ называлася «цок». Пра яе і размова. Лабаты Лёнька і худы Сямён спрачаліся да мацюкоў, спрабавалі словам і крыкам давесці, хто з іх лепш гуляе ў гэты самы «цок».

Даспрачаліся да таго, што вырашылі згуляць раз на раз, але было цёмна, а хто ў цемры цюху кідае. Дамовіліся што сустрэнуцца заўтра, тады і згуляюць за школай. Кідаць будуць з дзесяці крокаў, кожны сваю цюху.

Але ноччу Сямёну зрабілася дужа кепска, ці аб'еўся семкамі, ці свінымі салёнымі скуркамі, адно з двух. Выклікалі «хуткую», забралі падлетка ў бальніцу, дзе хірург Сухадолаў разрэзаў Сямёну пуза і выдаліў апендыцыт.

Лёнька два дні хадзіў па пасёлку і казаў, што Сямён з перапуду трапіў у бальніцу, бо баіцца, а таму, менавіта, яго і варта лічыць пераможцам і лепшым сярод усіх… Сямён, калі дазнаўся ад Віцькі Чорнага і Дупана пра крыўдныя словы лабатага Лёнькі, раззлаваўся так, што выкурыў дзве папяросы ўзапар. Курыў у акно, бо ляжаў у палаце на першым паверсе, і жывот забінтаваны паказваў, бо не хацеў, каб пра яго кепска думалі.

Сустрэчу прызначылі на нядзелю, на другую палову дня, у бальнічным двары, за ружовым будынкам трупярні. Там была добрая сцежка, там зацішна, туды не любілі хадзіць хворыя...

Гулялі доўга, засяроджана, зацята. Упоперак сцежкі цямнела глыбокая, як шнар, рыса. На ёй стаялі слупкі манет. Колькі іх там? Ніхто не ведаў, бо стаміліся лічыць. Сямён трымаўся левай рукой за перавязаны жывот, правай кідаў цюху, бо меўся патрапіць у слупкі манетак — меўся зрабіць «цок» і забраць усе грошы адразу.

Можа, так і было б, ды нечакана з'явіўся хірург Сухадолаў. Ён згроб, забраў сабе ўсе грошы, перасыпаў у кішэнь белага халата. Даў каршня Лёньку, які разявіў рот, каб нешта запярэчыць, абклаў мацюкамі Сямёна і пайшоў да дзвярэй ружовай трупярні. Хірург трохі пахістаўся і спяваў басам: «Я люблю цібя, жызнь, і недзеюсь што эта ўзаімна…»

Пахла бэзам, тытунём, спіртам і травой, а яшчэ бітумам, які варылі на будоўлі. Лёнька пайшоў праводзіць Сямёна да палаты, і яны не бачылі, як пад'ехаў да ружовага аднапавярховага будынка кароткі атобус, як ён доўга торгаўся, пакуль не прыткнуўся задам да ганка. Рухавік змоўк. Да цішыні бальнічнага двара дадаўся казытлівы бензінавы пах.

## Фрыда і ластаўка

Калі трапляюцца на вочы карціны мексіканскай мастачкі Фрыды Кало, то згадваю пахаванне ластаўкі.

Мёртвую пташку знайшлі Эмка з Галяй. Паклалі ў кардонку з-пад чаравікаў і панеслі за школу, у сад. Выкапалі там ямачку, насыпалі жоўтага пяску. Нарвалі ў школьным садзе кветак, якія толькі былі, абклалі чорна-белую пташку. Яшчэ і пялёсткамі шыпшыны ўпрыгожылі, як белымі, так і ружовымі, бліскучымі аскепкамі бутэлечнага шкла. Зверху накрылі ладным кавалкам шкла, якое чыста выцерлі травой і спадніцамі. Стаялі і моўчкі глядзелі на прыгожую смерць.

На шкле з'явіліся кроплі, разбіліся аб яго, ператварыліся ў празрыстых павучкоў. Пайшоў чэрвеньскі дождж. Дзяўчаты збеглі, каб не змокнуць. Прыйшлі на наступны дзень, каб паглядзець на ластаўку, а дзірку ў высокім шэрым паркане забілі жоўтымі сасновымі дошкамі, на якіх паблісквалі празрыстыя кроплі духмянай смалы.

Восенню Эма з Галяй трапілі ў сад, але зашклёную магілу ластаўкі, колькі ні шукалі — не знайшлі.

Мне тады было сем гадоў, а Эмка з Галькай жылі ў суседнім пад'ездзе і часам дзяліліся са мной сваімі найвялікшымі сакрэтамі.

## Вогненныя пырскі

Па тым як падлетак заходзіць у ледзяную ваду, можна беспамылкова вызначыць яго характар, нават і яго жыццёвы шлях можна паспрабаваць прадказаць, у будучыню зазірнуць.

Што нас цягнула да вады? Адказаць не магу, бо не ведаю. Трэскаўся на возеры лёд, расколваўся на вялікія і малыя крыгі, якія распаўзаліся, прыўздымаліся на чорнай вадзе, зверху падсыхалі і рабіліся амаль цукрова-белымі. Адрываліся і адплывалі ад берагоў. Вочы балелі, калі ў сонечны дзень на тыя крыгі глядзіш. Праходзіла яшчэ пару тыдняў — крыгі раставалі, берагі падсыхалі, надыходзіў дзень першага купання. Звычайна гэта адбывалася на самым пачатку красавіка.

Возера было і ёсць на паўднёвай ускраіне гэпэ, побач са школай, а таму хадзілі купацца на той бераг, каб дарослым на вочы не трапляцца, каб ад настаўнікаў далей. А яшчэ і таму, што купаліся мы голыя. Бо калі купацца ў трусах, нават калі іх потым выкруціць, адціснуць, то ўсё адно штаны будуць мокрыя, з цёмнымі плямамі, прычым на самых прыкметных месцах.

Купацца ішлі адразу пасля апошніх урокаў, з партфелямі. Спачатку павольна ішлі, а потым беглі-ляцелі, каб разагрэцца. Кідалі на траву партфелі і хутка пачыналі распранацца, скідаць адзежу на партфелі і на чаравікі.

Першым да вады набліжаўся Віталік. Нагой дакранаўся да возера і ціхенька войкаў. Глядзеў на нас і казаў: «А ва-дзіч-ка зыбанская, як той агонь!» Адыходзіў на пяць-шэсць крокаў, выдыхваў з сябе ўсё паветра, бег і скакаў з невысокага берага.

Вядома, пырскі, быццам шкло разбіваецца, і шалёны крык… (З майго класа Віталіка пасадзяць у турму самым першым. Потым яшчэ раз, і яшчэ… Але хто пра турму тады думаў? Каму такое кепскае ў галаву магло прыйсці?)

Голы і тлусты, як кароткі і белы чарвяк, Воўка Мармуль падыходзіць да вады асцярожна, на дыбачках. Тлушч на пузе калоціцца. Спярша кратае ваду левай, потым правай нагой, амаль танцуе на плыткім месцы, потым робіць крок у ваду, і спыняецца, стаіць, кукожыцца, хутка і часта дыхае.

Віталька пырскае на яго. Мармуль закрываецца рукамі, верашчыць. Мочыць пуза, грудзі, плёхае сабе на твар і пачынае ціха ісці, зноў жа на дыбачках. Калі вада падымаецца да бэзавага пісяга, які пакінула гумка на тлустых баках, то хлопец ціха прысядае, яго галава знікае на імгненне, і раптам ўвесь ён выскоквае, быццам вада яго выштурхоўвае. (Воўка доўгі час будзе дырэктарам Палаца культуры, але за п’янку выганяць.)

Віцька Руды распранаецца доўга, марудна, воддаль ад усёй невялікай кампаніі. Акуратна складае штаны, пінжак. Вось ён стаіць да мяне бокам і глядзіць на той бераг, на ружовыя чатырохпавярховікі з іржавымі дахамі. Крычыць: «Ма-ма!» Бяжыць і дае нырца. Доўга плыве пад вадой, а потым вынырвае і хутка размахвае рукамі, плыве. (Віцька з’едзе на Поўнач, там і загіне, там яго і пахаваюць.)

Сашка Дупан заходзіць у ваду павольна і акуратна. Ён выдатнік, паслухмяны сын, не курыць, не мацюкаецца. Праплывае ўздоўж берага па-сабачы, дзе неглыбока, дзе, калі што, ногі дастаюць дна. Як заходзіў акуратна, так ціха і выходзіць, адно кулакі сціскае, усміхацца спрабуе. (Сашка Дупан скончыць тэхнікум і інстытут, будзе працаваць начальнікам, пачне бухаць. Пасады паступова стануць рабіцца ўсё драбнейшымі. Сабутэльнікі знойдуць Сашку ў недагледжанай бацькоўскай кватэры, на трэці дзень пасля смерці. Гады за два да таго ён мне скажа: «Трэба і мне было з’язджаць адсюль. Трэба…»)

Віхрасты Толік Купрыч здзірае свае апранахі хутка, кашулю не расшпільвае, сцягвае па-жаночы, праз галаву, гучна лаецца тонкім вісклівым голасам і бяжыць да вады. Але спыняецца пры ёй, цурболіць у возера, каб вада зрабілася цяплейшай, а потым з мацюкамі падае і плыве. (Толік Купрыч памёр ад сухотаў тры гады таму, пасля трох турэмных тэрмінаў за розныя дробныя крадзяжы і правапарушэнні.)

Я заходзіў у вогненна-ледзяную ваду, якая ад зыркага красавіцкага сонца здавалася яшчэ халаднейшай. Стаяў, чакаў пакуль спыніцца калатун. Крычаў, плыў, заўсёды баяўся сутаргі, якой ні разу ў жыцці не было, і вылазіў на бераг.

Гэта я доўга і падрабязна ўсё распісваю, а насамрэч усё адбывалася вельмі хутка. У ваду ўсе траплялі амаль разам. Потым стаялі голыя на беразе, спінамі да сонца і мераліся пісюнамі. Ні ў каго самы большы, а ў каго самы меншы. Бо ў каго меншы — той і прасядзеў больш за ўсіх у вогненна-ледзяной вадзе.

## Вялікдзень

Калі кірзавыя боты добра наваксаваць, то яны, як гумовыя, ваду не прапускаюць. Я свае кірзачы наваксаваў з вечара, а Валодзька нядзельнай раніцай. Памятаю, што ішлі да возера без шапак, бо вясна. Так мы і прыйшлі. З доўгімі і важкімі шастамі, якія прыхавалі ў кустах, пад парканам, побач са школьнай пляцоўкай.

Глядзім на возера, на крыгі, якія паўднёвы вецер прыгнаў да нашага берага. Я — пяцікласнік, а Воўка вучыцца ў сёмым. Я жыву на трэцім паверсе, а мой таварыш на чацвёртым.

Дзе па гразі, дзе па лужынах, дайшлі да самай вады. Ногі я не намачыў, бо добра наваксаваў свае боты, і, галоўнае, не ўваліўся. Нам спадабалася доўгая крыга, на якой тырчэла рудая елка з бліскучымі ніткамі святочнага дожджыка, якую яшчэ зімой дзеці зацягнулі на возера. Да той доўгай крыгі мы дайшлі. Пераскочылі на яе. Крыга загойдалася, крыху абсела, на яе з аднаго краю плюхнулася вада. Але потым крыга прыўзнялася, выраўнялася. Мы занялі месцы і пачалі адштурхоўвацца.

Наша крыга захрабусцела, адляпілася ад іншых, паплыла. Адлегласць павялічвалася павольна, але павялічвалася. Мы смяяліся, радаваліся і ціха плылі. Калі набліжаўся лёд, мы яго адштурхоўвалі, і наш карабель мяняў напрамак. Дзень шэры, ціхі, спакойны. Хвалі на возеры дробныя. Мы спрабавалі дастаць сваімі шастамі дно, але не заўсёды атрымлівалася.

Бераг так аддаліўся, што зайздросныя гледачы-дзеці зрабіліся дробнымі, аднолькавымі, як тыя мурашкі.

Калі да другога берага заставалася крыху менш, чым да таго, ад якога выправіліся ў вандроўку, Воўка заўважыў, што да нас набліжаецца брудная, гарбатая крыга. Але што з таго? Мы гаварылі пра Ледавіты акіян, пра палярнікаў, пра белых мядзведзяў і смачную ежу. У мяне ў кішэнях было тры чырвоныя яйкі, а ў майго сябра цукеркі. Спярша пачалі лупіць яйкі.

У гэты час гарбатая крыга сутыкнулася з нашай. Глуха і ціха ўдарылася. Я пайшоў на край, каб яе адпіхнуць. Упёрся шастом і яна, на дзіва лёгка, нечакана скранулася, пачала адплываць, а я не ўтрымаўся і павольна паляцеў у ваду. Булькнуў паміж крыгамі. Ледзяная вада абхапіла мяне, апякла, але выштухнула.

Як ускараскаўся на нашу крыгу — не памятаю. Мой шост плаваў далёка, не дастаць. Пакуль я калаціўся ад холаду і жаху, Валодзька спрабаваў боў-

таць сваім шастом і скіраваць непаслухмяны карабель да берага. Раптам ён прысеў на кукішкі і адвярнуўся ад таго берага, дзе наш дом. «Тамака мае, не глядзі, сядзь!» — прашаптаў ён. На беразе сярод дзяцей стаялі цётка Зіна і дзядзька Стась і глядзелі на возера, на нашу крыгу. Зрок у мяне быў добры, я іх пазнаў.

З Валодзькам мы перастрэліся наступнай раніцай, калі ішлі ў школу. Ён расшпіліў куртку, задраў кашулю і паказаў спіну з бэзавымі пісягамі. Сказаў, што і на нагах такая ж фігня. Я не стаў хваліцца шнарамі, не хацелася расшпільвацца. Але правае вуха было вялікае, чырвонае, таму я ішоў у школу ў зімовай шапцы.

Але Бог ёсць!

Я хоць і выкупаўся ў ледзяной вадзе, але нават носам не шморгаў. Вялікдзень, вялікая ласка!

Сёння мой сябар дзяцінства малюе абразы і вялікія палотны з анёламі, святымі і залатымі промнямі… А я згадваю, як пагойдвалася на чорнай вадзе вялікая белая крыга, як доўга яна не магла прыбіцца да берага.

## Беларускія касманаўты

Зусім не дзіўна, што нашым малодшым братам і сёстрам давалі такія імёны, як Юрка, Герман, Валянціна... Такі быў час. Чалавек вырваўся ў космас.

І мы з Віталькам, Віцькам і Генкам рыхтаваліся ў касманаўты. Скакалі з дахаў, лесвіц і дрэў: у сумёты, у гурбы лісця, у пясок, на зямлю. Вучыліся «прызямляцца». Калі хто падварочваў нагу, набіваў гузак, то казалі, што прызямленне прайшло няўдала, і трэба працягваць трэніроўкі далей.

Да млосці, да немагчымасці стаяць і не хістацца — гушкаліся, або кружыліся на арэлях. Пасля стараліся прайсці некалькі крокаў па прамой лініі, але не атрымлівалася. Замест цэнтрыфугі выкарыстоўвалі вялікую пакрышку ад аўтамабільнага кола. Чаго-чаго, а пакрышак тады хапала. Залазіў у сярэдзіну, падкурчваўся, уціскаўся, чапляўся, а сябры-таварышы пачыналі яе каціць па школьнай пляцоўцы. Усё хутчэй і хутчэй! Шматкроць падаў і перакульваўся свет, сэрца тахкала, як шалёнае, заходзілася, пыл, зусім не касмічны, а самы звычайны — зямны, набіваўся ў нос, скрыгатаў на зубах. Крычыш, просіш, каб спынілі, а сябры гарлапаняць, бягуць — штурхаюць чорнае кола. Яно падскоквае на каменьчыках, і ўсе вантробы ў жываце будучага касманаўта тузаюцца. А калі заплачаш, адмовішся ад трэніроўкі, то ў космас не здатны!

Лекарам можаш зрабіцца, шафёрам, інжынерам, настаўнікам, будаўніком, нават мараком-падводнікам, а касманаўтам — не! Такіх слабых у касманаўты не бяруць.

Доўга віселі на турніку ўніз галавой. Твар і шыя наліваліся крывёю, пот капаў, але трэба трываць. Цяжка на трэніроўцы, лёгка будзе ў космасе. Адкуль тая ўпэўненасць, што менавіта так, галавой уніз, і будзем знаходзіцца там, у чорнай бездані. Трэніраваліся затрымліваць дыханне. Ці мала што там, у халодным і варожым космасе, дзе і паветра няма, можа здарыцца. Раптам скончыцца кісларод у балонах?

Яшчэ, не згадаю хто з таварышаў дадумаўся, што абавязкова трэба навучыцца піць ваду, калі вісіш дагары нагамі. Цяжкая гэтая справа. Як я ні стараўся, але вада знаходзіла дзіркі і лілася праз нос. Смешна, прыкра... Але ж касманаўты ўсё гэта неяк робяць, не могуць жа яны без вады? А калі яны могуць, то чым мы горшыя? Трэба трэніравацца!

Па вечарах задзіралі галовы і глядзелі ў неба, дзе сярод безлічы маленькіх бліскучых кропачак спрабавалі адшукаць касмічны карабель. Справа няпростая, магчыма, іголку ў стозе сена знайсці лягчэй, чым тую ракету ў начным небе. Мы дзялілі неба на часткі, кожны разглядаў сваю. Саплі, дыхалі, цёрлі кулакамі вочы, «наводзілі рэзкасць». Часам нехта пачынаў размахваць рукой, тыцкаць указальным пальцам у нябесную цемрадзь і сцвярджаць, што ён бачыць касмічны карабель...

Дзе? Хлусіш, Віцька! Дзе? — перапытвалі мы, глядзелі на кончык пальца пільнага і шчаслівага аднакласніка. І сапраўды, мы бачылі дробную, як аскепак тонкага шкла, бліскучую іскру, якая павольна саслізгвала да далягляду. Зоркі стаялі, мігцелі, нават згасалі, а зіхоткі аскепачак павольна ляцеў, плыў, як тая пылінка. Мы нават не размаўлялі ад радасці. Глядзелі да таго моманту, пакуль яна не знікала за дрэвамі, якія нагадвалі горы.

Ішлі па вуліцы, дзівіліся на вышэзны комін кацельні, які, як тэлескоп, узіраўся ў неба. Лянiва разважалі пра тое, чый касмічны карабель мы бачылі: наш ці амерыканскі? Каля пад’ездаў свайго дома разыходзіліся, але дамаўляліся, што заўтра зноў будзем трэніравацца.

Ніхто з маіх сяброў-прыяцеляў касманаўтам не стаў, хоць тады, у дзяцінстве, у чацвёртым і пятым класах, вельмі хацелі. Цяпер я ўсміхаюся і ціха радуюся, што так і не стаў касманаўтам.

## Карбід

Карцель Мішка і Аўсянік Генка прыбеглі пад наш пад’езд задаволеныя і напалоханыя. Яны наскрозь смярдзелі карбідам. Карцель трымаў у руках кепку, у якой і нёс свой скарб. Потым хлопцы пачалі выварочваць кішэні і выкладаць на зямлю шызыя кавалкі смярдзючага рэчыва. Каб таго карбіду было менш, то і гісторыя атрымалася б трохі карацейшай, а можа, і не было б ніякай. Пакідалі б у лужыну, паплявалі на яго і ўсё…

Але карбіду было шмат — сапраўднае багацце, а таму вырашылі бабахнуць. Нас было сямёра: Карцель, Аўсянік, Баранчык Мікола, я, Віталік, Віцька Руды, Купрыч. Пайшлі за цагляныя гаражы, за танцавальную пляцоўку, дзе будавалі спартыўны комплекс. Выкапалі ямку, пакідалі туды ўвесь карбід.

Не, не так…

Вады не было, а таму сталі ды адлілі ў тую яміну. Апошнім адышоў Карцель Мішка, ён заўсёды рабіў гэтую справу доўга. Накрылі вядром, якое абклалі цэглай, зямлю як след утапталі. У дне пакарабачанага вядра была прабітая дзірачка. Пачалі кідаць запалкі з адлегласці, але яны згасалі. Запалак рабілася ўсё менш, а выбуху не было. Вырашылі падпаліць паперу і доўгім кіем ускласці яе на донца вядра. Пакуль рыхтавалі, то Мікола Баранчык схапіў запалкі, падышоў, чыркнуў, прыкрыў запалку далонню, каб не згасла і акуратна схіліўшыся, піхнуў запалку ў самую дзірачку.

Выбухнула глуха і важка. Баранчыка падкінула ў паветра, а можа, мне гэта падалося. Было дымна і смярдзюча, нас абліло і перапэцкала.

Колька Баранчык ляжаў тварам у зямлю, а ногі яго дробна-дробна, як лапы забітай жабы, калаціліся. Калі мы насмеліліся і перавярнулі яго, то знерухомелі, такі жахлівы і скрываўлены твар быў у нашага таварыша. Потым Баранчык пачаў стагнаць, а пасля крычаць…

Мы пацягнулі яго ў паліклініку, якая месцілася побач з прахадной шклозавода.

Пусцілі без чаргі. Пад вечар Баранчык быў забінтаваны. Ён хваліўся, што паставілі васямнаццаць скобак. І яшчэ даведаліся, што вядро выбіла яму зуб. Пра зуб Баранчык не шкадаваў, бо той зуб хістаўся. Калі потым, гадоў праз трыццаць, я сустрэў Міколу, ён смяяўся, бліскаў залатым зубам, распытваў пра жыццё ў сталіцы, прапаноўваў гарэлкі выпіць...

Здаецца, і паганы ўспамін, а згадваецца з прыемнасцю.

## Рабіць нож

Мы сядзім з Віцькам Чмыхам за нашым чатырохпавярховікам, на абабітай бетоннай пліце, за кустамі, пад канадскімі клёнамі. Мне дванаццаць, а Віцьку трынаццаць. Мы робім аднастайныя рухі, паліруем свае самаробныя нажы. Лязо майго нажа, колькі я не шарую бруском, усё яшчэ цёмнае і змрочнае, з плямкамі і шчарбатае. А вось нож майго сябра цьмяна блішчыць. Трэці дзень мы шчыруем. Навошта нам гэтыя нажы — пытанне марнае. Як гэта навошта? Калі што, то нож можна выхапіць з халявы бота, выкінуць з рукава паліто, і тады вораг спалохаецца, адскоча. Бляск жалеза зробіць яго слабым і паслухмяным, бездапаможным.

Падышоў мой аднакласнік Віталька: «Ну, як яно, шаруецца?» Дастаў свой нож, пакруціў і кінуў у дрэва за маёй спінаю. Нож у яго зайздросны. Бліскучы, моцны і цяжкі, але толькі дзюбка вострая, а лязо тупое. Нож у Віталіка з напільніка, а я раблю з шырокага палатна нажоўкі. Аднакласнік выдзірае свой нож з дрэва, выцірае аб калашыну і кажа спакойна: «Зарэжу яго, як свінню!» Віталік хавае нож у рукаво і сыходзіць.

— Не зарэжа, не зможа, але скуру папсуе. Дзюбка вострая, як шыла. Цяжка чалавека зарэзаць. — Віцька стомлена ўздыхае, глядзіць на крывавыя мазалі.

— Шкада.

— Пайшлі ў кацельню, там тачыльня, там хутка зробім. У майстэрні пры кацельні мужчыны пілі віно, курылі і працавалі, а таму нас прагналі.

Праз тры дні мы з Віцькам свае нажы давялі да ладу, а што мазалі на руках, дык гэта не страшна. Цяпер і мы з сапраўднымі нажамі. Цяпер мы дарослыя.

Дзіўна, але памятаю ўсе свае нажы: складанчыкі, як на адно лязо, так і на тры, маленькія, у выглядзе лісіцы, цяжкія самаробныя, з бліскучымі лёзамі і цёмнымі, прыгожыя і не вельмі, купленыя, знойдзеныя і скрадзеныя, вострыя і тупыя…

І бойкі з нажамі, усе якія толькі бачыў, памятаю. Дарослыя хлопцы біліся, рэзаліся, сварыліся, нажы зіхацелі. Страшна было, але і цікава. Нават памятаю, як вясковы прыяцель выхапіў пасля танцаў нямецкі штых-нож і кінуўся на змрочны натоўп. Яго потым моцна пабілі, бо тыя хлопцы былі са штакецінамі ў руках. Нож забралі, а збіты застаўся ляжаць на дарозе. Брудны, скрываўлены, але злосны, бо перажываў, не за тое, што зубы выбілі, а што нож забралі…

Свой нож Віталік зрабіў вясной, а скарыстаў позняй восенню, калі яго бацька кінуўся біць сваю жонку, худую цётку Ніну. Віталік выхапіў нож і стаў наперадзе маці, закрыў яе. Бляск нажа дзядзьку Юзіка асляпіў і спалохаў, ды толькі на адно імгненне. Потым ён кінуўся на сына, хацеў схапіць за руку, выкруціць, забраць зброю, але не патрапіў, схапіўся за шырокае і вострае лязо.

Далонь дзядзька Юзік разрэзаў да косткі. Такі востры быў самаробны нож. Крывёй заліло кватэру, калідор і лесвіцу ў пад'ездзе. Потым цётка Ніна пад'езд мыла і плакала, а дзядзька Юзік стаяў з забінтаванай рукой і курыў, падказваў, дзе яшчэ жонка не памыла.

Віталька сядзеў на пліце за домам і маўчаў. І мы з Віцькам маўчалі, бо што тут скажаш. Віталька крануў Віцьку за плячо і спытаў: «Чмых, у цябе здаецца было палатно ад нажоўкі, дай мне — нож буду рабіць».

Мой нож знайшла пад скрыняй на балконе маці. Знайшла і не аддала. Віцька свой згубіў, калі пераплываў возера. Ныралі, спадзяваліся адшукаць, але там хоць і не глыбока, але дно топкае — нож цяжкі.

Віталька сабе зрабіў новы нож, але гэта зусім сумная гісторыя.

## Рагатка

Першую рагатку мне зрабіў бацька і навучыў з яе страляць. Баяўся, каб я не паадбіваў сабе пальцы, а таму і паказваў, як укладаць у кажушок каменьчык, як трымаць, як расцягваць чорную гуму, як расціскаць пальцы і пускаць каменьчык... Было мне тады гадоў сем.

Потым рабіў рагаткі сам. Яны ламаліся, гума рвалася, рагаткі губляліся, іх адбіралі старэйшыя хлопцы і дарослыя…

Была ў мяне мара навучыцца страляць так, каб збіваць імклівую ластаўку. І ніхто з маіх сябрукоў не авалодаў такім майстэрствам. Ні Віталька, ні Віцька, ні Сяргей, ні Толік…

Ластаўку змог збіць толькі Костусь, які жыў у абшаляваным чорным бараку побач з кацельняй. Малы, вяртлявы, бандзюкаваты і хітры. Костусь быў на год старэйшы, але на галаву ніжэйшы. Такім і застаўся, толькі ногі выраслі да сорак пятага памеру.

Ішоў я да новай школы паўз кацельню. У правай кішэні ляжала рагатка, у левай — каменьчыкі. Костуся я заўважыў першым. Ён шыбаваў насустрач, рукі трымаў за спінаю. Потым, калі паміж намі засталося пару крокаў, ён узняў рукі. У правай рагатка, у левай  ластаўка, якую ён трымаў за крыло.

Ён круціў забітай пташкай у мяне перад тварам і расказваў, як доўга страляў, і як, нарэшце, пацэліў. Як ластаўка кульнулася ў паветры, а потым упала і яшчэ тропалася на зямлі.

Я зайздросціў Костусю неверагодна.

На другі дзень я пайшоў на вуліцу Заходнюю. Там, побач з аднапавярховымі дамамі, слупы, на іх дрот. На ім сядзелі, як коскі, ластаўкі. Я хацеў збіць хаця б адну пташку, каб потым хваліцца сваім умельствам.

Хацеў. Стараўся, але не змог, не пацэліў.

Тады думаў, што пашанцавала ластаўкам, цяпер упэўнены, што  мне.

## Пройгрыш-выйгрыш

Калі ішоў дождж, то мы хаваліся на гарышчы нашага чатырохпавярховіка і там, пад акенцам, на скрынях, гулялі ў карты. Шумна шапацеў па бляшаным даху дождж, з акна цурчэлі ручаіны, а нам было добра.

Зусім малымі гулялі ў «п'яніцу». Падраслі, пачалі рэзацца ў «дурня», а потым у «ачко», у «храпа», «буру»… Гулялі на пстрычкі, прысяданні і на жаданні. Аднойчы Толік Купрыч прайграў пяцьсот прысяданняў, а потым яму

зноў не пашчасціла і яшчэ трыста. Яму давялося прысядаць. На гарышчы было вельмі задушліва. Шумела травеньская навальніца.

Толік скінуў пінжачок, павесіў яго на цвік, расшпіліў кашулю, на шыі застаўся піянерскі гальштук. Ён хутка пачаў прысядаць, а мы ўголас лічылі, каб не махляваў. Ён прысеў сто разоў і глядзеў на нас. Глядзеў у вочы, хацеў, каб мы сказалі, што досыць на сёння. Але мы лічылі і смяяліся, бо ведалі, каб на яго месцы апынуўся нехта з нас, то й Толік радасна і здзекліва смяяўся б. На другой сотні ён адвярнуўся, каб мы не бачылі яго пакрыўджаны твар. Прысядаў усё больш і больш марудна, а мы прыспешвалі. Калі далічылі да пятай сотні, то Купрыч упаў… Ляжаў і плакаў, а мы нервова рагаталі. У наступны дзень аднакласнік не прыйшоў у школу, бо ногі не хадзілі, не гнуліся, не трымалі, падгіналіся.

Але найбольш запомніліся дзіцячыя размовы з картамі ў руках пра розныя жахлівыя пройгрышы.

Віцька расказваў, што яго бацька на свае вачы бачыў мужчыну, які прайграў у карты: грошы, гадзіннік, кватэру, адзежу, а потым сваё жыццё. Той, які выйграў, загадаў скочыць з новага моста праз Сож. Новы мост праз раку доўгі і вышэзны. Мы яго ведалі. Мужчына плакаў, але скочыў, бо пройгрыш у карты — святое… Дзякуй богу, што няўдачнік добра плаваў і здолеў выпаўзці на бераг, дзе сказаў, што больш ніколі карты ў рукі не возьме.

Віталька расказаў, што на свае вачы бачыў, як цалкам голая дзяўчына ішла па вуліцы Савецкай, побач з кандытарскай фабрыкай «Спартак». Ішла і курыла, бо яе жаніх усё прайграў, а яна яго вырашыла ўратаваць. Ёй загадалі прагуляцца два прыпынкі голай, пад дажджом…

Пра мост і голую дзяўчыну мы слухалі з вялікай зацікаўленасцю, але працягвалі гуляць у карты.

Толік ведаў гісторыю, як бацька прайграў у карты жыццё сваёй дачкі-першакласніцы. Прайграў, выйшаў у прыбіральню і задавіўся на гумовай скакалцы. Тых, з кім ён гуляў, міліцыянеры не злавілі, бо яны ўцяклі з той кватэры на трэцім паверсе.

Толік прайграў мне сто пстрычак, але я дараваў яму.

## Нож з выспы

Былі першыя дні пасля лета. У двары дома я перастрэў Віцьку Чмыха. Ён стаяў і засяроджана варушыў сківіцамі, але рот не разяўляў. Ён павітаўся за руку і працягваў жаваць. Потым перастаў, надзьмуў шчокі і праз некалькі імгненняў з разяўленага рота пачаў вылазіць ружовы пухір і запахла ягадамі і адэкалонам. Пухір надзьмуўся і лопнуў, а Чмых шчасліва засмяяўся. Тады я ўпершыню пакаштаваў жавальную гумку. «Сашка ў адпачынак прыехаў, панавёз усяго!» — пахваліўся Віцька і даў ружовую гумку. Яна нязвыкла ліпла да зубоў, халадзіла і саладзіла ў роце.

З Віцькам на той час ніхто не сябраваў, а яму карцела пахваліцца, так карцела, што ён мяне пачаставаў заморскай жуйкай. Потым пацягнуў да свайго пад’езда, дзе прымусіў чакаць на лесвіцы. Я чакаў і жаваў, спрабаваў выдзімаць пухір, але не атрымлівалася. Нарэшце ён выйшаў з кватэры з партфельчыкам пад пахай і пабег наверх, на гарышча.

Там, пад адчыненым акном, выцягнуў з партфеля вялізны нож. Цяжкі, магутны, такі вялікі, як мая рука ад локця да кончыкаў выпрастаных пальцаў. Такога сапраўднага нажа я ніколі не бачыў, у руках не трымаў. Лязо шырокае

і люстраное, дзюба вострая і драпежная, рукаятка з залацістай косткі. Я ад здзіўлення і пра жуйку забыўся, ледзь не праглынуў.

Віцька расказаў, што яго старэйшы брат Сашка прывёз гэты нож з далёкай выспы ў акіяне. Сашка Чмых служыў штурманам на гандлёвым караблі.

«Такімі нажамі галовы рабам адразаюць, а потым носяць за валасы, як мы гарбузы… Толькі не кажы, што я выносіў яго з кватэры! Сашка заб'е! Ён у Гомель паехаў, да дзеўкі… Усёк?» — казаў Віцька шэптам, а я не мог адвесці позірк ад жудаснай зброі.

Потым мы выпрабоўвалі той нож на вастрыню. Галілі ім ногі, рукі, пераразалі вяроўкі, на якіх жанчыны з нашага дома сушылі бялізну. Рэзаў нож выдатна, як лязо. Вырашылі праверыць, ці з добрай сталі ён зроблены. Паспрабавалі перасекчы алюмініевы дрот. Нож перасек. Пасля таго, як перасеклі ржавы цвік, на люстраным лязе з'явілася шчарбінка. Віцька так спалохаўся, што ледзь плакаць не пачаў.

Больш я таго нажа не бачыў.

## Пра значнасць

У маленстве мадэльная гумка была вялікай каштоўнасцю. На яе можна каштан прыладзіць. Кідаеш, а ён вяртаецца. Можна было на пальцы прывязаць і страляць прабойчыкамі па дзявочых нагах. Пстрыкаць той гумкай добра. Яшчэ карасёў з яе дапамогай лавілі, але там гумкі трэба шмат.

Усе хлопцы называлі гумку «авіяцыйнай».

## Прыпяканка 1969 год

У сям'і Кірымчыкаў было тры зайздросныя рэчы. Першая — паляўнічая стрэльба і ўсё што да яе трэба. Другая — матацыкл «Каўровец», на якім дзядзька Хведар ездзіў на паляванне ў чорным танкісцкім шлеме са стрэльбай за плячыма. Трэцяя — цудоўныя шахматы. Здаецца, што нямецкія, трафейныя, касцяныя, важкія, трымаць у пальцах прыемна і па дошцы перасоўваць асалода. У шахматы ні Генка, на два гады за мяне старэйшы, ні Санёк, на два гады маладзейшы, ні самая меншая — Галя, не гулялі. Прыемна трымаць касцянога каня, але важкую стрэльбу з чорнымі рулямі, куды лепей. Не было тады жалезных скрыняў, а таму стрэльба ляжала пад бацькоўскім ложкам, побач з чамаданам, у ім: гільзы, порах, шрот, зіхоткія капсулі. Той чамадан мы з Генкам умелі адмыкаць доўгім сагнутым цвічком.

Генка Кірымчык зрабіў прыпяканку. Доўга, можа два тыдні шчыраваў. Мы з ім марылі, як пойдзем на Цэнтралку, станем над вадой на вялікі камень, дачакаемся шчупака, застрэлім яго і будзем героямі. На цэнтральную меліярацыйную канаву мы прыйшлі. На камень стаў Генка, а я стаў на другі, малы, мокры і слізкі, на два крокі ніжэй. Я глядзеў у плыткую і хуткую ваду. Калі заўважу рыбіну, то павінен падняць руку. Генка падрыхтуецца, чыркне і стрэліць. Не шротам, а сечаным алюмініевым дротам, каб забіць.

Шчупака я заўважыў, ён плыў і цень яго рухаўся па шэрым жвіры і каменьчыках… Генка чыркнуў, запалкі засіпелі, засінеў дым. Прыпяканка бабахнула і яе разарвала ў руцэ майго сябра. Прыпяканка ўпала ў ваду, і плынь пацягнула яе пад камень, дзе яна кульнулася руляй у дно.

Пра шчупака мы забыліся.

Думаю, што гэта моцнае перабольшванне, калі дарослыя палохаюць падлеткаў, расказваюць пра выбітыя вочы і адарваныя пальцы. Я такога не бачыў. Ніхто з маіх сяброў-таварышоў ахвярай выбухаў прыпяканак не быў. Можа, толькі Генка, у якога прыпяканка разарвалася ў руках і трохі напалохала.

Мы вярнуліся дамоў, у кватэру Кірымчыкаў, і пачалі гуляць касцянымі шахматамі. Пра зброю колькі дзён зусім не згадвалі.

## «Дарога ў Аверы пасля дажджу»

Машыністы доўгіх і брудных таварнякоў амаль заўсёды давалі ў наш гонар гудкі. Цягнік набліжаецца, грыміць, грукоча, а потым — магутны гудок! І мы пачынаем смяяцца, падскокваць, размахваць рукамі, крычаць. Але галасоў не чуваць, бо таварняк зусім блізка, бо цыстэрны сунуцца адна за адной, і платформы паўзуць, і карычневыя вагоны ляскаюць, таксама адзін за адным, а таму нашы галасы губляюцца ў грукаце і гудках…

Машыністы доўгіх таварнякоў нам падабаліся.

А пасажырскія цягнікі нам не сігналілі, гудкоў не давалі, быццам ні машыніст, ні яго памагаты нас не заўважаюць. Але гэта не так, бо заўважалі, і як нам падавалася, павялічвалі хуткасць, каб патрапіць на мост, пераляцець «Цэнтралку». Праносіліся тыя «хуткія» пасажырскія, праляталі мігатлівай зялёнай стужкай. Толькі і паспееш прачытаць слізкія словы — «Рыга—Сімферопаль», ці «Харкаў—Калінінград»…

У вокнах мільгануць твары пасажыраў і знікнуць. Пашанцуе, то паспееш убачыць разяўлены ў здзіўленні рот, ды круглыя вочы. Праўда, некаторыя ў вагонах і рукамі размахвалі, не выдумляю, сам бачыў.

Была такая забаўка — на чыгунку хадзіць, цягнікі глядзець і паказваць ім голыя сракі. Што за гэтым стаяла, навошта мы гэта рабілі? Мастацтва дзеля мастацтва. Сіняе неба, белыя аблокі, высокі адхон, цягнік, зялёная трава, сады, агароды, палі, завод… І мы дзесяці-дзевяцігадовыя на зялёнай траве, спінамі да цягніка, штаны прытрымліваем, стаім, белыя сракі цягніку паказваем. Чакаем, калі пасажырскі праляціць, таварняк прапаўзе…

Калі нехта мне не верыць, то можа спытаць у майго сябра Валодзькі, ці ў Мішкі Мармуля, ці ў Славіка. Але ў Славіка асабліва і не спытаеш, яму яшчэ сядзець сем гадоў за забойства каханкі.

Можа, і не згадаліся б тыя дзіцячыя гульні, каб не трапіўся на вочы краявід Вінцэнта ван Гога «Дарога ў Аверы пасля дажджу». Там, на даляглядзе, чорны цягнічок, а вакол палі, агароды, баразны зялёныя, рыхтык як на Гомельшчыне ў траўні месяцы.

## Павелічэнне

Травень. Вечар. Неба ў хмарах. Я сядзеў пад акацыяй у двары нашага дома. Прыйшоў Толік. Выцягнуў з кішэні вялікае павелічальнае шкло. Квадратнае, пукатае, важкае. Сонца не было, а таму ён пачаў дэманстраваць ні тое, як яно пячэ і паліць вогненнай залатой кропкай, а толькі тое, як яно павялічвае. Мы разглядалі шнар на маёй руцэ, пазногці, дробныя літары на кавалку газеты, жылкі і дзірачкі на лісціку акацыі…

Як такому здбытку аднакласніка не пазайздросціш? Вядома, пазайздросціў. Сваё малое, каламутнае, падрапанае, з акуляраў старой суседкі, нават

з кішэні не даставаў. Адкуль у яго вялікае і магутнае шкло, Толік трымаў у сакрэце.

У панядзелак у школе высветлілася, што нехта зайшоў у пакой, дзе захоўваліся розныя табліцы, глобусы, шкілет, макет кветкі, колбы, прабіркі, барометр, гадзіннікі і шмат яшчэ чаго living разнага. З вялікага чорнага эпідыяскопа, нечым падобнага на гармату, скралі павелічальнае шкло. Хлопцаў васьмікласнікаў выклікалі да завуча, потым да дырэктара…

Пяцікласнік Толік Купрыч паспрабаваў уцячы, але яго лёгка злавілі, там жа, у школьным двары. Паклалі на лаву, звязалі пад дошкай рукі і ногі, запхалі ў рот фуражку, а потым, калі з-за хмары з'явілася сонца, пачалі павелічальным шклом пячы і паліць Толікавы лыткі.

Шкло пякло выдатна.

На наступны дзень мы сядзелі на ўроку геаграфіі, і Зоя Львоўна паказвала праз эпідыяскоп паштоўкі з выявамі айсбергаў. Расказвала пра Антарктыду.

Вучань пятага «Б» Анатоль Купрыч у школу не прыйшоў. Ён ляжаў за возерам на пузе і курыў.

## Белы фосфар

Гісторыя не пра могілкі, на якіх па начах з'яўляюцца нябожчыкі і выпраменьваюць зеленкаватае прывіднае святло, а жывыя палохаюцца і камянеюць. Дарослыя дзядзькі губляюць мову, а дзеці пачынаюць заікацца… Пра гэта ёсць тысячы гісторый.

Я раскажу пра сапраўдны фосфар.

Вялікі брудны экскаватар капаў глыбокі катлаван. На тым самым месцы, дзе сёння трыбуны заводскага стадыёна. Зубаты коўш узадраў дошкі, падняўся смярдзючы дым, пад якім сіпеў агонь. Экскаватаршчык спалохаўся і пабег да бальніцы, каб тэлефанаваць у міліцыю. А мы з Валодзькам не спалохаліся, залезлі ў той глыбокі катлаван і набралі поўныя кішэні, поўную кепку нейкага дзіўнага рэчыва. Яно было ў выглядзе брудных невялікіх кавалкаў. Мы выграбалі яго з-пад гнілых дошак, выбіралі. Хацелі набраць яшчэ і ў кулёк, які зрабілі з газеты, але пачулі галасы і ўцяклі.

Рэчыва, хоць і смярдзела серай, але нам падабалася. Шкрабанеш кавалкам па сцяне, па асфальце, па дошцы і яно пачынала гарэць. Ды так добра, што і не патушыш.

Пра тое, што мы займелі сапраўдны фосфар, даведаліся толькі на наступны дзень, а пакуль радаваліся. Валодзька перайшоў у сёмы, а я ў пяты, у хіміі абазнанымі яшчэ не былі. Хадзілі шчаслівыя па сваім гэпэ і радасна палілі той фосфар. Я нават калашыну штаноў прапаліў, а Валодзька чаравік.

Апынуліся ў парку, побач з нашым домам, на Кастрычніцкай. Вырашылі зрабіць салют. Надакучыла падкідаць у бэзавае вясновае неба па адным кавалачку. Знайшлі дошку, паклалі на цагліну, высыпалі на край дошкі трохі фосфару, падпалілі, Валодзька ударыў нагой па дошцы і вогненныя пырскі паляцелі ўгару, у яшчэ мяккае лісце таполяў.

Мы, занятыя высыпаннем і выбіваннем фосфару з маёй кепкі, не заўважылі, як на жалезныя арэлі села дзяўчынка і пачала гушкацца. Калі падпалілі ладны грудок на дошцы, калі ўдарылі па ёй, то спахапіліся. Зыркія, дымныя кавалкі пачалі падаць. Дзяўчынка пачала крычаць, звалілася з арэляў, сукенка на ёй загарэлася. Сукенку мы патушылі, а потым кінуліся ўцякаць.

Забеглі за возера, потым брылі па раўчуку, каб сабакі не ўзялі наш след, потым сядзелі на полі і вытрасалі фосфар з кішэняў, палілі яго. Былі ўпэўненыя, што нас шукае міліцыя з аўчаркамі, а можа, і салдаты са зброяй.

Вярнуліся дамоў ноччу. Нават у сне я чакаў, што за мной прыйдзе міліцыя.

На наступны дзень хлопцы з нашага дома бегалі на катлаван, але там усё выграблі і вывезлі. Брудны экскаватар стаяў маўкліва. Катлаван быў абгароджаны дошкамі, а экскаватаршчык жвава расказваў цікаўным пра тое, як ён знайшоў скрыні з белым фосфарам, з якога немцы рабілі бомбы і снарады.

Дні тры я сябе адчуваў кепска, балеў жывот і галава, у школу не хадзіў, а Валодзька нічога, ён тым фосфарам не прытруціўся.

## Пломбы

Мы сядзелі з Валодзькам пад прылаўкам у ціры з сярэдзіны, а вакол было, як лушпіння семак, насыпана паплішчаных свінцовых куль, яны мулялі калені і далоні. Мы калаціліся ад жаху, затрымлівалі дыханне, баяліся, што шафёр-малдаванін здагадаецца, дзе два падшыванцы, якія на яго «Калхідзе», на рэфрыжэратары, паадкручвалі свінцовыя пломбы. Дзве пломбы, самыя звычайныя, таўсцейшыя за гузік. Быў у нас свінец, але адкручваць пломбы на вялікіх машынах, цікавей.

У той раз нам не пашчасціла. Шафер саскочыў з прыступкі, усміхнуўся нам, як быццам знаёмым, сказаў, што пойдзе палуднаваць у сталоўку. Сказаў і падаўся праз шашу. Мы з Валодзькам задаволена пацёрлі рукі, агледзеліся і пачалі адкручваць на рэфрыжэратары пломбы. Валодзька сваю адкруціў першым, бо старэйшы, дужэйшы, а я завэжкаўся… Адкуль нам было ведаць, што ў кабіне спаў другі шафер. Вось ён і выскачыў. Басанож, у белай саколцы. Мы кінуліся ўцякаць, а ён пабег за намі. Шафер крычаў, прасіў, каб мы спыніліся, аддалі пломбы. Бегчы яму было цяжка.

Побач з базарам мы заскочылі ў цір і папрасілі, каб дзядзька Шура нас схаваў. Ён здзівіўся, але дазволіў залезці пад стойку-прылавак, а сам стаў пры дзвярах. Шафёр-малдаванін спыніўся побач з цірам, зазірнуў праз плячо гаспадара. Мы чулі, як ён спытаў, ці не прабягалі тут дзеці-злодзеі. Дзядзька Шура адказаў яму не адразу. Спачатку даведаўся, што скралі дзеці, а потым адказаў, што нейкія малыя пабеглі на базар.

Нам ён добра надраў вушы, але мы засталіся задаволеныя. І яшчэ ён забраў у нас адарваныя пломбы і занёс за шашу, аддаў шафёрам.

Калі што, то Чэхаў і яго знакамітае апавяданне тут не пры чым.

## Свіст

Чую на вуліцы пранізлівы свіст.

Але не спяшаюся да акна, не выбягаю на балкон. Чую свіст і ведаю — гэта не мне.

**Мікола МАЛЯЎКА**



# АКНО, РАСЧЫНЕНАЕ Ў СВЕТ

## БЯРОЗКІ

Паклікала восень на дачу.
Прыцішыў за лесам хаду,
На беразе сажалкі бачу:
Бярозкі глядзяцца ў ваду.

Вачэй не адвесці ад дзіва.
Апала лісце далоў,
Чарнеюць радзімкі цнатліва
На белым целе ствалоў.

Шкадуюць, пэўна, і самі,
Што лісце не ўплесці ў касу, —
І голлем, як валасамі,
Сваю прыкрываюць красу.

Пяшчотная просінь у хмарах,
Аздобіў зямлю лістапад.

---

***Маляўка Мікалай Аляксандравіч*** *нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на Рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душой» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы і сосны» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011), «Беражыце шыпшыну» (2013) і інш., кніг вершаў і казак для дзяцей «Дзед і ўнучка» (1983), «Салодкі лядзяш» (1986), «Як дом будавалі» (1987), «Дзе жывуць казкі» (1994), «Запрашаем на калядкі» (1998), «Папялушка» (2000), «Мама — сонейка маё...» (2008), «З вудай на вясёлцы» (2013) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

Бярозкі падобныя зараз
На сарамлівых дзяўчат.

Здаецца, збянтэжана просяць:
«Праходзь, чалавеча, хутчэй!»
Баяцца, раздзетыя ўвосень,
Чужых цікаўных вачэй.

Я позірк адвёў на дарогу,
Прыспешыў міжволі хаду,
Каб толькі яны ад спалоху
Не кінуліся ў ваду.

## ЯК ПАШАНЫ ЗНАК

Я вачам сваім не веру:
Ён уразіў нечакана так,
Помнік дворнічысе ў скверы —
Як увагі і пашаны знак.

Хустка, боцікі, спяцоўка
Ёй да твару —
Зграбнай, маладой.
Залатое лісце лоўка
Падмятае бронзавай мятлой.

Прыжылася, як бярозка,
На асфальце — глебе гарадской.
Хто яна?
Дзяўчына з вёскі?
Можа, са Стаўбцоўшчыны маёй?

Без крутога п’едэстала,
А пагляд прыцягвае здаля:
Для яе ў сталіцы стала
П’едэсталам родная зямля.

## ДЗЯКУЙ, МАЯМІ

Дождж сцяной стаіць між намі.
Восень. Позні лістапад.
«Мілы, дзякуй за Маямі» —
Цешыць гарадскі плакат.

На хвілінку прыпыніўся.
Як пяшчоты пачуццё,

Спавядальна ззяе ўнізе
Подпіс «Сонейка тваё».

Я цябе ўявіў: магчыма,
Бачыш гэтакі ж плакат, —
І ўсміхнулася вачыма
Ты праз мокры лістапад.

Быццам сонца залатое
Узыходзіць нада мной,
Хоць яно, Маямі тое,
Недзе ў казцы незямной.

## ПЕРАДЗІМ’Е

На чырвонцы восень не скупіцца,
Раскідае шчодра, бачым мы,
Быццам хоча гэтак адкупіцца
Залатым запасам ад зімы.

Долу атрасаючы галіны,
Тоіць хваляванне нездарма,
Бо зіма не просіць міласціны,
Бо зіма — багатая сама.

Плача восень, ад дажджу сіпае,
Пад вачыма — цёмныя кругі.
А зіма спакойна засыпае
Срэбрам белым
Гоні і шляхі.

## ЛЮДЗІ ДАРАГІЯ

Разам мы
Збіраліся на лаўцы.
Колькі ў вёсцы часу ні міне,
Людзі дарагія, мікалаўцы,
Справа вы і злева
Ад мяне.

Быццам сумнай
Не было разлукі,
Чую побач вашы галасы,
Паціскаю стомленыя рукі,
Цёплыя ад плуга
І касы.

Тут, пад вішнямі,
На ціхай лаўцы,
Вас вяртаю ў лета і зіму.
Людзі дарагія, мікалаўцы,
Як мне добра з вамі —
Аднаму.

## БАЛАДА ПРА ЯСЕНЬ

У родным краі
І дрэвы —
Радня.

Вітаюся з ясенем я штодня.
Убачыў: кара на камлі абадрана.
Напэўна, баліць,
Як адкрытая рана,
Галіну вецер зламаў.
І ясеню я сказаў:
— Пад бурай схіляеш крону сваю,
Глыбокія смягнуць твае карані.
Давай за цябе пастаю,
А ты —
Адпачні!..
Якраз і хмара здалёк наплыла.
Руку я прыклаў да ствала —
І ясенеў голас адчуў
Праз далонь:
— Не выстаіш ты
Нерухома,
Калі забушуе агонь,
І пад навальнічым,
З маланкамі,
Громам —
Над галавою сваёй,
Над спадчынным домам.
Я патрываю,
Я не скаруся нягодам, —
І братам буду тваім,
І громаадводам.
А калі і ўпаду —
Ад дома далей,
Каб адвесці бяду…

Жыві, мой ясень, жыві!
З табой мы —
Адной крыві.

* * *

На падаконніку высокім
Пялёсткаў сонечны апад.
У век касмічны цешыць вока
Акно, расчыненае ў сад.

Яшчэ і завязь не красуе зваблíва,
Яшчэ і песня лета не наструнена,
А на стале маім —
«Антонаўскія яблыкі»,
Як падарунак ад Івана Буніна.

Праз часу межы пагранічныя
Іду за аўтарам услед —
З мінулым родніць элегічна
Акно, расчыненае ў свет.





Іван КАПЫЛОВІЧ

# РУБЕЖ

*Аповесць**

## Частка 1

Антон вырашыў цвёрда: трэба збудаваць дачу. Дзякуй богу, маці яшчэ жывая, мае свой дом, і ён можа, калі надараецца вольная часіна, выбрацца на Палессе, а ўсё ж... Заўсёды, калі прыязджаў да маці ў вёску, ён не прысядаў ні на хвіліну. То трэба было дроў накалоць, то нанасіць з калодзежа вады, то закапаць на зіму ў капцы бульбу, або — ссекчы капусту.

Ён бачыў, што маці з кожным годам слабее, пачаў настойваць, каб яна прадала сваё селішча і перабіралася да яго ў сталіцу. Не раскоша яго двухпакаёвая кватэра, але месца на канапу для маці знойдзецца.

Пачуўшы гэта, маці садзілася на шырокі дубовы ўслон, што ля акна, расшпільвала старую, заношаную плюшаўку, цяжка ўздыхала, пазірала на сына нейкім спалоханым, бы не сваім, позіркам, папраўляла на галаве хустку-канаплянку, у яе маленькіх, што свяціліся дабрынёй і ласкай, вачах, нечакана з'яўляліся слёзы.

— Мой ты сынок! — казала маці. — Дзякуй табе, я знала, што ты мяне адну не пакінеш. — І, стрымліваючы слёзы, якія раптам нагарнуліся на вачах, дадавала: — У цябе, маіць, мне было б утульна, але ж свая хата і ёсць свая. Не крыўдуй, сынок. Пакуль дома жыць буду, а там будзе бачна...

Так было і на гэты раз, калі Антон прыехаў у вёску і казаў маці, каб перабіралася да яго. А калі яна адмовілася, раптам абраніў нібы між іншым, што хоча збудаваць дачу. Калі што, яна і там зможа пажыць.

---

*__Капыловіч Іван Іванавіч__ нарадзіўся 2 лютага 1944 года ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1967). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у аўтамабільную катастрофу, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка.*

*Аўтар кніг прозы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Асенні гром» (1985), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужаніны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003). З вершамі выступаў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць» і «Полымя».*

---

* Часопісны варыянт

— Лёгка казаць, а каб зрабіць яе — грошы трэба мець добрыя, — выказала сумненне маці. — Яшчэ і ўчастка няма, а ты ўжо, сынок, пра пераборы. Да таго дажыць трэба.

Было зразумела: маці і хочацца, і яна нечага пабойваецца. Яна не супраць быць бліжэй да Антона, але яе трымае хата, не адпускае.

— Участкі ўжо дзеляць, — паспрабаваў развеяць матчыны сумненні Антон. — Я падаў заяву. Трэба лесу выпісаць на дом. Я сёння ж са старшынёю калгаса сустрэнуся, пагавару з ім.

Антон спахапіўся: дарэмна, мабыць, ён угаворвае маці пераехаць да яго. Яна мо і сапраўды хоча, каб ён забраў яе да сябе, але ж...

— Мама, дзе цяпер Слава? Ты ведаеш? Ён табе піша?

Антон толькі ў гэтую хвіліну быццам успомніў, што ў яго ёсць родны брат Слава — матчын меншы сын. Ад яго маці адно гора: вучыцца не захацеў, бадзяецца па свеце, у турме ўжо сядзеў за нейкія свае выхадкі.

— Пад следствам ён, у СІЗО, — матчыны вусны скрывіліся, яна часта заміргала вачыма, скрозь слёзы загаварыла: — Гэта яму нехта зрабіў... Ага... Ён жа быў такі рахманы, спагадлівы, ён жа ніколі мухі не пакрыўдзіў, не тое, што чалавека.

— Мухі ён не пакрыўдзіў, — зазлаваў Антон. — За проста так волі не пазбаўляюць.

— З кумпаніяй дурной звязаўся. З дружкамі чорт яго звёў такімі, што падбухтораць каго хочаш. Ён жа недзе там на Поўначы на лесанарыхтоўках быў, з лясной махвеяй зблытаўся, сплаўлялі налева дзяржаўны лес — хіба такое дарма мінецца?

Антон не стаў падрабязна высвятляць, за якія грахі Славу запраторылі ў кутузку, толькі падумаў: добра, што ў Славы айчымава прозвішча, бо каб дазналіся на Антонавай рабоце, які ў яго брат, то, мабыць, і дня не трымалі б. Што ты — гэта ж друк, тут такая строгасць, дысцыпліна, перастрахоўка...

Ён устаў на золаку, апрануўся, выйшаў са спальні ў залу, дзе стаяла трохстворкавая шафа з доўгім, ад верху дзверцаў да нізу, люстрам. Стаў перад ім, узіраўся ў сябе, бачыў свае зажураныя вочы, заклапочаны твар, парадзелыя русыя валасы, з маленькай гарбінкай, прадаўгаваты нос. Знешне ён дужа падобны на маці. Але нечым нагадваў і бацьку — таго, якога часта бачыць на адным-адзіным фотаздымку, што ацалеў у вайну. На тым здымку бацька застаўся назаўсёды ў цывільным адзенні: на ім белая сарочка з шырокай вышыванай манішкай, хромавыя боты з высокімі, як не да каленяў, халявамі, нага пакладзена на нагу, а на руках ён трымае маленькага Антона.

— Чаго табе не спіцца? — у залу ўвайшла маці. Невядома, калі яна спіць — да глыбокай ночы ўсё нешта робіць, раніца ў яе заўсёды пачынаецца на досвітку.

— Трэба схадзіць да старшыні, каб лесу выпісаў. Хачу паставіць хату на дачы з новага дзерава.

Маці на гэта нічога не адказала. Яна падумала, мабыць, што яе сын няўрымслівы: калі возьме што ў галаву, то не проста так, а як след узважыўшы.

— Рабіць табе, Антон, няма чаго, — уздыхнула маці. — Будавацца — гэта ж не на адзін год. Дасца табе будоўля ў знакі, зусім спакой страціш.

— Летам у гарадской кватэры, асабліва ў спёку, немагчыма, а да цябе трыста вёрстаў — не наездзішся, — прывёў Антон свой апошні довад, даючы маці зразумець, што будоўля дачы — пытанне вырашанае.

Паснедаўшы, ён зазбіраўся, выйшаў на двор, дзе пад дахам паветкі стаяў яго старэнькі «масквіч». На дварэ пасля ночы золка, лабавое шкло «масквіча» ў расе, трава, цвітучы бульбоўнік таксама ў кропельках расы, якая свяцілася, пералівалася жывымі колерамі надыходзячага дня.

Прагрэўшы рухавік, Антон адчыніў вароты двара — шырокія, са струганай сасновай дошкі, на масіўных дубовых шулах, пафарбаваных у светлаблакітны колер.

Вароты служаць ужо каторы час надзейна. Добрыя, вечныя вароты. Айчымава работа. Айчым быў працаўнік. Ён усё мог рабіць. І зямлю араў, і сталярыў...

Згадаўшы айчыма, чамусьці ўспомніў учарашнюю размову з маці пра Славу — айчымавага роднага сына. І адчуў шкадаванне да Славы, да айчыма, які рана памёр ад цяжкай хваробы.

«Быў бы жывы айчым, то, можа, Слава і не адбіўся б ад рук, не валачыўся б па белым свеце, шукаючы доўгага рубля, — падумалася Антону. — А то вось што…»

Выехаўшы з двара, ён паглядзеў на сваё роднае селішча, дзе выгадаваўся, адкуль узмежкам калісьці падаўся на брукаванку, што павяла яго ў невядомы свет. Няма чаго яму крыўдзіцца на лёс. Усё, аб чым мроілася ў маладосці, амаль удалося, ажыццявілася. Ён і вышэйшую адукацыю атрымаў, і застаўся на рабоце ў сталіцы, у рэспубліканскім друку працуе, добра зарабляе, у яго цудоўная жонка, растуць-гадуюцца дачка з сынам. Без роднага бацькі, праўда, рос і гэта заўсёды адзываецца ў душы болем, які не праходзіў, а з узростам, з гадамі абвастраўся, выклікаючы тужлівыя, сумныя думкі. Антону пашэнціла з айчымам — працаўнік з залатымі рукамі, і яго, свайго пасынка, ніколі не крыўдзіў сам і не дазваляў, каб крыўдзілі іншыя. Каб не айчым, то наўрад ці змог бы Антон скончыць школу, паступіць ва ўніверсітэт, стаць чалавекам. Не ўсе Антонавы аднагодкі-аднавяскоўцы, у каго бацькі не вярнуліся з вайны, у каго маці-адзіночкі, змаглі вучыцца, бо не было ніякіх сродкаў на самае неабходнае, не кажучы пра вучобу. У тэхнічныя вучылішчы яны падаліся, каб атрымаць прафесію шафёра, трактарыста, каб толькі займець свой хлеб, каб маці было лягчэй.

Думаючы пра гэта, пазіраючы на сваю сядзібу, Антон бачыў, што селішча агароджана дашчаным плотам. Плот, як і вароты ў двор, таксама век прастаіць. На дубовых слупах, на тоўстых, акуратна ачэсаных жэрдках. Усё, што ні рабіў айчым, трывалае і надзейнае. Як і дом, што выглядваў на вуліцу шырокімі і высокімі, пафарбаванымі ў бела-блакітны колер, рамамі, аканіцамі. Сцены абшыты ад вуліцы вагонкай. А з тыльнага боку не — не паспеў айчым абшыць сцены з тыльнага боку.

У думках Антон паўшчуваў сябе за тое, што пасля пахавання айчыма так ніводнага разу і не наведаў яго магілу. Заўсёды, калі прыязджаў да маці, спяшаўся зрабіць якую мужчынскую работу — на могілкі схадзіць часу нетавала.

Цэнтр калгаса знаходзіўся ў іншай вёсцы. Гэта не так і далёка, кіламетраў з пятнаццаць, затое ёсць час абдумаць, як будзе гаварыць са старшынёю. Не з таго пачне Антон, што от ён наважыўся будаваць дачу і яму край як трэба колькі кубаметраў будаўнічага лесу: дуба, сасны. Ён спачатку распытае старшыню пра калгасныя справы, скажа, што будзе пісаць пра гаспадарку. І гэта праўда. Антон, амаль заўсёды, калі наведваўся да маці, браў камандзіроўку. Райцэнтр — горад не маленькі. У ім столькі розных прадпрыемстваў, устаноў,

што толькі не лянуйся, пісаць ёсць аб чым і пра каго. А журналіста, як і воўка, ногі кормяць.

Раней, калі Антон рос, дарога да брукаванкі — балота балотам ці ўлетку, ці вясной, або восенню. Па ёй на калёсах не заўсёды можна было праехаць. Хіба што зімою, калі добра падмерзне — на санях, а так... Калгас, у якім Антонава вёска, быў невялікі, усяго з дзвюх брыгад. Гаспадарка быццам ніколі не лічылася беднай, але ж грошай, каб прakласці ад вёскі да шляху вартую, з высокім насыпам, дарогу ў яе не было. У таго, колішняга калгаса, толькі і ставала сілы і сродкаў, каб зладзіць масток з драўляным насцілам праз тое месца, дзе гразка, дзе балацявіна, дзе паводкай размывала дарогу, вымывала дарожны грунт, рабіла глыбокія, не праехаць калёсамі, ямы. Бывала, пройдзе праз той драўляны масток гусенічны трактар, пашчапае насціл на трэскі, ссуне яго — і зноў бяда, чакай, пакуль вясковыя мужыкі адрамантуюць масток.

А цяпер вось на колішнім прасёлку — асфальт. Не такі, канечне, як на магістралі, але дарога роўная, гладкая, Антонаў «Масквіч» коціцца спакойна, рухавік працуе нячутна, без перабояў.

«Усё памянялася, як толькі далучылі наш калгас да таго, цэнтр якога бліжэй да горада, — Антон пазіраў на дарогу і зноў прыкідваў, з чаго, з якога пытання ён распачне са старшынёю размову. — А што тут надта мудрагеліць? — пераконваў ён сам сябе. — Вось пра дарогі, пра будоўлю на вёсцы — самая актуальная размова. Напішу, рэдактар адразу паставіць у нумар».

Ён ехаў няспешна. Часам спыняўся, выходзіў з машыны. Яму хацелася падыхаць свежым лясным паветрам, паглядзець на тыя мясціны, на сцежкі-дарожкі ў лесе, на палі, на шлях, па якіх калісь бегаў басанож, спяшаючыся са сваёй вёскі ў суседнюю, дзе была сямігодка… Праз нейкі час ён уехаў на цэнтральную сядзібу калгаса, якая была недалёка ад райцэнтра.

— Старшыня ў такі час у канторы не заседжваецца, — сустрэла Антона сакратарка — паглядная, круглатварая, даволі маладая жанчына з вялікімі вачыма, пушыстымі вейкамі, з густам апранутая. — Але я зараз з ім звяжуся. Як яму далажыць пра вас?

Пакуль сакратарка звязвалася па тэлефоне са старшынёю, затым дакладвала, што да яго прыехаў сталічны журналіст, Антон прыгледзеўся да яе больш пільна: даволі сімпатычная жанчына. Нічым Бог яе не пакрыўдзіў — ні тварам, ні станам…

Калі сакратарка сказала, дзе яго чакае старшыня, Антон спытаў, як яе завуць. Яна, задаволена ўсміхнуўшыся, паглядзела на яго так, што ў Антонаву душу закралася грэшная думка: калі б дзе-небудзь сустрэўся з ёю сам-насам, дык ці змог бы спакойна размінуцца?..

— Ася! — сказала яна.

— Якое цудоўнае імя! — усклікнуў Антон, бо і сапраўды імя сакратаркі, як і яна сама, яму спадабалася.

Яны сустрэліся на мехдвары. Старшыня — высокі, рыжавалосы, са стрыманай усмешкай у куточках вуснаў, даведаўшыся, хто такі Антон і з якімі намерамі ён тут, здаецца, нават абрадаваўся:

— Даўно ў нас карэспандэнты не былі.

Калі трохі разгаварыліся, старшыня прапанаваў:

— Пакіньце свой «масквіч» на мехдвары і айда на поле, я вам столькі пакажу і раскажу...

У старшыні палескае прозвішча — Прышчэп. Прышчэп Уладзімір Аляксеевіч. Ён з тутэйшых. Яго родная вёска ад Антонавай — у двух дзясятках кіламетраў. На беразе Прыпяці. Трымаўся Уладзімір Аляксеевіч проста,

натуральна, размаўляў з Антонам так, быццам яны даўно знаёмыя. Мова ў старшыні паляшуцкая, але гэтая яго мова ўсё ж адрознівалася ад той, на якой гавораць простыя людзі.

— Я ведаў, чуў пра вас, што вы — зямляк. Чытаў тое-сёе з таго, што вы друкавалі, — прызнаўся раптам старшыня, — і ўсё чакаў, спадзяваўся, што калі-небудзь сустрэнемся.

Гэтая старшынёва даверлівасць, шчырасць, непасрэднасць кранулі, і Антон зразумеў, адчуў сэрцам, што яму пашанцавала сустрэцца з добрым чалавекам.

— Калі я рос, людзям жыць на сяле было вельмі цяжка, — сказаў Антон, калі яны ўехалі ў малады сасняк, усцяж якога ляжала доўгае і шырокае поле, засеянае рапсам. Рапс цвіў, поле нагадвала вялізны луг, на якім спраўлялі баль дзьмухаўцы. — Не было дзе карове ўрабіць сена. Не было на чым узараць свой агарод: калгас не даваў каня, — не супакойваўся Антон. — Адбівалі ў людзей ахвоту жыць на зямлі…

Старшыня маўчаў. Мабыць, задумаўся над Антонавымі словамі.

— Хіба катаржная сялянская работа калі-небудзь аплачвалася па справядлівасці? — пытаўся Антон ці то ў сябе, ці то ў старшыні.

— Канечне, усё было, — раптам сказаў старшыня. — Але ж цяпер іншы час. Хіба вы не бачыце, не заўважаеце перамен? Паглядзіце, якая ў нас цэнтральная сядзіба, якія дарогі. У нас тут не горш, а можа, нават і лепш, чым у горадзе. Хіба ж не? Кватэры ў нас — гэта вам не гарадскія катухі. Свежае паветра. Выйшаў з двара — і лес. Збірай грыбы, ягады, адпачывай.

— Цэнтральная сядзіба... — ухапіўся Антон за апошнія старшынёвы словы. — А далёкія брыгады? Такія, як мая вёска? Глухамань глухаманню. Што там рабіць маладой дзяўчыне, хлапцу? Ні замуж ні выйсці, ні ажаніцца. А за каго выходзіць замуж, з кім жаніцца? У сяле адны старыя, тыя, хто дажывае свой век. Дый работа адна — корпацца ў зямлі. Хіба гэта можа задаволіць маладога чалавека?

Старшыня нядобра паглядзеў на Антона.

— Калі не корпацца ў зямлі, то што есці будзем? Без селяніна горад прападзе, загіне ў адначассе.

Хвіліну памаўчалі.

— Але і ваша праўда — да аддаленых вёсак мы пакуль не дайшлі. Рукі пакуль у нас кароткія, каб ахапіць усё, што не церпіць адкладу. Усяму свой час. Я даўно думаю — на сяле трэба наладжваць вытворчасць. Каб людзі маглі зарабляць, каб моладзі была работа. Мы — лясны край. Вакол нас непраходныя пушчы, бары. Хіба гэта не грунт для таго, каб змяніць уяўленне пра тое, што сяло — гэта ўчарашні дзень? Наладжвай лесапілкі, рабі мэблю, узводзь катэджы на продаж, сабе... Трэба быць больш разваротлівым.

Антон, пачуўшы гэта, хацеў сказаць, што ён прыехаў, каб выпісаць будаўнічага лесу на дачу, але стрымаўся: няёмка адразу… Што Уладзімір Аляксеевіч падумае пра яго?.. Хапуга, карыстаецца тым, што з'яўляецца сталічным карэспандэнтам?.. Трэба пачакаць, хіба гэта іх апошняя сустрэча?

Машына спынілася каля Прыпяці, на паплавах паважна хадзілі буслы, ці як тут кажуць, бацяны. Антон і старшыня падышлі да поля, дзе цвіла грэчка. У ёй усюды стаялі рамачныя вуллі-домікі. Пахла мёдам, над кветкамі зумкалі пчолы, і Антону здавалася, што ён трапіў у нейкі казачны, дасюль нябачаны свет…

— Пасекі ў нас не толькі тут, — убачыўшы на Антонавым твары здзіўленне, сказаў старшыня. Крыху памаўчаў і дадаў: — Яны ў нас і на лугах, у лесе.

Палессе — куток, дзе скрозь і ўсюды кветкі, верасы, вербалозы... Ды што я тлумачу палешуку.

Антон зразумеў, адкуль у магазінах райцэнтра мёд. Але нічога не сказаў старшыні ні пра гэта, ні пра тое, чаму прыехаў у калгас. І толькі калі агледзелі поле і накіраваліся да машыны мовіў:

— Трэба заўтра ў Мінск, камандзіроўка канчаецца, а я нават не паспеў маці дроў нарыхтаваць. Як яна будзе ўпраўляцца адна… Старая яна. Клічу да сябе ў Мінск — не хоча.

Уладзіміру Аляксеевічу, мабыць, прыемна было чуць, што ёсць яшчэ, не звяліся на гэтым свеце людзі, якім без вёскі як без паветра. Старшыня стрымана ўсміхнуўся, але тут жа гэтая ўсмешка сплыла з яго твару, і ён не без горычы сказаў:

— Вось так і мая. Я ў яе адзін. Мне далі кватэру ў горадзе. Сям'я там. І я кажу маці, каб перабіралася да мяне. Упарціцца, не хоча, таксама, як і ваша, адна гаруе. — Ён паглядзеў на Антона і дадаў: — Думаеце, ваша і мая не хочуць быць з намі? Хочуць, яшчэ як хочуць. Але баяцца, што нам будзе няўтульна ад іх прысутнасці. Такая ў нас, палешукоў, мараль — мы баімся, каб, крый божа, некаму не быць перашкодай…

У яго словах была праўда. Але не ўся… Антон ведаў, чаму яго маці не хоча перабірацца да яго: не, не таму, што сыну і яго сям'і з ёй будзе быццам бы цеснавата ў Антонавай кватэры — яна ўсё спадзяецца, верыць, што дадому вернецца Слава.

Развітваючыся, паціснулі адзін аднаму рукі, старшыня заспакоіў Антона:

— Не перажывайце. Дроў вашай маці я падкіну. Распараджуся, каб не абы-якіх, а сухенькіх, бярозавых. Нарэжам, наколем і ёй — проста ў двор.

Антон быў чамусьці ўпэўнены, што так яно і будзе — старшыня, здаецца, не з тых, хто падводзіць, любяць пускаць пыл у вочы.

І ў той жа час недзе ў глыбіні душы варухнулася і іншая думка: старшыня хоча, вельмі, мабыць, хоча, каб ён пра яго напісаў у рэспубліканскім друку: не надта спешчаны журналістамі.

Да маці Антон вяртаўся надвячоркам, калі ў лагчынах курыўся лёгкі летні туман. На душы было добра. Выйшаў з машыны і чамусьці згадаў сваю апошнюю перад гэтай паездку да маці… Прасёлкавую дарогу, бязмежную пушчу, што пачынаецца адразу за вёскай… Адным краем пушча ўпіраецца ў міжгароднюю аўтамагістраль, а другім — у Вялікае балота, сярод якога астравы, парослыя маладым асіннікам і бярэзнікам. На тых астравах Антон часта бачыў рагатых ласёў, дзікоў з маладым выводкам, рыжых лісіц з пушыстымі доўгімі хвастамі... Не раз натыкаўся на воўчыя сляды і заўсёды трывожыўся, хваляваўся...

На тых астравах самыя лепшыя баравіны, мабыць, таму, што месцы гэтыя нізкія, вільготныя, а грыбам гэта і трэба — каб болей вільгаці ды цяпла. Шапкі ў баравікоў на астравах, што рэшаты. Пакладзеш дзясятак такіх у кашэль — і ён ужо да краёчкаў, з гарою.

Антон хадзіў у лес у той час, калі сама раслі баравікі. Хадзіў як на работу. Прачынаўся на золку, кашэль на плечы — і ў лес, на астравы, на баравіны, за дзень рабіў два-тры рэйсы, дамоў вяртаўся з поўным, даверху, кашалём пахучых, маладых, белых, жоўтых, падбелых, на варку, на сушку баравікоў. Дзе толькі не сушылі грыбы: на саломе, разасланай у сподзе печы, на чарэні, на камінку, каля цёплага коміна. Пах стаяў па ўсёй хаце, нібы на тых самых баравінах. Высушаныя грыбы нізалі на ссучаныя канапляныя ніткі, і тыя нізкі

з грыбамі віселі на цвіках, убітых у глухую сцяну хаты, у паліцу, дзе стаялі гладышкі, макотрыкі з кіслым малаком, з сырадоем, са смятанай і тварагом, дзе былі лыжкі ды міскі. Некалькі кілаграмаў было тых высушаных на нізках баравікоў. З іх варылі смачныя баршчы, захалод, з імі тушылі ў гліняных паліваных гаршчэчках бульбу. Высушаныя баравікі, жоўтыя і белыя, здавалі ў сельпоўскую лаўку, прадавалі спекулянтам, сваім і чужым, і мелі за гэта добрую капейчыну. У калгасе грошай за работу не плацілі, вось людзі і зараблялі сабе на абутак, адзежу, зрэшты на ўсё, без чаго ў гаспадарцы не абысціся. Таксама збіралі ягады, дралі лазу і крушыну, сушылі іх і здавалі ў сельпоўскую лаўку. І так з году ў год. Лес спрадвеку карміў, паіў палешука, даваў яму прытулак і надзею на лепшае жыццё…

Там жа, на баравінах, на лясных дарогах-прасёлках, ён заўсёды сустракаўся з людзьмі — маладымі, старымі. І заўсёды любіў пагаварыць з кожным аб тым, што набалела, хвалявала. Кожнаму было чым пахваліцца, падзяліцца, у кожнага хапала і крыўды на жыццё: ох, якое яно нялёгкае!..

Антон гадзінамі мог слухаць паляшуцкую мову — простую, шчырую, напеўную, журботную. Тое, што казалі яму людзі, ішло з глыбіні душы, было без фальшу і падману. Яно запаміналася, захоўвалася ў памяці. Калі ён нешта піша, то згадвае і бачыць людскія твары, стомленыя, зажураныя вочы, чуе словы сваіх землякоў, якія вучылі яго жыццю, вучылі дабру, усяму таму, што не пакідае яго ні ў будні, ні ў святы. Згадкі аб усім, што звязала яго з Палессем, абуджалі думкі, і ён пісаў з азартам, настроем і натхненнем…

Ужо мінула колькі дзён, як Антон вярнуўся з Палесся. Трэба было адпісацца за камандзіроўку: пакласці на стол галоўнаму матэрыял. Але ён ніяк не мог сабрацца з думкамі, не ведаў, з чаго пачаць артыкул і аб чым распавесці ў ім гаворку. А калі ўсё ж узяўся пісаць, у душы адчуваў нейкі дыскамфорт. Здавалася, што ён нешта хоча ўтаіць і ад сябе, і ад галоўнага, і ад чытача, расказваючы пра жыццё сваіх землякоў. Здавалася, што ён хоча прайсці моўчкі міма таго, аб чым трэба абавязкова сказацьуслых самому сабе, людзям, старшыні. Рыхтуючы да друку гэты допіс, Антон думаў пра маці, пра сябе, пра старшыню, пра сваю дачу, якая не выходзіць з галавы ўжо каторы час.

Не, ён не крывіў душой. Пісаў аб тым, што ўбачыў сваімі вачыма, што кранула, запомнілася. І ўсё ж... Антон увесь час лавіў сябе на думцы, што не пазнае сябе самога. Раней, бывала, будучы ў камандзіроўцы, ён абавязкова шукаў нешта такое, што магло стаць бездакорнай падставай для вострага, надзённага выступлення. Ён не баяўся крытыкаваць, калі было за што, начальніка любога рангу, не баяўся пісаць праўду. У рэдакцыі гэта цанілася…

Прачытаўшы ягоны допіс, галоўны рэдактар — чалавек сярэдніх гадоў, шчыры, але дужа прыдзірлівы ў рабоце і да сябе, і да падначаленых, як бы мімаходзь заўважыў:

— Я падпісваю, але мне здаецца, вастрыні малавата.

«Вастрыні малавата», — не без іроніі паўтарыў у думках словы галоўнага Антон, затым дадаў, таксама ў думках: «Хіба я не стараўся? Ва ўсё, што пішу, душу ўкладваю».

Галоўны ўважліва паглядзеў на Антона, і ён зразумеў: ведае, што думае карэспандэнт.

— Ну што ж, — зазначыў галоўны, — сам ведаеш, раз на раз не прыпадае. Так што… Падпісваю.

Дзён праз колькі допіс стаяў на паласе, ішоў у чарговым нумары. Антону якраз давялося дзяжурыць па тым нумары, і ён асабіста вычытваў тое, над

чым маракаваў, вярнуўшыся з апошняй камандзіроўкі. Вычытваў уважліва, задумваўся, бы перажываў занава ўсё тое, аб чым напісаў. У самы апошні момант адказны сакратар папрасіў яго трохі падкараціць свой допіс, бо, маўляў, трэба тэрмінова ставіць белтаўскую інфармацыю. У гэтай спешцы Антон скараціў так, што потым доўга шкадаваў: ну чаму ён іншы раз гэтакі неабачлівы, нібы губляе кантроль над сабой, сваімі дзеяннямі?

Прыйшоўшы на другі дзень пасля дзяжурства на работу, Антон убачыў свой допіс у сакратырыяце на дошцы аб'яў, дзе часам вывешвалі на агульнае пасмешышча самае няўдалае ў нумары. А трохі збоч допісу на той жа дошцы загад-вымова Антону, з якога вынікала, што ён пазбаўляецца прэміі за бягучы месяц.

Каля гэтай дошкі яго і заспеў галоўны. Ён толькі і сказаў:

— Як жа гэта так? Сам дзяжурыў, сам вычытваў, а дзе прозвішча героя?

Антон шкадаваў, дужа шкадаваў, што так вось атрымалася. Няхай бы гэта было з любым іншым яго допісам, але толькі не з гэтым. Як цяпер паказвацца на вочы старшыні? А паказвацца трэба абавязкова, бо без яго пра будаўніцтва дачы няма чаго і думаць.

Галоўны не стаў болей нічога гаварыць, падаўся ў свой кабінет, дзверы якога былі побач з сакратарыятам.

Антон яшчэ раз прабег вачыма загад-вымову, ніяк не мог зразумець — як жа гэта так атрымалася? Чаму ён не заўважыў, што прозвішча героя выпала? Ва ўсім, мабыць, вінавата спешка і яго, Антона, самаўпэўненасць. Надта ж ён часам паглыблены ў сябе, у нейкія развагі, а не ў тое, чым заняты зараз, над чым трэба сканцэнтравацца, засяродзіцца. Гэтакія яго паводзіны не назавеш легкадумнасцю, але хіба гэта не адно і тое ж? Нялёгка далася, даецца Антону яго прафесія, ён цэніць яе, але з-за такіх вось прамашак на душы застаецца горкі асадак.

Ён выйшаў у калідор — прасторны, доўгі, з вялікім акном з таго боку, адкуль добра відаць галоўны праспект сталіцы, бачна акадэмія навук і тэатральны інстытут. А на другім баку калідора — лесвіца з шырокім бліскучым ад лаку поручнем, што ідзе ад першага паверха сюды, на чацвёрты, дзе рэдакцыя газеты, у якой Антон працуе ўжо каторы год.

Антон спыніўся каля гэтай лесвіцы і ўпершыню задумаўся аб тым, ці не памыліўся ён у выбары прафесіі? Можа, напісаць заяву і звольніцца? Чаму не падацца ў аспірантуру? Работа вучонага хіба не цікавая? Дый не такая, мабыць, клапатлівая, не звязаная з вечнымі камандзіроўкамі-раз'ездамі, як у яго. І зарплата ў вучоных не абы-якая, вучоныя — народ нябедны.

Раздумваючы так, Антон згадаў аднаго свайго знаёмага, які часцяком бывае ў рэдакцыі, прыносіць свае допісы, бо яго дысертацыя амаль гатовая да абароны, а, каб абараніцца, трэба абавязкова мець публікацыі ў газетах, часопісах. Антонаў знаёмы-дысертант — чалавек разважлівы, начытаны, удумлівы, а вось тое, што ён прыносіў і прапаноўваў да друку — такая цягамоціна, гэтакі жалезабетон... Калі б Антон вось гэтак пісаў, то галоўны даўно яго звольніў бы за прафнепрыгоднасць. І таму, калі зараз падумаў аб аспірантуры, то тут жа і пасмяяўся сам з сябе: не салодкі журналісцкі хлеб, але й быць гора-вучоным радасці мала.

Невядома, да чаго ён яшчэ дадумаўся б, але яго думкі перапыніў Жора, як і ён, Антон, загадчык аддзела. Высокі, з акуратна падстрыжанай кароткай бародкай, русымі, баранчыкамі, валасамі, выгаралымі ад сонца калматымі бровамі, пільнымі, учэпістымі вачыма.

— Перажываеш? — спытаў Жора, і па яго голасе было незразумела, ці спачувае ён, ці загаварыў дзеля таго, каб пакрасамоўнічаць, паказаць, які ён уважлівы ды неабыякавы да калегі.

Жора закурыў, выпрабавальным позіркам паглядзеў на Антона, чакаючы, мабыць, што той пачне спавядацца.

Але Антону ні аб чым гаварыць не хацелася. У душы ён недалюбліваў Жору. А за што ён мог яго паважаць? Антон не заседжваецца ў рэдакцыі, а Жора, мабыць, ужо і забыў, што такое — камандзіроўка. А вось на лятучках, калі абмяркоўваюць вынікі работы за тыдзень, месяц, квартал, на планёрках Жора першы выступоўца і прамоўца. Ён любіць паказаць сябе, дае зразумець, што не лыкам шыты: усё бачыць і заўважае і не пацерпіць, калі што-небудзь не так у рэдакцыйным кругазвароце. Галоўны рэдактар, напэўна, не дужа быў задаволены тым, што Жора безвылазна праціраў штаны на рэдакцыйным крэсле. Але маўчаў, нібы баяўся сказаць Жору тое, што ён аб ім думае. І гэта для Антона было незразумелым, бо ледзь што не так у яго, Антона, адразу ж — вымова і пазбаўленне прэміі. А Жора вымоў не ведае, у камандзіроўкі не ездзіць, сядзіць у рэдакцыі ды спакойна пакурвае... Увогуле Жора не надта высільваецца, спакойны, на лятучцы, узяўшы слова, гаворыць так, нібыта ён не загадчык аддзела, а галоўны рэдактар. І піша не сказаць, каб размашыста, ёмка, але ж умее іграць ім самім выбраную ролю. Артыст!

Да пары да часу для Антона Жора заставаўся загадкай. Але праўду кажуць, што няма нічога тайнага, што не стала б яўным. Неяк дайшло да Антона, што Жораў родны дзядзька сядзіць так высока, што пляменнік за ім — як за каменнай сцяной… (Хіба родны дзядзька дасць у крыўду пляменніка?..)

— Перажываю, а як жа, — не хітруючы нарэшце сказаў Антон. — Ты, Жора, перажываць не будзеш, у цябе поўны ажур, цябе родны дзядзька абароніць заўсёды. А на таго, хто цягне воз, шышкі сыплюцца.

— У кожнага свой статус, — ухмыльнуўся Жора. — Ты зайздросціш мне? А хто цябе гоніць у шыю? Сам у любую дзірку лезеш, хочаш болей ганарару зарабіць, а што ж — пачаўшы дачу... Я чуў — ты хочаш не абыякую, а з дрэва, з палескай сасны. Ды за адну перавозку ведаеш колькі трэба будзе выкласці?

Адкуль Жора ведае, што Антон хоча паставіць дамок на дачным участку з дрэва, з палескай сасны? Мабыць, Антон недзе сам прагаварыўся, не вытрымаў, пахваліўся раней часу. Яно й сапраўды так: язык мой — вораг мой.

Антон не хацеў далей гаварыць з Жорам, наважыўся павярнуцца і пайсці, але той неспадзявана прамовіў:

— Дарма ты хочаш пасварыцца са мной. Нам не сварыцца трэба — цяпер я твой сусед па дачы. Хіба ты гэтага не ведаеш?

Антон рады і не рады, што ўвязаўся ў гэтую дачную будоўлю. Мала яму таго, што не цярпеў Жору на рабоце, то цяпер, хочаш не хочаш, а давядзецца з ім і на дачы сустракацца, размаўляць, прыкідвацца, фальшывіць.

Свае сумненні ён выказаў жонцы.

— Мо адмовіцца ад участка? Як падумаю, які клопат узвальваю на свае плечы... Ды яшчэ гэты Жора... Усё як назло.

Пляц, дзе Антону далі ўчастак пад дачу, на гары, якую чамусьці назвалі Лысай. Ніякая яна не Лысая, бо на ёй калгас спрадвеку сеяў, садзіў, збіраў... Зямля на гэтай гары камяністая, але ўрадлівая. На ёй добра растуць жыта, авёс, ячмень. Антон гэта бачыў на свае вочы. Значыць, расце калгаснае, будзе расці і сваё.

Антонаў пляц усяго чатыры соткі. Ды і ў суседзяў не большыя. Людзі не разумелі, чаму ім не даць столькі зямлі, каб можна было свабодна паставіць дамок, лазеньку, адрынку для інвентару і каб было дзе пасадзіць садок?.. Зямлі ж у нас вунь колькі пустуе, варта толькі паглядзець навокал...

Не на ўсе ўчасткі адразу знайшліся ахвотнікі — яшчэ заставаліся свабодныя, і адзін з такіх, мабыць, і прыгледзеў сабе Жора, і цяпер, выходзіць, давядзецца сустракацца з ім не толькі на рабоце, а і на дачы. Аб гэтым Антон і загаварыў з жонкай, бо гэта яго турбавала, хвалявала, пазбаўляла спакою: ці ўжывуцца яны з Жорам на Лысай гары? У рэдакцыі іх суіснаванне няпростае, Антон не раз нібы міжволі ўступаў з Жорам у цяжкія, непрымірымыя размовы, якія прымушалі нервавацца, злавацца, задумвацца...

З жонкай Антон пражыў ужо нямала. Пажаніліся яны студэнтамі. Намучыліся, кватаруючы па чужых людзях, нарадзіўшы ў тых чужых вуглах двое дзяцей. Наталля — выкладчыца матэматыкі, вечна слепіцца да позняга за пісьмовым сталом, правяраючы вучнёўскія сшыткі, пішучы план работы на наступны дзень, рыхтуючыся да адкрытых урокаў.

— Я табе ў гэтых справах не дарадчыца, — выслухаўшы, што Антон сумняваецца — будаваць дачу ці не, сказала яна. — Канечне, нядрэнна было б мець нейкі пляц з буданом за горадам. Прыйдзе лета, куды падзецца дзецям у спёку, у духату? Да тваёй маці ехаць далёка, не надта наездзішся, хоць і хочацца.

Наталля — сірата, дзетдомаўская выхаванка. Яна ніколі не ведала сваіх бацькоў. У яе слабы зрок і без акуляраў яна — ні кроку. Ды і ўвогуле здароўе ў яе — не вельмі… Можа, таму, што вырасла не адчуваючы бацькоўскай ласкі, яна дужа спагадлівая, сардэчная, жаласлівая. Згаджаецца з усім, што б ёй Антон ні гаварыў. Але вось наконт дачы ў яе свая, не пазбаўленая жыццёвага грунту, думка: без дачы ў сталіцы, тым больш маючы дзяцей, няпроста.

— Твая, Наталля, праўда: без сваёй дачы нам нельга... Дый маці мая не вечная. А ў тым, што яна адпіша дом не мне, а брату — сумнявацца не даводзіцца. Шкадуе яна таго бэйбуса, а ён бадзяецца па свеце, забыўся пра дом, пра маці. Дый пад следства трапіў. Глядзі, зноў загрыміць у каталажку.

Сказаўшы гэта, Антон прыкусіў язык — ну, навошта ён жонцы пра гэта? Не хапала ёй лішніх перажыванняў.

— Як трапіў, за што трапіў? — гэтую вестку Наталля адразу блізка ўспрыняла да сэрца.

— Я й сам не ведаю, маці сказала. З лясной мафіяй зблытаўся, дзяржаўны лес налева гналі.

— Напісаў бы брату, высветліў, што да чаго. Няўжо табе не баліць, што з братам такое?

— Паменей трэба гаварыць аб гэтым, бо калі дазнаюцца на маёй рабоце звольніць не звольняць, але мне будзе сорамна, непрыемна, хоць ты сам звальняйся… Куды мне тады ісці? У грузчыкі, у дворнікі?.. Я ж — журналіст, людзей вучу, а брата выхаваць не змог. Ды і другой прафесіі ў мяне няма.

Наталля выслухала яго, падышла, абняла, прыхінулася і доўга маўчала, даючы зразумець, што яна адданая яму да скону дзён, затым прамовіла:

— Мне добра, Антон, з табою, але я баюся… Сама не разумею чаму і з чаго б гэта, але на душы ў мяне апошнім часам нядобра.

Ён зняў жончыны акуляры, паглядзеў ёй пільна ў вочы. Яны ў яе такія шчырыя, ясныя. У іх столькі пяшчоты, што ён, глянуўшы ў іх, пераконваецца: яму пашанцавала з жонкай. Яна вельмі дабрачая, ласкавая, спагадлівая. Ён бясконца ўдзячны лёсу за такую жонку.

— Усё, Ната, будзе добра, — адчуваючы яе трывогу, прамовіў Антон. — Дачу будаваць трэба. Паеду зноў на Палессе і буду весці канкрэтныя перамовы са старшынёй калгаса, заключаць дагавор з гаспадаркай, наймаць будаўнікоў. Няхай зруб складуць там, а сюды я ўжо як-небудзь перавязу.

Пакуль тое ды сёе — Антон не сядзеў, склаўшы рукі. Калі той дамок на дачы з'явіцца, дакладна ён і сам не ведаў. На гэта трэба час і немалыя грошы. А каб зарабіць іх, трэба працаваць ды працаваць…

Перш за ўсё Антон рашыў агарадзіць свой пляц хоць якімі жэрдкамі. Бо суседзі, будуючыся, увесь будаўнічы друз звальвалі на яго ўчастак.

Антон наняў самазвал, пагрузчык, каб вызваліць пляц ад друзу-смецця.

— Мабыць, і ты, Жора, па-суседску сваё смецце на мой пляц кожны дзень валок? — праводзячы вачыма даверху нагружаны друзам самазвал, сказаў не стрымаўшыся Антон, калі ўбачыў Жору, які выйшаў са свайго падворку на вуліцу.

— Думаеш, на маім участку гэтага не было? — адказаў Жора. Ён быў апрануты па-рабочаму: у гумовіках, у расхрыстаным заношаным пінжаку, у пакамечаных брудных штанах. На галаве — лінялая шэрая кепка з пакамечаным брылём. У руках — жалезныя граблі. — І мне самому хапіла, і людзей наймаў, трактар з прычэпам наймаў: мой участак, як і твой, быў так захламлены... Нашы садаводы-аматары дбаюць толькі пра сябе.

Жора паставіў ужо дамок? Ладненькі гэтакі, з белай цэглы, у два паверхі, з чарапічным дахам, з крытай збоку дамка стаянкай для легкавіка, з жалезнай шафай з тыльнага боку для газавага балона. Вокны дамка пафарбаваныя, паблісківаюць на сонцы свежанькай бела-чырвонай фарбай. А за дамком — зашклёныя цяпліцы, дзе ўжо цвіў агурэчнік, які віўся ўверх па нацягнутых і прывязаных да столі шнурках.

— Гаспадарлівы ты чалавек, Жора, а я і не знаў, — здзівіўся Антон таму, што ў Жоры неўзабаве будуць агуркі са сваёй грады. Людзі толькі бяруцца за агароды-грады, а ў цябе ўжо цвіце агурэчнік. Цяпліца, мабыць, не абы-якая, а ўцепленая. Ты гарадской гадоўлі, а глядзі якая ў цябе дача. Не дача — маёнтак. Адкуль толькі ў цябе гэтая цяга да сялянскага клопату?

— І мае, і твае продкі — людзі ад зямлі, і табе, і мне зямля не чужая. Для сябе, для сваіх сем'яў стараемся.

Антон шчыра пазайздросціў Жору — у яго ўжо дамок-церамок стаіць, у агародзе не сёння-заўтра будуць раннія агуркі, пасаджаны цыбуля, радыска, а ён толькі бярэцца за свой пляц. Рукі ўжо адарваў, ускопваючы дзірван, вызваляючы зямлю ад камянёў. Вунь іх ужо колькі — на падмурак для дома набярэцца. Мазалі на руках у Антона ад гэтае работы, і канца дачным клопатам не відаць.

— Мае продкі ад зямлі — гэта так. Маці дасюль жыве ў вёсцы, і я там часта бываю, бачу і ведаю, як жывуць людзі...

Ён на хвіліну замоўк, потым сказаў:

— І бацька родны, і айчым былі вяскоўцамі, любілі зямлю. А чаму ты гаворыш, што і твае продкі ад зямлі? Ты — карэнны гарадскі жыхар, твае бацькі таксама, ці я памыляюся? — Антон пільна паглядзеў на Жору.

Але Жора чамусьці не захацеў працягваць гэтую размову. Ён загаварыў пра іншае:

— Ты не заўважыў, што калочкі на тваім пляцы перастаўленыя? Я ж сам прысутнічаў, калі землеўпарадчык рабіў замеры і забіваў гэтыя самыя калкі..

Жора падбіваў Антона напісаць заяву ў праўленне таварыства і запатрабаваць, каб яго ўчастак перамералі.

— Нядобра гэта, непрыгожа, не па-суседску,— настойваў на сваім Жора.— Залазіць на чужы ўчастак, як залезлі на твой — гэта больш, чым свінства.

Антон слухаў Жору і думаў, што ён, мабыць, у ім памыляўся. Раней увесь час здавалася, што Жора — хітрушчы і лайдак несусветны, на чужой спіне хоча ў рай уехаць, хаваецца за шырокай дзядзькавай спінай. Напэўна, яно так і ёсць. Але ж і тое праўда, што Жору апошнім часам быццам падмянілі, і Антон яго не пазнаваў, убачыў раптам у ім зусім іншага, невядомага яму дасюль, чалавека. Што ж гэтак змяніла яго? Вось гэта загадка.

Раней Антон быў незадаволены, што Жора стаў ягоным дачным суседам, а цяпер... Няўжо Жора ад шчырага сэрца сказаў пра тое, што сусед пераставіў калочкі?.. Але, мабыць, сапраўды так: каб зразумець чалавека, трэба з’есці з ім пуд солі.

Каб скласці зруб ужо тут, на дачы, Антон думаў наняць шабашоў. Жора падахвоціўся знайсці яму людзей, якія ўмеюць ладзіць падмурак, класці вянцы, крыць дах, шкліць вокны... Не, недаацэньваў раней Антон Жору, не разабраўся ў ім як след, пакуль не заняўся дачай.

— Толькі не будзь ты мухаморам, — навучаў яго Жора. — Людзей я табе знайду, ёсць у мяне знаёмыя будаўнікі-шабашнікі, але калі што якое — не папікай, бо шабашы — народ быстры на пад’ём, і за імі трэба вока ды вока. Ім хутчэй бы ўварваць сваё ды далей, дзе ёсць фронт работ і не слабыя заробкі.

Антон упершыню ў сваім жыцці заняўся будаўніцтвам, і ўспрымаў Жоравы словы як наказ і папярэджанне. І ў каторы раз за апошнія дні падумаў, што Жору яму Бог паслаў.

— Дзякуй, мой дарагі сусед, — шчыра прамовіў Антон, — не знаю, што я рабіў бы без цябе.

Кажучы гэта, Антон згадаў, што не хто іншы, а менавіта Жора параіў яму напісаць заяву ў праўленне таварыства, каб яго ўчастак перамералі. І ён напісаў, і старшыня таварыства, чалавек немалады, глухаваты, увішны, асабіста сам узяўся за гэтую няўдзячную работу. Антон дапамагаў яму ўпраўляцца з рулеткай, множыў і дзяліў лічбы на сваім кішэнным калькулятары. І калі ўсё было падлічана, высветлілася, што Жора як у ваду глядзеў: залез-такі сусед на яго ўчастак. З аднаго і другога боку на добрыя трыццаць сантыметраў. І мыйку сваю, выходзіць, прыстасаваў ужо цалкам на Антонавай зямлі. Смешна, канечне, сказаць — трыццаць сантыметраў. Было б з-за чаго шум-гам падымаць ды псаваць свае нервы. Але ж гэта амаль паўсоткі. А ўвесь пляц чатыры соткі. І ў каторы раз Антон замаркоціўся.

— Не можаце па-добраму разабрацца — падавайце ў суд, я тут бяссільны, — параіў старшыня таварыства Антону.

— У суд я не пайду. Звяжыся з судом, ага. Каб падаць іскавую заяву, трэба плаціць пошліну. А да заявы — давай яшчэ цэлы тузін розных даведак, давай пацвярджэнне з бюро тэхнічнай інвентарызацыі, што мой участак прыватызаваны. Замардуешся, збіраючы паперы, а якое рашэнне вынесе суд — хто яго ведае. Пастаўлю я плот на мяжы з інжынерам. Высокі, метры два. Каб мае вочы не бачылі ні яго самога, ні ягонай жонкі...

Неўзабаве Антон зноў сабраўся ў камандзіроўку на Палессе, бо там яго ўжо чакаў выразаны для дачнага дома лес.

Рэдактар, падпісваючы камандзіровачнае пасведчанне, бы папракнуў:

— Для цябе, Антон, мабыць, свет клінам сышоўся на Палессі. Беларусь вунь якая, кіруйся, куды хочаш. — Ён не дагаварыў, непрытворна ўздых-

нуў: — Гора мне з вамі. Адзін ужо забыў, што такое камандзіроўка, а другі... Апошні раз, Мурашка, выпраўляешся на Палессе, запомні гэта. Ёсць такое паняцце — геаграфія газеты. Яна павінна быць шырокай, а мы зацыкліліся на сталіцы ды на Палессі.

Антонава прозвішча рэдактар згадваў мала калі, і рабіў гэта звычайна ў тых выпадках, калі быў нечым незадаволены, калі хацеў знарок падкрэсліць, што супрацоўнікі не надта варушацца, мала дбаюць аб прэстыжы газеты, аб тыражы, а пад ляжачы камень, любіў паўтараць ён, вада не цячэ.

— Хіба я, Мікалай Ігнатавіч, прыязджаю з Палесся з пустымі рукамі? Тамтэйшыя мясціны, палешукоў я добра ведаю, мо таму аб гэтым і пішацца добра.

— Ладна, едзь ужо і помні, што я сказаў...

Звярнуўшы з бальшака, Антон накіраваўся да матчынай хаты, на гэты раз не заасфальтаванай дарогай, па якой праедзеш хвілін дзесяць — і ўжо ягоная вёска, што прытулілася да векавога лесу, а прасёлачнай.

Чамусьці захацелася пабачыць колішні прасёлак, ад якога некалі лясныя сцежкі-дарожкі вялі на верасовыя, грыбныя паляны, на дзялянкі і прагалкі, дзе часта бываў у маленстве. З гэтым прасёлкам, з верасовымі, грыбнымі палянамі, дзялянкамі, узлобкамі ды пагоркамі ён не расставаўся, не расстаецца ў душы ніколі...

Заўсёды восенню ён з маці ішоў у гэтыя мясціны збіраць грыбы. Маці расказвала, што ў пачатку вайны яны разам з мужам, Антонавым бацькам, хаваліся тут ад немцаў, а потым тут атабарыўся партызанскі атрад, у якім яны былі да таго дня, пакуль з Палесся не прагналі ворага, а бацьку забралі ў войска.

Маці, згадваючы вайну, плакала. Вайна асіраціла Антона, зрабіла маці ўдавою...

— Як жа мне, сынок, цябе падняць на ногі без бацькі? — часта бедавала яна адразу пасля вайны.

Аднойчы яны сустрэлі на баравінах мужчыну — з выгляду хваравітага, шчуплага, у картовым наросхрыст пінжаку, у лятніх гумовіках, з арэхавым тонкім кіем у руках, з кашалём за плячыма. Мужчына, як і яны, збіраў грыбы, і яго кашэль быў ужо амаль поўны. Яго звалі Тамашом, ён быў з суседняга сяла. Тамаш быццам між іншым спытаў у маці, як яна жыве. Маці скрушна ўздыхнула:

— Папытаў бы, Тамаш, пра што-небудзь іншае, а пра гэтае... Як можа жыць удава з малым сынам? Б'юся як рыба аб лёд. Жыць няма дзе, на сабе цягаю з лесу жэрдкі, слупкі — хоць бы якую хацінку агараць, жывём у зямлянцы, хата згарэла…

А неўзабаве Тамаш зачасціў да іх.

Аднойчы, калі ён дапамог ім нарэзаць і накалоць дроў, а затым падаўся ў сваё сяло, маці спытала ў Антона:

— Ты хочаш, сынок, каб Тамаш жыў у нас?.. Цяжка мне адной, каб ты толькі ведаў, як цяжка.

Гэта было нечаканым, Антон разгубіўся, не ведаў, што адказаць маці. Яна цяжка ўздыхнула, адвяла ад яго вочы…

А праз некаторы час нібы само сабой атрымалася: Тамаш прыстаў да маці ў прымы. Хоць якія там прымы? У іх толькі і ўсяго, што падворак, сырая, няўтульная зямлянка, такі-сякі хляўчук, у якім была бела-рабая карова Маша: яе прыгналі з Нямеччыны і аддалі маці як партызанцы і жонцы загінуўшага чырвонаармейца.

Тамаш аказаўся дзелавым чалавекам. Адразу ж узяўся ставіць хату. З вясковымі мужыкамі выразаў на хату лесу. Хапала клопату і Антону з маці. Кожны дзень яны кіраваліся ў лес, дзе ніжэйшыя мясціны, і дралі мох. Балазе,

таго моху трэба было нямала, і за тыдзень-другі яны надралі і нанасілі яго кашалямі ды радзюжкамі столькі, што ўслалі ім увесь двор, дзе мох прасыхаў. Апроч гэтага, Антон збіраў вакол зруба трэскі, складваў іх у павеці, якую Тамаш да таго часу паспеў зрабіць і накрыць сасновай дранкай. Трэскі смаляныя, пахучыя і імі вельмі добра распальваць у печы. За ўвішнасць айчым нават пахваліў Антона:

— Мой ты сынок, мой ты памочнік! Расці хутчэй і да гэтай вось хаты мы яшчэ і трохсценак прыстроім. Я думаю, што ў цябе будуць і брацікі, і сястрычкі: хата нам трэба ладная і прасторная.

Пры гэтых словах айчым Тамаш паглядзеў на маці, якая граблямі падгрэбвала ў кучу падсохлы мох, які моцна пахнуў лесам. Мох быў мяккі, як воўна, хоць усцілай ім ложак — мулка не будзе.

Антон упершыню пачуў ад айчыма гэтае слова «сынок». Ён расхваляваўся. Ён усёй сваёй дзіцячай істотай перажываў, што яго родны бацька не вярнуўся з вайны. Але ён ім ганарыўся, у думках заўсёды размаўляў з ім, раіўся, пытаўся то пра адно, то пра другое, яму здавалася, што бацька размаўляе з ім, а ў хлопчыка ад гэтага на душы святлела, станавілася добра. І тут вось айчым… Антон быццам раздваіўся і не ведаў, як яму ставіцца да яго... Ведаў, людзі айчыма паважалі, і часам звалі не Тамаш — гэта айчымава прозвішча, а Лук’ян Восіпавіч. Антон таксама не раз чуў, як вясковыя кабеты з зайздрасцю казалі: «Насцін прымак падкі да работы. За ім Насця не прападзе». Насця — гэта Антонава маці.

Хата расла на вачах, Антон як мог падсабляў будаўнікам: падаваў у кашалі падсохлы мох, калі прасілі — вады: лета было душнае, спякотнае, і будаўнікам увесь час хацелася піць.

Падсабляючы работнікам, гледзячы, як яны кладуць вянец за вянцом, Антон любаваўся будынінай і думаў, што іхняя хата будзе цёплай і ўтульнай, вуглы і пазы між бярвеннямі не будуць прамярзаць зімой…

Так яно і атрымалася: хата, у якой ён рос і гадаваўся, з якой пайшоў, як казалі вяскоўцы «ў людзі» — цёплая, светлая і прасторная… Гэта цяпер яна састарылася, асела, стала прыземістай. А тады…

А потым, калі перабраліся з зямлянкі ў хату, маці нарадзіла Славу, і Антон быў вельмі рады, што ў яго ёсць брат. Думаў: калі яны вырастуць, то ім абодвум разам будзе і весялей, і цікавей. Таксама думаў, што ніхто не асмеліцца іх крыўдзіць — удвух жа яны…

Прасёлак, што некалі вёў яго ў баравіны, у лясныя запаведныя нетры, Антон цяпер ледзь пазнаваў. Па ім ужо не ходзяць, не ездзяць — і ён зарос бярэзнікам, крушыннікам, даволі ўжо высакаватымі хвойкамі. А той падлесак, у якім яны з маці калісьці збіралі баравікі, вымахаў пад неба, сосны ўжо такія, што з іх сама раз класці новы зруб хаты.

Антон азіраўся вакол і здзіўляўся, што лес не пазнаць. Вядома, столькі часу мінула… Айчыма ўжо няма, яго сын Слава — дарослы чалавек. І не разам яны, Антон і Слава, а паасобку…

Недзе тут, у гэтым лесе, калі Антон падрос, ён з айчымам валілі сосны — Тамаш узяўся сам ладзіць трохсценак. У лесе ж айчым часаў бярвенні сякерай з шырокім і вострым, як брытва, лязом. Гэта быў шклюд. Свайго шклюда ў айчыма не было, і ён хадзіў па суседзях, прасіў гэтую сякеру хоць на нейкі час. Калі давалі, спяшаўся хутчэй справіцца з работай, баяўся, што ў любы час могуць запатрабаваць назад.

Як не палову лета валіў Антон з айчымам лес на трохсценак. Айчым часаў бярвенні, Антонавым клопатам было — складваць абсечанае галлё і трэскі ў лоўж, ён спраўляўся, Тамаш хваліў яго: «Памочнік, ды яшчэ які…»

Акарыўшы бервяно, ачасаўшы яго з двух бакоў, айчым садзіўся на ўвагрэты летнім сонцам утравелы дол, даставаў капшук з самасадам, круціў з газеты самакрутку, курыў і глуха часта кашляў. Твар яго быў задумлівы. Аб чым думаў айчым, Антон не ведае і зараз: можа, аб тым, каб у пасынка ўсё добра склалася ў жыцці, а можа, аб сваім лёсе — ён быў адзінокі, пакуль не прыйшоў да іх…

Пакідаючы прасёлак, выбіраючыся на асфальт, Антон думаў, што будаўнічую справу ведае змалку, і цяпер, узяўшыся за сваю дачу, нібы вяртаецца да яе…

На гэты раз, загнаўшы «масквіча» ў двор, Антон абышоў вакол хаты, абгледзеў вуглы, сцены, зірнуў на страху.

Вуглы, як і сцены ад вуліцы, абшыты вагонкай, пафарбаваны жоўтай фарбай. Але пафарбаваныя даўно, і фарба пачала аблузвацца, асыпацца. На добры лад трэба было б абшыць вагонкай сцены і з тыльнага боку ды і пафарбаваць хату знадворку занава, але няма калі. Быў бы жывы айчым, усё было б давездзена да ладу.

— Чаму не ідзеш у хату? — маці ўжо была каля яго, пачула, калі ён уязджаў у двор, выйшла на вуліцу.

— Гляджу, ці не трэба хаце знадворны рамонт, ці не пацёк дах, — сказаў Антон і толькі тады ўбачыў, што за апошні час маці яшчэ больш змянілася. Здаецца, яшчэ не так даўно была энергічная, рухавая, з бадзёрым голасам, а зараз… Але гады бяруць сваё. Калі памёр айчым, маці была яшчэ дужая, спрытная, магла б яшчэ знайсці сабе якога-ніякога мужыка. Але ці не захацела, ці не лёс быў ёй выйсці замуж у трэці раз, і яна дажывае век адна.

— Пра які ты, сын, рамонт гаворыш? Сам узяўся будавацца, хіба табе да рамонту нашага селішча? — маці, пэўна, заўважыла, што ён думае пра яе, перажывае за яе. Здарылася так, што выгадаваўшы, падняўшы на ногі двух сыноў, на старасці яна засталася адзінокай.

Неўзабаве ён ужо сядзеў за сталом і з апетытам сёрбаў боршч з маладога бурака. Боршч умлеў у печы, маці зварыла яго з сушаным баравіком, з добрым кавалкам засечанага пеўня і боршч быў наварысты, пахучы, Антон еў, хваліў і калі апаражніў міску, то папрасіў яшчэ.

— Мая Наталля так варыць не ўмее, — прызнаўся ён. — Яна ў мяне жонка залатая, я яе люблю, а вось наконт гэтага...

— На газавай пліце хіба так зварыш, як у печы? — адказала маці.

— Значыць, на дачы я зраблю печ, такую во самую, як тут у нас — з чарэнню, з прыпечкам, каб у ёй можна было варыць, каб было дзе сушыць грыбы.

— Не было табе, сын, рабіць чаго. У яго сям'я, дзеці, клопатная работа, а ён яшчэ і за будоўлю ўзяўся.

Маці глядзела на Антона, не зводзячы вачэй, мабыць, думала, што ён гэтакі нястомны ў рабоце таму, што вырас каля айчыма. Той без працы і мінуты пасядзець не мог, да работы прывучыў і Антона, бо куды б ні ішоў, што б ні рабіў, Антон за ім — як нітка за іголкай.

Не паспеў ён выйсці з-за стала, як маці паклала перад ім паштовы, адклеены канверт.

— Ад Славы, — сказала яна і вусны яе скрывіліся, торгнуліся, а ў вачах з'явіліся слёзы. — Прачытай, сынок. Я не ведаю, што рабіць. Ён просіць грошы на адваката, а дзе ў мяне ўзяцца тым грашам — якая ў мяне пенсія, сам знаеш.

Славу пасадзілі, далі немалы тэрмін, ён у Расіі, у папраўчай калоніі. Але не сунімаецца, даводзіць, што яго віны няма, а калі і ёсць, то не такая, каб яго пазбаўлялі волі на доўгі тэрмін.

Антон чытаў ліст ад Славы і ўнутры ў яго ўсё кіпела.

— У каго ён, нехрысць гэтакі, удаўся? — скончыўшы чытаць, Антон паклаў ліст у канверт, пытаўся не то ў сябе, не то ў маці. — Бацька яго — сумленны, працавіты чалавек, увесь свой век пражыў, не знаючы адхлання, а ён...

І ў каторы раз падумаў: добра, што ў Славы іншае прозвішча, бо інакш... Антону ж якраз зараз, калі той у турме, наклёўваецца іншая, ды не абы-якая, работа. Вунь неяк пазваніў яму колішні сябар-студэнт, а зараз генеральны дырэктар аднаго прыватнага прадпрыемства, што даволі цвёрда і ўпэўнена стаяла на нагах, і запрасіў пераходзіць да яго намеснікам. Прапанова была заманліваю, але Антон не ведаў, згаджацца ці не. Сказаў, што падумае. Але, мабыць, трэба згаджацца, бо стаміўся ад вечных камандзіровак, ад бясконцай пісаніны, дзяжурстваў па нумары...

Жонцы ж Антон растлумачыў так:

— З Сяргеем, які запрашае мяне да сябе ў фірму сваім намеснікам, некалі мы разам вучыліся ва ўніверсітэце, нейкі час нават жылі ў адным пакоі.

Гэта праўда. Толькі Антон быў на апошнім курсе, а Сяргей на першым. Ён, як і Антон, з вёскі, сын калгаснікаў. Але ў адрозненне ад яго, Сяргей, гэта тады Сяргей, а цяпер Сяргей Фларыянавіч Губернатараў, стварыў саліднае прыватнае прадпрыемства, пра якое Антон і чуў, і чытаў не раз у перыядычным друку.

У той раз, калі Антона запрасілі на перамовы ў фірму, яго прыняў сам Сяргей. Антон заўважыў, што з часоў студэнцтва той амаль не змяніўся. Крыху вышэй сярэдняга росту, шырокі ў плячах, з высокім ілбом, з зачасанымі назад густымі чарнявымі валасамі, з прыязнай, дабрадушнай усмешкай, Сяргей, убачыўшы на парозе свайго кабінета Антона, выйшаў з-за стала, працягнуў яму руку, спытаў, здавалася, зусім не пра тое, дзеля чаго і паклікалі:

— Ты задаволены сваім жыццём, работай, сям'ёй?

Антон ад нечаканасці нават збянтэжыўся: такая даверлівасць, шчырасць колішняга сябра… Але на шчырае пытанне трэба было даваць шчыры адказ.

— Як сказаць... Сям'ёй вельмі задаволены. Цудоўная жонка, дзеці. А праца... — Антон змоўк, паглядзеў у акно.

Адсюль добра бачна Свіслач, мост праз яе і шырокая, з раздзяляльнай паласой, аўтамагістраль. Падумаў, што шыкоўнае месца для працы.

— Антон, я запрашаю цябе да сябе намеснікам, — сказаў Сяргей. — Як ты?..

— Ты, маці, нікому не кажы, дзе цяпер Слава, бо калі дазнаюцца на маёй рабоце... — працягваў Антон гаворку пра брата.

— Шыла ў мяшку не ўтоіш, сынок. Хіба паштарка не ведае, адкуль прыходзяць лісты ад Славы? Ведае яна, ведаюць усе, — цяжка ўздыхнула маці.

Антон у каторы раз паглядзеў на канверт з лістом ад Славы і зразумеў, што не проста так дала яму маці прачытаць яго. Яна чакае яго адказу, спадзяецца, што ён абавязкова дапаможа Славу, пашле яму грошы, каб наняць адваката. Канечне, брат ягоны яшчэ тая штучка, але ж тут такое, што без дапамогі, без падтрымкі яму ў гэтай папраўчай калоніі давядзецца сядзець да сівых валасоў. Але ж і дапамагчы невядома як — Антон надумаў будавацца, і кожную капейку даводзіцца лічыць. Ну і сітуацыя — горш не прыдумаеш.

Крыху супакоіўшыся, тое-сёе зрабіўшы па гаспадарцы, Антон завёў «масквіча» і вырашыў ехаць да старшыні калгаса. Камандзіроўка ў яго ўсяго на чатыры дні, а клопату — хоць адбаўляй.

Чагосьці захацелася зазірнуць на Дваццату. Так называюць у іх мясціну, што на дваццатай вярсце па вузкакалейцы ад райцэнтра. На Дваццатай раней сярод лесу стаяў невялічкі дамок дзяжурнага стрэлачніка. У гэтым месцы вузкакалейка дзялілася: адзін яе вус ішоў у бок Антонавага сяла, другі ў іншы — туды, дзе лесу непачаты край. Дзеля гэтага, каб рэзаць і вывозіць палескі лес куды толькі можна, і была пракладзена вузкакалейка яшчэ ў дваццатыя гады мінулага стагоддзя. Для вяскоўцаў яна была не проста чыгункай, а дарогай, па якой дабіраліся ў райцэнтр у любую пару года. Бо ў вясновую паводку, асенняй слатой ці зімой, калі снегу па калені, калі сцюжа перамяце прасёлак, на калёсах далей сяла — ні кроку.

Вузкакалейкі ўжо няма. Навошта яна, калі цяпер кіруйся на трохвосным цягачы-лесавозе ў любым напрамку. Дарогі цяпер скрозь асфальтавыя, а для бездаражы, для таго, каб выразаны лес падкінуць бліжэй да дарогі, ёсць спецыяльная тэхніка. Яна не прастойвае. Едучы да маці, Антон бачыў, як гусенічныя трактары валакуць трасамі з глыбіні бору пушчанскія векавыя дубы, бярозы, сосны, асіны, клёны.

Там, дзе раней была вузкакалейка, цяпер добра ўезджаная аўтамабілямі, трактарамі, калёсамі прасёлкавая дарога. Яна каляіністая, цупкая, каляіны неглыбокія, так што на «масквічы» ехаць можна, не апасаючыся сесці на кардан.

Недзе на паўдарозе да Дваццатай быў колісь невялікі драўляны масток, пракладзены праз балацявіну. Вясной, калі раставалі снягі, Антон, ідучы ў васьмігодку ў суседняе сяло, спыняўся на мастку. Ён бачыў, што вада падымалася ледзь не да самых паляў, бегла ў парослую вербалозам лагчыну. Вербалоззе свяцілася бухматымі коцікамі. Коцікі пахлі мёдам, і на гэты пах ляцелі пчолы.

Мастка, як і вузкакалейкі даўно ўжо няма. А балацявінка не перасохла і ў гэтым месцы пахла вільгаццю, кветкамі, якія ўкрылі яе берагі, а там, далей, дзе стаяла вада, жаўцелі, бялелі і дзівілі свет сваёй непаўторнай прыгажосцю гарлачыкі.

Зараз лета — сухое, бязвоблачнае, але ў балацявіне, асабліва там, дзе вярбовыя і лазовыя зараснікі, блішчэла вада і яе ўкрыла ярка-зялёная раска і гарлачыкі. Гарлачыкі з буйнымі, што распласталіся на вадзе, ярка-зялёнымі лістамі, з шырокімі пялёсткамі, з жоўтымі сэрцайкамі.

Антон не ўтрымаўся, выбраўся з машыны, зняў з ног туфлі, закасаў амаль да калень штаны — захацелася сарваць хоць колькі гарлачыкаў.

Да гарлачыкаў ён далучыў яшчэ некалькі лугавых званочкаў, зязюльчынага лёну і атрымаўся цудоўны букет. «Гэта на магілу айчыма», — сказаў сабе Антон, кладучы кветкі на задняе сядзенне «масквіча».

Вясковыя могілкі, дзе пахаваны айчым, недалёка ад гэтага месца. Але перш, чым трапіць на могілкі, Антон завярнуў на Дваццату.

Ён яе не пазнаў. Тое месца, дзе стаяла станцыйная нізкая хатка, зробленая з сасновых кругляшоў і накрытая сасновай дранкай, зарасло маладым хвойнікам, пасаджаным, пэўна, добры дзясятак гадоў таму: хвойкі даволі ўжо ладныя, гонкія.

Антон згадваў, як, ідучы ў Горнае ў пасялковую лаўку па хлеб, заходзіў іншы раз у станцыйную хатку, дзе заўсёды дзяжурыў нізкарослы, гадоў сарака пяці, мужчына. У мужчыны былі калматыя чорныя бровы, прыпухлыя ад бяссонніцы вочы, але ягоны твар заўсёды выдаваў добрым.

Дзяжурны па Дваццатай меў даволі нязвыклае ў тутэйшых мясцінах прозвішча — Хіля. Антон ніколі не чуў, каб дзяжурнага называў хто па імені — Хіля ды Хіля.

Хіля заўсёды сядзеў на драўляным самаробным ложку, збітым з нястругaных дошак і засланым старымі латунамі. Час ад часу ён круціў ручку чорнага тэлефоннага апарата, што вісеў на сцяне і, трымаючы каля вуха трубку крычаў у яе колькі было сілы: «Алё!.. Алё!.. Цэнтральная?.. Гаворыць Дваццаты. На другі вус паражняк прайшоў па графіку…»

Калі вечарэла і прыцемкі апускаліся на дзяжурную хатку, Хіля запальваў газавы ліхтар з закапцелым шклом, праціраў яго кавалкам старой газеціны і выходзіў на двор. Ішоў ён нетаропка, шырокія халявы гумовікаў шлёгалі, і яго крокі ў вячэрняй цішыні былі чуваць добра. Хіля набліжаўся да стрэлак, узіраўся ў іх, пераконваўся, што сёння хлапчукі не перавялі іх, куды не трэба, бо такое здараецца як не штодня, сачыў, каб гэтыя хлапчукоўскія забаўкі не скончыліся калі-небудзь крушэннем цягніка.

Пераканаўшыся, што ўсё як трэба, Хіля ўслухоўваўся ў вячэрнюю цішыню, чакаў гружанага лесам саставу. Калі праз нейкі час агні цягніка паказваліся з-за крывой, Хіля размахваў ліхтаром, сігналізаваў машыністу, што на пуцях усё як мае быць, што можна працягваць рух далей, не апасаючыся ніякай затрымкі і небяспекі.

Днём да Хілі прыходзіла жонка — выскаватая, паглядная, з зыркімі, як жарыны-вугельчыкі, вачыма, чорнымі бровамі, з доўгай касой, што падала ёй на плечы. У руках у яе заўсёды быў вузельчык-хустачка — гэта яна прыносіла абед мужу.

Хілева жонка здавалася намнога маладзейшай за яго, і Антон не разумеў, за што яна палюбіла Хілю — нягеглага, нізкарослага.

У іх расло трое дзяцей, старэйшая дачка — Антонава равесніца. Яна ўдалася ў маці — гэтакая ж паглядная, высакаватая, станістая, чарнявая, бы цыганка, яе звалі Любай. Іншы раз абед бацьку прыносіла яна. Любе, мабыць, было цікава назіраць, як міма станцыі праносяцца паражнякі, гружаныя саставы, пад якімі дрыжыць зямля і якія кіруюцца ў бок райцэнтра, дзе невядомы, загадкавы, прываблівы свет.

З Любай Антон пазнаёміўся аднойчы, калі ішоў у Горнае ў пасялковую лаўку па хлеб. Пасля гэтага ён падоўгу затрымліваўся на Дваццатай. Калі там была Люба, сарамліва размаўляў з ёй: ён закахаўся ў яе па-хлапчукоўску, баючыся прызнацца аб гэтым і дзяўчыне, і сабе самому. Здаецца, Люба гэтага не заўважала…

І ён, і Люба наведвалі васьмігодку ў суседняй, што паблізу ад Дваццатай, вёсцы, вучыліся ў адным класе. З васьмігодкі неўзабаве зрабілі дзесяцігодку, і Антон гэтаму быў дужа рады — яго пачуцці да Любы не слабелі, з кожным годам Люба прыгажэла і Антон не мог глядзець на яе спакойна. Ён часта праводзіў яе ў Горнае, дзе Люба жыла з бацькамі, па дарозе яны гаварылі пра вучобу, пра тое, куды ім падацца пасля школы.

Калі яны вучыліся ў дзясятым класе, у школе паявіўся новы настаўнік — выкладчык беларускай мовы і літаратуры Мікола Хвядосавіч. Быў ён малады, нежанаты, з хвалістай, прыгожай шавялюрай густых, акуратна падстрыжаных, залацістых валасоў. Мікола Хвядосавіч у час урока сядзеў за сталом, на яго вуснах заўсёды блукала блазнаватая ўсмешка. Калі ён выклікаў да дошкі паглядную, з пышнымі формамі дзесяцікласніцу, то не зводзіў з яе сваіх ледзь прыжмураных вачэй. Адна бяда: правая рука ў яго была скалечаная, без далані, замест яе тырчэла кукса, на якую Мікола Хвядосавіч надзяваў чорны чахол-пальчатку…

Дзе цяпер Хіля? Ці жывы ён яшчэ, Антон не ведае. Вяскоўцы кажуць — калі разабралі вузкакалейку, то горнаўцы перабраліся хто куды: адны ў суседнія вёскі, другія ў гарады — след Хілі згубіўся.

Ад Дваццатай да могілак вядзе прасёлкавая цупкая дарога. Яна зарасла высокай травой, маладым бярэзнікам, верасам. Вядома — у вёсцы жыхароў меней і меней і па гэтай дарозе людзі амаль не ходзяць і не ездзяць.

Могілкі знаходзяцца ў старым сасновым лесе. На іх усходняй частцы хаваюць праваслаўных, а на заходняй — каталікоў. Адкуль тут на Палессі ўзяліся палякі — хто яго ведае. Але ў суседняй вёсцы амаль адныя палякі, і Антон, калі рос, дзівіўся, што ў іх такія непрывычныя імёны і прозвішчы: Кароля, Антэк, Шчапаноўскі, Стахоўскі, Валюжынец...

З аднаго боку могілак — вялікае калгаснае поле. На ім летам калосіцца жыта, авёс, расце бульба. Сёлета тут авёс. Ён ужо амаль даспеў і чутно, як ад лёгкага ветрыку авёс вызвоньваў, шапацеў, бы размаўляў з прасторай, што акружала яго.

Айчымава магіла бліжэй да поля. Калі яго хавалі, была сярэдзіна зімы, зямля прамерзла, каб выкапаць магілу, вясковыя мужыкі развялі вялікае вогнішча. Грунт трохі адтаў, але не зусім, давялося браць у рукі ламы. Мабыць, паўдня, не менш, капалі магілу.

Яна агароджана нізкаватым штыкетнікам, што трымаецца на невысокіх дубовых слупках. Гэта Слава перад тым, як з’ехаць на Поўнач, зрабіў агароджу. На курганок насыпалася з блізкай сасны шыгалля, старых парэпаных шышак, ігліцы.

Антон прысеў на вузкую, нефарбаваную, пачарнелую ад часу і дажджу лавачку, што ўнутры агароджы, з таго боку магілы, дзе добра відзён на крыжы выразаны сцізорыкам кімсьці з мужыкоў-вяскоўцаў надпіс: Тамаш Лук’ян Восіпавіч. А трохі ніжэй гэтых слоў — гады жыцця айчыма.

Суседняя магіла — дзядзькі Віхтора. Калі Антон рос, дзядзька Віхтор пасвіў калгасных валоў, меў пышныя, чорныя вусы, на нагах у яго і зімой, і летам былі кірзачы з патрэсканымі, парэпанымі, загнутымі ўверх насамі. А ў руках ён заўсёды трымаў арэхавы кій, якім размахваў, калі гнаў праз усю вёску валоў на пашу — на луг або на пожню.

Дзядзька Віхтор з айчымам сябравалі. Улетку яны бралі косы на плечы, а ў рукі барыла — з дубовых клёпак кадаўбец літраў на пяць, вада ў ім і ў спёку заставалася халоднай увесь дзень і добра спатольвала смагу — ішлі на далёкі луг касіць сена сваім каровам. Там, у тым лузе, а дакладней, лузе-няўдобіцы, калгас дазваляў вяскоўцам касіць: лепшыя лугі, вядома, гаспадарцы…

А па вясне дзядзька Віхтор араў валамі спачатку свае соткі, а потым дапамагаў айчыму... І на гэтым свеце яны былі разам, і на тым…

Могілкі разрасліся. Тыя, пры кім Антон падымаўся на ногі, амаль усе «перабраліся» сюды, «у бераг» — так у іхняй вёсцы называюць пагост. Жылі, працавалі, кожнаму хапала клопату, сем’і тады былі вялікія, дзяцей было шмат, не тое, што цяпер — двое-трое… Жыццё мала каго песцавала, вечна адна работа падганяла другую. А цяпер ім ужо нічога не трэба, курганкі зарастаюць магільнай травою ды пагоставы вецер калыша верхавіны дрэў, па небе плывуць светлыя летнія воблакі, абуджаючы жалобу і ўспаміны.

Антон прыбраў айчымаву магілу, прынёс з машыны кветкі, паклаў на курганок, цяжка ўздыхнуў, ціха прамовіў: «Прабач мне, бацька, што толькі от сягоння... Заняты я, вельмі заняты — дыхнуць вольна няма калі. Сям’я ў мяне, двое дзяцей, падымаць іх на ногі ў горадзе няпроста…»

Старшыню, як і ў першы раз, на месцы не заспеў. Ася, згледзеўшы Антона, абрадавалася, усміхнулася сваёй белазубай усмешкай, здзівіла словамі:

— Вы нічога не ведаеце? Уладзімір Аляксеевіч тут больш не працуе. На павышэнне пайшоў. Ён ужо старшыня райвыканкама.

— Як жа гэта так?! — разгублена спытаў Антон. — Чаму ён мне аб гэтым ні слова, ні паўслова?

— Не хвалюйцеся — вас ён не забыў. Уладзімір Аляксеевіч сваё слова стрымаў — дом для вашай дачы гатовы.

Антон быў удзячны Асі за гэтую навіну і за тое, што яна ўзялася яго праводзіць у райвыканкам — на новае месца работы Уладзіміра Аляксеевіча.

Трохпавярховы шэры будынак райвыканкама ў цэнтры горада, насупраць крутой высокай гары. З аднаго боку гары гарадскі лес — бярозы, дубы, малады, тэрасамі, хвойнік. На плошчы, што побач, — помнік Леніну. Ленін стаіць на высокім шэрым пастаменце з працягнутай у бок плошчы рукой. Ад плошчы блізка Прыпяць, добра бачны яе доўгі бераг з нізкарослымі кучаравымі ракітамі, іх цені падаюць у ваду і ўвесь час калышуцца, зыбаюцца на быстрых рачных хвалях.

У ранейшыя часы па рацэ несупынна плылі баржы, гружаныя палескім лесам, мікашэвіцкім гранітам, украінскім каменным вугалем. А цяпер скрозь па ўсёй рацэ адны рыбацкія чаўны. Прыпяць — рака рыбная і тамтэйшыя рыбакі ў шапку не спяць…

Яны падняліся на трэці паверх, прайшлі па доўгім прасторным калідоры амаль у самы яго канец да дзвярэй з шыльдай: «Прыёмная».

Уладзімір Аляксеевіч, згледзеўшы ў дзвярах Антона і Асю, падняўся, выйшаў з-за стала насустрач, прыязна заўсміхаўся.

— Вось так яно атрымалася, Антон Дзям’янавіч, — быццам апраўдваўся старшыня райвыканкама.— Жыццё не стаіць на месцы.

Уладзімір Аляксеевіч распарадзіўся, каб Ася праводзіла Антона да таго месца, дзе складзены дачны дом чакае, калі Антон разбярэ яго, перавязе туды, куды яму трэба.

— Сустрэнемся ў канцы дня, тады аб усім і пагаворым, — дадаў яшчэ Уладзімір Аляксеевіч, даючы знаць, што на новым месцы работы клопату ў яго не менш, чым на ранейшым.

Па дарозе Ася пахвалілася, што Уладзімір Аляксеевіч забірае яе сакратаркаю ў райвыканкам і прытворна заўздыхала:

— А я й не знаю, што рабіць. Прывыкла я да сваёй ранейшай работы. Мне тут усё добра вядомае, звыклае, а ў выканкаме... Там жа ад наведвальнікаў адбою няма. А розных папер, дакументаў, перапіскі колькі — зашыцца можна.

Ася пазірала на Антона вачыма жанчыны, якая ведае сабе цану, разумее, што яна вабная, да яе мужчын як магнітам прыцягвае і гэта ёй, канечне, падабалася, усцешвала яе самалюбства.

Туды, дзе стаяў зруб, даехалі хутка — райцэнтр хоць і не малы горад па тамашніх мерках, але ж гэта не Мінск. А лясніцтва, каля якога і стаіць зруб, ад райвыканкама ў нейкім дзясятку кіламетраў.

Дом невялікі — шэсць на шэсць, але высокі, вышыня кожнага вянца не менш як трыццаць сантыметраў. Вокнаў няма, а для дзвярэй выразаны праём, можна ўвайсці ў сярэдзіну зруба.

Яны ўвайшлі. Пахла смолкамі, сасновым борам, свежым мохам, які ляжаў у дальнім ад дзвярнога праёму кутку.

— Мох — гэта добра, — сказаў Антон. — Між вянкоў можна класці і паклю, але мох лепш, ён трымае цяпло, не гніе.

Ася маўчала, пазірала на Антона, загадкава ўсміхалася, і Антон змагаўся з сабой, каб не наблізіцца да яе, не абняць... Яны адны, іх ніхто не бачыць...

Ён знарок хутчэй выбраўся са зруба, за ім услед падалася Ася. Відаць было: яна незадаволена ім, яго нерашучасцю.

Антон адвёз яе да калгаснай канторы, бачыў яе расчараванасць і ў гэтую хвіліну зненавідзеў сам сябе. «Божухна! Які я дурань! Такая жанчына прада мной, а я...»

Ён вярнуўся да зруба, абышоў вакол, заглянуў у сярэдзіну, сеў на парог дзвярнога праёма, задумаўся. Як і на чым перавезці дом? Гэты яго церам на дачным участку будзе ці не самы лепшы, бо ў многіх цагляныя, ладныя, але хіба драўляны, з сасны, параўнаеш з імі? У доме з сасны паветра бы ў бары, для здароўя гэта вельмі добра. От Жора пазайздросціць яму!..

Тут, за такімі разважаннямі, і заспеў яго Уладзімір Аляксеевіч. Ён — на новенькай, залацістага колеру, «Ніве». Сам за рулём.

— Я вам раю дом забіраць як мага хутчэй, бо калі наедзе якое начальства і ўгледзіць, то я не адаб’юся — аддам, начальства ёсць начальства, з ім надта не паспрачаешся, — сказаў Уладзімір Аляксеевіч. — Плаціце ў касу лясніцтва і забірайце, з транспартам я дапамагу.

Антон спытаў, колькі трэба плаціць і, пачуўшы «дзве тысячы рублёў», нават не паверыў гэтаму — надта ж танна, бо апроч зруба, Уладзімір Аляксеевіч распарадзіўся, каб заадно далі дошкі, брусы, лагі, латы для франтонаў, веранды, даху.

— Як я з вамі расплачуся? — выказваючы задавальненне, знарок найграна, але і ўсур’ёз спытаў Антон. — Гэтакі дамок вы мне адгрукалі.

— Хіба мы чужыя, не землякі? — шчыра адказаў Уладзімір Аляксеевіч. — Давайце сябраваць, падтрымліваць адзін аднаго, мы абодва такога веку, што наперадзе ў нас гады і гады, усё яшчэ ў нас будзе і без падтрымкі...

Потым ён зусім нечакана прапанаваў:

— Давайце наша сяброўства, наша знаёмства-зямляцтва адзначым. У пушчы, ля Прыпяці, ёсць дом паляўнічага. Ён дастаўся мне ад папярэдняга кіраўніцтва. Пабудаваны яшчэ ў так званыя застойныя часы, пры той уладзе. Вам не пашкодзіць паглядзець на гэтыя харомы… Прырода там пушчанская, некранутая, у вокны дома паляўнічага глядзіць Прыпяць, там чараты, неасушанае балота, дзікія качкі, цецерукі такуюць вясною.

— Маці будзе перажываць, я ёй не сказаў, што затрымаюся, — Антону вельмі хацелася пагадзіцца з Уладзімірам Аляксеевічам, хацелася пазнаёміцца з іншымі раённымі кіраўнікамі: можа, з’явіцца якая свежая тэма для карэспандэнцыі ці артыкула. Ды і хацелася проста адпачыць, адысці хоць на нейкі час ад усяго, што кожны дзень даймае, пазбаўляе спакою. Але ж маці…

— Паехалі — пазнаёмлюся з вашай маці, — не задумваючыся, адказаў Уладзімір Аляксеевіч. — Завочна мы быццам ужо трохі знаёмыя, яна прысылала мне ліст, дзякавала за дровы. Помніце — вы надта расстройваліся, што не паспелі маці нарыхтаваць дроў?

— Як жа, канечне, помню. Дзякуй, Уладзімір Аляксеевіч. Я — ваш вечны даўжнік.

— Паехалі, пакінеце свайго «масквіча» ў маці, а на маёй лайбе махнем у пушчу.

Вакол Антонавай вёскі — глухамань Там густыя бары. Там — непраходныя балоты. У балотах ёсць астравы і астраўкі, на якіх гняздуюцца качкі і журавы. Ёсць і каналы, пракапаныя яшчэ ў царскія часы. У каналах шмат рыбы, асабліва ўюноў. Па тых мясцінах хлапчуком і падлеткам летам і зімой

ён часта хадзіў пешшу, ездзіў верхам на конях і на валовых вазах. Тыя мясціны часта сняцца яму: у сваёй гарадской сталічнай кватэры ён сумуе па іх, яны клічуць яго… І Антон, калі прыязджае дадому, абавязкова ідзе да іх яшчэ не забытымі сцежкамі, каб паслухаць, як «угакуе» ўдод, стракочуць сарокі, каб, калі пашанцуе, пабачыць, як танцуюць на ўзболатку жураўлі, плаваюць па цёмнай вадзе старых каналаў качкі, ведучы за сабой свае пісклявыя вывадкі.

Гэтыя мясціны Антон успомніў, калі Уладзімір Аляксеевіч прывёз яго да дома паляўнічага пушчы, дзе шматвяковыя дубы, ясакары, таўшчэзныя клёны, немаладыя бярозы, асіны, зараснікі арэшніку. На самым ускраі пушчы — Прыпяць. Берагі яе нізкія, перад імі — паплавы, трава на іх скошана, сцюкавана прэспадборшчыкам у вялізныя цюкі.

На ўзгорку сярод лесу дом паляўнічага. Не дом, а чатырохпавярховы гмах з сасновага дзерава пад чырвона-чарапічным дахам у выглядзе круізнага рачнога лайнера. Здаецца, ён не на пагорку стаіць, а плыве і плыве туды, дзе Прыпяць губляецца ў летнім сонечным марыве сярод зялёных лугоў, палёў, бяскрайніх пушчаў. З аднаго боку дома на першым паверсе — прасторная веранда, дзе стаяць абедзенныя сталы, а каля іх самаробныя, у выглядзе пянькоў са спінкамі, стульчакі. Вокны высокія, з інкруставанай, узорыстай ліштвой, з чырвонымі, як і дах, распіснымі аканіцамі. Ад дома да Прыпяці вядуць пешаходныя, заасфальтаваныя дарожкі. Там, дзе яны заканчваюцца, усцяж берага ракі, блакітныя лавачкі, альтанкі, што асвятляюцца ноччу круглымі, бы шары, ліхтарамі. Гэтакія ж ліхтары каля ўваходу ў дом.

Тут яны ўжо не адны. Туды-сюды снуюць людзі, якія прыехалі на белых «Жыгулях», чорнай «Волзе» і зялёным аўтафургоне. Мужчыны завіхаюцца каля вогнішча, над якім вісіць на перакладзіне вядро. Ад вогнішча распаўсюджваюцца апетытныя пахі — мужчыны варылі юшку. Паспелі налавіць рыбы, пачысцілі яе, кінулі ў вядро разам з перцам, цыбуляй, бульбай.

Трохі воддаль ад вогнішча — высакарослы дзяцюк пакручвае шампуры, што ўпоперак прадаўгаватага мангала на высокіх, тонкіх, жалезных ножках. Гатавалася вячэра. Імправізаваны стол з дзвюх шырокіх дошак на козлах, мабыць, знарок зробленых дзеля сённяшняга выпадку, засланы газетамі, на якіх раскладзены лыжкі, відэльцы, расстаўлены міскі, талеркі, конаўкі, шклянкі, чаркі. Каля стала ўвіхаецца Ася. Яна згледзела Антона, стрымана ўсміхнулася.

— Хіба нельга было на верандзе? — пытаецца Антон не то ў сябе, не то ва Уладзіміра Аляксеевіча, з якім яны няспешна кіруюцца да Прыпяці.

Вячэрняе сонца апошнімі промнямі пераліваецца ў рачной плыні, асвятляе вяршаліны дрэў, прыціхлыя берагі ракі. З вады выскоквае і тут жа плюхаецца назад рыба — яна іграе, яе тут, мабыць, процьма і не відно ніводнага рыбака, якіх больш, чым трэба каля гарадской прыстані, каля моста праз раку, што злучае райцэнтр з блізкім і далёкім светам.

— Так яно вальней, а на верандзе... — Уладзімір Аляксеевіч садзіцца на лавачку, Антон таксама.

Уладзімір Аляксеевіч пазірае на раку, на дом паляўнічага, кажа:

— Задумка ў мяне ёсць.

Сказаў і замоўк, бы знарок інтрыгаваў гэтым сваім маўчаннем.

— Аб чым вы?

— Аб гэтым самым доме. Раскошны ён, з усімі выгодамі, то я і вырашыў...

І зноў хвіліннае, зацятае маўчанне. Уладзімір Аляксеевіч, пэўна, быў цалкам запалонены тым роздумам, які апошнім часам не пакідаў яго. І пасля маўчання:

— У кожнай вёсцы ёсць адзінокія, састарэлыя ўдовы. Яны свой век гарбаціліся ў калгасе. Здароўе сваё паклалі, а цяпер нямала хто з іх жывуць, гібеюць адны. У каго ёсць дзеці, у каго няма. У многіх дзеці разляцеліся хто куды, і нямоглым жанчынам цяжка, асабліва зімой. Вось я і вырашыў: аддадзім гэты дом састарэлым. Дэпутаты, спадзяюся, мяне падтрымаюць.

Антон слухаў Уладзіміра Аляксеевіча, разумеў, што не дзеля красамоўства пачаў ён гэтую размову. Ён вырас, жыве сярод вяскоўцаў, бачыць іх кожны дзень і яму не ўсё адно, як і чым яны жывуць сёння, што чакае іх заўтра. Яго праўда — удоў у вёсцы нямала, і хіба яны бачылі што-небудзь добрае апроч цяжкай працы ад рання і да змяркання?

Да іх наблізіўся і сеў побач высакарослы, з густой, прыкметна пасівелай чупрынай мужчына. Правае вока ў яго было штучным, слюдзяным, а на правай руцэ адсутнічала далонь.

«Няўжо гэта Мікола Хвядосавіч?» — маланкай мільганула думка.

— Мікола Хвядосавіч? — здзіўлена вымавіў Антон. — Вось дык сустрэча!

— Загадчык аддзела выканкама, — патлумачыў Уладзімір Аляксеевіч. — Вы знаёмыя?

— Мой былы вучань,— быццам пахваліўся Мікола Хвядосавіч і дадаў: — Да мяне дайшлі чуткі, што ты, Антон, мяняеш месца работы. Гэта праўда?

— Сватаюць мяне ў адну прыватную кантору, абяцаюць добрыя заробкі, цікавую работу, але я пакуль канчаткова не вырашыў, — адказаў Антон. — Мая работа — пісаць, прывык я да яе. А там, куды мяне клічуць, крыху іншае. Не ведаю, ці прывыкну…

— Клічуць на павышэнне — ідзі, — уставіў сваё Уладзімір Аляксеевіч. — Добрыя заробкі на дарозе не валяюцца. А пісаць, друкавацца хіба хто забароніць табе? Але нас, сваіх землякоў, не забывай. Можа, калі давядзецца, падтрымаеш, абароніш. У жыцці ўсё здараецца і без падтрымкі...

Антону падалося, што Уладзіміру Аляксеевічу, напэўна, было б лепш, каб ён, Антон, заставаўся ў газеце... Але таго, што на душы, Уладзімір Аляксеевіч не выказаў, стрымаўся. Яно і зразумела — не так даўно яны знаёмыя, каб адкрывацца адзін аднаму да канца.

Падышла Ася, запрасіла:

— Вячэра гатовая, прашу да стала.

Разнасолаў на стале хапала. Казытала нос апетытная юшка, налітая ў глыбокія міскі, на газетах на шампурах пахнуў дымком шашлык, была вэнджаніна, каўбаса, гуркі, таматы. У квадратных, пузатых бутэльках гарэлка, каньяк.

Побач з Антонам на лаве-дошцы ўмасціўся Мікола Хвядосавіч. Ён быў, мабыць, мастак выпіць і закусіць, бо з задавальненнем наліў у чарку на тонкай ножцы Антону, потым сабе, знізаў з шампура шашлык у талерку, устаў, каб сказаць тост.

— Прабачце, Уладзімір Аляксеевіч, я, здаецца, тут самы старэйшы і таму... Вы адпачніце, вам хапае клопату і на рабоце, тамадою буду я.

Антон слухаў яго і згадваў школу, старшыя класы. Які гэта быў шчаслівы час!.. Вучоба давалася Антону не тое каб лёгка і проста, але вучыўся ён на «выдатна» і ўсе прарочылі яму зайздросную будучыню. Антона гэта цешыла, хвалявала, як і тое, што ён па вушы закахаўся ў дачку дзяжурнага па Дваццатай Хілеву Любу. Яна ўжо да таго разнявесцілася ў старшых класах, што па ёй уздыхаў не толькі Антон. Але Люба зусім нечаканым спосабам... 

— Вы помніце Любу Хілю? — пасля таго, як выпілі раз і другі, ціха звярнуўся Антон да Міколы Хвядосавіча.

— Канечне, як жа яе не помніць, — гэтак жа ціха, з той жа блазнаватай усмешачкай на вуснах, што была ў яго і ў маладосці, адказаў Мікола Хвядосавіч. — Я з ёй…

Раптам Мікола Хвядосавіч пачаў расказваць, як яшчэ тады, калі быў халасцяком і здымаў у вёсцы асобны пакой з уваходам са двара, дзяўчаты нібыта гурбамі прыходзілі да яго. А ён…

Да гэтага Антон з павагай ставіўся да Міколы Хвядосавіча, нават шкадаваў яго з-за калецтва, але цяпер паглядзеў на яго з агідай: чым хваліцца… Сваю вучаніцу збэсціў… На гэта вялікага розуму не трэба… Сваім прызнаннем Мікола Хвядосавіч як бы насмяяўся з Антона, з яго пачуццяў, якія ён бярог у душы, тайком насіў у сабе і, згадваючы Любу, сваё першае каханне, хваляваўся, летуценіў, траціў спакой. А пасля сённяшняга...

Ён устаў з-за стала, пайшоў па сцежцы углыб лесу. Ноч была зорная, месячная, ад ракі патыхала вільгаццю, у траве стракаталі конікі, а ў лесе нейкая начная птушка не магла заснуць і раз-пораз трывожна ўскрыквала.

— Я вас ледзь не згубіла, — ціхі, прыглушаны жаночы голас прымусіў яго павярнуцца, зірнуць на дарожку…

Ася ўжо каля яго. У месячным святле яна паказалася зданню — такой жаданай, прывабнай. Міжволі ён зрабіў крок да яе.

У час службовых камандзіровак Антон сустракаўся з жанчынамі, дзяўчатамі, якія падабаліся яму з першага погляду, і ён перасільваў сябе, сваю жарсць, каб не пераступіць мяжу, бо — адзін неасцярожны крок і... А жонка?.. Яна ж у Антона любімая, у яго да Наталлі самыя чыстыя, светлыя пачуцці, і ён не хоча, каб яна падазравала яго, крыўдзілася.

І ўсё ж ён зямны чалавек з усімі сваімі думкамі, прынцыпамі, жаданнямі — святымі і грэшнымі. Гэта ён зразумеў, калі ўпершыню ўбачыў Асю. Ён ведаў, што яе муж — аграном, у іх расце сын-падлетак. Яна, мабыць, не дужа любіць мужа: інакш не шукала б кахання на баку.

Ён ведаў, адчуваў усёй істотай, што рана ці позна, але сустрэнецца з Асяй дзе-небудзь сам-насам, бо змагацца ўвесь час з самім сабой, са сваімі пачуццямі, ад якіх нікуды не збяжыш, неставала сілы. І вось гэты летні вечар каля дома паляўнічага, месячная дарожка ў пушчы...

Яна прыхінулася да яго, узяла яго руку ў сваю, і ён адчуў, якая ў яе пяшчотная, ласкавая рука.

— Пайшлі адсюль, — прашаптала яна...

…У Мінск Антон ад'язджаў роснай, золкай летняй раніцай. Маці ўжо не спала, тупала каля печы, затым выйшла на падворак. Калі Антон з ручніком на плячы наблізіўся да рукамыйніка, прымацаванага са двара на вугал сенцаў, маці сказала:

— Не пі, сынок, ты ўчора быў п'яны. П'янка да дабра не давядзе, а табе трэба дзетак паставіць на ногі.

— Не буду, — паабяцаў ён.

Наспех сабраўшыся, сказаў маці:

— Трэба дом забіраць і перавозіць, пакуль лета.

— Не мела баба клопату, — уздыхнула маці.

Ён сеў у машыну, выехаў з двара, націснуў на газ.

На пад'ездзе да райцэнтра невялічкая вёска — Дубкі. З шашы яна ўся як на далоні. Акуратныя сядзібы з дварамі, садамі, агародамі. На ўзвышку, што

з аднаго краю вёскі, будуецца драўляная цэркаўка. Ужо ўзведзены тры купалы: цэнтральны, больш высокі і два збоч яго трохі ніжэйшыя. Раніца, а каля царквы завіхаюцца людзі. Адзін мужчына аббіваў бліскучаю бляхаю купалы, другі, знізу, падаваў яе яму.

Антон звярнуў з бальшака да цэркаўкі — закарцела зблізку паглядзець на работу тых, хто ўзводзіць святы будынак.

Да цэркаўкі крутая, добра ўезджаная, глiністая дарога. Нядаўна быў дождж, там-сям — лужыны бруднай, перамешанай з пяском і глінай, вады.

Відаць, што да цэркаўкі ўчора, а мо ўжо і сягоння, падымаўся грузавік з будаўнічымі матэрыяламі. След аўтамабільных колаў вядзе да святой будыніны.

На гары Антон спыніўся, вылез з машыны, паглядзеў навокал і быў моцна ўражаны тым, што ўбачыў. Адсюль адкрываліся далягляды на Прыпяць, на прырэчныя лугі, на Дубкі... Усё навокал патанала ў зяляніне садоў, лесу, што тут і там падступаўся ледзь не да самай ракі. Райцэнтр быў як на далоні. Добра бачны яго новыя мікраараёны, што набліжаюцца да Дубкоў, да палёў. На адных выпусціла колас пшаніца, на другіх не сёння-заўтра спалавее авёс, на трэціх толькі-толькі зацвіла белым цветам грэчка і паўсюль на ёй рамачныя вуллі. «Шкада, калі горад зойме і гэтыя палі, — думаў Антон. — Кожны, хто прыйдзе ў гэтую царкву на малітву, на ранішнюю ці вячэрнюю службу, абавязкова прыпыніцца, як зараз я, паглядзіць навокал, убачыць красу невымоўную і парадуецца, што жыве ў гэтакім цудоўным, Богам створаным, куточку. Прыгожая рака, прыгожыя зямля і неба, і гэта ўсё — мая Радзіма, без якой душа не можа жыць».

— Бог у помач! — Антон наблізіўся да цэркаўкі, звярнуўся да будаўнікоў.

Абодва яны яшчэ даволі маладога веку. Той, што быў знізу і падаваў наверх бляшаныя лісты — апрануты ў чорны рабочы камбінезон з накладнымі бакавымі кішэнямі, калашыны яго штаноў запраўлены ў халявы кірзачоў, на руках рукавіцы. Лісты бляхі на краях вострыя, без рукавіц параніцца можна. Позірк у яго спакойны, неабыякавы.

— І вам няхай Бог памагае, — адказаў ён, мабыць, прыняўшы Антона за каго-небудзь з раённага ці епархіяльнага начальства.

Гэтага завуць Барысам, а таго, што наверсе, Колем. Антон чуў, як яны адзін аднаго называлі.

Коля, здаецца, не звярнуў ніякай увагі на Антона — прыбіваў бляху да купала, так моцна стукаў малатком, што абуджаў усё наваколле.

У зубах у Колі некалькі цвікоў, у адной руцэ малаток, другой ён прытрымліваў бляшаны ліст, прыкладзены да купала, да таго месца, дзе яму і трэба быць.

Купал серабрыста свяціўся, ранішнія сонечныя промні адбіваюцца ад яго нібы ад люстэрка, слепяць, і Антону захацелася перахрысціцца: адзін неасцярожны крок, і Коля можа зваліцца. Вышыня быццам не такая і вялікая, але дастатковая, каб адбіць нутро.

— Хоць бы прывязаўся да купала якой вяроўчынай, — не змаўчаў Антон. — Тэхніка бяспекі — гэта не жартачкі.

— Хіба яму ўпершыню? — заступіўся за сябра Барыс. — Колькі мы крылі дахаў, зашывалі франтоны — і ніколі нічога, абыходзілася… А вы хто, правяраючы?

— Ды не, — засмяяўся Антон. — Ваш зямляк. Жыву і працую ў Мінску. Не начальнік. Журналіст.

— Спускайся, Коля, перакурым, пагамонім з чалавекам, — сказаў Барыс.

Коля — плячысты дзяцюк, з моцна загарэлым тварам, аблупленым ад загару носам, на нагах у яго растаптаныя карычневыя чаравікі, на галаве — зялёны, пакамечаны капялюш, на плячах ні сарочкі, ні майкі: наверсе, ля купалоў, мабыць, добра прыпякае, бо раніца сонечная, зыркая.

Разгаварыліся. Будаўнікі — мясцовыя, з Дубкоў. З юначых гадоў будуюць. У калгасе ўсе канюшні, аўчарні, навесы для трактарнай тэхнікі, гаражы для аўтамабіляў, летнія кашары — іхніх рук работа. І людзям таксама будуюць, калі запрашаюць. Цяпер будуюць царкву.

Антон паглядзеў на яе. Уваходныя дзверы ўзорыстыя, філянговыя, зробленыя рукой вопытнага цеслі. Яны адчыненыя, і Антон, пагаварыўшы з хлопцамі крыху, не ўтрымаўся, каб не зайсці. Падлога пасцелена так, што нідзе ні шчылінкі, сцены абабіты дошкай-вагонкай, якая пакрыта бясколерным лакам.

Цэркаўка хоць і невялікая, але ўтульная, акустыка такая, што кожны зроблены Антонам крок аддаваўся рэхам, рэха падымалася ўвышыню, да купалоў. Антон пазіраў уверх, адчуваў, што яму дыхаецца вольна, ён у царкве самнасам са сваімі думкамі-развагамі.

— Цяпер вяскоўцам будзе дзе адвесці душу, — сказаў Антон Барысу, калі той услед за ім увайшоў у царкву, і дадаў: — Аднаўляюцца храмы, гэта вельмі добра. Хрысціянскія запаведзі — гэта тое, што робіць чалавека чалавекам. Без веры ён не адчувае пад сабой грунту.

Прамовіў гэта і падумаў, што добра зрабіў, заглянуўшы сюды. Ёсць нагода задумацца над тым, што апошнім часам хвалявала яго, непакоіла, ледзь не кожны дзень прымушала азірацца назад, заглядваць уперад, каб дайсці сваім розумам да ісціны, да ўсяго, што адбылося, адбываецца навокал. Узрост, мабыць, спрыяе гэтаму — яму за сорак… У такім узросце, добрыя людзі кажуць, калі чалавек нічога не паспеў, то гані яго ў хлеў.

— Працуючы ў газеце, мабыць, чахвосцілі святароў на чым свет стаіць, а зараз адумаліся? — падаў голас Мікола. — Усё ў нас так: куды вецер, туды і мы.

— На жаль, гэта праўда, ад якой нікуды не дзенешся, — і пагадзіўся, і не пагадзіўся з Міколам Антон. — Жыццё, абставіны даволі часта вышэй за чалавека.

Усталявалася хвілінная, няёмкая паўза. Парушыў яе Антон.

— У час вайны мая радня паклала на алтар Айчыны трынаццаць самых блізкіх мне людзей: загінуў бацька, чатыры дзядзькі, бабулю немцы разам з нявесткаю і ўнукамі-падлеткамі закапалі жывымі ў зямлю. За тое, што яе сыны, мае родныя дзядзькі, служылі верай і праўдай Айчыне: яны былі працавітымі людзьмі, знатнымі хлебаробамі, а пачалася вайна — падаліся на фронт, а мой бацька з маці сталі партызанамі...

Барыс і Мікола паглядзелі на Антона са шкадаваннем і спачуваннем.

— Чаму людзі не прынялі чужынцаў? — працягваў Антон. — Таму, што хацелі быць гаспадарамі на сваёй зямлі, хацелі маліцца свайму, а не чужому богу.

Крыху памаўчаў і дадаў:

— З усёй сваёй радні я — адзіны, хто атрымаў вышэйшую адукацыю, — Антон бачыў, што тое, аб чым ён гаворыць, для Барыса і Міколы не пустое, бо сведчыць аб перажытым. — Мае родныя цёткі, матчыны сёстры, так і памерлі, уволю хлеба не наеўшыся. А што ж: удовыя яны, у кожнай на руках па трое дзяцей было. Гэта маёй маці пашэнціла — яна другі раз выйшла замуж, і яе

другі муж, мой айчым, быў рабацяшчым чалавекам, мы з голаду не пухлі, дый я дзякуючы айчыму ў людзі выбіўся.

Ён змоўк, ужо сабраўся ісці да машыны, падняўся, зрабіў колькі крокаў, але раптам спыніўся.

— Тут вось непадалёку, каля лясніцтва, мой дачны дамок-церамок. Пакуль без вокан, без дзвярэй. Трэба перавозіць і ставіць на маім дачным участку.

— То ў чым загваздка? — сказаў Барыс, ужо збіраючыся працягваць работу, якую давялося спыніць з-за Антона.

— Ды ні ў чым. Усё, здаецца, на мазі. Толькі вось на чэсных людзей не шанцуе мне. Быццам знайшоў я тых, хто будзе складваць мой дом, але ж надта яны ненадзейныя, бо той, хто мне іх парэкамендаваў, іх не хваліць. От я і маракую.

Барыс паглядзеў на Міколу, які ўжо зноў быў на верхатуры, зноў узяў у рукі малаток.

— Пачакай трохі, Мікола, паслухай, ёсць прапанова.

І да Антона:

— Наймайце нас. Мы не халтуршчыкі. І не сарвем, як чужакі. Усё ж мы блізкія землякі.

— Гэта вы сур’ёзна? Не жартуеце?

— Раз я кажу...

Антон, праехаўшы з паўвярсты, спыніўся, выбраўся з машыны, азірнуўся. Цэркаўка была добра бачна. Сваімі купаламі, усім сваім аблiччам яна ўзвышалася над вёскай, мясцінай вакол яе. Здавалася, што яна ляцела ў вышыню, імкнулася да неба, туды, куды кожны дзень скіраваны чалавечы позірк. І не толькі позірк, але і думкі, калі ён шукае там адказу на ўсё тое, што даймае яго, вярэдзіць душу, не дае спакою тут, на зямлі…

На душы ў яго было светла і лёгка. Можа, ад таго, што летні ранак пагодлівы, з сонцам, якое асвятляла вёску, палі, паляны і пералескі… І — ад добрых думак, якія з’явіліся ў яго пасля размовы з Барысам і Міколам. «З добрага сёння дзень пачынаецца, — зазначыў Антон. — Добра, што дамовіўся з гэтымі палешукамі. Не Жоравы шабашнікі, а землякі паставяць мне дом».

Думалася і пра тое, што ўсё ж трэба мяняць работу. Вядома, на ранейшай было б спакайней, ён прызвычаіўся да камандзіровак, да паездак у новыя, невядомыя мясціны. Ён аб’ездзіў ужо амаль усю Беларусь уздоўж і ўпоперак. Яго заўсёды вабіла Палессе сваімі барамі, гаямі, балотамі, Прыпяццю, што кожную вясну шырока разлівалася, затапляла вёскі, лугі, палі, лясы… У такія часы ён, калі бываў у камандзіроўцы на Палессі (пра паводкі абавязкова пісалі газеты, і іхняя — таксама), наведваючыся да маці, дапамагаў ёй як толькі мог… Калі ж камандзіроўка выпадае на іншы час — вада ўваходзіць у берагі — Антон блукаў па ходжаных і няходжаных сцежках, балотах і ўзбалотках, дзе птушыныя галасы не змаўкаюць да глыбокай начы, абуджаючы думкі аб вечнасці і прыгажосці любімага краю…

Звычайна, вярнуўшыся з камандзіроўкі, ён адпісваўся тыдні два. Пісаў, узважваючы кожнае слова, бо яно, тое слова, тычылася жывых людзей, да лёсу якіх Антон, што ні кажы, быў далучаны нейкім чынам. Адных ён хваліў, другіх лёгенька ўшчуваў, калі было за што, але заўсёды стараўся рабіць так, каб дарэмна не пакрыўдзіць чалавека. Наадварот, яму заўсёды хацелася дапамагчы таму, хто спадзяваўся на яго, хто верыў, што ён сваёй газетнай публікацыяй абароніць ад дурнотнага крыўдзіцеля: найчасцей гэта былі мясцовыя кіраўнікі і кіраўнічыкі.

Больш за ўсё Антон любіў рубрыку «Пісьмо паклікала ў дарогу». Гэта калі хто прысылаў ліст у рэдакцыю, абураўся паводзінамі начальства, прасіў разабрацца, дапамагчы. Тады на Антонавы выступленні ў газеце ішлі водгукі ад чытачоў. Добрыя, цёплыя… А на рэдакцыйных лятучках галоўны рэдактар згадваў Антонава імя і хваліў яго апошнюю публікацыю. Пры гэтым галоўны заўсёды затрымліваў позірк на Жору: мабыць, спадзяваўся, што нарэшце да таго дойдзе: так працаваць, як ён, нельга. Але Жора, мабыць, агрубеў да таго, што ніякімі словамі яго нельга было перайначыць.

На новай рабоце Антону прапаноўваюць курыраваць кнігавыданне. Прыватнае: у фірмы была ліцэнзія на кнігавыданне.

Для Антона справа была і знаёмая, і незнаёмая: журналіст жа…

Пра гэта ён шчыра сказаў Сяргею, каб той ведаў, што ён, Антон, непакоіцца, перажывае і за сябе, і за сваю будучую работу, баіцца падвесці свайго колішняга сябрука, які верыў яму, нібы сабе самому. Каб не верыў, то хіба паклікаў бы да сябе ў намеснікі?..

Сяргей пачаў яго супакойваць, даводзіў, што ён сам, працуючы шмат гадоў у газетах, як і Антон, нямала чаму навучыўся, але дасканаласці, як вядома, канца няма. А калі так, то ён, Сяргей, усё яшчэ вучыцца, не да ўсяго яшчэ дайшоў, а цяпер яны будуць разам асвойваць тое, што стане іх паўсядзённым клопатам.

— Давядзецца перабудоўвацца, прыглядацца да людзей, з якімі будзем супрацоўнічаць, будзем падбіраць, расстаўляць кадры, — Сяргей гаварыў так, быццам Антон ужо канчаткова ўсё вырашыў, даў згоду быць ягоным намеснікам.

Сяргей добра разумеў, як і чым пераманіць яго да сябе і нібы між іншым пацікавіўся:

— Ты сваімі жыллёвымі ўмовамі задаволены? Добрая ў цябе кватэра?

— Дзе там! Двое дзяцей, я з жонкай у двухпакаёўцы ўжо два дзясяткі гадоў. І маці трэба да сябе забіраць — адна яна гаруе ў вёсцы, старая, нездаляшчая.

— Ну вось, сам бачыш... Прыйшлі такія часы, што жыллё сабе трэба будаваць за ўласныя зберажэнні. У цябе ёсць яны?.. Адкуль ім узяцца з нашай зарплаты, якой ледзь хапае на самае неабходнае.

— Ты хочаш сказаць...

— Канечне, і ў нас з кватэрамі не так проста, але калі ты пяройдзеш на работу да нас па нашым запрашэнні...

Трохі падумаўшы, Сяргей спытаў:

— Твая кватэра прыватызаваная?

— Вядома, што прыватызаваная. Можа, я і паспяшаўся з гэтым, бо цяпер не магу стаць на пашырэнне жыллёвых умоў за дзяржаўны кошт.

— Вось што... Надта не марудзь, кіруйся ў аддзел кадраў, пішы заяву аб пераходзе да мяне на работу і тэрмінова ідзі шукай які жыллёвы кааператыў. Першы ўзнос на будаўніцтва тваёй кватэры зробіць фірма, а калі надыдзе час усяляцца, прадасі сваю двухпакаёўку і заплаціш астатнюю суму...

Ён вагаўся яшчэ нейкі час, але тое, што Сяргей паабяцаў дапамагчы палепшыць жыллёвыя ўмовы, падштурхнула згадзіцца пайсці працаваць да яго ў фірму. Антон якраз перад гэтай паездкай да маці пазваніў Сяргею, паведаміў, што пакідае рэдакцыю і перабіраецца ў яго рэзідэнцыю...

Усцяж дарогі малады лес, падлесак. Дзе суцэльны хвойнік, дзе бярэзнік, дубняк, алешнік ці асіннік.

Антон апусціў шкло дзверцаў і адчуў пах суніц. Яшчэ б — сярэдзіна лета, суніцы даўно паспелі, іх на сонечных палянках заўсёды ў такі час шмат, не

лянуйся, збірай. А вунь і дзве дзяўчынкі-падлеткі ідуць па абочыне дарогі з невялікімі вядзерцамі, поўнымі суніц.

Антон спыніўся, спытаў, ці далёка ім ісці. Адказалі куды: не дужа далёка, кіламетры два.

— Сядайце, падвязу, — прапанаваў ён.

Дзяўчынкі моўчкі пераглянуліся, пільна паглядзелі на Антона — ці можна яму давяраць, і, мабыць, пераканаўшыся, што ён дзядзька добры, згадзіліся, селі ў машыну на задняе сядзенне.

— Сабе збіраеце ягады ці на продаж? — калі крануліся, пацікавіўся Антон.

— І сабе, і на продаж, — адказала адна.

Антон у люстэрка над ветравым шклом заўважыў: твар і рукі добра загарэлі, вочы блакітныя, гарэзыя. Такая сябе ў крыўду не дасць. Другая загарэлая менш, з голай галавой, вочы, здаецца, насцярожаныя.

— І якая бывае выручка? Не абдурваюць вас прыёмшчыкі?

Дзяўчынкі на гэтае пытанне загадкава ўсміхнуліся, мабыць, не ведаючы, што адказаць. Антон згадаў, што ён і сам, калі вучыўся ў школе, асабліва ў старшых класах, збіраў ягады, грыбы, драў лазу і здаваў у сельпоўскую лаўку. Абдурваў, абважваў яго сельпоўскі лавачнік і тыя нарыхтоўшчыкі, што калясілі ад сяла да сяла на падводах, на грузавіках, але ўсё ж нейкая капейчына перападала і яму на сшыткі, на танны абутак, на картовы касцюмчык... Усё лета і восень не вылазіў Антон з валокі, з узболатка, дзе лаза, як лес...

Вёска, дзе жывуць дзяўчынкі, з рамантычнай назвай — Баравікі. Яна невялікая, з адной доўгай вуліцай усцяж шашы, з драўлянымі хатамі, прасторнымі падворкамі, паветкамі, у якіх складзены высокімі кастрамі пакалатыя дровы.

Выходзячы, дзяўчынкі трохі адсыпалі яму ў слоік суніц. Ён не адмовіўся, падзякаваў, сказаў:

— У мяне двое дзяцей, вашы равеснікі. Прывязу ім гасцінца.

Дзяўчынкі падаліся да сваіх хат, Антон пазіраў ім услед і ў гэты момант трывожная думка авалодала ім: «Сёння такі неспакойны свет, а яны адны выпраўляюцца ў лес... Усё можа здарыцца... Гэта добра, што яны на мяне натрапілі, а калі б на якога ман’яка?»

Ён дагнаў іх і быццам прасіў: «Болей, дзяўчаткі, так не рабіце... Без бацькоў адны ў лес не хадзіце. Зараз паўсюль хапае ўсялякай брыдоты…»

Яны ўсміхнуліся, паціснулі плячамі, але падзякавалі за перасцярогу, падаліся далей. А ён, ад’ехаўшы ад вёскі, пакаштаваў суніцы: ягады раставалі ў роце. Уявіў дзяўчынак і зноў трывога авалодала ім і не адпускала да таго часу, пакуль не замільгалі агні прыгарада Мінска…

Антон не верыў сваім вачам: дачны дом ужо на пляцы. Сценавыя бярвенні пазначаны, пранумараваны і раскладзены на чатыры бакі. І Мікола з Барысам тут. Справіліся з царквою — і сюды, на ягоны пляц. У іх на дваіх адно аўто — патрыманая «мазда». Барыс яе хваліць: ні разу не падвяла. І грузы можна перавозіць — багажнік немалы.

— Гэта ўжо хвароба людская — хваліць не сваё, а чужое. Я вунь з «масквіча» болей як дзесяць гадоў не злажу і гора не знаю — езджу, важу грузы, — не пагадзіўся з Барысам Антон і згледзеў Жору, які непрыкметна падышоў і слухаў іхнюю размову.

— Дзе ты гэтых людзей знайшоў? — спытаў Жора, калі Антон узяў вядро, каб прынесці вады з калонкі, што метрах у ста ад пляца. Вада ёсць і на пляцы,

але ў жалезных трубах, што ляжаць на зямлі на цаглінах, яна ў спякотны дзень вельмі награецца, а з калонкі халодненькая, смачная, быццам з крыніцы. — Як дзе? На Палессі. Ты сам сказаў, што твае шабашы — людзі ненадзейныя. Дый рвачы.

— А гэтыя, думаеш, лепшыя?

— Не ведаю, але мне здаецца, што яны не халтуршчыкі, — сказаў Антон і ўявіў дзень, калі ўпершыню ўбачыў тую цэркаўку на ўзвышку, дзе сустрэўся з Міколам і Барысам. Ён прыдзірліва прыглядаўся да сцен цэркаўкі знадворку, унутры, прыглядаўся да падлогі, да купалоў. Вуглы і вянкі былі складзены так, што, здавалася, камар носа не падточыць — ні шчылінкі, ніякага пера-косу, мох між вянкамі акуратна абсечаны сякерай, нібы падрэзаны нажніцамі. «Добрая работа»,— яшчэ тады, упершыню ўбачыўшы гэтую цэркаўку, зазначыў Антон. І не стрымаўся, спытаў: «Дзе вы, хлопцы, вучыліся свайму рамяству?» Адказаў Барыс: «Як дзе? Жывучы на сяле, трэба ўсё ўмець. Самавучкі мы. Сякера, піла, шклюд, фуганкі-рубанкі — гэта тое, без чаго мужыку-вяскоўцу не абысціся».

Потым, калі трохі разгаварыліся, хлопцы міжволі выдавалі сакрэты сваёй саматужнай будаўнічай «навукі». Раслі яны, расло і сяло. Хаты ставілі то ў адным канцы вуліцы, то ў другім, то пасярэдзіне. Мужыкі часалі сасновыя, дубовыя бярвенні на легары, на штандары, на брусы і кроквы, на латы. Каля іх — і яны, хлапчукі-падлеткі. Глядзелі, як мужыкі размотвалі доўгі канапляны шнур, гэтакі ж самы, якім абмотвалі белыя льняныя анучкі, калі абуваліся ў пасталы. Шнур шоргалі-церлі аб чорную, як сажа, галавешку. Потым, калі ён станавіўся чорным-чорным, прыкладвалі да бервяна з двух канцоў, шчыльна прыціскалі да яго, а затым прыпадымалі і рэзка адпускалі… Напяты быццам струна, шнур udараўся аб бервяно, пакідаў на ім роўненькі чорны след-пісяг. Па гэтым пісягу і абчэсвалі роўна бервяно-вянок, а калі па ім яшчэ пройдуцца фуганкам-гэблем, то яно зіхаціць на сонцы, выклікаючы радасць і здзіўленне. Хата з такога дрэва трывалая, утульная, надзейная. Яна прастаіць век і пад вятрамі, пад грамамі, пад сонцам і ліўнямі, снегам…

Хлапчукі-падлеткі дапамагалі цеслярам-будаўнікам, як толькі маглі. Збіралі і складвалі тоўстыя трэскі, падавалі шнур і галавешку, бегалі ў калгасную кузню, каб вясковы каваль, вусаты дзядзька Якаў, выкаваў скобы, якімі мацуюць кроквы, складвалі распілаваныя дошкі трохкутнікам так, каб між імі гуляў вецярок і яны хутчэй сохлі, бо сцены хаты раслі на вачах, не сёння-заўтра трэба слаць падлогу, устаўляць дзверы, вокны. Да таго часу дошкі павінны быць сухімі, каб іх можна было пачысціць фуганкам, прайсціся па іх цацаўнікам, каб можны было вырэзваць, выстругваць для аконных праёмаў рамы, філёнгі для дзвярэй... Усё заўважалі хлапчукі-падлеткі, а праз нейкі час і самі бралі ў рукі лучковую пілу, сякеру, фуганкі-рубанкі, гэбель. Праца стала іхнім жыццёвым абавязкам — заняткам. З гэтым абавязкам яны падымаюцца кожную раніцу і кіруюцца туды, дзе ўзводзіцца новы дом, царква, збожжасховішча ці яшчэ што, без чаго немагчыма чалавечае існаванне…

— Падвёў ты мяне, Антон. Як мне цяпер глядзець людзям у вочы, калі яны прыйдуць і спытаюць, чаму замест іх тваю дачу будуюць іншыя, — сказаў Жора. Яго, мабыць, не на жарт усхвалявала тое, што Антонаў дом будуць складваць палескія майстры.

Ён слухаў Жору і не мог зразумець — што гэта з ім? Чаму ён раптам нібы ні з таго ні з сяго занерваваўся? Можа, за сваю пасрэдніцкую паслугу хацеў нешта займець?.. Антон жа не абяцаў Жору, што згодны ўзяць ягоных шабаш-

нікаў. Напэўна, сусед без яго ведама паабяцаў ім працу. То хай… Напэўна, Антону давядзецца добра раскашэліцца. Ён яшчэ дакладна не ведае, колькі папросяць Мікола з Барысам, але шабашы, мабыць, сарвалі б з яго на ўсю катушку. І з Жорам, мабыць, зараней дамовіліся падзяліцца. Але гэты іхні план рухнуў. Ці не таму Жора сам не свой…

Працуючы з Жорам у адной рэдакцыі, Антон не заўважаў у ім хцівасці, але, мабыць, праўда, што чалавек, як і ўсё на гэтым свеце, мяняецца. Перамяніўся і Жора, толькі ў які бок? Стаў прыватным выдаўцом і прага да грошай, да вялікіх заробкаў зацьміла, мабыць, у ім апошнія парасткі добрага, чалавечага.

— Не разумею я цябе, Жора, — абурыўся Антон. — То ты адно гаворыш, то раптам зусім іншае... Ты ж сам сказаў, што шабашнікі — людзі ненадзейныя, таму я і задумаўся, і калі падвярнуліся добрыя хлопцы...

Жора, напэўна, адразу здагадаўся, аб чым гаворыць Антон, пашкадаваў, канечне, што язык у яго без касцей: выходзіць, сам сабе дарогу перайшоў. Але хіба ён думаў, кажучы праўду пра шабашоў, што тым самым настроіў Антона супраць іх? І вось як яно ўсё павярнулася...

— Ты ўсё на ранейшай пасадзе? — нечакана пераводзіць Жора размову на іншае. — Не надакучыла марнець на адным месцы? Пераходзь да мяне, будзеш адказным сакратаром. Я, канечне, не багацей, але мая газета корміць і поіць мяне, хопіць і табе на хлеб з маслам. Работа ў мяне спакойная, надта высільвацца не трэба, затое заробкі не тыя, што ў дзяржаўных выданнях.

Антон стаяў як укопаны: жартуе Жора ці што? Не першы раз, праўда, ён запрашае яго, ды Антон раней аб гэтым і думаць не хацеў. Але выгляд у Жоры сур'ёзны, і Антон засяродзіўся, задумаўся. Можа, і паспяшаўся ён з пераходам да Сяргея. Ужо колькі тыдняў ён — намеснік генеральнага дырэктара не дзяржаўнай арганізацыі. Ягоны кабінет на трэцім паверсе трохпавярховага асабняка. Кабінет невялікі, цеснаваты, з камп'ютарам, якім Антон яшчэ не навучыўся як след карыстацца. Добра, што ягоны кабінет не на тым баку, дзе шумная вуліца, у кабінеце заўсёды спакойна, цішыня, ёсць магчымасць сканцэнтравацца, абдумаць тое, што трэба рабіць сёння, заўтра, ёсць магчымасць нешта напісаць і для газеты, часопіса, бо без гэтага занятку Антону — як без паветра. А насупраць — кабінет генеральнага дырэктара. У таго апартаменты прасторныя, з двума сталамі, сценкай-бібліятэкай, паўз сцены стулы з высокімі спінкамі, а каля стала — мяккія крэслы з бардовай абіўкай, тэлефонныя апараты: гарадская, унутраная, міжгародняя сувязь пад рукой. У Сяргея заўсёды сходы, нарады, госці свае, замежныя і не дзіўна, што ў яго гэтакія апартаменты.

Непрыкметна, пастуова Антон уцягваецца ў свае новыя абавязкі. Да кнігавыдання ён пацiху прызвычайваецца. Гэта справа вабіць таямнічасцю, важнасцю, адказнасцю. Ён упершыню ў сваім жыцці змог далучыцца да свету, у якім нараджаюцца кнігі. Ён змалку любіў чытаць, і зараз чытае шмат. У школе, дзе ён вучыўся, была хоць і не багатая бібліятэка, але ў ёй Антон заўсёды знаходзіў што-небудзь цікавае. Яго вабіла невядомае яму, вясковаму хлапчуку, жыццё людзей у іншых краях. Ён любіў і простых герояў твораў, і мужных, адчайных — галоўнае, каб яны былі добрымі. Ён захапляўся імі, хацеў быць падобным на іх...

Гэтая любоў, цяга да добрай кнігі не пакідала яго і ў часе вучобы ва ўніверсітэце. У сталіцы бібліятэк шмат, і ў кожнай ёсць што ўзяць пачытаць. Студэнту заўсёды з-за лекцый, семінараў, падрыхтоўкай да зімовай ці летняй сесій нестае часу, але Антон знаходзіў магчымасць, каб наведаць бібліятэку

і ўзяць там сучасны ці класічны твор, з героямі якога знаёміўся з ахвотай і неадольным жаданнем праз іх даведацца нешта новае пра жыццё...

А цяпер? Хіба ён мала чытае цяпер? У яго ёсць свая дамашняя бібліятэка, якую ён збіраў не год і не два. Не ўсё, што стаіць на паліцах дамашняй бібліятэкі, прачытана, але ён не-не, ды і возьме ў рукі што-небудзь з класікі айчыннай ці заходнееўрапейскай літаратуры і не выпускае, пакуль не прачытае. Некаторыя кнігі, што сталі бестселерамі, ён перачытвае і другі, і трэці раз. Шкада, што вольнага часу цяпер малавата, бо трэба спраўляцца на рабоце, ад якой стамляецца неймаверна, трэба нямала ўвагі надаваць сям'і, і ён, гледзячы на паліцы сваёй бібліятэкі, толькі цяжка ўздыхае, нібы просіць прабачэння ў кніг, што апошнім часам мала падыходзіць да іх, не бярэ ў рукі...

Амаль кожны працоўны дзень на новым месце пачынаецца з таго, што да яго прыходзяць аўтары, тэхрэды, мастакі, карэктары і ён абмяркоўвае з імі рукапіс кнігі, што стаіць у плане. Абмяркоўваюць усё да дробязі, да самых, здавалася б, нязначных дэталей: як аформіць вокладку, тытул, якім набіраць шрыфтам, тыражом... Аўтары ў «Пасада» і вядомыя, і маладыя, але кожны рукапіс, перш чым паставіць у план, праходзіць строгі, непрадузяты адбор-рэцэнзаванне. Рэцэнзенты — народ непадкупны, аб'ектыўны, прапаноўваюць да выдання тое, што, на іх думку, мае попыт, не будзе пыліцца на кніжных паліцах у кнігарнях. І, напэўна, такое стаўленне да выдавецкай дзейнасці спрыяе таму, што выданні разыходзяцца, а калі нешта і не прадаецца цалкам, то гэта мізер. Але вядома ж, ёсць і свае недапрацоўкі. Здаецца, іншы раз і рукапіс варты, і афармленне мастацкае выдатнае, а кніга не запатрабавана. Антон тлумачыць гэта тым, што чытач цяпер вельмі патрабавальны, пераборлівы, і каб дагадзіць яму, трэба быць, як кажуць, не толькі з царом у галаве, а і яшчэ з нечым. З чым?.. Над тым Антон разам са сваім выдавецкім калектывам думае кожны дзень. Але не-не, ды і памыляюцца яны. Яно і вядома — не памыляецца той, хто нічога не робіць.

У часе абмеркавання, падрыхтоўкі новай кнігі да выдання Антон пільна прыслухоўваецца да тых, з кім яму давялося супрацоўнічаць. Ён узіраецца ў твары і бачыць, што ўсе гэтыя людзі вельмі розныя. Адны адкрытыя, шчырыя, з дабрынёй і ласкай. Другія, здаецца, з хітрынкай, загадкавыя. Трэція абыякавыя да ўсяго, што не датычыць асабістага заробку… Але з усімі імі яму трэба працаваць, знаходзіць паразуменне і лад у рабоце, ды і ва ўзаемаадносінах. У рэдакцыі газеты, дзе ён працаваў даволі доўгі час, таксама былі розныя людзі. З аднымі ён сварыўся, мірыўся, з іншымі было паразуменне, але галоўнае ў тым, што Антон прафесійна рос, набіраўся вопыту, стаў сапраўдным журналістам і не было тэм, з якія б ён не спраўляўся. А як будзе тут, на новым месцы?..

Фірма, якую ўзначальваў Сяргей, не раз удзельнічала ў кніжных кірмашах-выставах, мае дыпломы, узнагароды за поспехі ў выдавецкай справе. Няўжо дасюль Жора не ведае, што ён, Антон, намеснік генеральнага такой вядомай фірмы і прапаноўвае ісці да яго ў нейкую маленькую прыватную? Антон вырашыў пажартаваць, падыграць Жору:

— Знаем мы гэтыя абяцанкі-цацанкі. Запрашаеш да сябе… Як кажуць: «Кось, кось, ды ў аглоблі…» Ды ў цябе я страчу свой апошні спакой. І з заробкам, думаю, у цябе будзе не вельмі…

— Кось, кось… Ды ў мяне табе будзе свабода, пераходзь — не пашкадуеш. Хіба я вораг сам сабе? Я запрашаю людзей правераных, не лайдакоў.

Антон гатовы быў ушчыкнуць сябе: няўжо гэта гаворыць Жора, які ніколі не зрабіў лішняга кроку, каб не перапрацавацца?

Аднак сітуацыя вымагала быць шчырым: Жора чакаў, што Антон дасць згоду. Але пачуў не тое, што чакаў:

— Хіба ты не ведаеш, што я змяніў работу? Так, Жора, атрымалася. Не збіраўся я нікуды пераходзіць, але тут нечакана пазваніў Губернатараў і запрасіў ісці да яго ў намеснікі. Спадзяюся, ты добра ведаеш гэтую фірму, бачыў яе трохпавярховы асабняк ва ўтульным куточку горада?

Жора аслупянеў. Лыпаў раз-пораз вачыма, бы ў іх трапіла сенная пацяруха.

— Што ты чаўпеш?

— Жора, тое кажу, што ёсць: я ніколькі не жартую. Я — намеснік Сяргея Фларыянавіча Губернатарава, паспяховага прадпрымальніка і выдаўца. Не ведаю, ці правільна я зрабіў, адважыўшыся пайсці да яго. Не ведаю, ці спраўлюся на новым месцы са сваімі абавязкамі, але перадумваць позна. Калі хочаш — давай замочым маю новую пасаду. А заадно і закладку дачнага дома. Дом замачыць абавязкова трэба, каб не парассыхаліся вуглы.

Жора крута павярнуўся, не кажучы ні слова, падаўся на свой пляц.

Паглядаючы яму ў спіну, Антон зразумеў, што Жора быў непрыемна ўражаны і ашаломлены. Увесь час, колькі яны ведаюць адзін аднаго, Жора нібы ўзвышаўся над ім, Антонам, сваімі гадамі, мудрасцю, вопытам. І ўсемагутным дзядзькам, якога ў Антона не было. Жору цешыла самалюбства, калі Антон радзіўся з ім, прыслухоўваўся да яго і бачыў у ім чалавека, які здольны вырашаць тое, што ён часам не мог вырашыць і нават не ведаў як гэта зрабіць. Хіба ж Антон мог адкрыць сваё выданне, быць паспяховым прыватным выдаўцом?.. Для гэтага трэба мець сякі-такі капітал, рашучасць, у рэшце рэшт… А ў Антона грошай няма, ды, мабыць, рашучасці — таксама. А Жора адкрыў сваю справу, запрашае Атона ў свой прыватны творчы калектыў. Але Антон адмовіўся, і гэта нядобра ўразіла Жору, ён, мабыць, зразумеў, што недаацэньваў Антона.

Праз дзень пасля гэтай размовы з Жорам Антона выклікалі ў райвыканкам і ўручылі ордэр на чатырохпакаёвую кватэру. Ён нават не паверыў, што ўсё адбылося гэтак хутка і зусім нечакана для яго самога. Ён жа зусім мала працуе ў фірме. Мабыць, Сяргей цаніў яго, ведаў, што Антон — работнік шчыры, адданы, сумленны, яму пра адно і тое два разы гаварыць не трэба.

Сяргей яму нічога не казаў, але ж надта хутка Губернатараў сам асабіста знайшоў кааператыў, які ўжо здаваў гатовы дом, і ў якім была кватэра, ад якой нехта адмовіўся, забраўшы свае грошы. Сяргей тэрмінова пералічыў на рахунак кааператыва першую суму, сказаў Антону, каб той неадкладна прадаваў сваю двухпакаёўку і перасяляўся…

Неўзабаве Антон з жонкай выправіліся паглядзець на свае новыя вуглы. Гэта на далёкай гарадской ускраіне, побач з кальцавой дарогай: там за ёй поле, лес і цагляныя трубы ЦЭЦ…

— Не ў самым лепшым месцы будзем жыць, — з сумам прамовіў Антон, гледзячы Наталлі ў вочы: цікава, задаволена яна тым, што цяпер не давядзецца больш месціцца ў цеснай двухпакаёўцы?

— І тут жывуць людзі, — сказала жонка і дадала: — Пабойся Бога, мужанёк, сёння, каб палепшыць жыллёвыя ўмовы, трэба браць у банку пазыку пад працэнты, і будавацца, можа, не адзін год. Мы ж без усялякага клопату перасяляемся вунь у якія харомы.

— Усё правільна, але клопату з наваселлем хіба будзе менш? Трэба і перасяляцца, і хутчэй прадаваць нашу кватэру, каб унесці астатнюю суму за гэтую: не магу ж я падводзіць Сяргея.

Дом дваццаціпавярховы, Антонава кватэра на трэцім паверсе, вялікія вокны выходзяць на ўсход і на поўдзень, сантэхніка нікеляваная, імпартная, бліскучая пітка ў туалеце і ваннай. У кожным пакоі, у пярэдняй і на кухні светлыя, што заспакойваюць, шпалеры, паркет, праўда, яшчэ не цыкляваны, не пакрыты лакам. У пакоях дыхаецца так, быццам трапіў у малады сасновы бор… Ёсць дзве раскошныя лоджыі…

— Прывязаў Сяргей мяне да сябе гэтай кватэрай на векі вечныя, — сказаў Антон.

— Табе не падабаецца твая цяперашняя работа? — чамусьці з трывогай спытала Наталля.

— Нешта ж рабіць трэба, каб карміць сям'ю, ды каб ты, мая каханая жоначка, магла іншы раз справіць сабе абноўку.

Антон адчыніў дзверы лоджыі, падлога якой была выслана блакітнай пліткай. З лоджыі добра відаць поле, лес.

— Адно добра, што адсюль да дачы значна бліжэй, чым з нашай ранейшай кватэры, — зазначыў ён.

І калі ўжо вярталіся дадому, Антон раптам забедаваў:

— Трохі не ў час гэтае наваселле: з дачай яшчэ не разабраўся, а тут трэба ладзіць пераборы.

— Што ты за чалавек, Антон?! — у Наталлі быў цудоўны настрой і яна гэтага не хавала, яе вочы за шкельцамі акуляраў іскрыліся дабрынёй, шчасцем, любоўю. — У нас ужо дарослыя дзеці, і сын, і дачка будуць мець асобныя пакоі. Хіба гэта дрэнна? І твая маці, нарэшце, можа, пераедзе да нас.

Стаялі бясхмарныя, пагодлівыя дні. Сонца падымалася рана, у блізкім лесе чуліся птушыныя галасы, над жытнёвым полем кругам лятаў коршак. Ён то падымаўся ў вышыню, то раптам апускаўся нізка, затым каменем падаў у амаль даспелае жыта: мабыць, цікаваў за мышамі-палёўкамі.

Антон у такі час сядзеў на лавачцы, зробленай ім самім са струганай дошкі-саракоўкі, прывезенай на «масквічы» з Палесся. У калгасе, якім да нядаўняга кіраваў Уладзімір Аляксеевіч, ёсць піларама, на ёй крыжуюць-распілоўваюць на дошкі, брусы, гонту старыя і маладыя сасновыя, дубовыя, бярозавыя і асінавыя бярвенні. Піларама знаходзіцца непадалёку ад Прыпяці, ад таго месца, дзе стаіць дом паляўнічага, дзе пачынаецца сасновы бор, дубнякі і бярэзнік. Апошнім часам Антон бываў там некалькі разоў: карцела дазнацца, ці зрабіў тое, што задумаў Уладзімір Аляксеевіч. Антон знарок наведаў дом паляўнічага і сустрэў там сталага веку жанчын і мужчын, для якіх гэты будынак стаў, можа, іх апошнім прыстанішчам. Ён размаўляў з імі, цікавіўся, ці не сумна тут ім, бо ўсё ж дом гэты ў лесе, на бязлюддзі, але што старому чалавеку трэба? Каб быў спакой, цішыня, ды каб было цёпла ў халады, каб было што з'есці, каб раптам, калі занядужыць зусім, не застацца сам-насам. Усё гэта тут было, і Антон вырашыў: пра дом, у якім зараз жывуць ветэраны працы варта і напісаць, і зрабіць перадачу на тэлебачанні.

Адсюль Антон пакіраваўся да піларамы, што была недалёка. Пазнаёміўся з мужчынамі, якія працавалі там і папрасіў іх, каб яны выразалі колькі дошак-саракоўак на лаву на дачу і яму не адмовілі...

Ён сядзіць на лавачцы, жмурыцца ад сліпучага сонца, бачыць у небе над полем коршака, лес, што адразу за полем. Лес тут, як і на Палессі, стройны, спелы, гонкі. Час валіць яго і пускаць у справу. Але гэтага не робяць, мабыць, таму, што ён блізка ад вялікага горада. Лес вельмі патрэбны гараджаніну:

познім летам і восенню па ім блукаюць грыбнікі, ягаднікі, зімой лыжнікі, ды і ўвогуле ў любую пару года тут людна.

Антон любіў лес. Заўсёды, калі прыязджаў да маці, ішоў у Гаі, Вілкі, да Вялікага балота ў лесе, якому, здавалася, няма ні пачатку ні канца. Але Антон заўважаў, што лес за той час, пакуль ён вучыўся ва ўніверсітэце, служыў у арміі, працаваў у рэдакцыі, вельмі змяніўся і аббеганыя, сходжаныя ўздоўж і ўпоперак мясціны яшчэ ў дзяцінстве, цяпер цяжка было пазнаць. Аднойчы ён нават заблудзіўся, доўга не мог знайсці дарогу дахаты і не на жарт спалохаўся, бо бралася на вечар, у лес прыйшоў прыцемак. Як тады выбраўся, ён і зараз дакладна не ведае, але ўсё ж прыйшоў дадому ўжо цёмным часам…

Не толькі па грыбы і ягады ішоў Антон у лес, хадзіў у яго каб адпачыць, супакоіцца пасля гарадской мітусні, да ўсяго там спакойна думалася пра свае справы, пра жыццё наогул…У лесе ўспаміналася дзяцінства, успамінаўся той час, калі ён пасвіў кароў, як была іхняя чарга — у вёсцы тады статак пасвілі па чарзе. Ён хадзіў за статкам, невялікім, як і сама вёска, у два дзясяткі жывёлін, і, здаецца, не столькі глядзеў за каровамі, як назіраў за ўсім тым, чым жыве лес… І яшчэ: здаецца, што тады тут ён пастушкомпадлеткам набіраўся розуму і сілы, спрыту, а можа, і жыццёвай мудрасці, якія вельмі спатрэбіліся ў далейшым. Без таго лесу, без верасовых палян, без паху багуну, водару сасновага бору, мабыць, ён не стаў бы тым чалавекам, які зараз ёсць…

Будаўнікі падымаюцца ні свет ні зара і пачынаюць працаваць. Ужо добрая палавіна дома складзена. Антон усё непакоіўся, як гэта яны ўдвух будуць падымаць цяжкія бярвенні наверх… Дарма ён непакоіўся. У Міколы і Барыса дарослыя сыны, і яны, як і бацькі, будаўнічай работы не цураюцца. Яны таксама ўжо тут, разам з бацькамі. Чатыры пары рук — сіла! Антонаў дачны дом расце на вачах.

Словам, усё ў яго, Антона, складваецца так, што лепш і не прыдумаеш. Жыві сабе спакойна, працуй і чакай, калі будаўнікі накрыюць дах, прыб’юць вешку, скажуць, каб ён ставіў магарыч, падбіваў «бабкі» і расплачваўся.

Але спакою на душы не было, і Антон сам сябе не разумеў: з чаго б гэта? З якой прычыны на душы дыскамфорт, няўтульнасць?

Днямі да яго на работу завітаў Жора. Антон гэтаму не здзівіўся, бо што ні кажы, а яны як былі газетчыкамі, так імі і засталіся. Праўда, Антон ужо не ездзіць у камандзіроўкі. Ён забыўся пра маленькія і цесныя раённыя вакзалы, гасцініцы, паўстанкі. Забыўся пра спадарожныя машыны, на якіх дабіраўся ў калгасы, у аддаленыя ад вялікіх дарог вёскі і паселішчы, дзе сустракаўся з простымі людзьмі і з рознымі начальнікамі, у якіх браў інтэрв’ю, з якімі гаварыў пра гаспадарчыя справы, пра жыццё ў глыбінцы. Потым, вярнуўшыся ў рэдакцыю, клаў перад сабой блакнот — яго неразлучны камандзіровачны спадарожнік, згадваў сустрэчы, размовы з людзьмі і пісаў у чарговы ці бліжэйшы нумар газеты. Так, здавалася, будзе працягвацца да таго часу, пакуль ён не выправіцца на пенсію. Але не. Усё памянялася зусім нечакана ды неспадзявана. Цяпер ён намеснік генеральнага вядомай фірмы. У яго асобны кабінет, няхай і не раскошны, невялікі, у прыёмнай сакратарка… Клопатаў у Антона хоць адбаўляй...

Антон часам шкадаваў, што паддаўся на ўгаворы Сяргея і перайшоў з рэдакцыі дзяржаўнай газеты да яго на працу ў прыватную фірму. Бо тут клопату ў яго менш не стала, хутчэй наадварот. Але было і суцяшэнне: тут у яго зарплата намнога большая, чым у газеце, ды яшчэ — прэміяльныя… Да

ўсяго — палепшыў жыллёвыя ўмовы... Дый пісаць ён не перастаў, друкуецца і ў газетах, і ў часопісах. Але ўжо не толькі з газетнымі карэспандэнцыямі, артыкуламі, нарысамі, а з больш сур'ёзнымі, якія можна назваць сапраўднай публіцыстыкай, літаратурай…

Убачыўшы Жору, падумаў: што ж таго прывяло да яго?..

Пачаў Жора з таго, што крыўдзіўся на лёс. У яго адзіны дарослы жанаты сын. Сын працаваў на адным замежным радыё, зарабляў нядрэнна, заўсёды прыязджаў да бацькі на дачу на чорным, дагледжаным, не зусім новым, але і не надта старым «мерседэсе». Пры выпадку Жора не забываў пахваліцца тым, што яго сын — не апошні чалавек на гэтым свеце…

— Мы з табою, Антон, былі столькі гадоў чорнарабочыя друку, а чаго дамагліся? — Жора гаварыў так, як звычайна гаварыў на рэдакцыйных лятучках. На першы погляд, быў, здавалася, прынцыповы і бескампрамісны ў сваіх развагах, ацэнках, у стаўленні да жыцця. — Ты вось намеснік генеральнага дырэктара вядомага прыватнага прадпрыемства, а ездзіш на дабітым «масквічы».

Антон хацеў запярэчыць Жору, што каму-каму, а яму прыбядняцца не трэба… Маўляў, і дача ў цябе назавідкі, і ў прыватныя выдаўцы падаўся, канечне, маеш выгаду. Выдаеш кніжкі, буклеты, праспекты, даведнікі, дэтэктывы — тое, што не залежваецца на паліцах кнігарань і прыносіць, вядома, прыбытак, але па вялікім рахунку не з'яўляецца той літаратурай, якая «жывіць» чалавечую душу.

Але не сказаў, толькі зазначыў:

— Не ўсё на гэтым свеце вымяраецца грашыма, Жора…

Жора паглядзеў на яго, быццам на дзівака, ці на ненармальнага, мовіў:

— Грошай, на жаль, пакуль не адмянілі. Без іх не пойдзеш ні ў магазін, ні на рынак. Чым іх болей у кішэні, тым лепш. Ці не так?

Канечне, аргументы ў Жоры як заўсёды жалезныя. Але хто, калі ўжо так, хацелася спытаць Антону, будзе выхоўваць маладое пакаленне, каб яно разумела, дзеля чаго нашы бацькі, дзяды і прадзеды клалі галовы ў час вайны?.. Хто раскажа гэтаму пакаленню і праз што, праз якія кнігі, як з руін і папялішчаў падымаліся гарады і сёлы, якой цаной даецца чалавеку кавалак хлеба?.. Ды і пра ўсё іншае, чым жылі і жывуць людзі?..

— У анкалогію паклалі майго сына, — з сумам у голасе паведаміў раптам Жора, быццам здагадаўшыся, аб чым маўкліва разважаў Антон. — Ужо і аперацыю зрабілі, назначылі курс хіміятэрапіі.

— Усе мы пад Богам ходзім, — уздыхнуў Антон. — Мо яшчэ ўсё будзе добра… Цяпер медыцына далёка пайшла. — Антон разумеў, што Жору трэба падтрымаць, супакоіць добрым словам. — Вунь адной маёй родзічцы зрабілі аперацыю ў анкалогіі гадоў пятнаццаць назад, жыве, нібы нічога не было.

На вачах у Жоры выступілі слёзы, але ён стрымаўся, пачаў гаварыць пра тое, дзеля чаго хутчэй за ўсё і прыйшоў:

— Хачу прапанаваць табе, Антон Дзям'янавіч, адну вельмі выгадную справу. Калі згодзішся, не пашкадуеш, павер мне…

Ах, вось яно што! Жора спадзяецца, што Антон, карыстаючыся сваім службовым становішчам, частку заказаў фірмы аддасць ягонаму прыватнаму выдавецтву.

— Сарамацішся толькі на гэтым сваім «масквічы», — нібы падводзіў рысу пад размовай Жора. — «Масквіч» — гэта не толькі ўчарашні, а пазаўчарашні дзень. Добрыя людзі даўно на імпартныя перасělі, «масквічы» ды «запарожцы» пад платамі іржавеюць як непатрэбны хлам.

Ну, і нахабнік гэты Жора!.. З’явіўся да яго ў службовы кабінет са сваімі шкурнымі прапановамі і балабоніць безупынку.

— Канечне, за кнігадрукаванне адказваю я, — як мага спакайней пачаў Антон, збіраючыся даць зразумець Жору, каб ён з такімі «ідэямі» звяртаўся да каго іншага, але толькі не да яго. — Але ў нас ёсць аддзел кнігавыданняў, ёсць начальнік гэтага аддзела — Валянціна Апанасаўна. Яна з супрацоўнікамі ўпраўлення плануе месячны, квартальны, гадавы план усяго, што мы павінны выпусціць сёлета. Я гэты план ухваляю або не, і потым мы ідзём раіцца да генеральнага.

Антон замоўк. Здаецца, даў зразумець Жору, што ягоны сённяшні візіт да Антона — дарэмныя спадзяванні.

Жора таксама маўчаў. Абводзіў позіркам Антонаў кабінет, думаў, мабыць, пра тое, што Антон і ў рэдакцыі газеты, і тут, на новым месцы, надта сумленны ды адданы свайму службоваму абавязку, але што ён мае за гэта, чаго асаблівага дамогся?

Развіталіся з халадком, і Антон адразу ж падаўся да начальніка аддзела кнігадрукавання. Гэта ў канцы доўгага, нешырокага, паўзмрочнага калідора, у якім лямпы дзённага асвятлення не выключаліся і днём, бо вокнаў тут усяго два — у адным баку калідора і ў другім.

Начальнік аддзела кнігадрукавання — жанчына перадпенсійнага ўзросту, фарбаваная бландзінка, з густам апранутая, усё, што на ёй — з іголачкі. Зімою яна апранае дарагое, раскошнае норкавае футра, імпартныя, на невысокім абцасе, карычневыя боты, калі прыходзіць на працу, скідае і абуваецца ў белыя бліскучыя туфлі. Усё сваё жыццё Валянціна Апанасаўна працавала ў дзяржаўных выдавецтвах. І таму наўрад ці ёсць на гэтым свеце яшчэ хоць адзін чалавек, які так тонка, глыбока і па-сапраўднаму разбіраецца ва ўсім, што датычыць выдавецкай дзейнасці. Як, якім чынам Сяргею ўдалося пераманіць яе ў фірму — невядома. Магчыма, Валянціну Апанасаўну прывяло сюды тое, што ёй хутка ісці на пенсію, а ў фірме заробкі непараўнальныя з тымі, якія былі на ранейшай рабоце: значыць, яна і пенсію атрымае немалую.

— Добры дзень, Валянціна Апанасаўна, — Антон увайшоў у прасторны, з высокім, шырокім акном кабінет і пазайздросціў Валянціне Апанасаўне — у яе службовыя апартаменты не тое, што ў яго, намесніка. Мабыць, запрашаючы Валянціну Апанасаўну, Сяргей не паскупіўся выдзеліць ёй адзін з лепшых кабінетаў, каб яна адчувала тут сябе камфортна, не пашкадавала, што перайшла на работу ў прыватнае прадпрыемства.

Валянціна Апанасаўна не здзівілася яго з’яўленню, бо Антон часцяком так вось робіць: выйдзе са свайго душнага кабінета на калідор, дзе паветра свяжэйшае, пройдзецца туды-сюды, нешта абдумвае, а то і завітае да каго з калег, каб абмеркаваць штосьці неадкладнае па рабоце ці проста па-чалавечы пагаварыць аб тым, што вярэдзіць, не дае спакою.

— Што там у нас з папераю? — зачыніўшы за сабою дзверы, спытаў Антон.

— Учора тры вагоны прыбыло з Кандапогі, — Валянціна Апанасаўна спакойная, ураўнаважаная, як і заўсёды: усё ў яе рабоце складна-ладна, ніякіх збояў-перабояў. — Пакуль у нас ніякага папяровага голаду. Адна бяда: даражэе папера.

— Цэны на ўсё, у тым ліку і на паперу, як з прывязі сарваліся, — падтрымаў Валянціну Апанасаўну Антон. — Як нам жыць-выжываць — невядома.

Прамовіўшы гэтыя словы, Антон раптам асекся, на якую хвіліну прымоўк, сеў у крэсла насупраць Валянціны Апанасаўны, цяжка ўздыхнуў і нібы

скінуў з сябе груз, які і прымусіў яго пакінуць свой кабінет, прымусіў прыйсці вось сюды, дзе ён цяпер.

— Сёння да мяне прыйшоў адзін былы калега па газеце і папрасіў, каб я паспрыяў яго прыватнаму выдавецтву, — не то паскардзіўся, не то паспрабаваў апраўдацца Антон.

Валянціна Апанасаўна слухала яго ўважліва, у куточках яе вуснаў блукала не то ўсмешка, не то ўхмылка, і Антон нават пашкадаваў, што адкрыўся: каму патрэбны яго прызнанні-перажыванні?..

— Гэты ваш калега сябар, якому вы хацелі б паспрыяць, хацелі б падтрымаць яго?

— Што вы! — непрытворна абурыўся Антон. — Нямала ён выпіў маёй крыві, калі мы разам працавалі ў адной газеце. Яго родны дзядзька раней сядзеў надта высока, і пляменнічак карыстаўся гэтым. Яго баяўся зачапіць нават галоўны рэдактар, не кажучы пра мяне. А што да мяне, дык мой былы калега, калі раптам у якім маім матэрыяле былі недакладнасці, на лятучках не даваў мне спуску…

— Цікава, вельмі цікава, — зазначыла Валянціна Апанасаўна. — І хапіла ж у чалавека сумлення прыйсці і прасіць. Хаця... Хіба такое не сустракаецца?

— Усё ўскладняецца яшчэ і тым, што мы — дачныя суседзі, — удакладніў Антон,— амаль кожны дзень бачымся, размаўляем. І вось што я заўважыў: змяніўся мой былы калега. Мабыць, крызіс часу і яго не абышоў, і яму таксама, як і многім, трэба неяк выжываць.

Антон ужо збіраўся пайсці ў свой кабінет, але Валянціна Апанасаўна, нібы між іншым, пацікавілася:

— Вы сёння ў Сяргея Фларыянавіча яшчэ не былі?

— На сёння, здаецца, у мяне да яго пытанняў няма.

Яна паглядзела на Антона выпрабавальным позіркам, і было зразумела: ёй трэба сказаць яму нешта вельмі важнае. Але што? Няясная трывога закралася ў Антонаву душу: нешта непрыемнае, непрадбачанае?

— Няўжо вы не ведаеце, што неўзабаве ў нас адбудзецца міжнародны кніжны кірмаш? Гэта, перш за ўсё, датычыць нас з вамі. Не было таго, каб мы мінулі хоць адзін кніжны кірмаш. Кніжныя кірмашы — нашы спадарожнікі, арыенціры ў моры кнігагандлю і без іх нам не абысціся ў любое надвор’е.

— Пра кірмаш ад вас першай пачуў. Але пры чым тут я? У мяне і без таго клопату вышэй галавы.

Валянціна Апанасаўна цяжка ўздыхнула:

— Думаеце, мне вельмі ахвота займацца гэтым? Але хто ў нас курыруе кнігадрукаванне? Ці не мы з вамі?..

— Вы хочаце сказаць...

— Вы — мой непасрэдны начальнік і не я вамі камандую. Ідзіце да дырэктара, можа, ён і пашкадуе вас, вызваліць ад кірмашовых клопатаў, але наўрад ці.

Сяргей, згледзеўшы яго ў дзвярах, прывітаўшыся за руку і прапанаваўшы садзіцца, быццам выдыхнуў з сябе:

— Пра воўка памоўка, а ён на парог.

— Што ж такое неадкладнае здарылася? — Антон ужо адчуваў, што скажа дырэктар, але сваю здагадку не выказваў: а раптам не аб тым ён думае?

Сяргей, дапытліва паглядаючы на яго, спытаў:

— Чым ты так заклапочаны?

— Ды завітаў сёння да мяне адзін калега. Мы з ім у адной газеце працавалі шмат год. Каб жа з чым добрым завітаў, а то просіць зрабіць тое, чаго я зрабіць не магу, ды і не маю права…

Антон змоўк.

— Што ж ён ад нас хоча?

— Каб мы частку сваіх заказаў на друкаваную прадукцыю аддалі яго прыватнаму выдавецтву.

Пачуўшы гэта, Сяргей устаў з крэсла, замоўк, пачаў хадзіць узад-уперад па кабінеце. Потым зноў сеў у крэсла, паглядзеў на Антона доўгім, немігаючым позіркам.

— Легкадумны чалавек гэты твой калега. Ён мяркуе, што ўсё да нас ідзе само па сабе. Трэба працаваць і працаваць, каб заняць у гэтым бізнесе тое месца, якое занялі мы. І быць вельмі разборлівымі ў выбары заказаў… Сам ведаеш — мы друкуем літаратуру, якая ўзвышае чалавека, абуджае ў ім высакароднае. Мы не разменваемся на ўсялякую брыдоту, хаця яе цяпер хапаюць спажыўцы, але, павер, так будзе толькі нейкі час: чытач запатрабуе сапраўднае… Ды і цяпер, як ты ведаеш, людзі купляюць вартае. Таму нас і заўважылі, запрашаюць на кніжныя кірмашы...

— Гэта я ведаю, — занерваваўся Антон. — Але не дзеля гэтага я прыйшоў да цябе. Валянціна Апанасаўна кажа... Мне цікава, чаму яна ведае пра кніжны кірмаш, а я не?..

— Мне й самому толькі сёння паведамілі пра яго. Нас запрасілі і сказалі, што пара рыхтавацца, бо часу да яго адкрыцця засталося мала. Валянціна Апанасаўна была ў мяне толькі што, і я ўвёў яе ў курс справы. Бяры ўзначальвай гэтую работу, падрыхтавацца да правядзення кірмашу трэба як след.

Заўважыўшы, што ў Антона ёсць да яго пытанні і тыя пытанні хутчэй за ўсё звязаныя з тым, аб чым толькі ён сказаў, дырэктар яшчэ дадаў:

— Толькі не думай, што тое, аб чым я гавару — пустое, зусім неабавязковае. Не і не. Кніжныя кірмашы нам вельмі патрэбны, яны вучаць, падказваюць, дзе мы памыляемся, а дзе маем рацыю, без іх мы, выдаўцы, як без рук. Я прайшоў ужо не праз адзін кірмаш, так што запрагайся і ты — цяпер твая чарга.

Сяргей заўсёды размаўляў з ім так, быццам ён не непасрэдны Антонаў начальнік, а проста таварыш. І калі даручаў яму якую справу, дык быццам прасіў, а не загадваў, зрабіць як мага хутчэй і як трэба, каб не было да чаго прыдрацца да іхняй работы правяраючаму любога рангу.

Ішоў сёння да дырэктара Антон з цвёрдым намерам адбіцца ад непасрэднага ўдзелу ў падрыхтоўцы да кірмашу, але пагаварыў па-чалавечы з Сяргеем, выслухаў яго, выказаўся сам і зразумеў: хто ж яшчэ, калі не ён, адказны за паліграфічную прадукцыю, зоймецца падрыхтоўкай да кірмашу? Канечне, тут клопату хопіць усім: і дырэктару, і аддзелам, але болей за ўсіх яму ды Валянціне Апанасаўне.

Восень выдалася сонечная, цёплая, без нудных зацяжных дажджоў, ранняга холаду. Кожную раніцу да Антонавага дома падкочваў светла-шэры службовы «форд», Антон адчыняў дзверцу, садзіўся на пярэдняе сядзенне, вітаўся з шафёрам — дзецюком гадоў трыццаці пяці, з густам апранутым, пад гальштукам, з пышнай русай шавялюрай, акуратна зачасанай назад, з пранізлівымі, вострымі, уважлівымі, з хітраватым прыжмурам, вачыма. Раней на работу ў рэдакцыю газеты Антон заўсёды дабіраўся грамадскім транспартам, дарма што ў рэдакцыі была службовая машына. Але ёю карыстаўся ў асноў-

ным галоўны рэдактар. Хіба што калі выпуск нумара затрымліваўся да глыбокай ночы, тады тых, хто дзяжурыў па нумары, развозілі на ёй. А тут ён кожны дзень дабіраецца на працу на службовым легкавіку: і ў дырэктара, і ў яго, Антона, імпартныя службовыя легкавікі — не новыя, але яшчэ даволі моцныя, на іх ездзіць ды ездзіць. Ёсць у фірме і свой грузавік, бо часта трэба забіраць з друкарні выпушчаную кнігу, а з базы завезці ў тую ж друкарню паперу...

— Куды? — перш за ўсё пытаўся шафёр.

— Вядома куды — на выстаўку, — цяжка ўздыхнуўшы, адказваў Антон і пазіраў то ў адзін бок, то ў другі, бачыў, што пейзаж каля ягонага дома мяняецца ўвачавідкі. Здаецца ж, яшчэ зусім нядаўна тут былі наварочаны будаўнікамі горы жоўтага пяску, як не на кожным кроку валяліся кавалкі рубероіду, шыферу, кручанага-перакручанага дроту, шклаваты, паддоны з-пад цэглы... А цяпер куды ні глянь — газонная трава, на клумбах чырванеюць ружы, зелянеюць маладыя клёны, бярозкі, арабіны, паўз гэтыя дрэўцы бягуць выкладзеныя тратуарнай пліткай сцежкі-дарожкі, каля іх — блакітныя лавачкі са спінкамі. А з таго боку, дзе ЦЭЦ, разлінаваная белымі палосамі аўтастаянка для асабістых легкавікоў. Аўтастаянка даволі немалая, але свабодных месцаў няма. На ёй паставіў свайго «масквіча» і Антон. Сярод «мерседэсаў», «аўдзі», «рэно», «пежо» «масквіч» і сапраўды выглядае рарытэтам, і Канстанцін, шафёр яго службовага «форда», не-не, ды і не ўпусціць, каб не падкалоць Антона:

— Не баіцеся вы на яго садзіцца? Днішча ў вашым «масквічы», мабыць, наскрозь прагніло. Прадайце мне за якіх долараў сто, я перабяру яго, дзе трэба падвару, дзе падлатаю... У мяне родзіч у вёсцы, яму б на вашым аўто вазіць на рынак бульбу было б сама раз.

Антон разумеў, што рана ці позна расставацца з «масквічом» давядзецца, бо яму паўтара дзясятка гадоў, сваё ён адслужыў, пара памяняць на штонебудзь іншае, можа, нават і на іншамарку. Але Антон прывык да яго, можа, калі якая непаладка, і сам паправіць, падрамантуе, не трэба траціць грошай на рамонт. Дый цікавая гэтая работа, мужчынская, яе Антон рабіў заўсёды з інтарэсам і ахвотай. І заўсёды выпраўляўся ў далёкую ці блізкую дарогу без боязі: не было выпадку, каб «масквіч» у дарозе псаваўся.

— У цябе, Канстанцін, губа не дура: бач, чаго яму хочацца — «масквіча» за сто долараў. Ды я на ім гайсаю на Палессе за лета не адзін раз і гора не знаю, — пасля нядоўгага роздуму адказаў Антон.

— У вас няма за што прыдбаць хоць патрыманую іншамарку? Не паверу. Каб у намесніка генеральнага дырэктара... Хіба ў вас маленькая зарплата?

— Адкуль у мяне лішнія грошы? Я ж дачу яшчэ не скончыў. А пераезд на новую кватэру хіба...

Нейкі момант шафёр маўчыць, раздумвае, а пасля кажа:

— Узялі б крэдыт у банку. Каму-каму, а вам крэдыту дадуць столькі, колькі папросіце.

— Чаму ты так думаеш?

За размовай Антон і не заўважыў, што яны ўжо ў цэнтры, едуць па галоўным праспекце сталіцы, над якім на палотнах-расцяжках рэклама аб тым, што ў самыя бліжэйшыя дні адкрываецца Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш.

Падруліўшы да доўгага выставачнага павільёна, шафёр пытае:

— Вас чакаць? Ці ў гараж выпраўляцца?

— Пачакай. Я гляну, што і як там у нашых павільёнах, ці гатовы мы да адкрыцця кірмашу, затым пад’едзем у Саюз мастакоў, каб падпісаць з маста-

камі дагавор. За рэкламу, якую зрабілі мастакі для нашых павільёнаў, трэба заплаціць, а без дагавора...

У час, калі праходзіў кірмаш, Антон знікаў з дому як мага раней і з’яўляўся, калі дзеці ўжо спалі. Жонка ж заўсёды чакала, пачуўшы яго крокі на лесвічнай пляцоўцы, адчыняла ўваходныя дзверы, выгляд яе быў стамлёны, роспачна казала:

— Знайшоў жа ты сабе работу…

— За ўсё, Ната, трэба плаціць. Сваімі нервамі, часам, цярпеннем. Я вымушаны рабіць тое, да чаго не заўсёды ляжыць душа, з чым часам мне цяжка пагадзіцца, але нічога не зробіш, такое жыццё.

Зняўшы з сябе белы доўгі плашч, пінжак і скінуўшы з ног туфлі, Антон садзіўся ў зале ў крэсла, абводзіў доўгім позіркам сцены, падлогу, столь, услухоўваўся ў цішыню, што ўсталявалася ў кватэры, згадваў сённяшні дзень, што прайшоў у сустрэчах, у выступленнях на прэс-канферэнцыі там, у выставачным павільёне, дзе разгорнута выстаўка-кірмаш, дзе ад самага ранку шматлюдна, дзе ў прасторнай, агромністай зале, падзеленай на асобныя блокі, секцыі месцяцца на стэлажах кнігі на розных мовах свету, у розных пераплётах, з інтрыгуючымі, а часам і крыклівымі назвамі. Нейкі час Антон быў свабодны ад надакучлівых гасцей, ад вымушаных размоў і пытанняў да яго ад наведвальнікаў, ад тых, хто прыехаў здалёку і зблізку і з кім ён паспеў пазнаёміцца. Ён блукаў па выстаўцы, браў у рукі які дарагі, з каляровымі фотаздымкамі фаліянт, гартаў яго, узіраўся ў застылыя людскія твары, у памятныя мясціны краіны, аб якой расказвала кніга-альбом, і думаў пра тое, што дзеля ўдзелу ў кірмашы і ён, і Валянціна Апанасаўна, дый не толькі яны, зрабілі нямала. І недарэмна.

Раздумваючы так, ён не адразу заўважыў, як да яго наблізіўся Жора, а калі заўважыў, той чамусьці быў хмурны, павітаўся за руку, сказаў:

— Кірмаш, Антон, удаўся на ўсе сто. Прызнацца, я шкадую, што адмовіўся ад удзелу ў ім. Можа, тое-сёе прадаў бы, а то на маім складзе...

— Канечне, дарэмна, — адказаў яму Антон. — Ты ж — прагматычны чалавек. А тут прагадаў.

Калі Антон шчыра прапаноўваў яму прыняць удзел у кірмашы са сваімі выданнямі, то Жора адразу замаркоціўся: «Які сэнс ад гэтага?..» А цяпер…

Яны разам абышлі ледзь не ўсю выстаўку, спыняліся ля стэлажоў, бачылі, што людзі ўсё ж набывалі нешта, а штосьці, патрымаўшы ў руках, клалі назад на паліцу: дорага...

Жора ўвесь час маўчаў. Ён, мабыць, у глыбіні душы ўжо і раскайваўся, што некалі адкрыў сваё прыватнае выдавецтва, думаў стаць багацеем, а яно вось як усё павярнулася...

— Ты пахадзі, пагамані з гандлярамі з Расіі, можа, яны і возьмуць штонебудзь з тваіх выданняў, — параіў яму Антон. — Мы з многімі з іх заключылі дамовы: расійскі рынак не тое, што наш, ён вельмі вялікі.

…Антон усё яшчэ сядзіць у крэсле, успамінае ўсё тое, што адбывалася сёння: складаная, нялёгкая ў яго праца… Заняты сваім, ён нават не заўважыў, што Наталля пакінула яго аднаго, пайшла на кухню разаграваць вячэру, а разагрэўшы, ціха, каб не разбудзіць дзяцей, паклікала:

— Прашу да стала, згаладаўся, мабыць. Дзіва што: з самага ранку на нагах, не прысеўшы.

Ён падняўся, увайшоў на кухню, згледзеў заклапочаную жонку, наблізіўся да яе, пяшчотна прыхінуў да сябе, ласкава прамовіў:

— Дзякуй, Ната, дзякуй за ўсё, ты ў мяне такая харошая, ты — незамянімая, і я ўдзячны лёсу, што ён звёў нас. Але я не галодны. Сёння — перадапошні дзень работы выстаўкі, і ў рэстаране быў баль-маскарад... А што? Хіба мы не маем права? Такую работу правярнулі...

Рашэнне звольніцца Антон прыняў нечакана і для самога сябе, і для іншых.

Здавалася б — якога яшчэ ражна яму трэба? На рабоце быццам усё ладзілася. У яго вельмі добры заробак, Антона паважаюць… І калі ён паклаў Сяргею заяву на стол, той прачытаў, паглядзеў на яго як на вар'ята:

— Табе тут дрэнна? Надта ўвярэдзіўся, пакрыўджаны зарплатай?

— Не, ну што ты, Сяргей, гаворыш?

— Тады што здарылася?.. Я цябе не разумею, патлумач, калі ласка.

Антон прадчуваў, што Сяргей так проста яго не адпусціць, а таму адказ на ўсе яго ўгаворы быў падрыхтаваны.

— Абрыдла мне ўсё гэта, асабліва кіраваць. Я — газетчык, падзёншчык радка. Усё сваё жыццё дагэтуль гарбаціўся на газету, а цяпер перастройвайся, ламай самога сябе. Перайшоўшы да цябе на работу, я спадзяваўся, што тут будзе цікавей ды спакайней, чым у газеце. Дзе там! А я ўжо не маладзён, на схіле гадоў хочацца больш спакойнага хлеба.

— На схіле? — перапыніў яго Сяргей. — Табе да пенсіі яшчэ араць ды араць, а ты ўжо нюні распусціў.

— Не так і багата, Сяргей, таму я і хачу вярнуцца да таго, што добра ўмею і да чаго ляжыць душа.

Выказваўся Антон быццам і шчыра, але не да канца. Калі па праўдзе, то ён звыкся са сваёй новай работай, спраўляўся з ёй. Але яму раптам захацелася быць незалежным ад усіх і ўсяго, захацелася самастойнасці, захацелася працаваць толькі на сябе, а не на каго іншага. Ён і сам сябе не разумеў да канца, падаючы Сяргею заяву аб звальненні, але чамусьці быў упэўнены: робіць тое, чаго хочацца душы.

Памаўчалі. Пакуль маўчалі Антон прыкідваў, яшчэ і яшчэ раз задумваўся — ці правільна ён робіць, ці не паспяшаўся з гэтай сваёй заявай аб звальненні? Бо тут, мабыць, той выпадак, калі сем разоў трэба адмераць, а адзін раз адрэзаць. І сам сабе адказваў: не, усё правільна. Вядома, на ранейшай рабоце было клопатна. Але ж ён прызвычаіўся да яе. Любіў і любіць работу журналіста. Два з паловай дзясяткі гадоў аддаў ён газеце. Канешне, часам было вельмі няпроста, клопатна. Тут, здаецца, трохі спакайней, але не ляжыць душа… Так, тут ён атрымаў чатырохпакаёвую кватэру і цяпер нават адчуваў нейкую сваю віну перад Сяргеем — падводзіць колішняга сябра, дзякуючы якому яе займеў, але што зробіш…

— Не ведаю, як і чым загладзіць сваю віну перад табой, — быццам апраўдваючыся, загаварыў Антон. — Ты мяне прыняў як чалавека, паспрыяў, каб у мяне была добрая кватэра...

— Кватэру ты заслужыў, — перапыніў яго Сяргей. — Ды і частка грошай, за якія яна куплена, твае… Ну што ж, лепшыя гады жыцця ты аддаў газеце, а што такое газета, я таксама ведаю. Сам у раёнцы пасля ўніверсітэта ў аддзеле пісьмаў капцеў не адзін год.

Антон пазіраў на Сяргея і зайздросціў яму: работы ў таго заўсёды цераз край, але ён упэўнены ў сабе, у заўтрашнім дні. Не, і ў яго бываюць моманты, дні, калі ён разгублены, усхваляваны ад нейкай няўдачы, не ведае, што рабіць і ў які бок кіравацца... Але гэта працягваецца нядоўга, Сяргей умее настроіць і сябе, і супрацоўнікаў на аптымістычны лад. Умее нязмушана прымусіць

думаць, праяўляць ініцыятыву, шукаць выйсце, калі цяжка… Зусім нечакана лёс звёў Антона і Сяргея ў студэнцкую пару. Цэлы год яны жылі нават у адным інтэрнацкім пакоі. Абодва з вёскі, і бацькі аднаму і другому прысылалі пасылкамі гасцінцы — дамашнюю, пальцам піханую, каўбаску, духмянае, смачнае сала з кубельца, яечкі... У той час, калі яны вучыліся ва ўніверсітэце, яшчэ не зажылі раны апошняй вайны, не ўсе яшчэ перабраліся з халодных, сырых зямлянак у наспех скіданыя мясцовымі цеслямі сасновыя будыніны з пасланай падлогай, з падшытай столлю ды цёплай печчу. Голад пакінуў яшчэ не ўсе селішчы і хаты, і тыя пасылкі ад бацькоў для іх, вечна галодных студэнтаў, былі як манна нябесная. Абодва «грызлі» навуку, як галодны грызе сухар, бо вельмі ж хацелася выбіцца ў людзі, стаць на свае ногі моцна, упэўнена.

«Можа, і пашкадую, што так раблю... Але выстаўка-кірмаш выматала апошнія нервы, я забыўся пра тое, каб нешта напісаць сваё ды надрукаваць, а душа цягнецца да пяра, ёсць задумкі, а часу, каб іх выкласці на паперу, нестае... Замест таго, каб нешта напісаць, ледзь не кожны дзень прымаю гандляроў, якія апошнім часам скардзяцца, як і Жора, што на складах пачала збірацца друкаваная прадукцыя, і што рабіць, каб сітуацыя памянялася, невядома... Дужа спадзяваліся, што выратуе выстаўка-кірмаш. Канечне, дагаворы з Расіяй, з выдаўцамі іншых дзяржаў трохі змякчылі напружанне, але ці надоўга, а дзе сапраўднае выйсце, ніхто не ведае...»

Думкі ўзнікалі, блыталіся, пазбаўлялі спакою, не давалі яснасці, і ён не ведаў, як сябе паводзіць у гэтай даволі шчымлівай сітуацыі.

Няёмкую паўзу парушыў Сяргей:

— Дазволь усё ж даведацца — чым, калі я падпішу тваю заяву, будзеш займацца?

— Буду выпускаць які-небудзь часопіс. Такі, каб быў патрэбны сям'і.

— Ну, калі так... Вольнаму воля. Але мая табе парада — не спяшайся, астынь, як след узваж усе «за» і «супраць». Сёння прыватных выдаўцоў касой касі і далёка не ўсе прыбытковыя. Ты ўзяў пазыку ў банку? Узяў. Ужо і патраціць паспеў на дачу, набыў патрыманую іншамарку. З банкам не пажартуеш — трэба акуратна штомесяц выплачваць і працэнты, і доўг. А на новым месцы...

— Не, Сяргей, я не перадумаю. Падпісвай заяву і скончым гэтую размову. За ўсё добрае я табе шчыра ўдзячны, ты падтрымаў мяне ў гэтакі няўстойлівы час, хіба такое забываецца?

## Частка 2

Ад Сяргея Антон падаўся да Валянціны Апанасаўны. Трэба было сказаць ёй аб сваім рашэнні.

Яна якраз была на месцы, размаўляла па тэлефоне.

На шырокім падаконніку яе кабінета — вазоны: слёзкі, альяс, пальмы, кактус... А ў куце, што бліжэй да акна, у драўляным цэбрыку разросся фікус. Адны расліны цвілі бледна-ружовымі, чырвонымі кветкамі, іншыя зелянелі буйным, дробным лісцем, ствараючы атмасферу ўтульнасці, цеплыні і спакою. Валянціна Апанасаўна сама мяняе зямлю ў вазонах, штодня палівае, даглядае кабінетны кветнік з дбайнасцю прыроджанага батаніка.

«Гэтыя кветкі супакойваюць яе, падымаюць настрой, не расхалоджваюць думкі, даюць магчымасць засяродзіца, сканцэнтравацца на галоўным у працы, на тым, што не церпіць адкладу, — міжволі падумалася Антону. — У яе рабоце няма спешкі, мітусні, сваёй работай яна задаволена, бо каб інакш…»

Яно і сапраўды так. Валянціна Апанасаўна, мабыць, не адчувала той трывогі, якая валодала Антонам апошнія дні. Гэтая трывога быццам трымала яго ў нейкіх халодных абцугах, на давала свабодна ўздыхнуць, не дазваляла прыгледзецца да жыцця, да таго, што турбавала людзей, займала іх дні… У яе рабочым кабінеце з невысокай сценкай-шафай для кніг, часопісаў, дакументаў, са сталом, на якім акуратна раскладзены фірменныя бланкі, аддрукаваныя на камп’ютары лісты, адрасаваныя тым арганізацыям і фірмам, з якімі працавалі — усё акуратна, чыста. Здаецца, пасада Валянціны Апанасаўны бесклапотная. Але гэта не так, Антон ведаў: клопатная, ды яшчэ якая. Зноў падумалася, можа, дарэмна ён звальняецца?.. Яшчэ невядома, як што будзе, калі зоймецца сваёй справай…

Пакуль Валянціна Апанасаўна размаўляла па тэлефоне, ён наблізіўся да высокага, з адкрытымі жалюзі, акна, з вышыні трэцяга паверха ўбачыў шырокую, з раздзяляльнай паласой, вуліцу. Па ёй імчалі ў абодвух напрамках легкавікі, якіх апошнім часам усё больш і больш. Па тратуарах хадзілі людзі, здаецца, спакойныя, упэўненыя ў сабе, у тым, што робяць.

Антон пазайздросціў ім…

Офіс фірмы стаяў недалёка ад інтэрната, у якім ён некалі жыў разам з Сяргеем у адным пакоі. Інтэрнат не так даўно разбурылі, а на яго месцы пачалі ўзводзіць нейкі гмах — можа, які супермаркет ці гасцініцу. Раней, заўсёды праязджаючы міма інтэрната, Антон успамінаў студэнцкую пару, гады, праведзеныя ў яго сценах, сустрэчы-спатканні з дзяўчатамі-студэнткамі, у якіх быў закаханы... У інтэрнаце ён і сустрэў Наталлю. Там ён аднойчы прызнаўся ёй у каханні... А неўзабаве пасля таго яны сталі мужам і жонкай...

Гэтыя ўспаміны дарагія, незабыўныя, будзілі светлыя думкі, ад якіх на душы рабілася хораша, лёгка... І вось інтэрнат разбурылі, Антон аб гэтым шкадаваў, перажываў, быццам страціў штосьці вельмі блізкае, роднае…

Валянціна Апанасаўна скончыла размову па тэлефоне, запрасіла садзіцца, спытала:

— Які настрой у намесніка генеральнага дырэктара? Я гляджу, што нашы справы…

— Мяне гэта болей не хвалюе. Я толькі ад Губернатарава, ён падпісаў маю заяву. Па ўласным жаданні я пакідаю сваю пасаду.

Валянціна Апанасаўна, мабыць, адразу не паверыла пачутаму. Але сур’ёзны Антонаў выгляд сведчыў, што ён не жартуе. Гэтая яго сур’ёзнасць, мабыць, збіла яе з панталыку. Але ненадоўга, праз нейкае імгненне яна ўжо авалодала сабой, спакойна спытала:

— Якая ж, прабачце, прычына такой вашай безразважнасці?

Ён пазіраў то на яе, то ў акно, то на кветкі і не ведаў, з чаго пачаць, як, якімі словамі выказаць тое, што было ў яго ў галаве і што прымусіла адважыцца, як сказала Валянціна Апанасаўна, на гэтую безразважанасць.

Яна зноў запрасіла садзіцца яго ў крэсла, бо ён усё яшчэ стаяў каля акна, ад нервовага перанапружання яго як не пачала біць ліхаманка. На хвіліну яна прымоўкла, мабыць, не магла адразу знайсці словы, якія трэба сказаць яму, каб зразумеў, што спешка са звальненнем — грубая памылка, аб якой ён потым пашкадуе.

— Вы, мабыць, стаміліся, — нарэшце спакойна сказала яна. — Гэтая выстаўка-кірмаш, кнігавыдавецкія нелады выматалі і мяне. Але на ўсё трэба глядзець цвяроза, без панікі і разгубленасці.

Яна ўстала, наблізілася да вазонаў на падаконніку, пагладзіла рукой лісце слёзак, альяса, злёгку дакранулася пальцамі да калючага кактуса.

— Зразумейце, Антон Дзям’янавіч... — яна павярнулася тварам да Антона, і ён убачыў у яе вачах трывогу, якая, мабыць, авалодала ёю з таго моманту, калі ён сказаў ёй аб сваім рашэнні звольніцца. — Мне з вамі працавалася добра, і я вельмі пашкадую, калі не буду бачыць вас. Вядома, ваша месца зойме іншы чалавек — свята месца пуста не бывае, але... Да вас намеснікам генеральнага быў іншы чалавек. Са сваімі абавязкамі ён як быццам і спраўляўся, але іншы раз яму нехапала часу ва ўсё ўнікнуць, здараліся, мякка кажучы, непаладкі, і мне з Сяргеем Фларыянавічам даводзілася спешна нешта выпраўляць, а гэта не проста: фірма ж вялікая, аб’ёмы ў нас самі ведаеце якія…

Яна не дагаварыла, змоўкла, чакаючы, што ён скажа.

— Не прыжыўся, на жаль, я тут, — сказаў ён. — Тут я — кабінетны работнік, іншы раз ад папер галаву падняць не магу. Паперы, тэлефонныя званкі, заключэнне дагавораў, арганізацыя выставак, прэс-канферэнцыі... А я — творчы чалавек, я звекаваў у газеце, прывык да свабоды, да роздумаў... Не, Валянціна Апанасаўна, што ні кажыце, а чыноўнік з мяне дрэнны, мая душа просіцца на волю.

— У вас растуць дарослыя дзеці,— ціхім, даверлівым голасам сказала яна. — Без вашай падтрымкі ім не абысціся, і калі вы застанецеся на сваёй пасадзе...

Ён зразумеў яе думку. Зразумеў і рашуча не пагадзіўся:

— Мне ніхто ніколі і ні ў чым не дапамагаў. Я заўсёды і ўсюды прабіваўся сам. Няхай і дзеці таксама. Яны, дарэчы, у мяне не пустагаловыя, спадзяюся, што сваё месца ў жыцці знойдуць. Як і ўсякі бацька, я клапачуся аб іх, і буду заўсёды дапамагаць ім, але разумна. Ведаю, усё, што даецца лёгка, не сваім потам і мазалём, не цэніцца, а тое, што прыходзіць праз цяжкасці, баішся страціць, яно беражэцца.

Яна, мабыць, канчаткова пераканалася, што Антон сваё рашэнне не пераменіць. І напаследак нібы папрасіла:

— Не забывайце нас. Прыходзьце, калі будзе вольная хвіліна, каб пагаварыць па-сяброўску, па-чалавечы. Не так многа ў мяне знаёмых, з якімі можна пагаварыць пра тое, ад чаго бывае балюча і млосна.

— Вядома, буду заходзіць, а як жа інакш? Можа, узнікне якая закавыка з выданнем часопіса, то прыйду да вас на кансультацыю — у выдавецкай справе лепшага кансультанта, чым вы, напэўна, не знайсці.

На дачы ён адыходзіў душою ад усяго, што ў горадзе вярэдзіла з дня ў дзень, не адпускала ні на хвіліну, напружвала думкі, патрабавала вырашэння.

Ён садзіўся на шырокую, пафарбаваную ў зялёны колер, лавачку ў двары ля хлеўчука, у якім цяпер захоўваўся розны садова-агародны інвентар, а таксама веласіпед, на якім сын і дачка, калі прыязджалі сюды, каталіся па ўтравелых вуліцах Лысай гары, пазіраў на свой дачны дом, любаваўся ім, як чалавек можа любавацца тым, ад чаго падымаецца настрой, затым аглядаў наваколле… Недалёка ад дач было поле. За ім — лес. Антон бачыў яго, здаецца, спрадвечны, высокі, густы, яшчэ не чапаны чалавекам. На полі там-сям раслі вялізныя, векавыя дубы. Думаў: як добра, што я ўзяў гэты пляц і пабудаваўся тут… Паступова, налюбаваўшыся навакольным краявідам, пераводзіў позірк на свой участак. Ён ужо добра апрацаваны. Наталля шчыруе на зямлі кожную свабодную хвіліну. На градах яна пасадзіла цыбулю, часнок, моркву, капусту, таматы, кроп. З градаў патыхала водарам кропу. Антон удыхаў яго жыватворныя пахі, а таксама пахі травы, блізкіх поля і лесу і яму здавалася, што ён не на дачы, а ў сябе дома, на Палессі.

Насупраць, на сваім агародзе, корпаўся Жора. Гаспадарлівы ён чалавек. Працуючы з ім у адной рэдакцыі, Антон думаў, што ён — скончаны лайдак. Ажно не, на сваіх дачных сотках ён увіхаецца, не прысядаючы. На яго агародзе ўсё расце-буяе на зайздрасць: клубніцы, садовыя суніцы, парэчкі, у цяпліцах на шнурках-падвязках вісяць агуркі, таматы, перцы. Усім, хто хацеў, далі яшчэ па дзве соткі на калгасным полі, што за агароджай-сеткай, Антон адмовіўся ад іх, а Жора не і на тых сотках садзіць бульбу.

Няшчасны чалавек Жора. Меў адзінага сына, выгадаваў, паставіў на ногі, уладкаваў на работу, здавалася б, жыві ды радуйся. Але ж не, невылечная хвароба скасіла Жоравага сына, звяла ў магілу. Нядаўна яго пахавалі, і Жора замкнуўся ў сабе, стаў негаваркім, мала калі ўступае ў размову з Антонам…

Жора, калі пачуў, што Антон самахоць пакінуў пасаду намесніка генеральнага дырэктара вядомай фірмы, мабыць, не адразу паверыў гэтаму: як так?.. Пасада ж, грошы, ды яшчэ якія. Нават спытаў у Антона, ці праўда. Калі той адказаў, што праўда, вельмі здзівіўся: чаму?..

— Не па мне аказалася работа, — адказаў Антон. — Не даспадобы… Цяпер я, Жора, як і ты — сам сабе гаспадар, выпускаю свой часопіс і ніколькі не шкадую — зарабляю нармальна, галава надта не баліць, прыбытак ёсць, маё выданне запатрабаванае. Але калі ўспомню, як усё пачыналася... Каб не твая падтрымка...

Антон напамінаў Жору, што не забывае яго дабрыню: у цяжкі час пазычыў грошы…

— Хіба ж мы не свае людзі, не суседзі? — Жору, вядома, прыемна было чуць, што Антон прызнаецца: без яго ён загінуў бы, бо звольніўшыся ад Сяргея, як кажуць, адной нагой ужо стаяў на краі бездані...

Спатольваючы сваё самазадавальненне, Жора не зводзіў вачэй з Антона: ці не крывіць ён душою, ці сапраўды ўдзячны яму за тое, што ў цяжкую хвіліну знайшоў падтрымку не недзе збоку, а ад яго, ад таго, каго не надта любіў і хваліў? Не, быццам усё, што тады сказаў Антон, ішло з глыбіні душы, ад чыстага сэрца.

— Гэта добра, што ты адкрыў свой часопіс, — пахваліў яго Жора, але тут жа і адчытаў: — Але мне здаецца, што ты яшчэ не раз пашкадуеш, што самахоць пакінуў такое грашовае месца... Думаю, што ў фірме ты не дужа перапрацаваўся.

Чаму ён так думае, Жора тлумачыць не стаў. Сам ён па-ранейшаму ўзначальваў прыватнае выдавецтва, выпускаў сваю газету. Ён дужа схуднеў, высах у трэску і бесперастанку курыў: сынава смерць падкасіла яго і заставалася толькі здзіўляцца, чаму ён не кідае сваю прадпрымальніцкую дзейнасць? Хіба нельга знайсці работу больш спакойную, без рызыкі і перажыванняў, бо гэтая прыватная выдавецкая дзейнасць увесь час трымае ў напружанні, думай-гадай, як завабіць да сябе пераборлівага чытача.

— Калі так, то чаму ты не пакідаеш гэты свой занятак? — пытаўся Антон. — Корпайся на агародзе, вырошчвай агуркі, таматы, адпачывай сабе на здароўе, дык не, сам сябе пазбаўляеш спакою. Прабач, вядома, гэта не мая справа, але, думаю, грошы ў цябе ёсць… Адпачнеш, а там знойдзеш нейкую іншую справу.

Жора маўчаў. Антон думаў, мабыць, у рабоце ён забываецца пра сябе, пра тое, што пахаваў дарослага сына. Праз нейкі час Жора пытаўся ў Антона, як жывецца яму, як сям’я, дзеці, а таксама — ці не расчараваўся ён, стаўшы прыватным выдаўцом…

Антон адказваў, што ўсё ладам…

— Хоць у адным ты не прамахнуўся. Я, прызнацца, і сам збіраўся выдаваць нешта падобнае, але ты мяне апярэдзіў…

Адзіны чалавек, хто зразумеў Антона, хто маральна падтрымаў яго, калі ён звольніўся з фірмы, была жонка… Антон ніколі не казаў ёй, адкуль браліся грошы на дачу, на імпартнае, хоць і патрыманае аўто, на бязбеднае па тым часе жыццё. Мабыць, ведала, што зароблены яны сумленна. Хаця праз нейкі час, калі грошай стала не хапаць, як Антон адкрыў свой часопіс, замаркоцілася: як жыць далей… Трэба было тэрмінова плаціць за рэгістрацыю выдання падаткі, аплачваць арэнду памяшкання, ды ці мала за што… Да ўсяго ён яшчэ не выплаціў банку крэдыт.

Антон зноў звярнуўся ў банк, зноў папрасіў крэдыт, але яму адмовілі: нагадалі, што час разлічвацца за ранейшую пазыку, бо калі ён парушыць умовы дагавору, не ўнясе своечасова чарговую аплату, то яму налічаць пеню, а ў горшым выпадку могуць апісаць маёмасць і пусціць апісанае з малатка. Сітуацыя тады склалася — горш і не прыдумаеш. Ад роспачы і адчаю ён пазваніў Валянціне Апанасаўне, прасіў парады.

«Вы ж хацелі вольнага хлеба, хацелі быць незалежным, — адчытвала яна Антона. — Дрэнна было вам у нас? Ад дабра дабра не шукаюць... Эх вы, Антон Дзям’янавіч! Я ўяўляла, што вы чалавек цвёрдай закваскі, а вы, ледзь што не так, давай панікаваць. Рынак слабых не любіць. Вы хочаце ўсё і адразу. Каб дзіця вырасла, трэба час».

Яго размову з Валянцінай Апанасаўнай міжволі падслухала жонка. Яна прыняла блізка да сэрца тое, што ў мужа вялікія непаладкі на новай рабоце.

— Як жа цяпер жыць будзем? — спытала яна тады не то ў яго, не то ў сябе. — Якая ў мяне зарплата, хіба яе хопіць на пражыццё?

Мабыць, упершыню за ўвесь час, што яны разам, Наталля засумнявалася ў ім, у яго здольнасці выблытацца з непрадбачанай няпростай сітуацыі.

— Можа, прадай гэтую сваю іншамарку? — раптам прапанавала яна. — Тысяч пяць долараў дадуць за яе — хопіць, каб разлічыцца з пратэрмінаванымі плацяжамі, а там...

Ён таксама думаў аб гэтым, але як, маючы дачу, заставацца без свайго легкавіка?

— Можа й так, — не ўтойваючы сваёй разгубленасці, прамовіў Антон. — Але ў мяне ёсць яшчэ адзін ход...

Які гэта ход, ён не стаў гаварыць жонцы, а ў той жа дзень памчаўся на сваёй іншамарцы на дачу. Паставіў аўто і хутчэй да Жоры:

— Выручай, дарагі сусед, я трапіў у такую брыдкую сітуацыю... Банк, калі тэрмінова не ўнясу праплату за пазыку, грозіцца апісаць маёмасць.

Жора, мабыць, адразу не паверыў, што Антон трапіў у цяжкую сітуацыю, з якой не ведаў як выбрацца. Напэўна, падумаў, што той жартуе. Пільна паглядзеў на Антона. Той быў разгублены, ад гэтага і ад хвалявання голас яго дрыжэў. Яшчэ б: Антон баяўся, што Жора адмовіць, не дапаможа яму, бо сам жа не надта калі ішоў таму насустрач… Як вунь з той жа просьбай перадаць частку заказаў фірмы яму, Жору. А цяпер… А цяпер атрымліваецца, Антон просіць дапамогі. Выходзіць, ёсць магчымасць расквітацца…

— Адкуль ты ўзяў, што ў мяне грошай куры не клююць? — здзекліва спытаў Жора. — Ці ж не казаў табе я неяк, што сам у даўгах як у шаўках?

«Не дасць. Пакрыўджаны ён на мяне. Але хіба я крывіў душою, адмаўляючы яму перадаць заказы фірмы?.. Не меў я права распараджацца імі, як сваімі ўласнымі».

— Калі б я нічога не ведаў, то і не звяртаўся б да цябе... Хто табе параіў заключыць дагаворы з расіянамі? Ці не я? І ты паслухаўся мяне... Я ведаю,

што ты адправіў у Расію тое-сёе са сваёй прадукцыі. І выручку, мабыць, меў не слабую. Так што не прыбядняйся. Не хочаш выручыць, то так і скажы.

Жора на нейкі момант задумаўся, не ведаючы, што ж яму рабіць: пікантная выходзіць сітуацыя. І выручыць не шкодзіла б Антона, бо ці мала што яшчэ будзе, і з грашыма, што даюцца сягоння нялёгка, не хочацца расставацца: калі ён яшчэ іх верне...

— Добра, ёсць у мяне трохі ў загашніку долараў, я іх табе аддам, выручу, але чым і калі будзеш вяртаць доўг?

Пра гэта Антон падумаў, адказ на Жорава пытанне быў гатовы.

— Як ты думаеш — колькі каштуе мая дача? Горшыя за маю прадаюць за дваццаць, трыццаць тысяч зялёных, а за маю...

Довад быў бездакорны, і гэта Жору пераканала.

— Пішы распіску. Укажы серыю і нумар пашпарта, кім і калі выдадзены...

— Не хвалюйся, Жора, я пры першым жа зручным выпадку вярну з працэнтамі.

— Не трэба мне твае працэнты, ты лепш думай, як выблытацца з гэтай дурацкай сітуацыі.

Мабыць, Жора адчуваў, што справа, за якую ўзяўся Антон — бяспройгрышная. Інакш не пазычыў бы тады яму долары... За колькі месяцаў тыраж часопіса, які выдаваў Антон, настолькі вырас, што на ягоны рахунак грошы пасыпаліся, ды яшчэ якія!.. Было чым плаціць за друкарню, за паперу, работнікам, якіх у штаце было пяцёра. Дый з даўгамі, з пазыкай зноў памалу пачаў разлічвацца. Сваім поспехам ён не забыў падзяліцца з Валянцінай Апанасаўнай, і яна парадавалася за яго:

— Я ж казала — не спяшайцеся з вывадамі. Паспяшыш — людзей насмяшыш, і не то жартуючы, не то сур’ёзна дадала: — Мне хутка на пенсію, то мо і для мяне ў вашым штаце знойдзецца месца? У фірме, здаецца мне, пенсіянерку, не стануць трымаць.

— З вашым вопытам у кнігавыданні вас запросіць любы прыватны выдавец, — шчыра казаў Антон тое, што і думаў. — Прыходзьце, зарплатай я вас не пакрыўджу, а работы ў маёй рэдакцыі — непачаты край. Я толькі адчуў грунт пад нагамі, працаваць хочацца і задумак у мяне шмат... Але Губернатараў наўрад ці адпусціць — без вас яму будзе цяжка.

Цяпер, бываючы на дачы і сустракаючыся з Жорам, Антон дзеліцца з ім сваімі задумкамі, дарма што Жора — канкурэнт, але тое, што ён выручыў яго ў нялёгкі час, яшчэ больш зблізіла іх, зрабіла калі не сябрамі, то тымі людзьмі, якія давяраюць адзін аднаму. Антон нават пачаў забывацца пра непаразуменні, якія ўзнікалі між імі раней. Вось толькі жонка ўсё чагосьці баіцца, ёй здаецца, што Антонавы поспехі на новай рабоце часовыя. Хто ведае, як складзецца далей: рынак — такое вынаходніцтва, што ніхто не ўпэўнены ў заўтрашнім дні…

Антон думаў, што цяпер, калі дача даведзена да ладу, яго не так як раней будзе цягнуць дадому, на Палессе. Ёсць куды падзецца ад спякоты, ад гарадской духаты ўлетку, калі награецца паветра, плавіцца асфальт і цяжка дыхаць... Але ўсё ж ён не мог без таго, каб у свабодны час не з’ездзіць да маці, не пагаварыць з ёю, не сустрэцца з Уладзімірам Аляксеевічам. Тым больш, што цяпер ён, Антон, сам сабе гаспадар.

І зараз, калі ехаў туды, дзе нарадзіўся і вырас, зразумеў, што зрабіў вельмі правільна, развітаўшыся з чужой яму фірмай. Канечне, ён усё ж падвёў Сяргея, не апраўдаў яго даверу. Мабыць, Сяргей не сумняваўся, што Антон, атры-

маўшы новую кватэру, будзе працаваць у фірме, пакуль яна будзе існаваць. Але ж хіба Антон мала для яе зрабіў?..

Працуючы там, ён пастаянна адчуваў, што ад некага залежыць, і гэта гняло. Цяпер ён свабодны. Ён піша і для свайго часопіса, і для іншых выданняў: у яго вялікі журналісцкі вопыт і шмат жыццёвых уражанняў, якімі хоча падзяліцца з людзьмі. У фірме для гэтага ў яго не было часу… Зараз ён нават падумвае пра тое, ці не напісаць кнігу. Хай нарысаў пра добрых людзей, якіх ведаў і ведае, але пра якіх яшчэ не пісаў, хай прозы… А што…

У яго жыцці ніколі нічога не было простым. Здаецца, што б ён ні рабіў, заўсёды адчуваў мяжу, рубеж, дайшоўшы да якога, трэба было спыніцца, азірнуцца, прааналізаваць дасягнутае, каб затым рашуча зазірнуць наперад і вырашыць, як быць далей. Правільна гэта было ці не — паказваў час. Найчасцей — правільна… Але ад прыроды ў ім, мабыць, ёсць нейкі ўнутраны стрыжань, а таксама ў душы жыве нейкі ўнутраны голас, які кіруе ім, падказвае, што і як рабіць у той або іншай сітуацыі…

Маці яго не чакала, і, калі ўбачыла, уся ажно засвяцілася, затым ціхенька заплакала, сказала:

— Добра зрабіў, сынок, што прыехаў. Я ж зусім нездаляшчая стала, з калодзежа вады не магу прынесці, у печы выпаліць мне ўжо цяжка.

Маці ходзіць ужо з кавенькаю, яе хістае з боку на бок. Праўда, яна яшчэ добра чуе і бачыць, але размова ў яе нейкая запаволеная, словы яна прамаўляе ціха, амаль шэптам, і Антон не заўсёды разумее, што яна хоча сказаць.

— Перабірайся, маці, да мяне, — з болем, настойліва сказаў ёй Антон, — што табе даліся гэтыя катухі? У мяне будзеш у цяпле, у спакоі. У мяне цяпер кватэра чатырохпакаёвая, месца ўсім хапае, і табе знойдзецца куточак. Дый дача не абы-якая, летаваць будзеш на дачы, на свежым паветры.

Колькі разоў да гэтага, калі ён казаў маці, каб перабіралася да яго, яна аднеквалася, выдумляла розныя прычыны, каб Антон і думаць забыўся пра тое, што яна згодзіцца пакінуць сваё селішча. Маці ўсё спадзявалася, што не сёння-заўтра яе малодшы сынок, яе любімы Слава, вернецца дадому, застанецца каля яе, каб яна магла спакойна дажываць свае гады…

— Маіць, сынок, трэ паслухацца цябе, бо як прыйдзе зіма... З парога я ўжо не вартая сысці, калі снегу накідае. А трэба ж і ў печы выпаліць, і дроў з павеці прынесці...

Супакоіўшыся, маці паказала Антону пісьмо ад Славы, у якім ён паведамляў, што ўжо на свабодзе, уладкаваўся на вартую, грашавітую работу, ажаніўся, будуе каапетатыўную кватэру для сваёй сям'і ў доме з усімі выгодамі ў невялікім таёжным гарадку.

— Спакайней мне трохі цяперака, бо ў Славы ўсё больш-менш ладзіцца, — сказала маці, трымаючы ў руках ліст ад Славы, які толькі што прачытаў Антон. — Але я баюся за яго... Ён жа такі бядовы ды неасцярожны, неабачлівы — зноў звяжацца з якой-небудзь нядобрай кумпаніяй, яму зноў захочацца мець вялікія грошы. Дзе вялікія грошы — там нядобрае, там да бяды рукой падаць.

Пачуўшы гэта, Антон міжволі скалануўся. Чаму маці так думае? Мабыць, сялянская логіка: сумленнай працай, сваім мазалём вялікія грошы не зарабіць, але чужога нам усё адно не трэба…

Антон раптам сказаў маці, што ён ужо на іншай рабоце — сам сабе начальнік, яму цяпер лепш, чым было раней — вальней і больш спакойна.

Ён гаварыў, але не дагаворваў, што давялося перажыць яму перад гэтым. Навошта яе трывожыць?.. Ёй і так хапае клопату: Слава. Ды ўвогуле, усяго

ёй хапіла за яе гаротнае жыццё... Першы муж, Антонаў бацька, не вярнуўся з вайны… Другі, таксама вельмі добры чалавек, дачасна сканаў… Адна паднімала дваіх дзяцей, думала, хоць яны будуць радаваць. Але ж — не, адзін, можа, і радуе, а другі ў астрозе…

— Вось і добра, маці, што ты, нарэшце, згадзілася перабрацца да мяне, — сказаў Антон. — Іншага я ад цябе і не чакаў.

Яны сядзелі на драўлянай са спінкай канапе, якую некалі зрабіў айчым. Амаль уся хатняя мэбля: канапы, стол, табурэткі, паліца для посуду, хлеба, гладышак, макотрыкаў для сырадою, тварагу — айчымава ручная работа. Мэбля дабротная, ладная, выштукаваная, выструганая, як мае быць.

Антон раптам устаў, прайшоўся з пярэдняй у залу, расчыніў акно, з якога відны грады, на якіх буялі буракі, вымахаў, выспеў кроп, цвіў жоўтым цветам агурэчнік, над якім кружыліся пчолы.

«Шкада з усім гэтам расставацца. І яшчэ як шкада!.. Гэтыя грады, гэтая хата з яе вечным спакоем, з печчу, з гэтымі вось вокнамі на вясковую вуліцу, у двор, у сад... Усё гэта па сённяшні дзень сніцца мне там, у горадзе, адкуль заўсёды я лячу сюды быццам на крылах, ажываю і з душы ападае чэрствасць, і я гляджу на свет вачыма добрага, спагадлівага чалавека».

Ён зачыніў акно, вярнуўся ў пярэднюю да маці.

— Што ж рабіць з сядзібаю… — сказаў ён, затым спытаў не то ў сябе, не то ў маці: — Прадаваць? Але каму наша селішча надта трэба?

— Чаму? — не пагадзілася маці. — Ад райцэнтра гэта блізка, то людзі купяць, толькі дай аб’яву. Тут шмат хто папрадаваў свае селішчы райцэнтраўцам пад дачы.

— За бясцэнак, вядома, купяць. Але ж у нас хата як звон, шкада за бясцэнак аддаваць.

— Ой, сынок, рашай сам. Раней я ўвесь час думала, што Слава вернецца дадому, а цяперака...

Спяшацца не было куды, бо чарговы нумар яго цяперашняга выдання амаль гатовы. Вярнуўшыся ў Мінск, трэба будзе здаць у друкарню набраны на камп’ютары і пераведзены на дыскету тэкст, фотаздымкі, каб друкавалі тыраж і адпраўлялі падпісчыкам. Дзень-другі можна затрымацца, прайсціся па лесе, дзе ўжо, напэўна, з’явіліся першыя грыбы, дзе Антон заўсёды спакайнеў, згадваў дзяцінства, сяброў, суседзяў, з якімі і каля якіх рос, гадаваўся, сталеў. Ён іх ніколі не забываў, сумаваў, што мала з імі бачыцца, што не чуе іхніх галасоў, забывае твары, паходкі, не помніць, хто з кім ажаніўся, колькі ў каго дзяцей, хто пабудаваўся, а хто бавіць гады ў старой, з’едзенай шашалем хатцы, бо падводзіць здароўе, а без яго як брацца за будоўлю? Каб пабудавацца, паставіць сабе новую хату, здароўе трэба мець… Дый Уладзіміра Аляксеевіча таксама даўно не бачыў. Ён, мабыць, яшчэ не ведае, што Антон пайшоў на вольны хлеб. Цікава — як ён успрыме гэтую навіну? Уладзімір Аляксеевіч быццам і раіў яму ісці з рэдакцыі ў акцыянернае таварыства, але на душы ў яго, адчуваў Антон, было зусім іншае. Мабыць, ён не быў упэўнены, што Антон пакіне рэдакцыю газеты, у якой у яго ўсё больш-менш ладзілася. А цяпер? Вельмі цікава, што скажа Уладзімір Аляксеевіч цяпер, калі дазнаецца, што Антон пакінуў фірму...

Уладзімір Аляксеевіч, калі Антон працаваў у фірме, часта званіў яму, прасіў, каб ён дапамог «выбіць» для гаспадаркі, што-небудзь дэфіцытнае. Мабыць, уяўляў, што Антон усемагутны, бо да гэтага працаваў у рэспубліканскай газеце. Відаць, лічыў, што хоць і перайшоў на іншую работу, але не страціў сувязей з высокімі чыноўнікамі.

Не ўсе просьбы Уладзіміра Аляксеевіча мог выканаць Антон, бо не такая ўжо вялікая шышка — намеснік генеральнага дырэктара, але што мог, тое рабіў. Калі не сам, то падключаў Сяргея, бо ў таго магчымасцей было значна больш. Просьбы ў гаспадарніка Уладзіміра Аляксеевіча вядома якія: трэба колькі грузавікоў ці зернявы камбайн, касілкі, элітнае насенне бульбы, рапсу, ды ці мала што… І ўсё гэта звыш ліміту, бо ліміты такія, што ўсяго заўсёды не хапае...

Усё гэта ўспомніў Антон дома. Пахадзіў па двары, затым сказаў маці, што пойдзе ў лес, узяў вялікі кашэль і пакіраваўся ў канец агарода. Там спыніўся, пастаяў каля грушы-дзічкі, падзівіўся, якая яна высокая, ладная, стройная, а некалі ж, у дзяцінстве, памятаў яе дубчыкам… Ніхто яе не садзіў — яна вырасла сама па сабе, перажыла марозы, слату і вот цяпер красуецца, цешыць Антонава вока, нагадвае час ягонага маленства...

Задумлівы, засяроджаны ў сабе, у тым, што адбылося за апошнія дні, Антон падаўся ў бок Астровак. У Астроўках ці не самыя лепшыя баравіны. І лес там як нідзе: бук, граб, ясакары, арабіны, таўшчэнныя клёны, з якіх вяскоўцы па вясне спускаюць сок. Як і бярозавік, кляновы сок салодкі, смачны — вып’еш конаўку і смагі як і не было. І птахі спяваюць у Астроўках так, што міжволі спынішся і слухаеш, слухаеш...

Баравікоў яшчэ не было, а лісічак, сыраежак, падасінавікаў, абабак рэж, колькі ўлезе, балазе ў Астроўках мясціны нізінныя, цяністыя ды вільготныя, а грыбам гэта і трэба — каб болей туману, цяпла і вільгаці.

Каля Мулёраў прыпыніўся, пастаяў — згадваў. Мулёрамі назвалі ўзгорыстую мясціну — удзірванелую, густа параслую травой-мурагом. Калісьці Антон са сваімі равеснікамі, ледзь толькі выпадзе першы снег, бралі санкі-самацюжкі і спяшалі сюды, каб падняцца на пагорак і з’ехаць уніз. Санкі імчалі з гары так, што перахоплівала дых, кружылася галава. Спыняліся самацюжкі каля лазовых карчоў, ля балацявіны. У той час, калі браўся першы лёгкі марозец, балацявіну скоўваў тонкі, празрысты, як шкло, лядок. Праз яго добра было відаць, як бяжыць, струменіцца вада ў бок Вялікага балота, дзе летам скідвалі стагі… Зімой там была санная дарога, па якой калгасныя ездавыя вывозілі сена да калгаснага сенасховішча...

Па першым тонкім лёдзе каталіся на самакатах тыя, хто быў старэйшы за Антона гады на тры-чатыры. Самакаты — самаробныя прыстасаванні з дошкай-сядзеннем, са спінкай, з канько-рулём спераду і двумаканькамі ззаду. Канькі — абструганыя драўляныя капылы, знізу іх, каб лепш слізгалі, прымацаваны тоўсты, з палец-мезенец, дрот. У руках у самакатчыкаў — кароткія драўляныя кійкі, у канцы якіх убіты цвік, каб можна было адпіхвацца ад лёду. Самакатчыкі — народ строгі і суровы. Колькі Антон ні прасіў, каб далі пракатацца, то не вельмі давалі. А калі іншы раз і давалі, то толькі тады, калі ён украдзе ў айчыма крышанага самасаду і аддасць ім. Гэтыя хлопцы хоць і наведвалі школу, але ўжо курылі.

Антон заўсёды зайздросна пазіраў, як самакатчыкі лёгка слізгалі па тонкім лёдзе, спрытна мінаючы аснежаныя купіны, лазовыя карчы і думаў, што як толькі крыху падрасце, то абавязкова змайструе сабе самакат і па першым лёдзе прыйдзе сюды… Лёд будзе патрэскваць пад яго самакатам, Антон будзе баяцца, каб не праваліцца ў сцюдзёную, пякучую зімовую ваду, але пераадолее гэты страх: яго самакат будзе імчаць па лёдзе так, што ажно вецер засвішча ў вушах. А тыя самакатчыкі, якія не давалі яму пракатацца на сваіх самакатах, не змогуць яго дагнаць на сваіх старых непаваротлівых прыстасаваннях: тады ён пагардліва паглядзіць на ягоных крыўдзіцеляў, як пераможца.

Самакат зрабіў яму айчым. Ды не абы-які, а лёгенькі, гонкі, можа, самы лепшы з тых, што калі-небудзь бачыла замёрзлая балацявіна. Але гэтага яму не маглі даравaць старэйшыя самакатчыкі, якім ён не раз краў у айчыма самасад. Яны нібы выпадкова наехалі на яго самакат, паламалі, і Антон доўга плакаў ім на суцеху…

Здаецца, учора ўсё гэта было, але ўжо ні Мулёраў, ні балацявіны: на Палессі правялі меліярацыю… І сяброў Антонавых колішніх след згубіўся. Хто дзе... Адны ў райцэнтры, другія яшчэ далей. А вёска мізарнее, цішэе, зарастае быльнягом. Дый сам ён вунь дзе — у сталіцы. Вось і маці забірае, і іхняе селішча апусцее, зачахне…

З гэткімі невясёлымі думкамі ён і накіраваўся да Вялікага балота, дзе ў дзяцінстве, калі выпадала іхняя чарга, пасвіў кароў, і дзе разам з айчымам касіў сена.

Ад Мулёраў да Вялікага балота — можа якіх кіламетра паўтара. Дарога туды адна — па дубняку, міма зараснікаў арэшніку, старога асінніку, амаль выразанага на плашкі, з якіх вяскоўцы спакон веку рэзалі дошчачку-гонту. У час вайны немцы спалілі вёску датла за яе сувязь з партызанамі, і тым, хто застаўся жывы, давялося на папялішчы ўзводзіць хаціну, дах якой накрывалі асінавай стружкай-гонтай. Гэта цяпер крыюць дах, калі будуюцца, чырвонай чарапіцай, шыферам, ацынкаванай бляхай, а адразу пасля вайны, калі Антон падымаўся на ногі — не. Жылі ўсе бедна, і Антонава маці — таксама. У яе яшчэ доўга не высыхалі слёзы пасля таго, як яна атрымала ліст з ваенкамата, у якім паведамлялася, што ягоны бацька Мурашка Дзям’ян Пракопавіч загінуў на полі бою і пахаваны ў брацкай магіле на чужыне, на Одэры... Хата, якую паставіў айчым і ў якой вырас Антон, накрыта асінавай гонтай: лес побач, асіны ў ім хапала…

Тагачасная дарога да Вялікага балота — раз’езджаны калёсамі, трактарамі, грузавікамі, разбіты гразкі прасёлак, густа парослы па баках і пасярэдзіне крапівой, дзікім драсёнам, хвашчом.

Заўсёды, калі ішоў на пакос, Антон прыпыняўся каля арэшніку, бачыў шустрых рыжых вавёрак, якія скакалі па галінах, мабыць, правяралі, ці паспелі арэхі. Моцна пахла балотнай травою, лазою, ажыннікам, баравікамі — усім тым, чым багаты лес, хмызы, карчэўе, што акружалі Вялікае балота з усіх бакоў.

Вялікае балота мо таму і назвалі Вялікім, што яму — ні канца ні краю…

Аднойчы, прыгнаўшы сюды статак на пашу, Антон уладкаваўся ямчэй пад сваім стогам, які айчым абгарадзіў жэрдкамі, каб не скублі ласі і дзікія козы. Затым зняў з плеч торбу з салам, варанымі яйкамі, бутэлькай малака, акрайцам духмянага хлеба, які спякла маці, вырашыў папалуднаваць. Статак пасвіўся на маладзенькай атаве, а Антон уплятаў хлеб, сала, яйкі, запіваў усё гэта малаком. Апетыт на свежым паветры, каля духмянага стога такі, што ажно за вушамі трашчыць.

Пад’еўшы, не заўважыў, як задрамаў. Яшчэ б: з самага ранку на нагах, нахадзіўся, набегаўся за каровамі, яны так і цаляюць, каб адбіцца ў азіміну — поле яе не так далёка адсюль…

Праз сон ён чуў, што статак забрыў у крушыннік. Ягады крушыны паспелі, галлё ад іх ломіцца, а каровы дужа падкія да іх. Чуў таксама, як самотна курлыкаў жураўліны вырай, мабыць, кіруючыся на поўдзень…

Вялікае балота журавы аблюбавалі невядома з якіх часоў. Тут не толькі добрыя выпасы, але ёсць і ціхія, запаведныя куточкі. На іх ў шлюбны перыяд гэтыя птушкі ладзяць свае непаўторныя танцы. Тут яны вучаць лятаць птушанят, адсюль вядуць іх у далёкія чужыя краі, а потым вяртаюцца назад…

Можа з гадзіну драмаў Антон пад стогам. Калі ж прачнуўся, то не ўбачыў ніводнай каровы — статак разбрыўся. Антон спалохаўся, кінуўся збіраць яго ў гурт.

Збіраў па адной карове, выганяў на чыстае, раз-пораз пералічваў і ўсё не мог далічыцца адной каровы. Гэта цёткі Матруны Красуля адбілася ад статку, забрыла недзе так далёка, што колькі Антон ні шукаў яе, колькі ні пагукваў — усё дарэмна. Красуля цёткі Матруны быццам скрозь зямлю праваліласа.

Гнаў статак дадому і сэрца заходзілася: што цяпер будзе? Ох, і ўсыплюць яму маці з айчымам! Хіба няма за што? Уклаўся пад стогам, заснуў, забыўшыся пра ўсё на свеце.

Але маці з айчымам, дазнаўшыся, што ён згубіў карову цёткі Матруны, адразу нават не паверылі гэтаму, а потым маці сказала: «Як жа гэта так, сынок? Маіць, заснуў дзе пад стогам, а статак пакінуў без нагляду?» — «Не-а, я й сам не знаю, як гэта здарылася. Не засынаў я, вачэй не зводзіў са статку, толькі на жураўлёў трохі загледзеўся, сягоння ўвесь дзень яны ляцелі клін за клінам на поўдзень», — зманіў Антон, баючыся прызнацца нават самому сабе, што даў такога маху, ад якога дабра мала.

Усю ноч і ўвесь наступны дзень ці не ўсёй вёскай шукалі Красулю цёткі Матруны. Знайшлі непадалёку ад Вялікага балота, на востраве, дзе крушыннiку гэтакія зараснікі, што свету белага не відно. Ваўкі яе там уклалі. Засталіся галава, аб’едзеныя косці. Ох, і гаравала ж цётка Матруна! Плакала так, як плачуць па чалавеку. Удава, муж з вайны не вярнуўся, жыла яна ў цеснай хацінцы з сасновых кругляшоў з трыма маленькімі акенцамі разам з дачкой-падлеткам. Красуля карміла і паіла іх. І як цяпер жыць? І без таго нішчымніца даймала, бо што апроч бульбы да малака знала цётка Матруна з дачкой?..

— Будзеш, сынок, кожны дзень насіць цётцы Матруне па гладышачцы малака, — загадала маці Антону. — Ацеліцца наша Лыска і калі будзе цёлка, то трэба аддаць яе цётцы Матруне. А што ж — хіба не мы вінаватыя, што яна засталася без каровы?

— Ага, буду, — пагадзіўся Антон і ў душы праклінаў сябе, што заснуў пад стогам, занядбаўшы свае пастухоўскія абавязкі...

Калі гэта ўспомнілася, ён нібыта зноў пачуў курлыканне жураўлёў. Менавіта тых, якія ў час яго дзяцінства перад адлётам на поўдзень збіраліся ў вялікія чароды на Вялікім балоце і трывожна курлыкалі, быццам развітваліся з гэтымі мясцінамі, са сваёй радзімай назаўсёды, прадчуваючы, што з выраю вернецца не кожны.

Жураўлі, якіх ён у дзяцінстве бачыў і чуў на Вялікім балоце, сняцца, уяўляюцца яму і па сёння. Ён і зараз, праз столькі гадоў, узгадваючы гэтыя мясціны, уяўляе іх вялікія чароды, бачыць, як яны адзін за адным падымаюцца ў неба, выстройваюцца клінам і ляцяць на зімоўку ў невядомыя яму краі…

Тады, хлапчуком і падлеткам, пасля кожнага адлёту жураўлёў, ён з нецярпеннем чакаў іхняга вяртання. Ён прыходзіў на Вялікае балота тым часам, калі снег укрываў зямлю белым покрывам. Ён бачыў, якое самотнае балота без жураўлёў, без іх курлыкання, бачыў злеглыя, аснежаныя стагі, якіх з кожным днём станавілася ўсё менш і менш: іх забіралі калгаснікі, якія прыязджалі сюды на трактарах з доўгімі, шырокімі санямі-валакушамі, і самотна сціскалася яго маленькае чуйнае сэрца… Хацелася, каб хутчэй прыйшла вясна.

…Цётцы Матруне даў гадавалую цялушку калгас, якая праз два гады стала малочніцай, і Антон з палёгкай уздыхнуў, з душы спаў цяжар, які ён насіў у сабе з той пары, калі згубіў Красулю, і адчуванне віны не пакідала яго ні на адзін дзень…

Ужо збіраючыся ў Мінск, Антон нечакана для сябе вырашыў заехаць да царквы. Чамусьці захацелася яшчэ раз зірнуць на яе зблізку, зайсці ў яе і моўчкі памаліцца, падзякаваць Палессю, яго людзям за ўсё добрае, што яны далі яму, і тады, калі рос, і даюць цяпер, калі бывае тут.

Пра гэта ён сказаў маці: яна ехала з ім у сталіцу.

— То добра, сынок, — прамовіла яна. — Схадзі адзін. Я ўжо была ў царкве.

— Хачу паспавядацца. Перад сабой, перад табой, маці, перад Палессем, перад Богам. Хіба я не грэшны? Грашыў міжволі, браў грэх на душу, не задумваючыся. Ці не пара пакаяцца?

— Што ты, сын, такое гаворыш? — ціха сказала маці. — Пра які грэх ты здумляеш? То вунь Слава... Разбасячыўся ён, адбіўся ад рук, а ты... Ты ў мяне, сынок, святы. Я заўсягды табою ганарылася, я за цябе не перажывала, як за Славу, знала, што ты дрэннага не зробіш. Ты ў мяне галавасты, з розумам.

— Эх, маці, маці! Кажуць жа — у ціхім балоце чэрці водзяцца. Я і сам сябе часам не разумею. Не ўсё ты пра мяне, маці, ведаеш, дый не трэба табе ўсё ведаць. Але будзь спакойная. Мае грахі і Славаў крымінал — рэчы розныя.

Ён і сам пакуль добра не разумеў, за што яму трэба каяцца. Хіба за тое, што не заўсёды быў цвёрды ў думках, іншы раз паступаўся сумленнем дзеля нейкай выгады, часам баяўся гаварыць праўду там, дзе яе трэба было казаць, здаралася крыўдзіў людзей…

Але не гэта сказаў маці, а іншае:

— Да гэтага часу Бог мяне бярог, не адвярнуўся ад мяне, калі я рабіў нешта правільна, і калі памыляўся. Бог любіў мяне, я выбіўся ў людзі, але мая дарога да Храма парасла забыццём. І не трэба суцяшаць сябе, што нібыта ў гэтым вінаваты... Маўляў, час быў такі, нас выхоўвалі ў нелюбові да Бога, казалі, што яго няма. Так мы гэтаму верылі, і не толькі сам я вінаваты. І гэта грэх. Наш грэх, мой асабісты...

На нізкай перадачы падняўся на ўзвышак, на якім стаяла царква, спыніўся, выйшаў з машыны. Дзень быў сонечны, ціхі, і царква, асветленая яркімі праменнямі, свяцілася-зіхацела быццам вялікоднае яйка. Ад сасняку, што рос недалёка адсюль, пахла смолкамі, вільготным ветрыкам, што ішоў ад ракі, травамі і кветкамі, якімі парос царкоўны двор, берагі і паплавы ля блізкай адсюль Прыпяці.

Антон углядаўся ў хаты вакол царквы, у лугі і палі за вёскай, у Прыпяць, якая адсюль, з гары, здавалася вузенькай — яна вілася між невысокіх зялёных берагоў, знікаючы ў непраглядным мроіве летняга дня.

Углядаючыся ў наваколле, Антон бачыў: яно як дзве кроплі вады падобна на краявіды, што акружаюць яго вёску.

«Няўжо я гэтага ўсяго болей не пабачу ніколі? — пытаўся ён сам у сябе. — Раней сюды цягнула як магнітам, бо тут была маці, хата, а цяпер... Хату абавязкова трэба прадаваць, бо без догляду яна хутка згніе, спарахнее. На добры лад, няхай бы стаяла, а я не-не, ды і прыязджаў бы сюды. Было б дзе спыніцца, пераначаваць, каб потым паблукаць па грыбных мясцінах, ягадных валоках, наведацца да жураўлёў на Вялікім балоце. Але хіба я разарвуся? У Мінску кватэра, дача, работа, сям'я... Трэба даваць аб'яву і прадаваць селішча. Вялікіх грошай ніхто не дасць, але за якіх долараў паўтысячы купцы знойдуцца».

Дзверы ў царкву былі адчынены, і Антон пакіраваўся да іх, пераступіў парог і адразу аказаўся ў невялікім, з распяццем каля ўваходу, памяшканні. Дарма, што ранак, але летняе сонца зыркае, гарачае і таму на дварэ трохі душ-

навата, а тут, у царкве, прахалодна, дыхаецца лёгка, свабодна. Царква драўляная, з сасновага дзерава, у драўляным памяшканні заўсёды вольна дыхаецца і зімой, і летам.

Каля алтара Антон спыніўся, агледзеўся. Столі не было, усё тут імкнулася ўверх, да купалоў і далей, да таямнічай вышыні, да неба, да якога скіраваны чалавечыя думкі, позіркі, мроі, спадзяванні.

Цішыня, што акружыла Антона, спрыяла роздуму.

«Гожая цэркаўка, хоць і невялікая. І тым мясцовым жыхарам, хто верыць, добра: не трэба збірацца ў дарогу ў райцэнтр, дзе непадалёку ад гарадскога парку старадаўні праваслаўны сабор са званіцамі, з блакітнымі купаламі, залатымі крыжамі, якія бачны здалёку... Вера аднолькава цэпліцца і ў вялікім храме, і ў маленькай цэркаўцы. Без веры чалавек не чалавек. Некалі гэты самы чалавек разбурыў святыя храмы, вырашыў, што жыць можна і без іх. І чым усё скончылася?.. А тым, што цяпер ён раскайваецца за свае ранейшыя дзеянні, зноў узводзіць цэрквы, адкрывае новыя прыходы, шукае забытую дарогу да Бога».

Заняты такімі думкамі, Антон адразу і не заўважыў, як з-за алтара выйшаў святар. Ад яго крокаў ён страпянуўся, убачыў, што святар амаль побач. Гэта быў даволі малады чалавек, Антон даў бы яму гадоў трыццаць-трыццаць пяць, не болей. Дужа высокі, метры пад два ростам, прамы. На яго шырокім, з гладкімі шчокамі твары — ні следу здзіўлення: ён быццам чакаў, што нехта прыйдзе сёння раніцай да яго на споведзь і вось выйшаў насустрач. Святар — у сутане як не да самых пят, з-пад кусцістых броваў пазіралі на Антона пільныя, неабыякавыя вочы.

— Вы не з тутэйшых? Сваіх прыхаджан я добра ведаю, — сказаў святар, і Антон убачыў на яго твары і ў вачах спакой, даверлівасць.

— Чаму ж. Я з тутэйшых, але ўжо шмат гадоў жыву і працую ў Мінску. А тут у мяне маці. Я хоць і не часта, а наведваю яе. Дый і па рабоце бываю тут.

— Здагадваюся. Здаецца, я здагадваюся, хто вы. Мне пра вас расказваў Уладзімір Аляксеевіч.

Слова за слова — разгаварыліся. Святар — айцец Ігар. Ён служыць у гэтым прыходзе з таго часу, калі яго адчынілі. Ён і будаваў царкву: дабіваўся лесу, дошак, ліставога жалеза, аконнага шкла... Усяго таго, без чаго не выраслі б сцены царквы, не з’явіліся б тры купалы з крыжамі на іх. Дый каля алтара, на сценах — абразы з выявамі святых, каля ўваходу — распяцце. Усё гэта — вынікі клопату айца Ігара.

З размовы з ім Антон даведаўся, што да гэтага айцец Ігар працаваў інжынерам-канструктарам на машынабудаўнічым заводзе. Што ж прымусіла яго памяняць даволі запатрабаваную прафесію і прыняць сан свяшчэннаслужыцеля? Гэтае пытанне дужа займала Антона.

— Ведаеце, — пачаў Антон, — у мяне бываюць моманты, калі я, зрабіўшы тое, што не прымае душа, раскайваюся, злуюся на сябе за мяккацеласць, нерашучасць. Гэта рубеж, калі я мяняюся, не знаю, у які бок мяняюся, але адчуваю, што станаўлюся іншым, і мне хочацца хутчэй развітацца з думкамі аб тым, да чаго я ўвесь час імкнуўся, з чым былі звязаны спадзяванні на будучыню. Будучыня, — сказаў ён і на хвіліну задумаўся, затым працягваў: — Хіба яна залежыць ад нашых жаданняў? Хочацца аднаго, а жыццё прыбівае да берага, дзе горыч, расчараванне і ты бяжыш, уцякаеш ад самога сябе, ад рэчаіснасці, якая, здаецца, звязвае рукі і ногі... Яшчэ зусім нядаўна я працаваў намеснікам генеральнага дырэктара адной фірмы, якая даволі трывала стаіць на на нагах, але расстаўся са сваёй пасадай добраахвотна, я і сам не магу растлумачыць

сабе, чаму. Хаця мне здаецца таму, што раптам захацелася быць свабодным, незалежным. Я — творчы чалавек...

Антон гаварыў шчыра, пранікнёна — як на споведзі. Ён згадваў Жору, Валянціну Апанасаўну, сваю ранейшую работу на пасадзе намесніка генеральнага дырэктара. Канечне, ён імкнуўся да кар'ернага росту і быў задаволены, што ў яго на рабоце ладзілася, за свае дасягненні ён атрымліваў падзякі, грашовыя прэміі.

Айцец Ігар слухаў яго ўважліва, і калі Антон скончыў, не стаў распытваць пра падрабязнасці, не лез у душу, здаецца, і так зразумеў яго.

— У кожнага з нас свая дарога да Бога, — сказаў айцец Ігар.

Яны выйшлі з царквы на двор, сонца паднялося ўжо над лесам, што навідавоку, па лугах і палях каля Прыпяці, каля Дубкоў гуляў вятрыска, падрослыя травы калыхаліся, атмасфера спакою і летняй ласкі спрыялі добраму настрою, шчырай размове.

— Плоць наша грэшная, а дух вечны і святы ачышчае душу, — працягваў айцец Ігар. — Таму чалавек гэтакі супярэчлівы, непастаянны. Сёння ён хоча і робіць адно, а назаўтра зусім іншае, процілеглае. Трэба слухаць сваё сэрца, сваю душу — яны падкажуць, як выбрацца з цянётаў ілжы, спакусаў, самападману.

Ён раптам пільна паглядзеў на Антона, спытаў:

— Хіба выпадкова сягоння вы завярнулі ў царкву? — І не чакаючы адказу, працягваў: — Цесна вашай душы, млосна ёй, от яна і шукае выйсця. А дзе ж яшчэ, як не ў святым храме, можна ачысціць душу ад выпадковага, нетрывалага, што пазбаўляе спакою, муціць розум.

Яшчэ спытаў:

— Вы веруючы?

І зноў жа не даў Антону вымавіць ні слова, сам адказаў на сваё пытанне:

— Сярод маіх прыхаджан ёсць маладыя людзі. Яны розныя па характарах, у кожнага свой лёс, адны з вышэйшай адукацыяй, а другія — не. Амаль усе яны з савецкага часу, іх нельга назваць веруючымі ў поўным сэнсе гэтага слова, але хіба яны не хрысціяне? Яны жылі па хрысціянскіх законах, трымаліся запаведзяў Хрыста, і душа прывяла іх у царкву, дзе яны слухаюць слова Божае. Не, без веры чалавек вельмі проста заблудзіцца можа. Быў час, калі мы раскідвалі камяні, не задумваючыся. Але, дзякуй богу, вяртаемся да сваіх каранёў, да спрадвечных ісцін...

Антон развітваўся з айцом Ігарам у глыбокім роздуме. Ніколі да гэтага не размаўляў ён са святарамі, а тут такая нагода. Усё атрымалася само сабой, натуральна і шчыра. Мужны чалавек айцец Ігар, не кожны здольны на такі крок: узяць ды перайначыць сваё жыццё...

У часе гэтага роздуму Антон добра чуў тое, што сказаў напаследак айцец Ігар:

— Трэба слухаць сваю душу і сэрца. Праз іх ідзе наш шлях да ісціны.





Святлана БЫКАВА

# ПАД НЕБАМ ВОСЕНІ, БЫ Ў ХРАМЕ

* * *

Нада мной — ні драпежная зграя,
І не сумны ланцуг жаўрукоў:
Гэта ўдалеч часоў адлятае
Чарада незваротных гадоў.

Побач з імі, у сініх нябёсах, —
Ланцужок спадзяванняў маіх.
У халоднай нясталасці лёсу
Выпадкова згубіла я іх.

Хай удалеч ляцяць непаседы —
Маладосці маёй сябрукі.
Развітання хто з імі не зведаў —
Не працягне тым сталасць рукі.

* * *

Жар-птушкі залацістае крыло
Павольна дол зялёны накрывае.
Усё, што адзвінела, адцвіло,
Пад тым крылом паціху засынае.

---

*__Быкава Святлана Анатольеўна__ нарадзілася 5 лютага 1962 года ў Заслаўі. Скончыла планава-эканамічны факультэт БДІНГ імя В. У. Куйбышава (1985). Працавала на Заслаўскай карданажна-паліграфічнай фабрыцы, у Заслаўскім гарвыканкаме, у Дзяржаўнай падатковай інспекцыі па горадзе Заслаўі.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Откровение позднего лета» (2010), «Дорога к себе» (2011), «С чистого листа» і «Из руки выпускаю синицу» (2013), «Адлюстраванне» (2015), а таксама кніг для дзяцей («Весёлый гномик» і «История одной снежинки» (2014).*

*Лаўрэат Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор-2013» у галіне паэзіі за зборнікі «С чистого листа» і «Из руки выпускаю синицу», лаўрэат Мінскай абласной прэміі ў галіне літаратуры ў намінацыі «Паэзія» (2015).*

Над лесам разліваецца спакой,
Пакінулі яго чароды птушак.
Ціхуткі ветрык недзе за ракой
Лісточак жоўты на дубку пагушкаў.

І ён зляцеў і лёг на карані
Бацькоў-дубоў шматвекавых, вялізных.
А ветрык не задумаўся ані,
Што пеў ён не на свяце, а на трызне.

Лісток заснуў навек паміж дубоў,
Пад шэпт іх векавога запавету,
Пакінуўшы пяшчотную любоў
Да сонца, да дубоў, жыцця і лета…

## ВОСЕНЬСКІМ ВЕЧАРАМ

На захадзе нябёсаў сінь
Агнём пунсовым занялася,
Як засцярога-напамін
Аб змрочным, непазбежным часе.

Як развітальныя званы,
Звіняць ціхутка ў лузе зёлкі.
Сумуюць, ссохлыя, яны
Па яркіх колерах вясёлкі.

Чарнее ворывам зямля
У восеньскай, пажоўклай раме.
Заціхла ўсё. Заціхла й я
Пад небам восені, бы ў храме…

## КОЛА ЖЫЦЦЯ

Зжаўцелы, засохлы лісток
Упаў на далонь да мяне —
Жыцця неўміручы выток
Заціх у загадкавым сне.

Гляджу — бы чытаю па ім,
Як ён нарадзіўся і рос,
Пра тое, як быў маладым,
Зялёным, бліскучым ад рос.

Як летам з любоўю страчаў
Ён сонейка кожны усход…

Але час прыйшоў — ён апаў,
Зляцеў ў забыцця карагод.

І вось на далоні ляжыць,
Апошняе дорыць святло...
Памёр, каб жыццё аднавіць,
Каб новае лісце змагло,

Жыццёвых набраўшыся сіл,
Зноў выканаць лёс-запавет:
Змярцвення страсаючы пыл,
Расквеціць вясной белы свет.

## УЖО І ЯШЧЭ...

Яшчэ не згасла сонца, але ўжо
З-за хмаркі сведка ночы пазірае,
Кладуцца цені, нібы ад крыжоў —
Дзень адгарэў і ціха памірае.

Яшчэ раса не ўпала на траву,
Але ўжо ёй насычана паветра.
Яшчэ цябе я з далечы заву,
Ды вечнасць адмярае кіламетры.

Ўжо восень робіць цяжкі, сумны ўздых
І шамаціць апалым, жоўтым лісцем.
А я яшчэ стаю на крыжавых,
Яшчэ вясну чакаю, як калісьці.





**Валянціна ЯНАВЕЦ**

# «ПРАШУ МІЛАСЭРНАСЦІ»

*Апавяданне*

Ужо каторую ноч мне не спіцца. Чатыры дні назад прыходзілі з лесу і папрасілі напячы хлеба. Спякла. Учора чакала чалавека, які забярэ яго, але чамусьці ён не прыйшоў. А сёння надта трывожна, ноч цягнецца бясконца доўга, даймаюць успаміны.

Мне толькі сем гадоў. Праз вёску скача коннік і крычыць: «Пачалася вайна з немцамі!» Разам з сябрамі я бягу па вуліцы і паўтараю: «Вайна!» Нам весела. Прыбягаю задаволеная ў двор, а мама сядзіць на прызбе хаты і горка плача, ды я не разумею чаму.

Так нам зрабілі абвестку пра першую вайну. А пра цяперашнюю вайну гаварылі даўно, але ніхто нічога не аб'яўляў: наляцелі самалёты з чорнымі крыжамі, пачалі страляць і кідаць бомбы... Так зноў прыйшлі да нас немцы…

А ўчора ў маім доме, дакладней, у сенцах, асвятліўся абраз Збавіцеля!..

Раніцою, выходзячы з хаты, яшчэ не паспеўшы прыадчыніць дзверы ў сенцы, я адчула, што там нешта асаблівае. Асцярожна, з заміраннем сэрца, усё ж адчыніла дзверы і спынілася на парозе зачараваная: у куце па сцяне віўся лёгкі праменьчык незямнога, ледзь улоўнага святла. Яно, здаецца, іграла, не знікала. Ачомаўшыся, пераадольваючы страх судакранання з невядомым, я падышла бліжэй. Каля сцяны на стале стаяў абраз Збавіцеля. Яшчэ з вясны, калі прыбіралася да Вялікадня, заўважыла, што ён пацямнеў, ягоная выява стала ледзь прыкметнай. Што ж зробіш? Ён вельмі старадаўні. Калісьці належаў маёй бабулі. Бабуля, паміраючы, мяне тады пры ёй не было, найстражэйша загадала перадаць яго мне пасля яе смерці. І яе старэйшая дачка, мая цётка Вера, так і зрабіла. А дзе бабуля яго ўзяла, нават і не памятаю. Ведаю адно — яна вельмі даражыла ім. І я тады, не надта веруючая, прыбрала абраз з пачэснага кута ў хаце, паставіла яго ў сенцах на стол, прыслонены да сцяны. Хаця старэйшыя жанчыны казалі, што яго трэба спаліць, а попел закапаць у садзе. Чаму — не ведаю. Але ў апошні момант здрыганулася рука, і я не адважылася кінуць абраз у агонь. Зараз ён быў светлы, і светла было ў

---

***Янавец Валянціна Іванаўна*** *нарадзілася 3 снежня 1962 года ў вёсцы Бездзеж Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў (1992). Працуе ў Брэсцкім акадэмічным тэатры драмы. Друкавалася ў газеце «Драгічынскі веснік», «Чырвоная змена», у часопісе «Першацвет», у альманаху «Літаратурны экватар».*

сенцах. Сляды часу дзіўным чынам зніклі з абраза... Вочы Збавіцеля, здаецца, так і пранікаюць у душу, засяроджана ўглядаюцца ў яе. Гэтакі невыказны цуд! Такая міласць Боская і заклік да пакаяння, да стараннай малітвы для мяне і маёй сям’і. І міжвольна пацяклі па маіх шчаках слёзы…

«Усё наша жыццё — гэта дарога да вяршыні, дарога да Бога», — так аднойчы казаў бацюшка Віктар у царкве. Дык вось яна — мая дарога і ад мяне залежыць, як я буду па ёй ісці.

Між тым, заўважаю, як паступова, нібы асцярожна, на маю галаву спускаецца вялікі светлы прамень, лёгенька падгінаюцца мае калені, і я ўкленчваю перад абразом. А тым часам прамень заліў празрыстым святлом усё вакол мяне, і я, здаецца, ў гэтым святле, раскінуўшы рукі, ужо бягу па чыстай зялёнай сенажаці, вецер ласкава слізгае ў маіх доўгіх косах, трэпле іх, расчэсвае. А праз хвіліну ўжо я падымаюся ў блакітнае неба, усё вышэй, вышэй. Душу запоўніў спакой. Раптам дыхнуў вецер, зашумела лісце на дрэвах, свет пачаў гаснуць, і праз імгненне ўсё, што я бачыла, знікла.

І зноў я наяве стаю перад абразом. У першае імгненне адчула, як па ўсім целе разліваюцца цёплыя, нейкія лагодныя хвалі. Я перахрысцілася, бліжэй падышла да абраза, і нібы хто падказаў мне, што ў маім жыцці будзе ўсё добра, толькі жыць трэба правільна…

Увесь дзень я была ў нейкай асветленай душэўнай прыгажосці і спакоі. У той жа час — пра тое, што адчувала, нікому нічога не гаварыла, бо баялася, каб не засмяялі. Думала, некалі будзе нагода, усё расскажу.

Дык вось, сённяшні дзень пачаўся таксама добра. Вельмі прыгожай была раніца — яркая, сонечная. А потым на вёску наляцелі карнікі...

Я стаю сярод аднавяскоўцаў. Па грудзях, па спіне цякуць маленькія ручаінкі поту. Востра адчуваю, што ўся мокрая. Нейкае жахлівае здранцвенне ахоплівае мяне. Здаецца, у такім стане знаходжуся не я адна. Неспадзявана стала холадна, зубы заляскалі, здаецца, я трачу прытомнасць. Каб не ўпасці, спрабую знайсці падтрымку ў тых, хто побач. Усіх іх я ведаю з дзяцінства. Але чаму яны зараз, адчуваю, такія далёкія і чужыя? Усе сцішана і насцярожана ўслухоўваюцца ў незразумелую мову. Услухоўваюся і я, мацней прыціскаючы да сябе маленькага сына. Ён таксама зняможана заціх. Нават не варухнецца.

Усе мы з жахам глядзім на аднаго і таго ж чалавека ў чорным. Нейкі час ён стаяў моўчкі і пазіраў на нас варожа, а пасля, быццам нешта выгледзеўшы, пачаў гаварыць сухім, надтрэснутым, крыклівым голасам.

Я назіраю за ім, баючыся прапусціць хоць лёгкі цень на яго твары, хоць маленькую маршчынку на лбе, бачу, як нервова торгаюцца доўгія тонкія пальцы. Нягледзячы на высокі рост, у яго маленькія ножкі, зацягнутыя ў мяккія скураныя боты, якімі ён таксама нервова перамінаецца. Няўжо ён таксама баіцца? І чаго ён баіцца? Магчыма, хвалюецца, што патрэбна выступаць перад мноствам людзей?..

Але гэта я нешта не тое падумала. Мы ж для яго ніхто. Ён можа падняць вунь той камень, што ляжыць на дарозе, стукнуць каго па галаве і яму нічога не будзе за гэта.

Зноў нешта не тое падумала. Нашто яму сябе абцяжарваць, згінацца, каб узняць камень, калі ён можна зрабіць прасцей — дастаць пісталет і …

У гэты час я бачу, як чалавек у чорным усё ж бярэ камень і пачынае ўзыходзіць з ім на гару. Але, што гэта? У нас зроду не было гары каля царквы! Гляджу ўверх і бачу, што неба стала густа-чорным, цяжкім, што яно ўсім сваім цяжарам навальваецца на зямлю, закрывае сонца, захінае ўсіх, хто быў побач са мной. Няўжо я страціла зрок? А дзе ж сыночак?

Праціраю вочы і ўсведамляю, як цяжка чалавеку ў чорным ісці, як ён упарта паднімаецца ўсё вышэй і вышэй. Магільны холад сціскае маё сэрца, здаецца, яно з грукатам падае на гарачы сухі пясок, і маё цела працінае невыносны боль.

Ды здарылася нечаканае — чалавек у чорным аступіўся, пахіснуўся, паспрабаваў утрымацца на нагах, але раптам сарваўся з гары — пякельную цішыню ўзарваў каменятрус.

І вось ужо з сухім грукатам камяні падаюць уніз, рэзка стукаюцца адзін аб адзін. Я гляджу, як шпарка адлятаюць яны ўбок, і маю душу ахоплівае безвыходны адчай і страшэнная сумота ад таго, што даносіцца да майго слыху.

— Сяляне! За апошнія дні нямецкія войскі знішчылі многа банд, удзельнікі якіх былі расстраляны, а кіраўнікі павешаны...

Вось яно тое страшэннае! Значыць, будуць страляць. Таму трэба развітвацца з гэтым светам. А Божачка мой! Што рабіць? Куды бегчы?

Успомніла! Мне было гадоў сем, калі я чула, як аднойчы бабуля, размаўляючы са сваёй сяброўкай, гаварыла ёй: «Абраз абнавіўся — гэта да смутку!» Вось ён, смутак! Доўга чакаць не давялося!..

— Хто мае сувязі з бандытамі, дае ім прытулак, забяспечвае іх ежай, дапамагае ім альбо ўтойвае месца іх знаходжання, той караецца смерцю. Акрамя таго, ён уцягвае ў бяду сваю сям'ю і ўсю вёску. Але кожны, хто любіць сваю сям'ю і хоча спакойна працаваць на сваёй зямлі, павінен неадкладна паведаміць, дзе менавіта знаходзяцца партызаны. За паведамленне будуць выдадзены грашовыя ўзнагароды…

Здагадка пра тое, што смерці не пазбегчы, умацавалася ў маёй душы: як будзе, так будзе... І раптам у сцішаным людскім натоўпе, які быў заклапочаны вынясеннем прысуду, загудзела пчала. Відаць, сюды яна прыляцела з пчальніка дзеда Данілы.

Дзед Даніла быў вядомы пчаляр на ўсю акругу. Да яго па гаючы мёд ехалі нават з суседняга раёна. Ягоная хата стаяла каля самага лесу. У вёсцы над дзедам Данілам пасмейваліся, казалі, ён быццам бы размаўляе з кожнаю травінкай, якая расце ў яго агародзе. А паколькі Даніла ведае розныя замовы, якія яму перадала знахарка, ягоная бабка Дамініка, то і пчолы на яго пчальніку таксама чарадзейныя. Калі што, Даніла можа сказаць нейкае таемнае слова, і тыя гатовы пакусаць і навесці страх на каго заўгодна. Але, як бы там ні было, а да дзеда Данілы вяскоўцы ішлі з усялякімі сваімі клопатамі: у каго дзіця захварэе, хто сам занядужыць, або што да жывёлы прыкінецца. Ён нікому не адмаўляў. Тады Даніла чытаў нейкія малітвы, нешта шаптаў над вадою, затым выліваў яе на скрыжаванні дарог, ці даваў выпіць чалавеку, або жывёле, паліў сухія травы.

Вось ён, Даніла, ціха стаіць побач, апусціўшы ў скрусе галаву. Так і хочацца закрычаць: «Дзядуля, ды пагавары са сваімі вернымі сябрамі — пчоламі, скажы ім якое запаветнае слова, няхай яны накінуцца на гэтых катаў, няхай джаляць усіх да аднаго!»

Але Даніла недаравальна маўчыць. Пчала пакружыла, пакружыла, пазвінела і некуды адляцела. Ой, не будзе нам збавення! Слёзы цякуць па маім твары. Гасподзь літасцівы, пашкадуй нашы бедныя галовы, не дай нікому заўчасна загінуць! Сыночку майму толькі ж пяты гадок! Ён жа яшчэ нічога не бачыў, нічога не ведае, за што яму так рана паміраць. Добра, што дачка схавалася на гарышчы за комінам. Божачка, пашкадуй!..

Нямецкі афіцэр у чорным мундзіры, які так неверагодна прадстаў у маіх бачаннях, ізноў прабегся позіркам па натоўпе, мабыць, выглядае таго, хто вый-

дзе і пра партызан скажа, выдасць іх, але марна. Ніхто не выходзіць. І вось нечакана мае і яго вочы сустрэліся: жах!.. Чаму ён так уважліва разглядвае мяне? Што яму трэба? Я ж нічога не ведаю-ю! Не, я нічога не скажу-у!

Зноўку здрадніцкая сляза пацякла па шчацэ…

А ў гэты час нямецкі афіцэр, якіназіраў за застылым у страху натоўпам, аслупянеў ад таго, што пабачыў. Яго думкі шалёна змяшаліся: «Жанчына, з чорнымі, як смоль косамі, што стаіць наперадзе, прыціскае да сябе дзіця, і неяк дзіўна глядзіць мне проста ў вочы, а па шчаках цякуць слёзы. О, вы яшчэ не так заплачаце, калі будзеце непамерна ўпартымі. Хаця нешта зварухнулася ў мяне ў грудзях: усё ж, якая прыемная жанчына! З прыгожымі сінімі вачамі. І яна падобна да Евы!.. Мадонна, так не бывае! Каб нейкая беларуская сялянка мела падабенства з маёй любай жонкай Евай — не, лепш не глядзець на яе.

Дзе мае салдаты?.. Вось побач стаяць. Салдаты як салдаты. Яны чакаюць загаду. У такой спякоце, якая зараз усё няшчадна паліць, кожны хоча хутчэй з’ехаць да ракі, у прахалоду, каб змыць з сябе дарожны пыл і забыцца на нейкі час…

Сёння, яшчэ з раніцы, усё не заладзілася. А сёмай гадзіне партызаны абстралялі патруль. Мы прачасалі бліжэйшы лес, але нікога не знайшлі. Гэтыя бандыты карыстаюцца тым, што добра ведаюць усе сцяжынкі!

Між тым, ранішняе сонца ўжо цягнула дзённую спякоту, якая цішком паўзла за намі. Хацелася застацца ў цяньку густых маўклівых хваін, але не паспелі мы вярнуцца, як атрымалі звестку, што пашкоджана тэлефонная сувязь. Тут жа, на яе аднаўленне накіравалі два ўзводы пад маёй камандай. Мы выехалі на легкавым аўтамабілі і двух грузавіках, але нечакана па нас адкрылі агонь. Двое атрымалі раненне, а Эрых Кранц — загінуў. І хоць Кранц быў ганарысты, фанабэрысты, якога ўсе недалюблівалі, было шкада, што ён так недарэчна загінуў. Дзень быў канчаткова сапсаваны.

Нягледзячы на тое, што ўсе былі змучаныя і змораныя сонечнай задухай, шэф батальёна Кернэр аддаў загад: «Абясшкодзіць мясцовасць і зрабіць яе бяспечнай для нашых салдат».

…Цяжка быць камандзірам, за ўсё адказваць. А ў такі дзень мазгі непаваротлівыя, ні аб чым не думаюць. Чаму лейтэнанта Эрыха Кранца застрэлілі менавіта сёння, у гэткую спякоту? Чаму не заўтра? Раптам заўтра будзе дождж? І ўсё будзе інакш! А што будзе інакш?..»

Хельмут фон Шпэер, а менавіта так звалі нямецкага афіцэра, быў яшчэ малады. Легкая сівізна ледзь выбівалася на яго скронях. Ён толькі што вярнуўся са шпіталя, у які трапіў пасля лёгкага ранення ў адной з сутычак з партызанамі, яму абяцалі адпачынак, але чамусьці не далі. А ён вельмі хацеў пабачыць жонку і сына. Затое не адправілі ў дзеючую армію, а пакінулі тут, у глыбокім тыле, і далей ваяваць з партызанамі. Ён не ўпершыню быў на такой аперацыі, але чамусьці гэта выклікала пакутлівы стан. На фронце ўсё ж працей, паспеў пабыць і там. А тут жывеш сярод лясоў, непралазных балотаў, сярод вар’ятаў, якія глядзяць табе ў вочы, а толькі адвярнуўся — могуць і стрэліць. Самае незразумелае, што гэта могуць зрабіць нават мурзатыя непаўналеткі. Трэба кожную хвіліну быць гатовым страляць. І паступова ад напругі пачынаеш вар’яцець. Вось і зараз, замест таго, каб сказаць, дзе знаходзіцца кучка агідных бандытаў, яны маўчаць. Чаму?..

Вайна навучыла лейтэнанта фон Шпэера вытрымцы і маўклівасці. Але сёння чамусьці ніякай унутранай раўнавагі няма, таму ён увесь час думаў пра напамінак нямецкаму салдату, які ведаў на памяць. «У цябе няма сэрца,

нерваў… У цябе няма сэрца, няма сэрца… забівай, гэтым ты выратуеш сябе ад згубы, забяспечыш будучыню сваёй сям'і, уславішся на вякі…»

У затуманенай смузе перад Хельмутам узнік вобраз яго любай Евы і ўздрыгнулася сэрца, быццам хтосьці сціснуў яго ў мяккіх абдымках... І ўсё ж Хельмута непокоілі сінія вочы, што належалі невысокай чарнявай прыгажуні. Жанчына ўжо, мусіць, стамілася чакаць, не можа трываць, таму плача ў голас і мацней туліць да сябе маленькага сына.

Раптам з натоўпу выйшаў святар. Ён зрабіў два крокі наперад і на нямецкай мове звярнуўся да афіцэра.

— Гер афіцэр, дазвольце адняць у вас некалькі хвілін. Я пастараюся гаварыць коратка і паслядоўна. Я вельмі спадзяюся на вашу ўвагу і дабрыню, нягледзячы на даволі складаны цяперашні час. Я разлічваю на цярпенне і мудрасць чалавека, які належыць да вялікай арыйскай расы і з'яўляецца камандзірам у войску, якое атрымлівае перамогу за перамогай.

Афіцэр нетаропка адышоў у цянёк пад ліпу, а салдатам зрабіў рукой знак, што азначала: «Заставацца на месцы».

Святар гаварыў спакойна, паволі, без ліслівасці, не падлашчваўся, з годнасцю. Ён прыцягваў да сябе ўвагу, і Хельмуту чамусьці хацелася на яго глядзець. Высокі, хударлявы мужчына, на дзіва спакойны выраз твару і блакітныя вочы, нібы кветкі, што растуць паабапал дарогі. Некалькі дзён таму яму раптам прыйшла ў галаву думка папытацца ў сялян, як называюцца тыя кветкі. Аказалася, вельмі смешна — валошкі. А гэты святар выклікае прыхільнасць. Цікава, колькі яму гадоў? Афіцэр усміхнуўся, калі зразумеў, што разглядае святара, быццам следчы з гестапа, але стрымаўся, не падаў выгляду. Ды і ўвогуле, яму, нямецкаму афіцэру, хіба ёсць справа да гэтых незразумелых, дзікіх, непісьменных чужакоў? І ўсё ж цяжка ўявіць, адкуль у гэтай маленькай нікчэмнай беларускай вёсцы, далёкай ад усяго цывілізаванага, жывуць такія годныя людзі? Напэўна, святар мог бы разлічваць на нейкія большыя жыццёвыя прывілеі. Але наканавана яму лёсам служыць тут.

— Дарэчы, адкуль так свабодна валодаеце нямецкай мовай? — з лёгкім здзіўленнем спытаў Хельмут.

— Дзякуй, пан афіцэр. У мяне ў школе быў вельмі добры настаўнік па нямецкай мове.

«А святар хвалюецца, — адзначыў сам сабе Хельмут. Вунь, левая рука дробненька дрыжыць, падцярэблівае расу. І пот выступіў на твары. Ён узрушаны, баіцца, што я не змагу яго зразумець?»

— Вельмі хацелася б, каб вы выслухалі мяне і паверылі, — тым часам працягваў святар. — У нашай вёсцы жывуць простыя сяляне, якія працуюць да сёмага поту. Яны руплівыя гаспадары, для іх зямля — спрадвечная любоў.

«Здаецца, святар зноў перастаў хвалявацца. Цікава, чаму такое моцнае жаданне яго слухаць? Голас ціхі, але выразны, так і прыцягвае. Аднак, трэба прызнаць і смеласць, і лёгкасць думкі. Такое адчуванне, што нібыта гэта ад яго, святара, залежыць, як я буду дзейнічаць далей і што рабіць... І як тая сінявокая жанчына пільна сочыць за святаром. Аб чым яна зараз думае? Пэўна, чакае выратавання. Бо пра што яшчэ можна думаць у такі час. А выратаванне ваша, прыгожая сялянaчка, дарэчы, залежыць зараз ад мяне. Бо яшчэ імгненне, і я, урэшце, не вытрымаю, і павінен буду згадзіцца з умовамі святара. І адбудзецца нешта неймавернае! І штурхае мяне на гэты непрадбачаны ўчынак жанчына, якая падобна на Еву. Цікава, а голас яе таксама падобны да голасу Евы?

Я вагаюся, зноў і зноў пытаюся ў сябе, ці трэба прымаць прапанову святара? О, які ўсё ж слабы і бездапаможны чалавек, нягледзячы на тое, што ён належыць да вялікай арыйскай расы. Бо так нядоўга і з глузду з'ехаць…»

Афіцэр зноў утаропіўся ў мяне, здаецца, толькі што ўважліва слухаў нашага святара. Што табе трэба ад мяне? Лепей слухай, што кажа далей айцец Віктар. Слухай, як мы яго заўсёды слухаем, бо ён самы сярод нас усіх мудры, разумны і справядлівы чалавек. У тваёй Германіі такіх няма!..

Я засяроджана сачу за айцом Віктарам, слухаю яго спакойны голас, хоць не разумею, пра што ён говорыць і, здаецца, маленькі праменьчык святла пранікае ў маё гораснае сэрца, асвятляе яго і ў душы ўспыхвае слабая надзея. А тым часам, у натоўпе наступіла цішыня. Нават дзеці маўчаць. Напружыліся. Уважліва прыслухоўваюцца, усе хочуць зразумець, што кажа айцец Віктар нямецкаму афіцэру. І нічога не разумеюць. Бо, на здзіўленне, выявілася, што наш бацюшка размаўляе па-нямецку. Ды яшчэ як добра, калі немец слухае яго. Гаворыць і гаворыць, не задумваючыся, быццам на роднай мове. Мне падаецца, што ён так прыгожа вядзе гутарку па-нямецку, што немагчыма адмовіць у ягонай просьбе… Але чаму я рашыла, што ён просіць?

Я засяроджана гляджу на айца Віктара і ў маёй душы ўмацоўваецца вера. Божа праведны і ўсемагутны! Дай айцу Віктару моцы вытрымаць гэтую нялёгкую размову, дай яму красамоўнасці!.. Божа, дазволь айцу Віктару ўміласцівіць сэрца нямецкага афіцэра, дазволь нам усім яшчэ затрымацца на гэтай грэшнай зямлі. Дазволь нам ўратавацца, Божа, у гэтых здзічэлых абставінах…

Праз некалькі хвілін размова была скончана. Афіцэр аддаў нейкі загад салдатам і… Цуд! Вялікі цуд! Яны пачалі займаць свае месцы ў машынах. А яшчэ праз некалькі хвілін на плошчы застаўся толькі пыл, узняты калёсамі машын.

Аглушальная цішыня ўладкавалася ў натоўпе каля царквы. Людзі стаялі нібы ў здранцвенні, ніяк не маглі ўсвядоміць, што засталіся жывымі. Сёння смерць адступіла. Сёння кожны нарадзіўся ў другі раз. А што будзе далей?.. Бацюшка, здаецца, першым ачомаўся. Ён агледзеў аднавяскоўцаў і, перахрысціўшы ўсіх, прамовіў:

— Разыходзьцеся. Яны не вярнуцца.

— Бацюшка, пра што вы гаварылі з афіцэрам? Што такога сказалі, каб яны з'ехалі? — спытаў дзед Даніла, паволі падышоўшы да яго.

— Я сказаў, што ў нас у вёсцы няма партызан, што яны да нас не заходзяць і мы не ведаем, дзе іх месцазнаходжанне.

Да айца Віктара раптам падбег дзесяцігадовы Маланчын Антосік і спытаў:

— Бацюшка, а адкуль вы ведаеце нямецкую мову?

— У школе вывучаў, — усміхнуўся айцец Віктар. — Вось скончыцца вайна, пойдзеш у школу і таксама зможаш вывучаць розныя мовы…

І ўсё ж цудоўным быў гэты летні дзень, нягледзячы на гарачыню. Жоўтае сонца ласкава смяялася і заглядала ўсім у вочы, быццам абяцала жыццё доўгае і светлае. У сінім небе ні хмаркі. А паветра лёгкае-лёгкае, дыхай — не надыхацца! І кветкавая духмянасць, якая вабіць пчол дзеда Данілы, што раптам зазвінелі, залёталі над галавой, здаецца такой прыемнай, нават смачнай, як майскі мёд.

Дзеці загаманілі, засмяяліся, пабеглі па вуліцы, уздымаючы пыл, які толькі асеў пасля нямецкіх машын. Паступова ўсё злілося ў прасторы, змяшалася, узляцела ў адзіны, бязмежны голас шчасця, які даволі складна выводзілі жано-

чыя галасы. Дзіўная мелодыя радаснага галашэння ахапіла ўсё наваколле. Гэта плакалі жанчыны, не згаварыўшыся, а так — па сваёй прыроднай завядзёнцы. А айцец Віктар стаяў, хрысціў усіх і гаварыў:

— Нічога, нічога! Гэта слёзы шчасця.

Шчасце, шчасце! Раскоша! Мы сёння ва Усявышняга маем ласку! Бацюшка, у маёй хаце абраз асвятліўся!..

Хельмут фон Шпэер перайшоў мяжу з Савецкім Саюзам пад Брэстам 22 чэрвеня 1941года і прымаў удзел у баях у зоне дзеяння групы арміі «Цэнтр». Затым змагаўся з партызанамі.

Хельмут нарадзіўся ў сям'і доктара. Ён таксама павінен быў стаць доктарам: так хацелі бацькі, але Хельмута вельмі цікавіла гісторыя. Асабліва гісторыя старажытнага Рыма. І можа быць, ён і стаў бы гісторыкам, каб у пятнаццаць гадоў не ўступіў у рады гітлерюгенда, як і ўсе яго таварышы.

Рамантыка начных шэсцяў з факелам у руках, маладзёжныя вечары, спартыўныя спаборніцтвы і палымяныя заклікі доктара Гебельса аб тым, што фашызм трэба ўспрымаць як падзею, якая паслужыць пачаткам вялікіх здзяйсненняў многім пакаленням немцаў, зрабілі сваю справу. І юнак вырашыў, што павінен быць ваенным, бо так зможа прынесці больш карысці сваёй вялікай радзіме — Германіі…

На плошчы каля царквы стаяла маленькая хатка, у якой жыў бацюшка Віктар. У гэтую ноч ён не спаў. Чытаў Святое Евангелле. І маліўся. Многа і доўга маліўся. І аб шчаслівым выратаванні, і аб тых людзях з суседняй вёскі, якую ўчора спалілі. Акрамя таго, захлынулі душу ўспаміны…

Па Марской вуліцы пад ліпеньскім цёплым дожджыкам хуткім крокам ідзе ён, Віктар Кулікоўскі, паручнік лейб-гвардыі Паўлаўскага палка. Ён ідзе ў напрамку да Ісакіеўскай плошчы, дзе яго павінна чакаць Вольга. Ён пераскоквае лужынкі, у якіх адлюстроўваецца неба, яго душу перапаўняе незвычайная радасць — ён закаханы.

А ў гэты самы час яго каханая Вольга, ён пра гэта не ведае, — ляжыць у сваёй хімічнай лабараторыі параненая і атручаная фторыстым вадародам: вопыт, які яна праводзіла, аказаўся няўдалым... І ён будзе доўга стаяць на плошчы, чакаючы яе, а яе ўсё не будзе... А потым ён знойдзе яе, але ўжо будзе позна... Здавалася, што ён гэтага не перажыве. А пасля закруціць, завіхурыць грамадзянская вайна, і ягоны лёс стане пакручастым, як мільёнаў іншых людзей, будзе арышт яго, белагвардзейца, і будуць уцёкі ажно ў Беларусь, дзе прытулак яму дадуць манахі Жыровіцкага манастыра…

Цяжкія ўспаміны перапыніліся, бо ў акно пастукалі. Бацюшка перахрысціўся, пацалаваў Евангелле і адчыніў дзверы. На парозе стаяў нямецкі афіцэр Хельмут фон Шпэер.

— Добрай ночы, гер афіцэр, — ціха павітаўся бацюшка. — Я вас чакаю. Вось тут, у вузельчыку, усё сабрана, як я вам абяцаў. Паверце, гэта вельмі дарагія рэчы для праваслаўнай царквы. Яны, увогуле, не маюць цаны. Бярыце. Вы зможаце забяспечыць сабе добрае жыццё. І памятайце, што вы далі слова афіцэра нікому ніколі аб гэтым не гаварыць.

Немец дапытліва паглядзеў на яго і сказаў:

— Зрэшты, не магу зразумець, Віктар, чаму вы тут, сярод непралазных балот гібееце разам з непісьменнай басотай? Вы — высокаадукаваны чалавек, валодаеце мовамі, вы заслугоўваеце зусім іншага жыцця.

— Я адкажу… Я люблю сваю радзіму. Люблю гэтых светлых, працавітых людзей, што жывуць у маёй парафіі. Яны — людзі, як і паўсюль.

— Але гэта — рыторыка.

— Ну, што ж, няхай сабе і рыторыка. Тады адкажыце і вы на маё пытанне. А чаму вы падтрымліваеце Гітлера? Чаму вы служыце ў ягоным войску? Яно ніколі не пераможа гэтых людзей, колькі ні будзе іх знішчаць...

— Германія пацярпела паражэнне ў мінулай вайне з-за таго, што ў палітыцы кайзера не было высокай мэты, а Гітлер — правадыр і сімвал нашай нацыі, нашага адзінства, указаў нам гэту высакародную мэту. Ён адрадзіў старыя прускія традыцыі і стварыў, у адпаведнасці з гэтымі традыцыямі, моцную дзяржаву. Пасля перамогі ў цяперашняй вайне нямецкая нацыя зможа спакойна глядзець у будучыню, бо яна прызначана да высокага служэння: а пераможам мы — абавязкова.

— Вось вы так гаворыце, быццам бы мы з вамі знаходзімся на нейкім пасяджэнні партыйнага з'езда. А калі адкінуць партыйныя галашэнні і паглядзець на падзеі, што адбываюцца зараз у свеце вачыма нармальнага чалавека, то трэба засяродзіць увагу на тым, аб чым вы забываеце — Гітлер недаравальна абрынуў увесь свет у бездань няшчасця і немцаў праклінаюць мільёны людзей. Канешне, вы зараз можаце застрэліць мяне за такія словы, але ад гэтага нічога не памяняецца ў вашым жыцці...

— Сапраўды, за гэтыя словы я мог бы вас расстраляць, — сказаў афіцэр айцу Віктару. — Але не зраблю гэтага. Хачу, каб вы былі сведкам нашай перамогі над вамі.

Ён крыху памаўчаў, і быццам штосьці ўспомніўшы, нечакана дадаў:

— У натоўпе была жанчына з чорнымі, як смоль, косамі. Яна стаяла наперадзе і прыціскала да сябе дзіця. У яе былі сінія вочы. Як яе завуць? Выпадкова не Ева?.. У вас, славян, ёсць гэтае імя.

— Не, не Ева. Ганна. Мая прыхаджанка, — адказаў айцец Віктар.

З таго часу на ўсё жыццё Хельмут запомніў яе імя...

…Званок быў рэзкі, нават аглушальны. Так, мусіць, звіняць на досвітку ўсе тэлефоны, бо нічога добрага яны не прадракаюць. Рэзка ўсхапіўшыся з ложка, Георг зняў трубку тэлефона і пачуў роўны, але нейкі шэры голас свайго прадзеда Хельмута.

— Прачынайся! Як мага хутчэй прыязджай. Я чакаю. Калі ласка, толькі не марудзь.

— Зразумеў, буду праз сорак хвілін.

Прафесар гісторыі Мюнхенскага ўніверсітэта Хельмут фон Шпэер сядзеў у крэсле, трымаючы кубачак сваёй ранішняй гарбаты. Але духмяны водар не бадзёрыў. У думках гер Хельмут быў вельмі далёка... Ён прачнуўся ў тры гадзіны ночы. Апошнім часам ён не вельмі добра пачуваўся, мала спаў, надта шчымела сэрца. Магчыма, ад таго, што высокі ціск, ці яшчэ якая-небудзь дрэнь. Ён перастаў звяртаць увагу на такія змены ў сваім арганізме і не выклікаў доктара, бо што можа яшчэ чакаць чалавек, калі яму за дзевяноста гадоў. Хто б мог падумаць! Усе ягоныя сябры ўжо даўно сышлі ў лепшы свет, а гер Хельмут нават калі-нікалі бывае ва ўніверсітэце. Дае паказальныя лекцыі. Канешне, каб не Георг, дык наўрад ці ён змог бы разлічваць на такое. Але ягоны праўнук, таксама гісторык, увесь час кудысьці яго запрашаў: то на пасяджэнне навуковай кафедры, то на канферэнцыю па гісторыі ордэна тампліераў, то на сустрэчу з маладымі навукоўцамі. Часамі гер Хельмут уяўляў сябе такім мэтрам гісторыі, што хацелася смяяцца над самім сабой: «А вось калі мы з Сакратам за шкляначчкай гарбаты вялі гутарку, то ён мне казаў…» І на самай справе ён ужо можа пра некаторых гістарычных асоб сказаць: «А вось калі мы…»

Сілы яшчэ якія-ніякія ёсць, але, здаецца, што з кожным днём іх застаецца ўсё менш і менш. А сённяшняй ноччу ён зразумеў, што не памрэ, пакуль не

выканае самае галоўнае, тое, аб чым нават сам сабе шчыра не можа прызнацца. У яго даўно такое жаданне... Не — гэта не жаданне, гэта абавязак, які ён павінен выканаць, каб не пакутаваць з-за таго, што ўтварыў калісьці. За ўсё трэба плаціць у жыцці, а прафесар гісторыі аб гэтым ведае, як ніхто іншы. І аддаць усё, што вінен трэба цяпер, пакуль яшчэ жывы…

Яны сядзелі каля каміна з зялёнага мармуру, глядзелі на водбліскі агню. Гер Хельмут цяжка ўздыхнуў і зморана прыкрыў вочы. Сёння неяк няўтульна і цяпло каміна не грэе. Георг сядзіць сцішана, баючыся паварухнуцца, а прадзед працягвае сваю гісторыю.

— Павер, Георг, я да сённяшняга дня не магу зразумець, чаму стаў слухаць таго чалавека. Не магу зразумець, чаму на наступны дзень паехаў да яго ў вёску. Я дзіўлюся, што прасядзеў з ім і размаўляў амаль усю ноч. А самае галоўнае, я не ведаю, чаму даў каманду паліць і страляць у суседняй вёсцы… Прабач, я падмануў цябе. Я ведаю! — Прафесар апусціў сваю ссівелую галаву, бо на вейцы павісла слязінка раскайвання. Ён таропка змахнуў яе і прадоўжыў. — Я баяўся! Баяўся, што не змагу растлумачыць камандаванню, чаму я не выканаў загад, чаму не страляў, баяўся, што мяне выкрыюць, баяўся, што мяне самога расстраляюць… Я не глядзеў ім у вочы. У той час яны ператварыліся для мяне ў адпрацаваную масу, што патрабавала знішчэння.

І раптам я аслупянеў ад невымоўна дзікіх крыкаў гэтых людзей. Мяне апанаваў страх, нудота, гарачыня душыла горла, і яшчэ было нешта такое, чаму нельга знайсці тлумачэнне, і ўварвалася нястрымнае жаданне няведама куды бегчы, бегчы… не чуць, не бачыць… Але я не мог зварухнуцца. Мае ногі не здолелі зрабіць нават адзін крок, яны прыраслі да зямлі, а ў гэты час за маёй спінай яфрэйтар Гердэр і радавы Вайль глядзелі на вогнішча і … смяяліся. Я спытаўся, чаму ім так весела, а Гердэр, не задумваючыся, адказаў: «Хаты хутка гараць, а людзі плачуць, крычаць і таксама гараць. Прыгожае відовішча. І ў нас да іх няма ніякай літасці, бо да славян, увогуле, няма і не можа быць літасці». У мяне на душы было страшэнна брыдка і агідна…

Гер Хельмут уважліва паглядзеў на праўнука. Ці разумее ён яго? Але ці можа Георг пранікнуцца ягонымі думкамі і перажываннямі? І як увогуле можна разумець тыя ўчынкі прадзеда, калі была вайна? Прайшло амаль семдзесят гадоў. Час, быў такі час. Не, гэта ўсё адгаворкі чалавека, які не хоча выкрыць сябе... Маёй жа справе — апраўдання няма і не можа быць, нават за часам даўнасці.

— Ведаеш, Георг, над чым я думаў… Сямнаццаць мільёнаў выбаршчыкаў віталі Гітлера, у той час, калі маглі прыслухацца да папярэджвання лепшых немцаў і прагаласаваць па-іншаму, прычым без усялякай пагрозы асабістай бяспекі. А гады ішлі. Гітлера горача любілі ўсё новыя і новыя мільёны людзей. Любілі, пакуль яму шанцавала. Сёння, здаецца, пра гэта многія забылі. Сведчанні пра нямецкае супраціўленне перабольшаны. Ты — гісторык, ты аб гэтым ведаеш. І толькі нямногія паводзілі сябе мужна. Менавіта гэтыя людзі ўратавалі гонар дзяржавы і заслужылі пашану. Мы не павінны забываць, што яны састаўлялі тую меншасць сярод мільёнаў, якія крычалі «Хайль Гітлер!» Самае нясцерпнае тое, што яго прынялі амаль усе генералы. Яны паўтаралі на ўсіх скрыжаваннях загад, што быў падпісаны напачатку вайны, у якім гаварылася, што мы вядзём бязлітасную барацьбу з бальшавікамі і міжнародным яўрэйствам. А таксама, што ў вайне з Расіяй нашы салдаты з’яўляюцца мсціўцамі за ўсе злачынствы, якія здзейснены супраць немцаў, таму салдаты павінны ўсведамляць неабходнасць жорсткага, але справядлівага пакарання,

якое заслужылі яўрэі. Гэта яны з’яўляюцца сувязнымі паміж ворагамі ў тыле Германіі і рускімі, якія вядуць супрацоўленне да гэтага часу...

Але на судзе ў Нюрнбергу, фельдмаршал Манштэйн гаварыў, што не памятае такога загаду. Думаю, ён ужо баяўся. Баяўся, што зараз ён — на парозе смерці…

Ну, а цяпер слухай далей, бо самае галоўнае ў маім апавяданні наперадзе…

На адыходак я забраў у Віктара Евангелле. Я разумеў, што гэта для яго дарагая кніга. Магчыма, нават ведаў, што забіраць яе не маю права. Але з-за таго, што Віктар увесь час быў са мной роўным, альбо нават ціснуў сваім аўтарытэтам, я не мог стрываць і даравáць яго годных паводзін, не мог паказаць сваю слабадушнасць. Ну, хоць у нечым я, афіцэр вялікай Германіі, павінен быць вышэй!..

А далей для мяне пачаліся невыносныя дні і ночы…

За мной хадзілі прывіды, якія не хацелі адступацца, яны курчыліся, дрыжалі ад пакут. Ноччу я не мог спаць, бо, заплюшчваючы вочы, бачыў спаленых людзей. Яны моўчкі хадзілі, то патрабавалі прыйсці да іх у вёску і адбудаваць хаты, то зморана прасілі прынесці халоднай вады, каб напіцца. Было так цяжка, але я нікому не мог адкрыцца, ніхто не мог суцішыць маю збалелую душу і сваю горкую тайну я нёс па жыцці адзін.

Удзень стараўся адагнаць сорам, піў гарэлку, каб забыцца хоць на нейкую гадзіну. Разумеючы, што аперацыя па знішчэнні насельніцтва можа паўтарыцца, я вырашыў прасіцца на фронт. Пайшоў да шэфа батальёна. Гаварыў, што партызаны — гэта справа СС, а не вайсковага камандзіра і яшчэ нешта пра абавязак і гонар. Пасля аддаў шэфу вузельчык з царкоўным золатам, што атрымаў ад Віктара. У мяне засталіся залатая чаша і Евангелле. Восенню я быў на фронце.

А далей… Пад Сталінградам Святая кніга праваслаўных выратавала мне жыццё. Куля адскочыла ад кнігі і трапіла ў сцяну побач са мной. Хаця па законах балістыкі, куля павінна была трапіць мне ў галаву. Пра гэта я магу дакладна гаварыць як чалавек, які разумее ў ваеннай справе…

Пасля ад’езду Георга, гер Хельмут пачуваў на душы палёгку. Ён заварыў кубачак гарбаты, прысеў на канапу і адкрыў кнігу па гісторыі старажытнага Рыма. У гэтай кнізе быў і ягоны артыкул пра Нерона. Ён прачытаў некалькі сказаў і не заўважыў, як задрамаў.

Прачнуўся ад таго, что стукалі ў дзверы. Дзіўна, хто гэта? Можа, вярнуўся Георг? Але ў яго ёсць свой ключ. Ён паспешліва ўстаў і пайшоў у пярэдні пакой. У калідоры ён зачапіўся за вугал камоды і ўдарыўся нагой. А калі адчыніў дзверы, то ад здзіўлення ледзь змог прамовіць:

— Вы? Але адкуль?

На парозе стаяла тая самая беларуская жанчына, аб якой ён толькі што распавядаў Георгу. Маладая, прывабная, у шыкоўнай белай вышыванай кашулі. Гладка зачасаныя чорныя валасы прыгожа ўкладзены ў вузел. І вочы, сінія-сінія. І такая даўно забытая ім мілагучная мова. Усё так проста, так лёгка. І ён не можа зразумець, рады ён гэтаму альбо не рады.

— Прабачце, калі ласка, што дакучаю. Я прыйшла па даручэнні айца Віктара. Вы ўсё правільна зрабілі, калі занеслі ўчора Евангелле ў кнігарню. Толькі скажыце Георгу, што ён учыняе вялікі грэх, бо нельга зарабляць грошы на тым, што табе не належыць. Святое Евангелле трэба аддаць таму, хто трэцім папытаецца пра яго ў кнігарні. Гэта ўсё. Мне трэба спяшацца, мяне

чакаюць. І, прабачце, што айцец Віктар сам не падняўся да вас, у яго надта баляць ногі.

Жанчына хуценька пабегла уніз па сходках. Гер Хельмут паволі зачыніў дзверы, прыйшоў да канапы, прылёг. Нешта памянялася, але што? Ён уявіць сабе не мог, што яны калі-небудзь сустрэнуцца...

Колькі ён спаў, нейкі час не разумеў, за вокнамі было цёмна, раніца ўжо альбо яшчэ вечар?.. Пацёр вочы і шчокі. Адразу ўспомніў… жанчына, падобная да яго жонкі Евы. Вось ужо пятнаццаць гадоў, як Ева памерла. Той беларускай жанчыны, мабыць, таксама ўжо даўно няма на гэтым свеце. Трэба ж такому прысніцца. Сон як ява!

Ён падумаў, што ўжо больш не ляжа, незалежна ад таго колькі цяпер часу. У кабінеце на стале ляжыць артыкул, які прасіў пачытаць Георг. Трэба ўставаць. Але чамусьці балела вышэй калена правая нага. Ён успомніў, што калі ішоў адчыняць дзверы, то ўдарыўся аб камоду. А зараз на месцы ўдару быў сіняк. Ён усхапіўся. Няўжо яна прыходзіла на самай справе? Яго агарнула трывога ад усведамлення таго, што казала жанчына: «Нельга зарабляць на тым, што табе не належыць!» Няўжо Георг употай прызначыў цану Святой кнізе. Горка думаць пра такое. Бо ён заўсёды даверліва адносіўся да свайго праўнука. Лічыў яго сваім прадаўжальнікам і годным чалавекам. Нашто ён гэта зрабіў? Гер Хельмут упэўнена і цвёрда зняў трубку тэлефона. Гаварыў у запале, горача, настойліва патрабаваў павагі да сябе, хаця б таму, што ў тры разы старэйшы.

Раптам падлога паехала пад нагамі. Гер Хельмут прысеў на зэдлік. Балела сэрца, нечым цяжкім ударыла ў скронь. Стала вельмі горача і млосна. Перад вачыма паплылі рознакаляровыя кругі... «Ну, што, прафесар, напэўна, усё?» — падумаў ён і прытуліўся да сцяны. Рука выпусціла трубку тэлефона. Між тым, сцяны не стала, быццам яна расчынілася. Ён убачыў далёкую беларускую вёску, натоўп людзей, які хацеў расстраляць, жанчыну з чорнымі, як смоль, валасамі і блакітнымі вачыма, што прытуляла да сябе дзіця... «Як яна падобна на Еву!.. Але імя яе — Ганна», — мільганула думка і зноў у скроні ўдарыла нечым цяжкім і тупым. І, мабыць, ад гэтага ўдару зрок яго раздваіўся. Ганна знікла. Ён цьмяна ўбачыў Еву, якая даўно памерла. Убачыў яе з пяцігадовай іх дачушкай Мартай на руках, яна памерла ад сухотаў. А далей — натоўп людзей з іншай вёскі, знішчаных па яго загадзе, і ледзь знайшоў сілы прашаптаць апошнія словы ў сваім жыцці: «Прашу міласэрнасці...»





Ганад ЧАРКАЗЯН

# АПАВЯДАННІ

## Чырвонец

Здавалася, спыніўся час. А само жыццё працягваецца. Усё ідзе сваім заўсёдным шляхам. Хтосьці працуе, хтосьці адпачывае. Нехта спяшаецца, каб кудысьці паспець, а нехта сонна ды лянотна сядзіць і сочыць, як людзі трацяць свой дарагі час, не здагадваючыся пра тое, што яго ўжо ніколі не дагоніш ды не вернеш. Трацяць яго і тыя, хто сочыць за ўсім гэтым. Гэта потым ужо, калі не будзе куды спяшацца, будзеш і сам сядзець ды згадваць тыя малюнкі жыцця, якія назаўсёды застаюцца ў памяці, і сцерці іх, як бы ты ні стараўся, немагчыма. З часам мы да непазнавальнасці мяняемся. І гэта добра бачна, калі глядзіш на старыя фатаграфіі. Нібыта чужы чалавек пазірае на цябе здалёку. Але гэты чужы і такі далёкі, амаль непазнавальны чалавек, і ёсць ты сам, толькі ў іншым часе. Праўда, кожны чалавек па-рознаму згадвае сваё мінулае. Часам глядзіць на яго ўжо новым позіркам, іншымі вачыма, што зусім не адпавядае мінулым рэаліям. У кожным часе абавязкова знойдзецца тое, да чаго чалавеку заўсёды хацелася б вярнуцца, ёсць і тое, што ты сам бы выкрасліў са свайго жыцця, але памяць гэтага не дазваляе. Толькі час вызначае, з якой вышыні і пад якім вуглом глядзець і згадваць мінулае. Сёння і на сваё, пражытае часам, глядзіш ужо іншымі вачыма, часам са шкадаваннем, а бывае, і з усмешкай. Але ў мінулым ужо нічога не перайначыш…

---

*__Чарказян Ганад Бадрыевіч__ нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001), «Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш; кнігі для дзяцей.*

У той дзень я спяшаўся на пошту. Там адзін раз на тыдні цікавіўся тым, што можа прыйсці да запатрабавання, хоць наперад ведаў, што перавод ад брата бывае толькі раз у месяц. Праўда, часам дасылалі невялікія ганарары з газеты, дзе пастаянна друкавалі нейкія мае заметкі з мясцовага жыцця. Тады мне пашанцавала: я атрымаў адразу чатыры пераводы па рублю пяцьдзясят капеек з газет і чырвонец ад брата. Да гэтага часу памятаю, як слізгалі тыя новыя грашовыя паперкі ў руках. Іх шкада было траціць. Я дзякаваў Богу, што ў мяне ёсць такі харошы брат, што ў кішэні маёй зараз цепляцца ажно шаснаццаць рублёў. А гэта ўжо грошы. А яшчэ ж тым днём чакалася і стыпендыя, а гэта ажно трыццаць чатыры рублі. Яе таксама выдалі новенькімі хрумсткімі купюрамі. Не вымаючы пашпарта, дзе ляжалі паштовыя грошы, я сунуў стыпендыю ў кішэню і як на крылах паляцеў у сталоўку. Там мяне чакала маё любімае смакоцце — малочныя сардэлькі. Заплаціў традыцыйных 30 капеек і набраў пабольш нарэзанага хлеба. Усё ж дармовы хлеб смачнейшы ад платнага. Калі прыйшоў у інтэрнат, усе мае сябры былі ўжо там. Вырашалі, як заўтра будзем дабірацца дамоў. Дні выхадныя, вядома ж,— свята. Праўда, не для ўсіх. Раніцой выявілася, што маё багацце зменшылася роўна на 10 рублёў. На цэлы чырвонец. Не плакаў, вядома. Але непрыемны асадак на душы застаўся. З хлопцамі мы дзяліліся апошнім, нічога не ўтойваючы адзін ад аднаго. І тут… прапаў чырвонец. Я пра тое нікому не сказаў, толькі ў думках пралічваў — хто ж мог паквапіцца. Падазроных, быццам, не знаходзілася.

Ішлі дні, і я пачаў ужо забываць пра сваю прапажу. Але кожны вечар незаўважна хаваў сваё сціплае багацце ў шкарпэтку, а яе ў чаравік. Страх не знік. Я стаўся замкнутым, недаверлівым. Грошы мае таялі з кожным днём. Грошы на тое і грошы, каб іх траціць. Якім бы ашчадным я ні быў, а яны знікалі. Ды так хутка, як сам не чакаў. Што будзе далей — ведаў толькі адзін Бог. Некаторыя мае знаёмыя не верылі ў існаванне Бога. Я не згаджаўся з імі. Навошта адмаўляць тое, чаго не ведаеш?! Праўда, заставалася часамі крыўда, што Бог не за ўсім сочыць. Заўсёды верылася, што Бог павінен усім кіраваць на зямлі, усё бачыць і прадбачыць. Каб людзі жылі мірна і дружна, не забівалі, не рабавалі, не ўзбагачаліся за кошт іншых. Потым дайшло, што падараваўшы людзям розум, Бог спадзяваўся, што тыя будуць ім кіравацца. Не можа ж Бог кожнаму разумнаму і неразумнаму яшчэ ахвяраваць і анёла-ахоўніка. Магчыма, так яно было і лепш. Але думалася, што анёл-ахоўнік закладзены ў кожнага чалавека ў свядомасці.

Урэшце скончыліся мае грошы. Ганарараў ніякіх не чакалася. На новыя допісы ў газеты я паленаваўся. Дарэмна я думаў, што багацце маё даўгавечнае. А ў жыцці ўсё ідзе сваёй чаргой. У нашай сталоўцы па-ранейшаму меўся бясплатны і смачны хлеб. Але не хлебам адзіным жыве чалавек. Урэшце ў кішэнях маіх стала зусім пуста, і я мусіў ехаць дахаты. А дарога дарагая: пяцьдзясят капеек туды, і столькі ж — назад. А капеек тых няма. На душы было пагана, пазычаць у хлопцаў не хацелася. Кожны можа падумаць Бог ведае што. Вярнуўся я ў пусты пакой. Усе даўно ўжо раз’ехаліся. Мы жылі на дзявятым паверсе, дзе не было вады і не працаваў ліфт. Але мы не звярталі на гэта ўвагі. Усе былі маладымі і чакалі ад жыцця немагчымага. Спачатку, каб неяк згладзіць свае перажыванні, каб не так дакучалі ўсялякія думкі, вырашыў прынесці вады. Лёгка збег па лесвіцы ўніз, але цяжкавата потым падымаўся ўверх. Пакуль нёс ваду, не толькі маліў Бога, каб яе не разліць, але і спавядаўся за ўсё перажытае. У жыцці бывала ўсялякае. Але чужога ніколі не браў, нікому не рабіў балюча. Ды і не лез туды, куды не трэба. Усё ж, спадзяваўся я, пасля хмурых і галодных дзён будуць сонечныя, будзе і на маёй вуліцы свята.

І яшчэ не аднойчы пакліча мяне пошта, каб парадаваць хай і сціплымі сваімі пераводамі.

Я нёс вядро з вадой асцярожна. Як самую вялікую каштоўнасць. Вось і дзявяты паверх. Дзякуй, Божа, я ўжо дома… Быў я адзін і смела размаўляў сам з сабою. Што ж, безграшоўе бывала і раней. У каго не бывала яго?! Але ж не ў кожнага ўкралі чырвонец.

І ўжо ні на што не спадзяваўся. На вуснах была толькі малітва да Бога. І раптам, нават з іроніяй, падумаў, што Бог быў надта заняты і забыўся пра мяне. Трэба быць больш асцярожным самому. Згадаў нечакана пра шкарпэткі, якія служылі мне сейфам. А потым зноў спусціўся на першы паверх і збегаў у сталовую, набраў дармовага хлеба і вярнуўся ў свой пакой.

— Дзякуй табе, Божа, за спачуванне. Што не даеш памерці.

А сам сабе думаю, што не можа Бог проста так пакінуць чалавека ў бядзе, калі ён стаіць на раздарожжы і думае, якім кірункам далей ісці. Падумаў раптам: а што калі здарыцца цуд і сёння на пошце я нешта атрымаю. Выцягнуў з кішэні пашпарт, сеў на ложак, сумна перагарнуў старонкі, паглядзеў на фотаздымак з задзірыстым чубам. Пачаў згадваць дзіўнага фатографа, што рабіў гэты здымак. Круціў у руках пашпарт нібыта хтосьці кіраваў маімі пальцамі, зняў нават вокладку.

— Божа, ты тут! — вырвалася ў мяне.

На калені з-пад вокладкі ўпаў хрумсткі чырвонец. Мне здалося, што ён упаў з неба. Я падняў яго дрыготкімі рукамі і ледзьве не заплакаў ад шчасця. У цішы пакоя мне зрабілася сорамна перад сваімі сябрамі, якіх я, грэшным чынам, западозрыў… і зразумеў, што чырвонец трапіў пад вокладку выпадкова, калі я запіхваў у кішэню стыпендыю.

— Божа! — прамовіў я ў цішы — дзякуй за цуд. І даруй за мае сумненні. Узамен я пастараюся множыць дабрыню ў сваім свеце. І хай зразумеюць усе, хто яшчэ не зразумеў, што самае ганебнае ў свеце — вінаваціць невінаватых. Даруй мне, Божа, даруй…

У той дзень я ўдосталь наеўся малочных сардэлек. І мне больш нічога не хацелася. Не цярпелася толькі хутчэй пабачыць хлопцаў, з якімі жыў у пакоі, каб вінавата паглядзець ім у вочы. Божа, даруй!..

## Выпрабаванне марозам

У кожнага некалі быў свой начальнік. І калі пачынаеш згадваць тых начальнікаў, то вывад напрошваецца адзін: кожны з іх, якую б пасаду ні займаў, абавязкова нагадваў дзіця. Тыя ж дзіцячыя капрызы, патрабаванні. Толькі ў кожнага гэта выяўляецца па-свойму. І мой начальнік быў не выключэннем. То яму мэблю памяняй у кабінеце, то шпалеры, то яшчэ што. Убачыў у свайго сябра новае крэсла-трон — давай і яму такое ж,— з высокай спінкай, намнога вышэйшай ад самой галавы. Такая вось манія прэстыжу. Хто каго. Кажуць, вядомы дзівак і мудрэц Дыяген жыў і тварыў у бочцы. І нічога, цярпеў. І застаўся ў гісторыі. А мой начальнік у гісторыі не застанецца, як бы ён таго не хацеў. Але з яго пункту гледжання ўсё ў жыцці дзеецца толькі па яго сцэнарыі. Праўда заўсёды належыць толькі яму. І ў гэтым сэнсе лепш з ім не спрачацца. Бо спрачацца з начальствам рызыкоўна.

У майго начальніка была нядрэнная службовая машына. Але аднойчы яму захацелася яе памяняць. Тады я адразу здагадаўся, што ён хоча ўцерці нос свайму прыяцелю, які мае новую іншамарку. Няйначай дзіця прачнулася

ў маім начальніку. Згадаў ён напэўна яслі, садзік, горы цацачных машынак. У каго лепшая машынка, той і герой!

…Халодны марозны вецер змятаў з асфальту рэдкія сняжынкі, а машына, што мёртва стаяла на шашы, трапіла ў сіло марозу і ночы. Спачатку спрабавалі па чарзе ў марознай цемры спыніць хоць якую машыну. Безвынікова. Паступова глухлі нашы мабільнікі. Усе спробы выклікаць дапамогу ў дзве гадзіны ночы былі дарэмнымі. Нейкая кантора, якая магла вызваліць нас з бяды, патрабавала перадаплаты, а пасля адразу пасля ўдалай спробы выратавання, — выплаціць і астатнюю суму. Здурнелі яны ці што? Як можна ноччу, знаходзячыся на мяжы жыцця і смерці, на трыццаціградусным марозе, за сто кіламетраў ад горада здзейсніць нейкую плацёжную аперацыю? Бязглуздзіца несусветная.

Тэлефоны нашы змоўклі канчаткова. Начальнік ужо не жартаваў. Бо сядзенне цяпер не грэла, а цёмная і марозная шаша — не цёплы і ўтульны кабінет. Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, каб не чалавек. Дакладней — два чалавекі. Адзін быў з манціроўкай, другі трымаў у руках нейкую палку. Паперадзе нашай машыны, міргаючы аварыйнымі агнямі, спыніўся іх уазік.

— Жывыя? — было першае іх пытанне.

— Як быццам,— сумна адказаў кіроўца.

— Хлопцы, дапамажыце! Хвалёная іншамарка перад нашымі маразамі сталася імпатэнтам,— пажартаваў я.

— Калі яшчэ жартуеце, дык жывыя,— пасмяяліся хлопцы.

— Выратуем,— сказаў той, што трымаў манціроўку,— але вы самі разумееце, што гэта будзе каштаваць грошай.

— Аддадзім усё, што маем,— сказаў я, не падазраючы, што ўсю фінансавую адказнасць бяру на сябе.

Чалавек з манціроўкай тут жа назваў суму. Шафёр наш адразу папярэдзіў, што грошай у яго няма. Тое ж самае прамармытаў, перамагаючы дрыжыкі і зубны ляскат, начальнік. Хоць я ведаў, што напярэдадні камандзіроўкі мы атрымоўвалі аванс. Не буду ж я пытацца, куды яны патрацілі свае грошы. Трэба ж было неяк ратавацца.

— Ну тады буду плаціць я,— з усмешкай глянуў я на шафёра і начальніка,— а вы памалу замярзайце. Гэта развітанне з дзяцінствам. На жарты мяне больш не цягнула, было не да іх. Было толькі здзіўленне. Нават у цяжкую хвіліну людзі не жадаюць шукаць выратавання. Думаюць толькі пра яго кошт.

Начальнік ужо не быў падобны да начальніка. Хутчэй за ўсё ён нагадваў зараз нашага заўхоза, у якога нічога ніколі не выпрасіш. А шафёр ніяк не мог падчапіць сваю іншамарку тросам. Ён лаяўся матам, псіхаваў, чаго я раней за ім не заўважаў. Зразумела было, тут вінаваты мароз. Але хіба ў гэтым дапаможа лаянка? Наадварот, гэта знак чалавечай слабасці. Начальнік жа абыякава глядзеў на ўсе дзеянні чужых людзей, што мітусіліся перад вачыма і, напэўна, абдумваў свае заўтрашнія паводзіны. Мне ў гэтай сітуацыі захацелася дапамагчы нашаму шафёру. Не ведаю, як гэта мне ўдалося, але я з першага разу падчапіў той трос. У гэтай халоднай труне, якую нагадвала наша іншамарка, мы паплылі да горада. Усе тры гадзіны, на працягу якіх мы рухаліся да горада, здаліся нам вечнасцю. Каля нейкай гарадской канторы нашы начныя анёлы адчапілі нас. Шафёр уазіка падышоў і пастукаў у акно машыны.

— Хлопцы, прабачце, — сказаў ён. — Вось вам на таксі. Едзьце хутчэй дамоў.

Ад холаду нам было цяжка размаўляць, але я падзякаваў яму.

Вартаўнік, што ўпусціў нас у дзверы сваёй канторы, выклікаў таксі.

Начальнік папрасіў пазваніць па тэлефоне. Яму дазволілі. Адубелымі пальцамі ён палез у кішэню і адтуль з вялікай цяжкасцю выцягнуў скураную запісоўку. Разам з кніжкай выцягнуўся і дабраваты пачак грошай, і тыя рассыпаліся па падлозе. Вартаўнік, бачачы, што начальнік бездапаможны, акуратна сабраў іх і сунуў начальніку ў кішэню. Я адвярнуўся, каб не глядзець начальніку ў вочы. Мне было не толькі холадна, але і сорамна. Ад начальніка зараз засталося вельмі мала. Мне здавалася, што ён проста выпарыўся і вымерз. Я яго ўжо не бачыў.

Назаўтра наш механік выправіўся «лячыць» хворую іншамарку. Правалаводзіўшыся з ёю ледзь не цэлы дзень, ён усё ж завёў яе і адправіў у гарантыйны рамонт. Я доўга шукаў кручок, за які ноччу так лёгка падчапіў выратавальны трос, але так і не знайшоў яго. Неўзабаве наш шафёр звольніўся. Я пайшоў следам за ім. Начальнік застаўся на месцы і працягваў здзіўляць калектыў сваімі дзіцячымі ўчынкамі. Ён быў вельмі задаволены сабой. Але ён ужо быў іншым чалавекам. Мне так здалося.

## Апошні шлях Шутава

Гена Шутаў на сваім старэчым аблезлым «масквічы» давёз нас да могілак. Увесь час пакуль ехалі, ён прасіў у нас прабачэння, што машына старая і часта падводзіць. Казаў, што ён стаіць на чарзе і хутка атрымае новую. Ах, лепш бы ў такія хвіліны ўсім нам памаўчаць. Асабліва яму, Шутаву. Бо мы ехалі капаць дол яго бацьку. Шутаў-старэйшы быў родам адсюль, вырас тут. А ваяваў, як сам прызнаваўся, вельмі няўдала. У кожным яго слове чуліся горыч, крыўда і яшчэ шмат таго, што не ўсе разумелі.

— Мая вайна,— паўтараў Шутаў-старэйшы,— пачалася ля галоўнага прычала нашага суднарамонтнага завода. Памятаю, якой трывожнай выдалася тая трагічная ноч. Гэта была дарога ў адзін бок, а па сутнасці — дарога смерці. Мы плылі на невялікім суднейку. А раніцой высадзіліся на Малую Зямлю. А там, пасля першага кідка да смерці, я страціў прытомнасць. Ачуўся на тым жа прычале суднарамонтнага завода, куды адпраўлялі параненых. Потым — шпіталь. Так і скончылася мая вайна, але след яе, як бачыце, застаўся на ўсё жыццё.

Гэтыя словы Шутава-старэйшага я згадваў пазней, калі капаў дол у шматслойным грунце, так падобным на слоены пірог. Камені, гліна, вапняк, пясок…

Шутаў-старэйшы ўсё ж застаўся ў страі, і, нягледзячы на пашкоджанае вока, усё жыццё рамантаваў вялікія і малыя судны. Працаваў як мог. Стаў майстрам, нават хацеў стварыць сваю рабочую дынастыю, усватаў на завод адзінага сына Гену. З таго выйшаў выдатны спецыяліст, і самыя складаныя дэталі даручалі толькі яму. Ён быў адзіным токарам механічнага цэха з вышэйшым шостым разрадам. Але Гена Шутаў не змог прадоўжыць дынастыю — ён не меў дзяцей. А таму сваё асабістае гора часта залліваў гарэлкай. Тады, у дзень пахавання, майстар Баранаў з горыччу сказаў, што ў Гены не стала бацькі і трэба дапамагчы выкапаць дол. Ён абвёў усіх позіркам і загадаў:

— Вось вы, трое,— ён паказаў на мяне, на Колю Марсалава і Мішу Цыціка,— і зоймецеся гэтым.

Прызнацца, я з дзяцінства баяўся магільнікаў і нябожчыкаў. Хоць і супакойваў сам сябе: нябожчыкі — гэта тыя ж людзі, якія нядаўна хадзілі між нас,

разам з намі елі, пілі, плакалі і смяяліся. Ім пашанцавала не так, як астатнім. Яны пакінулі гэты свет раней за іншых. І мы ад гэтага нідзе не дзенемся. Але вось я апынуўся ў жалобнай тройцы, і трэба брацца за самую сумную работу. Страх авалодаў мною, але я хаваў яго ад астатніх з нашай каманды.

Гена Шутаў пакінуў нас з рыдлёўкамі на могільніку, паказаўшы месца магілы, а сам кудысьці знік на сваёй старэнькай машыне. Памятаю, ад'язджаючы, ён паказаў металічны крыж на другой магілцы і сказаў:

— Тут пахавана мая бабуля, і хай магіла бацькі будзе побач. Так ён сам хацеў. Крыж быў з нержавейкі, майстравіта адточаны Генам. Тады я падумаў — добрая работа і на магільніку добрая. Маладзец Гена.

А ён, ад'язджаючы, сказаў нам:

— Хлопцы, я хутка вярнуся.

Вярнуўся ён праз гадзіны паўтары. З гарэлкай і закускай. А мы толькі яшчэ пачалі заглыбляцца ў грунт. Гена тут жа і пакінуў нас. Сказаў толькі:

— Хаваць будзем праз тры гадзіны.

Сумныя думкі ўсё больш і больш авалодвалі мною. А мае сябры кінуліся да пакунка, які прынёс Гена.

— Гэй, магільшчык, давай сюды! — клікнулі яны мяне.— А апошні прытулак для Шутава выкапаць паспееш.

Коля і Міша ўжо налівалі чаркі. А я стаяў па калена ў зямлі і падкопваў чарговы слой акамянелага пясчаніка. Піць мне не хацелася. Ды і дол яшчэ капаць ды капаць. Крыху раней я знайшоў у першых сантыметрах цвёрдага грунту буйнакаліберную кулю. І тады з горыччу падумаў, што вайна — гэта ўсё ж вялікае зло, прыдуманае чалавекам.

Магілы тых людзей, што жылі і хацелі жыць далей, скіроўвалі мае думкі ў нейкі сумны і незразумелы бок. Я нават не заўважыў, як калегі мае паступова заціхлі. Усталявалася такая незвычайная цішыня, нават трывога. І мне зрабілася страшна. Не ад магіл, не ад трывожнага варонінага карканне. Не. Капаючы чарговы слой, я зразумеў, што аднаму мне падрыхтаваць дол, вывесці вертыкальныя краі яго, проста немагчыма. А калегі мае захапіліся чаркай.

Я выбраўся з недакапанай ямы і падышоў да іх. І тут убачыў, што бутэлькі з-пад гарэлкі былі пустыя. А мае, старэйшыя за мяне, калегі-памагайтары спакойна сабе дрэмлюць. Ім зараз было не да мяне і не да старэйшага Шутава. Пасядзеўшы ў самоце на ўскрайку долу, праз слёзы і шум у галаве, я недарэчна падумаў, што самае лепшае, што я мог бы зараз здзейсніць — гэта спіхнуць маіх п'яных калег у тую самую яму ды і пайсці адсюль.

— Памагай Бог! — пачуў я нечакана за сваёй спінай і ўздрыгнуў ад нечаканасці. Я азірнуўся: у трох кроках ад мяне стаялі тры пагранічнікі. Тры аўтаматныя рулі глядзелі на мяне. Адзін з іх падышоў да маіх калег, што нагадвалі зараз нябожчыкаў і спытаўся ў мяне:

— Даўно?

Мой унутраны камп'ютар спрацаваў імгненна. Ён, хутчэй за ўсё падумаў, што я забіў маіх калег і хачу іх пахаваць.

— Сёння. Дзве гадзіны таму,— адказаў я.

Пагранічнікі заўсміхаліся, але мне было не да смеху. Я ўжо на самай справе плакаў. А потым усё, нічога не тоячы, растлумачыў пагранічнікам. Сказаў пра Шутава-старэйшага, маладзейшага, пра маіх таварышаў і калег… Я заўсёды верыў, што безвыходных сітуацый не бывае.

— Значыць, хай Бог памагае…

— Як? — не зразумеў я.

— Паможам і мы,— ужо сур'ёзней прамовіў сяржант, што камандаваў гэтай групай.— Ну што, хлопцы, дапаможам?

І ён даверліва абвёў позіркам хлопцаў.

— Вядома, дапаможам! — дружна адказалі тыя.

І мае новыя памагатыя ўзяліся за рыдлёўкі. Нарэшце дол быў выкапаны. І своечасова. Але я ўсё адно плакаў:

— Сяржант! І яшчэ адна просьба: адцягніце гэтых маіх двух у яр, далей з вачэй. Хай паспяць. Яны змусілі мяне па-іншаму глянуць і на жыццё, і на смерць. А вам на памяць вось гэта штуковіна,— я раскрыў далонь, дзе ляжала куля з той далёкай вайны.

— Дзякуй! — сказаў сяржант.

Ён паглядзеў на сваю каманду, відаць, абдумваючы штосьці важнае. А пасля спытаў:

— А калі пахаванне?

— Хвілін праз 15,— адказаў я.

— Тады мы застаёмся. Правядзём старэйшага Шутава як воіна. Хоць давядзецца апраўдвацца перад начальствам. Нічога… Думаю, зразумеюць. А кулю здадзім у музей часці.

А потым адбылося пахаванне. Над магілай Шутава-старэйшага прагрымелі тры аўтаматныя залпы.

— А дзе ж Коля і Міша? — спахапіўся раптам Гена. Я сказаў, што яны зрабілі сваю справу і пайшлі.

Дамоў мы вярталіся без іх. У грудзях маіх шчымела. Я ўяўляў, як прачнуцца мае памагатыя, пабачаць свежы магільны грудок у кветках і як сумна паплятуцца яны пакручастай дарогай дахаты. Напэўна, ім хопіць часу, каб падумаць і пра жыццё, і пра смерць, і паводзіны свае таксама…

***Пераклад з курдскай Кастуся МАЧЫНСКАГА.***



# ГОРЫЧ І ПАЛКАСЦЬ

*Эпоха Тан (618—907) увайшла ў гісторыю як перыяд росквіту ўсіх бакоў жыцця кітайскага грамадства, у тым ліку і як «залаты век кітайскай паэзіі». Менавіта ў гэтую эпоху жылі найбольш адметныя кітайскія паэты, такія як Лі Бо, Ду Фу, Ван Вэй, Бо Цзюйі, Ду Му, Лі Шан'інь, Су Шы і многія іншыя. Сярод іх знаходзіцца і Лі Хэ — адзін з найбольш яркіх і самабытных кітайскіх паэтаў.*

*Жыў Лі Хэ на мяжы сярэдняй і позняй Тан, калі дзяржава пачала ўжо ўступаць у перыяд заняпаду, у перыяд пастаянных бунтаў і інтрыг, што так трагічна паўплывала на лёс паэта. У гісторыю кітайскай літаратуры ён увайшоў як «Дэман паэзіі», у многім праз мяцежнасць, палкасць і горыч ягоных вершаў.*

*Нарадзіўся ў 790 г. у мясцовасці Чангу павета Фучан (сучасны павет Іян правінцыі Хэнань). Род паэта, на той час вельмі збяднелы, знаходзіўся ў далёкім сваяцтве з танскімі імператарамі. Бацька Лі Хэ — Лі Цзіньсу — спачатку служыў дробным чыноўнікам на мяжы, а пасля — начальнікам павета Шаньсянь правінцыі Хэнань. Мясцовасць Чангу, дзе вырас будучы творца, была багатая на прыгожыя краявіды, што натхняла Лі Хэ на творчасць з самага ранняга дзяцінства. Будучы хваравітым, але вельмі адораным хлопчыкам, ён ужо ва ўзросце сямі гадоў складаў выдатныя вершы.*

*Калі слава пра Лі Хэ дайшла да тагачаснай сталіцы Чан'ань, адметныя літаратары Хань Юй*[1] *і Хуан Фушы*[2] *спецыяльна прыязджалі ў яго дом, каб паслухаць вершы і былі ў поўным захапленні ад таленту хлопчыка. Хань Юй і далей вельмі шанаваў і падтрымліваў Лі Хэ.*

*У 806 г. памёр бацька паэта. Пасля трохгадовай жалобы Лі Хэ паспяхова здаў павятовы і правінцыяльны іспыты і прыкладна ва ўзросце дваццаці гадоў паехаў у сталіцу Чан'ань для ўдзелу ў іспытах на атрыманне вышэйшай навуковай ступені — цзіньшы, якая давала права займаць высокія чыноўнія пасады. Але незвычайная адоранасць юнака, хутчэй за ўсё, выклікала зайздрасць яго сапернікаў, бо некаторыя з іх сталі патрабаваць забараніць яму ўдзельнічаць у іспыце на той падставе, што адзін з іерогліфаў імя бацькі Лі Хэ — Цзіньсу — па гучанні супадае з гучаннем іерогліфа, які ўваходзіць у назву навуковай ступені — цзіньшы. Справа ў тым, што ў Кітаі з даўніх часоў існавала табу на вымаўленне імя бацькі, дзеда і імператара. Лі Хэ не стаў удзельнічаць у іспыце, нягледзячы на падтрымку з боку Хань Юя, які з тае нагоды пісаў: «Калі бацьку завуць Цзіньсу і сыну забаронена быць кандыдатам на ступень цзіньшы, што ж тады, калі бацьку завуць Жэнь, то сыну забаронена быць чалавекам?»*[3]*.*

*У 810 г. творца заняў дробную пасаду пры храме продкаў Тайчансы ў Чан'ані, дзе працаваў на працягу трох гадоў. Пакінуўшы гэтую пасаду з-за хваробы, ён вярнуўся ў Чангу. Праз год, хутчэй за ўсё праз цяжкае фінансавае становішча (на ім ляжаў клопат пра маці і малодшага брата), Лі Хэ паехаў у Луджоў (сучасны горад Чанджы правінцыі Шаньсі) на пошукі новай пасады. Праз некаторы час ён вярнуўся ў Чангу, дзе памёр ад хваробы ў 816 г.*

*Паэт пражыў крыху больш за 26 гадоў, але за гэты кароткі час ён паспеў стварыць цудоўныя вершы, у іх увасобіў боль і радасць свайго жыцця, якія чытачы ягоных твораў могуць адчуць і падзяліць нават праз тысячу дзвесце гадоў.*

***Алена РАМАНОЎСКАЯ***

---

[1] Хань Юй (768—824) — другое імя Туйджы, адзін з буйнейшых палітычных дзеячаў і літаратараў дынастыі Тан, які рана асірацеў і без усялякай падтрымкі, у абставінах крайняй беднасці, толькі дзякуючы настойлівай самаадукацыі (у выніку чаго ў 30 гадоў увесь пасівеў і ледзь не страціў зрок) паспяхова прайшоў усе іспыты на атрыманне чыноўняй пасады.

[2] Хуан Фушы (777—835) — літаратар эпохі Тан, вучань і сябар Хань Юя.

[3] Гульня слоў: жэнь (*кіт.*) — чалавек.

## Лі ХЭ

# ЗЯЛЁНАЯ БАМБУКАВАЯ ПЕСНЯ

### СЦЮДЗЁНАЯ НОЧ ЛЯ РАКІ

Белай лісы брэх на месяц далёкі
З ветрам ляціць у даліну,
Восеньскі холад прыбраў усе аблокі,
Яснае неба пакінуў.

Белыя сцягі туманаў па глебе
Сцелюцца з яшмавым ззяннем,
Срэбны ручай выгінаецца ў небе,
Шлях свой кіруе ў світанне.

Чапля на гладзі ракі засынае,
Гусь пералётны ёй сніцца,
Вецер узорамі лёгка кранае
Плынь, што нячутна бруіцца.

Гор ланцужок цёмнай спінай дракона
Безліч вяршыняў звівае,
Горкі бамбук сваёй флейтай зялёнай
Ціхую песню спявае.

### СТАЛІЦА

Калі я з дому выязджаў,
Зрабіць так многа важных спраў
Я меў ахвоту,
Хутчэй за вецер я скакаў,
А ў Чан’ані[1] знайшоў адну самоту.

Як гэта мне асэнсаваць,
Каму аб гэтым расказаць
У цэлым свеце?
Я вершы буду зноў складаць
І сам сабе услых чытаць
Пра стылы вецер.

### У ЧАНГУ[2] ЧЫТАЮ ХЛОПЧЫКУ[3], ШТО РОДАМ З БА

Спевы цыкад, цьмянай лямпы святло,
Лекамі пахне у холадзе ночы,

Вам так шкада, што панікла крыло,
Але і праз горыч сумесна мы крочым.

## АДКАЗ ХЛОПЧЫКА З БА

Грубы мой твар,
І адзежа прастая,
Густабровы спадар
Сумна юэфу[4] чытае.

Калі б Вы не спявалі
Вершаў сваіх,
Як бы мы распазналі
Подласць другіх?

## ТРЫНАЦЦАТЫ МЕСЯЦ

***(з цыкла «Дванаццаць месяцаў (і дадатковы месяц)», напісанага да іспыту на атрыманне другой ступені правінцыі Хэнань)***

Імператара здвоены бляск[5],
Года гэтага здвоены час[6],
Пяцідзённыя хоў[7] йдуць адна за другой,
На год семдзесят дзве штораз.

Апусцелі ўсе трубачкі з яшмы[8],
Дробкі попелу з іх не ляціць,
Проста будучы год замарудзіў прыход,
Гэты год працягнуў тут гасціць.

Імператару персікі дорыць
Уладарка Заходу Ванму[9],
І цяпер зразумела, чаму
Рух драконаў Сіхэ[10] не паскорыць.

## СНЮ, ШТО ВЯРТАЮСЯ ДАХАТЫ

Шуміць вецер, лье дождж у чан’аньскай начы,
А вандроўны шкаляр пра Чангу бачыць сон.
Як шчасліва-шчасліва смех маці гучыць,
Як збірае мне брацік траву артраксон[11].

На падтрымку маю мелі столькі надзей,
Спадзяваліся — іх я змагу накарміць.
Ад цяжару ў грудзях сэрца б’ецца радзей,
Вокам рыбіным лямпа у цемры гарыць.

### ЧЫРВОНЫ ШОЎК ТАК ДОЎГА ТЫ НЕ МЫЙ

Чырвоны шоўк так доўга ты не мый,
Бо чырвань хутка вымыеш з яго.
Каханы мой, гадоў юнацкіх плынь
Няспынна мчыць, не бачыць берагоў.

Учора толькі я на мосце Інь
З табой адчула шчасце разам быць.
А сёння ты паехаў ў далячынь,
На службу трапіць, з гонарам служыць.

Ўсе мэты дасягнуўшы, найхутчэй
Вяртайся да мяне,
Не будзь нібы страла,
Што выпушчана з лука, і з вачэй
Знікае там, адкуль
Не вернецца яна.

### ЦЫКЛ «КОНІ» (ВЕРШ 5-ТЫ)

У вялікай пустыні[12] пясок падаецца мне снегам,
Над гарою Яньшань[13] светлы месяц здаецца сярпом.
Скрозь празрыстую восень[14] калі наталюся я бегам,
Залатую аброць адчуваючы гордым ілбом?

## Заўвагі перакладчыка

[1] Сталіца Кітая пры дынастыі Тан (618—907).

[2] Мясцовасць у павеце І’ян правінцыі Хэнань, родныя мясціны Лі Хэ.

[3] Хлопчык-прыслужнік у кабінеце Лі Хэ.

[4] Жанр кітайскай паэзіі, мае вытокі ў Музыкальнай палаце, афіцыйнай установе, створанай для збору народных песень.

[5] Здвоены бляск — першапачаткова так азначаўся час, калі сонца і месяц свецяць разам; пасля — слава і дабрачыннасць, якія перадаваліся сыну ад бацькі (якраз у гэты перыяд імператар дынастыі Тан Сяньдзун (778—820) рыхтаваўся перадаць трон свайму сыну).

[6] Здвоены час — высакосны год з дадатковым трынаццатым месяцам, згодна з месяцовым календаром, дадаецца адзін раз на тры гады.

[7] Хоў — перыяд у пяць дзён, адна трэцяя частка сезона па кітайскім сельскагаспадарчым календары, у адным годзе было семдзесят дзве хоў.

[8] Дванаццаць яшмавых трубачак, напоўненых чаротавым попелам, што былі прызначаны для назірання за зменамі сезонаў. Лічылася, што попел сам вылятае з адпаведнай трубачкі з прыходам новага сезона. Калі пачынаўся дадатковы месяц, попелу ў трубачках больш не заставалася.

[9] Багіня, ля палаца якой раслі персікавыя дрэвы, на якіх раз на тры тысячы гадоў выспявалі персікі бессмяротнасці, імі Сі Ванму частавала некаторых імператараў.

[10] Багіня, што вазіла па небе сонца ў павозцы, запрэжанай шасцю драконамі. Акрамя таго, Сі і Хэ — астраномы пры двары імператара Яо (XXIV—XXIII стст. да н. э.), якія назіралі за нябеснымі з’явамі і распрацоўвалі каляндар.

[11] Расліна, з лісця якой выраблялі жоўтую фарбу для фарбавання адзення.

[12] Пустыня Гобі.

[13] Гара Хан’айшань (старажытная назва Яньжаньшань), знаходзіцца на тэрыторыі Манголіі.

[14] Ранняя восень, у гэты час гуны звычайна рабілі напады на кітайскія землі.

***Пераклад з кітайскай Алены РАМАНОЎСКАЙ.***

Сняжана С. БАШЧАРАВІЧ (Сербія)

# АРХЕТЫПЫ Ў РАМАНЕ ІВА АНДРЫЧА «МОСТ НА ДРЫНЕ»

«Архетып» — паняцце, якое адсылае нас да яго тэарэтыка К. Г. Юнга. У гэтай працы мы непасрэдна выявім асноўныя погляды Юнга на архетып і суадносіны іх з раманам І. Андрыча «Мост на Дрыне». Юнг адрознівае *архетып як такі*, — тое, што мы атрымліваем у спадчыну ад калектыўнага несвядомага, і *архетыповае ўяўленне*, якое не ўспадкоўваецца. Да ўсяго Юнг звязвае архетып з інстынктамі, эмоцыямі і вобразамі, а таксама адрознівае непасрэдную праяву архетыпа ў снах і візіях, ад архетыпаў вышэйшага ўзроўню, калі выяўляецца ўплыў свядомага назірання. Непасрэдную праяву архетыпа Юнг лічыць значна больш індывідуальнай, незразумелай ці больш наіўнай, чым яго рэалізацыю ў легендах. Таму і вагаецца, калі гаворка ідзе пра архетыповы характар легенды, рэлігіі і казкі. У апошні час тэрмін «архетып» выкарыстоўваецца для азначэння самых агульных, фундаментальных, агульначалавечых матываў у легендах, і ад такога разумення архетыпа мы адштурхоўваемся ў гэтым артыкуле.

Акрамя канцэпцыі Юнга, існуюць таксама падыходы Н. Фрая, які прапаноўвае тэрмін «архетыпы жанру» па аналогіі з «архетыпамі ўяўленняў» Юнга, і Н. Фрыдмана, які паспрабаваў зрабіць класіфікацыю архетыпаў. Тэрмін «архетыповая мадэль», які намі будзе часцей за ўсё выкарыстоўвацца, — гэта сінонім «архетыпа як такога» Юнга ў той ступені, наколькі «архетып як такі» можна аддзяляць ад «архетыповага ўяўлення». Юнг сцвярджаў, што ў псіхіцы чалавека ёсць пласт, дзе знаходзяцца аднолькавыя ці агульныя вобразы і матывы. Такія агульныя вобразы і матывы, ці *міфемы*, ён назваў архетыпамі. «Юнг, ствараючы сваю канцэпцыю архетыпаў, не карыстаўся тэрмінам «парадыгма», хоць ён таксама падыходзіць для азначэння выяўляемай з'явы» [11, с. 97].

Паняцце «архетып» пачало выкарыстоўвацца ў філалогіі яшчэ да Юнга, прыкладна з XVIII стагоддзя. Ім азначалі тэкст, з якога пазней узніклі ўсе астатнія спісы. Слова «архетып» і тады ўжывалася ў значэнні, суадносным з паняццем «парадыгма». Тут падкрэсліваецца значэнне, якое можна перадаць словам «узор». І пад «узорам» маецца на ўвазе нешта падобнае да прамадэлі ці парадыгмы, уласна — асноўны ўзор або парадыгма таго, што можа з'яўляцца ў мностве асобнікаў.

Ідэю Юнга пра архетыповую аснову духоўнага ў чалавеку пазней грунтоўна распрацаваў канадскі прафесар Нортрап Фрай. Ён па праве лічыцца прадстаўніком так званай архетыповай крытыкі, г.зн. крытыкі, якая займаецца архетыпамі ў мастацтве. Зыходныя палажэнні Фрая несумненна ўзыходзяць да Юнгавай тэорыі архетыпаў, але Фрай разумее архетыпы шырэй за Юнга. Архетыпамі Фрай лічыць не толькі матывы, але і формы — прычым разглядае іх у значэнні канвенцыі. Фрай архетыпы бачыць і ў плане формы, і ў плане зместу.

Пад «архетыповай фантазіяй» падразумеваецца тое «агульнае, што мы маем спрадвечна» [16, с. 135]. Таму часам здаецца, што ў творах, дзе яна рэалізуецца, падзеі і людзі на розных часавых узроўнях (сучаснасць/мінулае/даўняе мінулае) істотна не адрозніваюцца. Там няма сапраўднай разнастайнасці ў руху, а працэсуальнасць развіваецца па кругавой лініі.

Адзначаючы субстанцыянальнае падабенства, якое існуе паміж раманам, драмай і легендай, Леві-Строс падкрэслівае, што тая агульнасць, «субстанцыя» праяўляецца не ў стылі, не ў форме нарацыі, не ў сінтаксісе, а ў аповедзе, які выкладаецца. Пра такі аповед, што зачароўвае сваім «шумам часу», Жыльбер Дзюран сцвярджаў: «Гэты аповед — больш, чым аповед пра нас. Гэта аснова нашых самых дарагіх мар, нашай сутнаснай прагі. Адпаведна, у гэтай топіцы сімвалаў і міфаў можа будавацца не толькі «ўяўны музей» форм і колераў у прасторы, але і багаты музей нашых мар, які авалодвае часам, падпарадкоўваючы яго рытму нашых жаданняў і ўзгадняючы «маленькія рэчы», біяграфіі смяротных людзей <…> з далёкім неспакоем Адысея і вечным грахом Ахіла» [16, с. 135].

Сімволіка нараджэння, жыцця, смерці і новага нараджэння належыць да мадэлі працэсу індывідуацыі. Чалавецтва заўсёды імкнулася выявіць гэты працэс праз метафару ў легендах, культах і мастацкіх творах, каб змешчаную ў ім архетыповую падзею ахапіць формай, значнай для ўсіх людзей. Большасць гэтых легенд і культаў мае калектыўна значны аспект, які адпавядае індывідуальнаму жыццёваму досведу. Многія гераічныя легенды ўяўляюць сабой парадыгму не толькі шляху індывідуацыі асобнага чалавека, але і таго псіхічнага працэсу, які ў гісторыі чалавечага духу можа лічыцца працэсам прагрэсіўнага асвядомлення. У індывідуальным перажыванні смерці і новага нараджэння праз барацьбу і пакуты, праз свядомае і няспыннае імкненне пашырыць прастору свядомасці чалавека дасягаецца большая ўнутраная свабода. Акрамя гэтага асабістага шляху існуе магчымасць пераўтварэння чалавека і як удзельніка калектыўнай падзеі, якая б, у пэўным сэнсе, ідэнтыфікавалася з рытуалам ператварэння.

Большасць легенд можна разглядаць як сімвалічныя, вобразныя адлюстраванні першапачатковага фарміравання свядомасці — у пэўным сэнсе, «нараджэння свядомасці». Калі, напрыклад, у вавілонскім міфе тварэння герой Мардук (сімвал Сонца) сваім мечам (сімвал промняў Сонца) забівае і рассякае цмочыху Тыямат (увасабленне прахаосу і працемры); тады з частак яе цела ствараецца свет, і мы атрымліваем мадэль для аналогіі тварэння свету і нараджэння свядомасці. У розных легендах, дзе адлюстравана расчляненне цмока, пачвары ці злога духа, заўсёды ідзе гаворка пра фарміраванне самастойнай асобы, якая паказваецца праз сімвалы.

Сустракаецца таксама матыў, звязаны са спускам у цёмныя сферы несвядомага, што сімвалічна перадаецца праз горла пачвары, якая праглынае, пагражаючы смерцю. Гэтае падарожжа ў падземнае царства — мадэль, па якой будуецца большасць такіх легенд і лёсаў. Мы яе знаходзім і ў жыцці Хрыста: гэта шлях у пекла перад Уваскрэсеннем. Стварэнне свету праз расчляненне цмока — базавая архетыповая схема задання першай часткі індывідуацыі. А праглынанне цмокам, пасля якога чалавек выходзіць сталым, ператвораным і зноў звязаным з Самасцю, — гэта змест другой часткі.

У сваёй прозе і эсэістыцы Андрыч згадвае міф нячаста. Зварот да міфа як архаічнай і сінтэтычнай формы не ажыццяўляецца непасрэдна. Ён актыўна выкарыстоўвае іншыя формы традыцыйнай творчасці, карані якіх — у міфе. Міфалагічнае ў яго чэрпаецца з легенд, паданняў, казак і прыказак — народнай творчасці ўвогуле. Андрыч мае схільнасць да ўстойлівых мадэлей паводзін, якія паўтараюцца на індывідуальным узроўні, у гісторыі і ў прыродзе. Яны блізкія да тых мадэлей паводзін, якія Юнг называе архетыпамі.

Андрыч імкнецца падзеі ў сваёй прозе рабіць як мага больш пераканаўчымі з пазіцый магчымага і верагоднага ў рацыяналістычнай карціне рэчаіснасці і падзей у ёй. Гэта прынцып яго паэтыкі. У «Знаках уздоўж дарогі» аўтар гаворыць пра пісьменніка: «Яго праца — тое, што адбылося ці толькі магло адбыцца, паказаць як тое, што ёсць — абсалютна пераканаўча, без магчымасці найменшых сумненняў. Ён павінен цалкам упэўніць чытача ў тым, у чым нават сам дагэтуль да канца не быў упэўнены» [14, с. 218].

«Выпадкі» ў творах Андрыча адносяцца да той катэгорыі «выпадковых здарэнняў», якія, паводле азначэння Арыстоцеля, «здарыліся наўмысна». Арыстоцель прыводзіць у якасці прыкладу здарэнне ў Аргасе, калі статуя пакарала вінаватага ў смерці Міцця, абрынуўшыся на яго, калі той разглядаў помнік забітага ім чалавека. Арыстоцель сцвярджае, што, насуперак ілюзіі, «гэта не здарылася выпадкова» [1, с. 22—23]. Андрыч і сам падкрэслівае, што выпадак — элемент «вялікіх заканамернасцей», якія складаюць «асноўнае, істотнае і вечнае» ў імкненнях і дасягненнях людзей [14, с. 297—298]. Сярод такіх «выпадковасцей» — замуроўванне Арапа ў фундамент сярэдняга ўстоя, ці дубовы бык у каменнай браме, што стала адпаведным прадказаннем падзей, якія адбудуцца праз некалькі дзесяцігоддзяў (разбурэнне Моста).

Паўтарэнне і зваротнасць — істотныя кампаненты структуры рамана «Мост на Дрыне». З пункту гледжання рытуальнай падаплёкі асаблівую паказальнасць маюць наступныя моманты: выбар месца для будаўніцтва моста і, у сувязі з гэтым, невытлумачальнае «чорнае лязо», якое непасрэдна звязана не толькі з узнікненнем моста, але і са смерцю Мехмед-пашы Сокалавіча і Алі-хаджы Мутавеліча («чорнае лязо», знак сілы разбурэння, пагражае адначасова і мосту, і людзям, якія яго стварылі ці яго ахоўваюць); замуроўванне чорнай крывавай ахвяры ў аснову і цэнтр пабудовы, у падножжа сярэдняга ўстоя і пазнейшае рытуальнае пакаранне вінаватых на браме, якая складае адзінае цэлае з сярэднім устоем; замуроўванне драўлянай ахвярнай эмблемы — дубовага дрэва — у камень на варотах.

Творы Андрыча змяшчаюць матывы, якія мы назавем легендамі ў духу яго ўласнай тэрміналогіі. Мы іх заўважаем толькі тады, калі звяжам асобныя ніці і лёсы з усёй раманнай прасторы. Адразу бачым абрысы легенды пра паміранне і нараджэнне: гэта замуроўванне Арапа ў сярэдні ўстой, яго ператварэнне ў чорнага Хайрудзіна, які на месцы першапачатковай ахвяры па ўсіх рытуальных правілах, вызначаных у старажытнасці, пазбаўляе жыцця іншых ахвяр.

Заблытаную гісторыю Мехмед-пашы Сокалавіча і «чорнага ляза», прысуду яго жыцця, таксама можна лічыць перастварэннем легенды. Калі малога Сокалавіча адводзяць у свет, адна частка яго жыцця заканчваецца. Ён адпраўляецца ў краіну, з якой не вяртаецца, і жыве з загадкавым чорным лязом у грудзях. Мехмед-паша — носьбіт ідэі пра мост і ініцыятар яго будаўніцтва. Мехмед-паша — будаўнік — знікае, але нараджаецца Алі-хаджа — ахоўнік створанага, які не будуе мост, але клапоціцца пра яго.

Зварот Андрыча да глыбокай старажытнасці стымулюе работу фантазіі. Вялікія Біблейскія легенды ён згадвае ў эсэ пра Гою. Прынцып перыядычнага стварэння і разбурэння свету, увасоблены ў легендзе пра Патоп, можна пазнаць у многіх вобразах і сімвалах рамана «Мост на Дрыне», а тэму ахвяры мы заўважаем у шэрагу эпізодаў і падзей у «Траўніцкай хроніцы» і «Мосце на Дрыне». У «Праклятым двары» тэме ахвяры і ахвярнага казла надаецца «хрысталікая» вобразнасць у выпадку Чаміла са Смірны.

Легенда ў творах Андрыча з'яўляецца канстытутыўным элементам, які арганізуе рэчаіснасць не толькі прысутнасцю ў свядомасці людзей, але і праз ўплыў на гэту рэчаіснасць, якая вяртаецца да сваіх вытокаў. Асабліва істотнай з'яўляецца ўпэўненасць Андрыча ў тым, што легенда «дае пажыву будучыні, акрэсліваючы яе плынь». Гэта значыць, што архетыповыя мадэлі з глыбіні часоў уплываюць на ход таго, што толькі надыдзе.

Адна з архетыповых мадэлей у раманах Андрыча — сутыкненне сіл стварэння і разбурэння. Яна лепш за ўсё выяўляецца ў рамане «Мост на Дрыне». З жыццём Мехмед-пашы ў творы звязана прадказанне згаданага «чорнага ляза». Яно непасрэдна суадносіцца з мостам, з ідэяй пра яго ўзнікненне і суправаджае ўсё жыццё Мехмед-пашы. На фоне яго жыцця ў рамане дамінуе нітка, драматычна арганізаваная ў якасці рухаючай інтымнай сілы ў быцці візіра. Больш увагі прысвячаецца таму, як перажывае візір чорнае лязо, чым візіру самому. Усё

пачынаецца з таго дня, калі ён пакідае родны дом і пераплывае Дрыну. Ён выразна «запамятаў камяністы бераг, зрэдзь парослы чэзлымі і ўбога сівымі ракітамі»[1] [14, с. 25]. Гэты пейзаж пераносіцца ўнутр маленькага цела будучага вялікага візіра. «Нібы фізічную рэзь — чорнае лязо, якое раз-пораз на секунду-дзве працінае грудзі з нясцерпным болем і быццам распалавіньвае іх, — хлапчук панёс згадку пра тое месца, дзе разрывалася дарога» [14, с. 25].

<...>

«Усе гэта і абумовіла боль, які з’явіўся ў хлопчыка таго лістападаўскага дня і які не пакідаў яго ніколі потым, хоць ён змяніў лад жыцця і веру, імя і асяроддзе» [14, с. 26].

З таго моманту і праз ўсё жыццё, да самага яго канца, прадвесце чорнага ляза будзе суправаджаць вялікага візіра. Чорнае лязо — прыродная паралель жыцця Мехмед-пашы. Ён зразумеў, што вызваліцца ад болю і чорнага ляза, калі ўтаймуе хаос «злючай вады» і пабудуе мост. Затым візір заплюшчвае вочы і ўяўляе мост. Раней за ўсіх, нават раней за будаўнікоў. Ён бачыць яго дакладна такім, якім ён праз доўгі час сапраўды будзе. «Так што ён быў першы, хто з заплюшчанымі вачыма ўявіў сабе моцны і вытанчаны сілуэт вялікага каменнага моста, які павінен быў узнікнуць на гэтым месцы» [14, с. 27]. Так узнік адзін з самых свяшчэнных, прыгожых, трывалых і карысных будынкаў. Яны звычайна ўзвышаюць у чалавеку той дойлідскі пачатак, якім захапляецца аўтар рамана. Гэты яго погляд выразна прадстаўлены ў эсэ «Масты», якое можна лічыць гімнам рэальнаму і метафізічнаму сэнсу сувязі паміж берагамі. Калі мост на Дрыне быў узведзены, здавалася, што Мехмед-паша знайшоў лек супраць сваёй незвычайнай хваробы, але чорнае лязо, прысуд яго жыцця, раздзірае яго грудзі:

«Як бачым, пасля ўзвядзення моста і караван-сарая адышлі шмат якія цяжкасці і гароты. Прайшоў бы, можа, і той незвычайны боль, які візір у дзяцінстве панёс, праз вышаградскі паром, з Босніі: чорныя вострыя лёзы час ад часу расцінаці яму грудзі на дзве паловы. Ды не лёс быў Мехмед-пашы ні жыць без таго болю, ні пацешыцца як след у думках сваім дарункам вышаградскаму краю. Не за доўгім часам пасля завяршэння моста, як толькі па-сапраўднаму задзейнічаў караван-сарай і пайшла светам пагалоска пра мост, Мехмед-паша яшчэ раз адчуў боль ад «чорнага ляза». І гэты раз быў апошні» [14, с. 79—80].

Пабудовы, значныя для грамадства ці асобнага чалавека, у легендах не ўзводзяцца выпадкова ці на выпадковым месцы. Рашэнне пра іх будаўніцтва і сам акт выбару месца — своеасаблівае выражэнне старажытнага спосабу мыслення. У народнай песні «Бог нікому не застаецца вінаваты» манастыр сам будуецца на месцы, дзе пала нявінная ахвяра. У народнай песні пра будаўніцтва моста на Дрыне, якая стала эпічнай першакрыніцай для рамана Андрыча, легендарны будаўнік Радэ Дойлід на вараным кані пераязджае раку, і на тым месцы, дзе з’явілася кроў, пачынаецца будаўніцтва сярэдняга ўстоя.

Для Мехмед-пашы Сокалавіча чорнае лязо — указанне на тое, дзе трэба пабудаваць мост. Пасля смерці Мехмед-пашы адбываецца нешта сапраўды незвычайнае: чорнае лязо працягвае існаваць як самастойны літаратурны герой. Яно суправаджае жыццё пераемніка Мехмед-пашы, захавальніка пабудовы. Гэта прадстаўнікі роду Мутавелічаў. Даўт-хаджа і Алі-хаджа займаюць сярод іх асобнае месца. Вестка пра прыход аўстрыйцаў — вось чаму так баліць Алі-хаджы, чаму «поўніць свінцовым цяжарам грудзі і пячэ, не дае спакою горш за любы іншы боль, які толькі вядомы чалавеку» [14, с. 147]. Алі-хаджа ў нейкі момант убачыў тое, што спраўдзіцца значна пазней — і якраз так, як яму адкрылася. Алі-хаджа назірае, што мост «абрушыўся пасярэдзіне, там, на браме, здавалася, той шырокі аркуш паперы з швабскай адозваю разваліў мост напалам, як бязгучны выбух, і пасярэдзіне цяпер зеўрае прорва, утрывалі яшчэ паасобныя ўстоі з абодвух бакоў,

[1]Цытаты з рамана «Мост на Дрыне» прыводзяцца ў перакладзе Івана Чароты.

але перайсці ўжо немагчыма, мост не звязвае болей двух берагоў» [14, с. 147]. Усё адбудзецца менавіта так, як Алі-ходжа ўбачыў амаль за чатыры дзесяцігоддзі да здарэння. Выбух 1914 года абрушыць мост дакладна пасярэдзіне і разбурыць сярэдні ўстой пад брамай.

Будаўніцтва сярэдняга ўстоя моста на Дрыне і яго пазнейшы лёс багаты на адсылкі, якія маюць дачыненне да легенд. Анімістычны працэс будаўніцтва прадугледжвае рытуальную будаўнічую ахвяру, замураваную ў сярэдні ўстой, вось пабудовы. У рамане адзін з прысутных работнікаў выпадкова падае на сярэдні ўстой і гіне. Ахвяра ўвасабляе зняволенага дэмана ракі, прадстаўніка апраметнай. Паводле легенды, ён пільнуе момант для ўсталявання хаоса, прадстаўніком якога сам з'яўляецца — пераможаны, але не адолены канчаткова. Гучыць выбух, і хаос знішчае мост.

Даўт-ходжа Мутавеліч кажа: «Не трэба мяне шкадаваць. Бо мы ўсе паміраем адзін раз, а вялікія людзі два: тады, калі самі знікаюць з зямлі, а потым, калі знікаюць іхнія справы» [14, с. 84].

Мехмед-паша памірае першы раз, калі пакідае зямлю, а другі раз, калі знікае яго справа. У вобразах Джэма і Чаміла з «Праклятага двара» мы бачым увасабленне роду Авеля і пераемнасць лёсу няшчаснейшага з двух братоў (архетып братоўворагаў). А Мехмед-паша і Мутавелічы ўвасобілі тыпы будаўніка і захавальніка створанага.

Разбурэнне сярэдняга ўстоя, як і ў легендах, уяўляе сабой вяртанне хаосу, канец свету і ўсяго жывога. У свеце, які без перапынку разбураецца і аднаўляецца, на адным баку — сілы, якія захоўваюць створанае, а на другім — сілы разбурэння. Сутыкненне канкрэтных форм супрацьлеглых сіл стварэння і разбурэння ў рамане выглядае так: Мехмед-паша — яго забівае звар'яцелы дэрвіш; будаўнік Арап — яго забівае «ўнутраная куля»; ахоўнік моста Даўт-ходжа — яго забівае «ўнутраная куля», калі ён правіць будынак ля моста; ахоўнік моста Алі-ходжа — яго забівае карціна разбурэння моста; мост — яго разбурае выбух дынаміту.

З раманам «Мост на Дрыне» звязаны і старажытны рытуал чалавечай ахвяры. Прывядзём прыклад:

«Пры канцы трэцяга года здарылася адно з тых няшчасцяў, без якіх рэдка абыходзяцца вялікія будоўлі. Даваршалі сярэдні ўстой, крыху вышэйшы і ўверсе шырэйшы за астатнія, бо на ім павінна ўсталёўвацца брама. Дык вось, калі пераносіўся вялікі каменны блок, узнікла замінка. Рабочыя стоўпіліся каля агромністага чатырохкутнага каменя, які, абвіты тоўстымі канатамі, завісаў над іхнімі галовамі. Калаўроту ніяк не ўдавалася занесці яго на патрэбнае месца. Араб, памочнік майстра Антонія, нецярпліва падбег і голасна, злосліва (на той мешанай мове, якая ўжо тут за гады сумеснай працы ўзнікла сярод людзей з розных канцоў свету) пачаў даваць каманды тым, хто знізу, з плытоў, кіраваў пад'ёмнікамі. І тут, незразумелым чынам, канаты аслаблі, ад чаго махіна-камень знячэўку, спярша адным бокам, а тады і цалкам, асеў на распаленага араба, які сачыў гэтым часам не за цяжарам угары, а за калаўротам унізе. На дзіва каменны блок папаў туды, куды належала, але пры гэтым зачапіў араба і прыціснуў яму ўсю ніжнюю палову цела. Узняўся крык, гоман, пачалася таўкатня. Прыбег і майстар Антоні. Малады гаротнік пасля першага шоку вярнуўся да прытомнасці, стагнаў скрозь сціснутыя зубы і перапуджана, жалобна зазіраў майстру Антонію ў вочы <...> Пахаванне араба стала ўрачыстай падзеяй, якая надоўга запамяталася. Усе мужчынымусульмане выйшлі правесці загінуўшага ў апошні шлях і паднесці па некалькі крокаў табут, на якім змяшчалася толькі верхняя частка ягонага маладога цела, бо другая палова так і засталася пад блокам» [14, с. 70—71].

Гэты выпадак мае рытуальныя рысы. У ім мы вылучаем чатыры асноўныя рытуальныя элементы: замуроўванне ахвяры ў падмурак будынка; замуроўванне ахвяры ў падножжа сярэдняга ўстоя; замуроўванне ніжняй часткі цела як каштоўнаснага выяўлення «нізкага», «ніжняга» — увасабленне падземнай сферы.

Гэтыя чатыры элементы адпавядаюць прынцыпам старажытнага дойлідства, дзе будынак разглядаецца як ахвяра, а яго сварэнне — як частка рытуалу. Кожны з чатырох элементаў непасрэдна звязаны з арыгінальнымі легендамі і займае істотнае месца ў жыцці чалавека трыдыцыйнага грамадства, асабліва ў яго будаўнічай дзейнасці.

Актам прынясення ахвяры выказваецца глыбокая адданасць вышэйшай ці свяшчэннай істоце, у якую вераць. Процілегласць святому — бязбожнае. Вось класічны прыклад рэлігійнага ахвяравання: на Юр'еў дзень у жывёлагадоўчых краях сербы ўпершыню за год рытуальна рэжуць барана, затым яго крывёю намазваюць твар кожнаму хлопчыку, а пасля агульнага святочнага абеду сабраныя косці забітай жывёлы нясуць у луг і закопваюць іх у мурашнік.

Адна з першых форм ахвяравання — чалавечая ахвяра. І асобна гаворка ідзе пра першынца мужчынскага полу. Да сённяшняга дня засталося павер'е, што першага не трэба асабліва шкадаваць, бо кожны першынец прызначаны да ахвяравання. У нас ёсць прыказка: «Першых кацянят у мора кідаюць». Пра гэта гаворыцца і ў класічным тэксце Старога Запавету пра так званае ахвяраванне Аўраамам свайго першынца, сына Ісаака: «Бог сказаў: вазьмі сына твайго, адзінага твайго, якога ты любіш, Ісаака; і ідзі ў зямлю Морыя і там прынясі яго на целаспаленне на адной з гор, пра якую Я скажу табе»[1].

Бог выпрабоўваў адданасць Аўраама менавіта на прыкладзе яго гатоўнасці ахвяраваць самае дарагое — адзінага сына. Калі Ён заўважыў, што Аўраам гатовы ахвяраваць сына, Бог праз анёла спыніў выкананне задуманага, сказаўшы: «Не падымай рукі тваёй на хлопчыка, і не рабі з ім нічога; бо цяпер Я ведаю, што баішся ты Бога і не пашкадаваў сына твайго, адзінага твайго, дзеля Мяне. І ўзвёў Аўраам вочы свае і ўбачыў: і вось, за табою баран, які заблытаўся ў гушчобе рагамі сваімі. Аўраам пайшоў, узяў барана і прынёс яго на целаспаленне замест сына свайго».

Акрамя чалавечай і жывёльнай ахвяры, існуюць і бяскроўныя ахвяры ў ежы і пітве. Будаўніцтва хаты суправаджаецца захаваным абрадам забою на падмурку. На ўсходняй частцы заглыблення для падмурка павінен адбыцца забой. Затым галаву ахвярнай жывёлы закопваюць пад закладны камень. Лічыцца, што гэты абрад — рэшта старажытнай формы ахвяравання аднаго з членаў сям'і душам продкаў, ад якіх за гэта чакалі, што яны забяспечаць новаму будынку трываласць, а членам сям'і — здароўе і даўгалецце. Узор для рытуальнай ахвяры — першапачатковая ахвяра. Замуроўванне сімвалізуе паўтарэнне першапачатковага акта стварэння. Першапачатковае стварэнне — гэта стварэнне космасу замест хаосу. Многія легенды старажытных цывілізацый паўтараюць сюжэт пра сілы парадку і сілы беспарадку. Каб зрабіць скачок у свет, трэба пераадолець хаос.

У вавілонскім эпасе «Энума Эліш» Тыямат, багіня хаатычных вод, сустракаецца ў паядынку з Мардукам, богам сонца. Мардук перамагае і рассякае яе цела на дзве часткі. З адной ён зрабіў неба, а з другой — зямлю. З крыві мужа Тыямат пераможца створыць чалавека. Вавіланяне лічылі Мардука дэміургам. Па прыкладзе Бога, які пры тварэнні космасу перамагае пачвару, чалавек прыносіць крывавую ахвяру, калі будуе свяцілішча, паселішча ці хату. Распаўсюджаны паданні пра чалавечыя ахвяры, замураваныя ў розныя будынкі, асабліва ў сярэднявечныя замкі і гарадскія крэпасці, масты, вежы, цэрквы, святыні. Каб будаўніцтва ўдалося і трывала, патрэбна ахвяра — душа, якая будзе пасрэднікам у зносінах з вышэйшай ступенню існавання. У нашых паданнях вельмі шмат прыкладаў замуроўвання ахвяры. Вук Караджыч піша: «Наш народ і сёння расказвае, што ніводная вялікая пабудова не можа атрымацца, пакуль нехта з дамашніх не будзе ў яе замураваны» [12, с. 96]. У «Ведах» цэлая рэлігія арганізавана вакол ахвяры. Механізму ахвяравання ў гімнах прысвячаецца больш увагі, чым самім

[2] Цытаты з Бібліі прыводзяцца ў перакладзе Васіля Сёмухі.

багам. Ахвяра арганізуе космас. Яна з’яўляецца падмуркам універсума, гармоніі і пастаяннага прагрэсу.

У рамане Андрыча ніжняя частка цела Арапа азначае сімвалічную прыналежнасць ахвяры да «ніжняй» рэлігіі. Такое вызначэнне грунтуецца на бінарнай апазіцыі «верх/ніз». «Верхняе» мае пазітыўную прыкмету, а «ніжняе» — негатыўную. Арап выпадкова гіне і, такім чынам, выконвае ролю ахвяры, замураванай у мост. Ён увасабляе сабою ўтаймаванага і зняволенага дэмана ракі. Акт замуроўвання не спыняе існавання дэмана. Ён чакае імгнення, якое прынясе яму вызваленне.

Нібыта падоўжаная рука маладога Арапа з’яўляецца «тоўсты пануры анаталіец з мутна-жоўтымі вачыма, негрыцянскімі губамі на ільсняным апухлым твары зямлістага адценку» [14, с. 106]. Гэта кат, які адправіў на той свет шмат ахвяр, прадстаўнік сіл разбурэння і цемры. Ён дзейнічае ў браме, якая з’яўляецца працягам сярэдняга ўстоя. Вобраз анаталійца нагадвае Цэрбера. «Час ад часу ўставаў, абыходзіў рады калкоў з насаджанымі галовамі, як дбайны бахчаўнік сваю бахчу, пасля чаго зноў вяртаўся на сваю ляжанку ў засені, пазяхаючы, пацягваючыся, такі лены і азызлы, нібы аўчарскі сабака» [14, с. 106].

Праз амаль чатыры стагоддзі пасля ўзвядзення моста пачынаюцца новыя падзеі, і ў іх важную ролю зноў адыгрывае сярэдні ўстой. Той самы ўстой, у які замураваны малады Арап, напаўняецца зараз новым, незвычайным зместам. Ва ўстоі, дзе па паданні знаходзіцца злы дух, пачынаюцца работы: туды замуроўваюць злы дух новых часоў — выбуховае рэчыва. Тое, што было прадчуваннем — вобразным, дэталёвым у адносінах да будучыні, дакладным у вызначэнні прыватнасцей і месца няшчасця на мосце — аднойчы ў 1914 годзе, падчас вайны, становіцца рэальнасцю. Сярэдні ўстой ляціць у паветра, мост разбураецца.

Тэма ахвяры, замураванай у нейкую значную пабудову, у тым ліку і канструкцыю моста, у Андрыча магла з’явіцца як вынік асэнсавання шматлікіх крыніц. Рытуальны працэс узвядзення моста на Дрыне апісаны ў дзвюх народных песнях, якія належаць да шырокага кола твораў балканскіх народаў, прысвечаных будаўніцтву і замуроўванню чалавечай ахвяры.

Пра чалавечую ахвяру сведчыць і наша народная песня «Будаўніцтва Скадра»:

Кліча іх тады з гары русалка:
«Слухай ты мяне, кароль Вукашын!
Не пакутуй, не губляй багацце,
не зрабіць табе, кароль, падмурак,
і, тым больш, ты горад не збудуеш!
Але вось што: родныя браты вы,
кожны з трох верную жонку мае:
чыя заўтра да Бояны прыйдзе
і майстрам абед чыя даставіць,
хай яе ў вежу замуруюць».

Перад тым, як замураваць жонку малодшага Мрняўчавіча, будаўнікі Скадра шукаюць дваіх немаўлят. Замуроўванне дзяцей адносіцца да старажытных матываў ахвярнага абраду, прысутных і ў біблейскіх легендах. Паводле Бібліі, будаўніцтва Іерыхона прадугледжвала ахвяраванне дваіх дзяцей [3, с. 196].

Зенон Касідоўскі піша, што ў Месапатаміі, Сірыі і Ханаане існаваў старажытны рытуал ахвяравання першанцаў багам. Падчас археалагічных раскопак у Гезеры, адным з самых буйных цэнтраў ханаанскага культа, археолагі ў пячоры і глебе вакол яе знайшлі урны са шкілетамі немаўлят 8-дзённага ўзросту, ахвяраваных багам. Дзяцей ахвяравалі з нагоды будаўніцтва храмаў і грамадскіх будынкаў. Таксама знойдзены косці пятнаццацігадовай дзяўчыны [8, с. 84].

У адным з эсэ Андрыча Гоя пералічвае базавыя легенды чалавецтва, якія могуць растлумачыць нам рэчаіснасць, і сярод іх дзве звязаны з тэмай ахвяры. Першая з іх біблейская, пра ахвяру Хрыста, які выкупіў грахі чалавецтва. Дру-

гая — антычная легенда пра ахвяру Праметэя, які краў у багоў агонь, каб дапамагчы людзям. У рамане «Мост на Дрыне» шмат эпізодаў, дзе ахвярны рытуал апісаны падрабязна. Гэта, напрыклад, сцэна пакарання Радысава. Рытуал ахвяравання — урачыстасць, свята, якое патрабуе асобнага месца і часу.

У рамане «Мост на Дрыне» рэльефна апісана першая ахвяра новай серыі. І старац Елісіе, і паручнік Мурат разумеюць, што няма старцу выратавання, бо «наляцелі яны і прагнуць ахвяры ўжо з першага ранку» [14, с. 101]. Елісіе — ахвярны казёл. Ён пазбаўляецца галавы з-за падзеі, якая адбываецца без яго ўдзелу. У апавяданні «Споведзь» брат Марка нагадвае пра карані гэтай праблемы, пра каварны закон жыцця, які спрыяе пагібелі нявінных: «Кожны дзень распінаюць сына чалавечага як нявінную ахвяру, і гэта будзе паўтарацца, пакуль апошні чалавек не знікне з зямлі» [14, с. 38]. Ахвярны казёл павінен быў адказаць за грахі кожнага. Можна выказаць здагадку, што сам Гасподзь у хрысціянскай міфалогіі падказаў магчымасць вызвалення ад калектыўнага цяжару грахоў праз падпаленне галля пад казлом. У трэцяй кнізе Маісея Ён кажа сынам Ізраілевым: «Вазьміце казла ў ахвяру за грэх» [3, с. 95]. А потым Аарон па ўказаннях Маісея «...прынёс прынашэнне ад народа: і ўзяў ад народа казла за грэх, і закалоў яго, і прынёс яго ў ахвяру за грэх, як і першага» [3, с. 95]. Ахвяраванне казла звязана не толькі з антычнай і яўрэйскай міфалогіяй. Чорны казёл ахвяраваўся і ў старажытнай Індыі на свята агню. У старажытных яўрэяў існаваў ахвярны казёл, і ён, як і многія іншыя ахвярныя жывёлы, павінен уміласцівіць бога. Ахвярны казёл, у першую чаргу, увасабляе зло, а ўжо затым — ахвяру з арэолам святасці.

Андрыч у саму жыццёвую рэчаіснасць упісвае старажытны рытуал чалавечай ахвяры, быццам нейкую выпадковасць, а пры гэтым не пазбаўляе яго ніводнага атрыбута старажытнага рытуальнага ахвяравання. Апрацоўваючы легендарнае, ён пазбаўляецца яго празмернасці. З аднаго боку, ён паслабляе паведамленне, пазнанне і погляд легенды, а з другога — запазычвае і перапрацоўвае асобныя яе сутнасныя элементы.

Такім чынам, у рамане «Мост на Дрыне» Андрыч схільны да фіксаваных мадэлей паводзін, якія паўтараюцца ў індывідуальным досведзе, у гісторыі і прыродзе. Гэтыя формы блізкія да мадэлей паводзін, якія Юнг называе архетыпамі. Дадзены раман змяшчае матывы сіл стварэння, сіл разбурэння і старажытнага рытуалу чалавечай ахвяры, якія мы ў духу тэрміналогіі Андрыча назвалі легендамі. Мы іх выявілі і прааналізавалі ў кантэксце ўсёй плоскасці рамана, азіраючыся на прынцыпы паэтыкі пісьменніка.

## Спіс літаратуры:

1. Аристотел. О песничкој уметности / Аристотел. — Београд: Култура, 1955. — 158 с.

2. Бандић, М. Иво Андрић — загонетка ведрине / М. Бандић. — Нови Сад: Матица српска, 1963. — 192 с.

3. Библија. — Београд: СПЦ, 1952.

4. Вучковић, Р. Зборник о Андрићу / Р. Вучковић. — Београд: СКЗ, 1999. — 201 с.

5. Димитријевић, К. Разговори и ћутања Ива Андрића / К. Димитријевић. — Београд: Култура, 1976. — 124 с.

6. Зец, П. Андрићев театар сенки / П. Зец. — Београд: Рад, 1994. — 94 с.

7. Јакоби, Ј. Јунгов пут индивидуације / Ј. Јакоби. — Београд: Медисон, 1996. — 54 с.

8. Косидовски, З. Библијске легенде / З. Косидовски. — Београд: СКЗ, 1998. — 84 с.

9. Леовац, С. Огледи о Иви Андрићу / С. Леовац. — Београд: СКЗ, 1993. — 73 с.
10. Милановић, Б. Критичари о Иви Андрићу / Б. Милановић. — Сарајево: Свјетлост, 1981. — 67 с.
11. Милосављевић, П. Логос и парадигма / П. Милосављевић. — Београд: Требник, 2000. — 154 с.
12. Недић, В. Дела Вука Караџића. Српске народне песме II / В. Недић. — Београд: Просвета, 1964. — 78 с.
13. Палавестра, П. Књига о Андрићу / П. Палавестра. — Београд: БИГЗ и СКЗ, 1992. — 192 с.
14. Сабрана дела Иве Андрића / И. Андрић: Сарајево: Свјетлост, 1981.
15. Стојадиновић, Д. Романи Ива Андрића / Д. Стојадиновић. — Приштина: Јединство, 1970. — 70 с.
16. Тартаља, И. Приповедачева естетика / И. Тартаља. — Београд: Нолит, 1979. — 56 с.

**Сняжана С. БАШЧАРАВІЧ (Сербія)**

**Архетыпы ў рамане Іва Андрыча «Мост на Дрыне»**

**Рэзюмэ**

Паняцце «архетып» адсылае нас да тэарэтыка гэтага пытання К. Г. Юнга. У дадзенай працы аўтар непасрэдна выяўляе погляды Юнга на архетыпы і прасочвае іх суадносіны з раманам Іва Андрыча «Мост на Дрыне».

**Ключавыя словы**: Андрыч, «Мост на Дрыне», Юнг, архетып, стваральныя і разбуральныя сілы, ахвяра.

**Snezhana S. BASHCAREVICH**

**The Archetypes in the Novel «The bridge on Drina» by Ivo Andric**

**Summary**

The archetype is the word which leads us to the theorist C. G. Young. In this article, the author is directly showing on Young’s attitudes about archetype and its relation with the novel «The bridge on Drina» by Ivo Andric

**Key words:** Andric, «The bridge on Drina», Young, the archetype, the forces of creation and destruction, the victim.

*Пераклад с сербскай Ганны НАВУМАВАЙ.*



**Таццяна ШАМЯКІНА**

# ДРАМА КАМЕДЫЁГРАФА

*Мемуарныя нататкі пра Андрэя Макаёнка*

Усім выдатная наша беларуская нацыя — і рахманыя мы, і талерантныя, і высокаадукаваныя. Адна толькі загана ў беларусаў — не цэнім самі сябе, а таму не ганарымся, не паважаем і сваіх продкаў, папярэднікаў, выдатных людзей, раўнадушна адкідваем іх дасягненні.

Я здзіўляюся: чаму не створана кніга ўспамінаў пра Андрэя Макаёнка — цікавага чалавека і творцу? Можа быць, тыя, хто ведаў яго, вырашылі, што ўсё, што можна, напісаў пра сябра Іван Шамякін? Але немагчыма ў адным творы, з аднаго ракурсу, выказаць усё пра такую каларытную асобу, як Андрэй Ягоравіч.

Іван Шамякін пазнаёміўся з Андрэем Макаёнкам яшчэ да майго нараджэння — у 1947 годзе. Абставіны знаёмства ў цягніку падрабязна апісваюцца ў шамякінскай «Тайне драмы (Аповесці пра сябра)». Сустракацца маладыя правінцыйныя пісьменнікі пачалі асабліва часта, калі абодва пераехалі ў Мінск. Мая старэйшая сястра Ліна Іванаўна ўспамінае пра той час: «На Лагойскім тракце здымалі пакоі Андрэй Макаёнак, Пятро Васілеўскі, Аляксей Кулакоўскі. Тата з імі пасябраваў. Яны прыходзілі да нас. У цёплае надвор’е гутарылі ў вішнёвым садку пра палітыку, эканоміку краіны, пісьменніцкія справы. Калі здараліся халады, ішлі да каго-небудзь з сяброў, таму што ў нас было задужа цесна».

Я, натуральна, не памятаю ранніх сваіх гадоў, не памятаю і нашу першую мінскую кватэру ў прадмесці Мінска — там, дзе цяпер праходзіць вуліца Якуба Коласа. У раёне прыватнай забудовы мы здымалі невялікі пакойчык, як і бацькавы калегі. Але мае родныя расказвалі, што Андрэй Ягоравіч любіў гуляць са мной, маленькай, і лічыў сваёй як бы хроснай дачкой. Мой бацька ў сваёй пранікнёнай і надзвычай шчырай «Тайне драмы» пісаў: «Праз паўтара месяца пасля прыезду ў Мінск у нас нарадзілася Таццяна. Андрэй вельмі прывязаўся да малой і пачаў прыходзіць не толькі ў нядзелю, але і ў буднія дні». Своеасаблівым маім апекуном ён заставаўся да апошніх сваіх дзён, і мужа майго любіў, і нашу старэйшую дачку Машу.

Першыя мае ўспаміны звязаны з жыццём на вуліцы Камсамольскай, з домам, дзе цяпер кнігарня «Цэнтральная». Ведаю, што Макаёнак заходзіў да нас нярэдка, але памятаю яго цьмяна. Рэальная і цвёрдая памяць засталася пра нашу кватэру на вуліцы Карла Маркса, у так званым «пісьменніцкім доме» пад нумарам 36. Там мы пражылі пятнаццаць гадоў — да 1969 года. Тады Андрэй Ягоравіч наведваў нас літаральна штодзень. Пачаліся ўжо ў яго канфлікты з жонкай Аленай Сяргееўнай і адначасова прыйшла слава драматурга-камедыёграфа.

Макаёнак быў чалавекам надзвычай харызматычным, па-сапраўднаму абаяльным. У любым калектыве, у любой кампаніі ён вылучаўся і знешняй прыгажосцю, і тэмпераментам — вулканічна-ўзрыўным. Акрамя таго — выдатны акцёр. Калі ў Расіі шырока пайшлі яго п’есы, ён пасябраваў з акцёрамі Маскоўскага тэатра сатыры. Захапляўся акцёрскай ігрой многіх, асабліва Андрэя Міронава. Памятаю, ён імітаваў некаторыя ролі Міронава — паказваў, як пластычна той рухаецца, як пераўвасабляецца ў персанажаў, як інтануе вымаўленне рэплік.

Пры гэтым у самога Макаёнка атрымоўвалася не горш. У нашым Дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы ён заўсёды сам чытаў свае п'есы, і гэта атрымлівалася і павучальна, і захапляльна, і натхняюча, шмат што тлумачыла ў малюнку кожнай ролі.

Іван Шамякін у «Тайне драмы» — кнізе памяці — спыняецца на акцёрскім майстэрстве Макаёнка, апавядае і аб яго розыгрышах, у прыватнасці, аб адным асабліва ўдалым — у масцы каўказца, прывезенай Міхасём Лыньковым з Амерыкі. Я добра памятаю гэты дасціпны, хоць і некалькі грубаваты, жарт, на які паддаліся шмат якія супрацоўнікі рэдакцый і выдавецтваў («Нумар не ўдаўся з Іллём Гурскім і Янкам Брылём», — заўважае Шамякін). «Нумар не ўдаўся» і з маёй матуляй: Макаёнак у масцы заявіўся да нас, мама адкрыла яму дзверы і тут жа пазнала, чым сапсавала камедыянту настрой. Аднак гаварыў ён з паўднёвым акцэнтам на дзіва натуральна, інакш кажучы, без усялякага шаржу — менавіта так, як і гавораць каўказцы па-руску. Са смехам апавядаў у нас дома, хто як на яго цудоўную ігру адрэагаваў. У пісьменніцкім асяроддзі яшчэ доўга ўспаміналі Андрэева прадстаўленне. Увогуле без розыгрышаў, містыфікацый, жартаў немагчыма ўявіць паводзіны маладога Макаёнка. Я сама назірала не раз, як ён разыгрываў сяброў і знаёмых і па тэлефоне — звычайна пад Новы год і на 1 красавіка. Збіраліся ў нас, разам з Шамякіным выдумлялі сюжэт, але тэлефанаваў абавязкова Макаёнак, таму што яго звычайна ніхто не пазнаваў. Несумненна, ён мог бы стаць выдатным акцёрам.

Таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім — вымушана я паўтарыць абрыдлую банальнасць. Але гэта праўда. Так і Макаёнак вызначаўся многімі талентамі. Шамякін піша: «…Было ў Андрэя хобі — разьба па дрэве, увогуле работа з дрэвам. Калі не прыйдзеш — ён з рубанкам, майструе новую полачку, перарабляе хлеўчык, дроўніцу... Ён мог патраціць месяц работы, да крывавых мазалёў на руках, каб выразаць з асінавага палена ...фігу. Дуля выйшла высокамастацкая. «Гэта маім крытыкам». Ляжала драўляная фіга так, што на яе звярталі ўвагу адразу. Колькі было жартаў! Госці, захапляючыся майстэрствам гаспадара, весела смяяліся».

Тлумачу, што справа адбывалася на лецішчы ў Ждановічах, дзе Макаёнак пражыў апошнія дваццаць гадоў. На жаль, шмат якія выразаныя з дрэва творы Макаёнка, а таксама яго па-майстэрску зроблены псіхалагічны жывапісны аўтапартрэт згарэлі разам з лецішчам. Па сваёй заўсёднай дабрыні Андрэй Ягоравіч пусціў на зіму пажыць на дачы знаёмую сямейную пару. Нават не сямейную, а пару закаханых, прычым ужо даволі сталага ўзросту. Аднойчы яны ўключылі электрычны награвальнік і паехалі сабе ў Мінск, паставіўшыся да чужой маёмасці як бяздумныя падлеткі.

Макаёнак на свае тады велізарныя ганарары пабудаваў новую дачу — ва ўсім наватарскую, па эксклюзіўным праекце моднага архітэктара. Нам, Шамякіным, яна не падабалася — няўтульная, далёкая ад нацыянальных традыцый дойлідства. Але мы не выказвалі сваю думку сябру сям'і. Ва ўсялякім разе, на мадэрновай дачы прэстыжна было сустракаць шматлікіх гасцей — з Расіі, з іншых рэспублік СССР, з-за мяжы. Памятаю, прыязджаў з гастролямі тэатра Алег Табакоў — яшчэ досыць малады, танклявы, у модным джынсавым касцюмчыку. Макаёнак знаёміў нас з ім.

Бурныя эмоцыі, таленавітасць, артыстызм, дасціпнасць нязменна прыцягвалі да Макаёнка людзей. Асаблівым поспехам карыстаўся ён у жанчын. Умеў цудоўна абыходзіцца і з дзецьмі. Яго жыццярадасная натура падымала тонус усім, хто з ім кантактаваў. Аднак яму і самому часам патрабавалася псіхалагічная дапамога і маральная падтрымка. У нейкім сэнсе яны з маім бацькам былі антыподамі: Макаёнак — эмацыйны, рухавы і гаварлівы, Шамякін — спакойны і абачлівы. Але Шамякін умеў шчыра перажываць боль іншага чалавека. На працягу многіх гадоў Макаёнок прыходзіў да нас літаральна кожны дзень, каб выгаварыцца і ўвабраць

у сябе, чаго ён і не хаваў, атмасферу нашага дома, тую атмасферу, якая стваралася матуляй — добрай і мудрай жанчынай. Такой атмасферы ў сям'і самога Андрэя Ягоравіча не ўтварылася. Ён белай зайздрасцю зайздросціў сябру, выказваўся пра тое не раз. Але адносіны маёй мамы да яго складваліся не без цяжкасцей. З аднаго боку, была да яго насцярожанасць, шмат што ў ім яна катэгарычна не прымала, лічачы, што ён псуе яе даволі наіўнага і мяккага па характары мужа, скажам, знаёміць яго з нахабнымі маладымі акцёркамі. З другога боку, мама бачыла, што Андрэй Ягоравіч яе бязмерна паважае і нават недзе хіліць галаву перад ёю, вучыць Шамякіна цаніць жонку. Яна, безумоўна, прызнавала яго розум, талент, імкнулася з ім сябраваць і, наколькі я памятаю, ніякіх канфліктаў у іх ніколі не ўзнікала. Па-чалавечы яна і шкадавала яго, і адначасова ў душы асуджала, асабліва ў апошнія гады жыцця Макаёнка, калі ён ажаніўся другі раз. Андрэй Ягоравіч любіў з жонкай сябра пагаварыць, і я бачыла, што яму хацелася выглядаць перад ёю лепшым, чысцейшым. Праўда, ён не выглядаў, а сапраўды быў такім — другім бокам сваёй натуры.

У 1950-я гады Макаёнак прыходзіў да нас са сваёй маладой жонкай Аленай Сяргееўнай. Яны лічылася першай прыгажуняй сярод жонак пісьменнікаў і нават пагаворвалі, што і ўвогуле сярод жаночай часткі мінскай інтэлігенцыі. Аднак нават мне, дзіцяці, не тое што маёй маме, шмат перажыўшай у ваенныя і пасляваенныя гады, а таму даволі аскетычнай у побыце, маладзенькая жонка Макаёнка здавалася легкадумнай. Я бачыла, што мама з цяжкасцю падтрымлівае з ёй размову пра нейкія выключна жаночыя рэчы — пра касметыку, новыя сумачкі і сукенкі. Матулі, абцяжаранай вялікай сям'ёй і сакратарскай дапамогай мужу, не падабаліся такія размовы. Праўда, праз некалькі гадоў, пасля нараджэння ў Макаёнкаў дзяцей Алы і Сяргея, Алена Сяргееўна абсалютна пазбавілася ад сваёй некалькі наіўнай, па маладосці, какетлівасці. Адзін час мая старэйшая сястра Ліна працавала з ёю разам у 86-й сярэдняй школе. Педагогам-філолагам жонка Макаёнка аказалася добрым, і яе любілі калегі і вучні.

У 1960-я і ў 1970-я гады Андрэй Ягоравіч ніколі ўжо з Аленай Сяргееўнай да нас не прыходзіў. У іх былі частыя сваркі. Мае бацькі абмяркоўвалі сямейныя справы чужых людзей, ды і родзічаў, заўсёды сам-насам паміж сабою і вельмі клапаціліся, каб мы, дзеці, не ведалі пра перыпетыі, часта не зусім чыстых, чужых адносін. Але ўсё ж нейкія звесткі да нас даходзілі, хоць бы таму, што сам Макаёнак іх не хаваў і пры нас, дзецях, расказваў.

Цяпер вельмі складана сказаць, хто вінаваты ў сямейнай драме, што ў многім вызначыла лёс выдатнага драматурга. У майго бацькі склалася ўласная версія, у якой ён, нязменна імкнучыся быць аб'ектыўным, усё ж станавіўся на бок сябра, лічачы, што Алене не хапала жаночага ўмення, цеплыні, «разумнага сэрца», каб утрымаць такога складанага чалавека, як Андрэй. Я ж думаю, што, каб ужыцца з вялікім талентам, неабходна самому быць таленавітым. Таленавітым менавіта ў разуменні іншага чалавека. Мая маці ў адносінах да бацькі здолела. Андрэй Ягоравіч разгледзеў у ёй гэта і надзвычай цаніў, радаваўся за сябра.

Сапраўды, мне даводзілася бачыць звычайна заўсёды вясёлага дзядзьку Андрэя і задуменным, і глыбока самотным. Сваім сябрам — Ване і Машы — ён выказваў сваю тугу па ўтульным доме, па жонцы, якая яго не разумее. Але ж і ад яго патрабавалася немалое ўменне, бо жонку, за яго маладзейшую, можна было б на працягу шэрагу гадоў выхаваць. Я памятаю, яна імкнулася дагаджаць. Памятаю таму, што бачыліся мы і на самай справе нярэдка. У 1950-я гады часта сем'ямі ездзілі катацца на машынах — звычайна па Маскоўскай шашы. Мы, дзеці, заўсёды з вялікім нецярпеннем чакалі такіх паездак. На ўзгорках уздоўж дарогі тады ўстанавілі гіпсавыя расфарбаваныя скульптуры аленяў, лосяў, мядзведзянят — мы з братам Сашам на іх залазілі і любілі так фатаграфавацца. Як мала тагачасным дзецям патрэбна было для забавак! Самае запамінальнае ў тых паездках — гонкі Макаёнка і Шамякіна на іх «Победах», прычым з поўнымі

машынамі пасажыраў. Усё ж моцная ў мужчынах прага лідарства! Жонкі прасілі, малілі — дзеці ж у машынах! — але бацькі сямействаў і масцітыя пісьменнікі ўваходзілі ў азарт, і спыніць іх было немагчыма. А потым сябры на прывалах адзін з аднаго жартавалі і з вялікім задавальненнем абмяркоўвалі ўсе перыпетыі спаборніцтва.

Ад'язджалі ад Мінска даволі далёка — бензін жа каштаваў капейкі, а рух па шашы тады быў мінімальны. Відаць, сапраўды, хуткасць і ўлада над машынай прыносілі нашым бацькам задавальненне. Вясной абавязкова ездзілі глядзець ледаход на рэчках — Бярэзіне, Нёмане, а таксама збіраць пралескі і дзіўныя кветкі, як званочкі, якія ў народзе называліся «сон». Восенню грыбы і вельмі часта проста паездкі на прыроду — пасядзець каля вогнішча, паесці такой смачнай печанай ў прысаку бульбы, падсмажанага на палачках сала. Нярэдка ехалі вялікая кампаніяй — яшчэ і сем'і Кулакоўскіх і Васілеўскіх.

Памятаю, што Андрэй Ягоравіч любіў жартаваць з Кулакоўскага — сухара і фармаліста, як Макаёнак лічыў (у той час Аляксей Мікалаевіч быў сакратарам партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі). А на самай справе Кулакоўскі вызначаўся зусім іншым тэмпераментам і псіхатыпам, чым Макаёнак. Праўда, і ў нас дома пра Кулакоўскага гаварылі з лёгкай іроніяй, мяркуючы, што мы, дзеці, яе не заўважаем. Я думаю, іронія з'явілася таму, што, калі бацькі яшчэ жылі разам з Кулакоўскімі ў адной камунальнай кватэры, праўда, жылі вельмі дружна, Аляксей Мікалаевіч занудліва вучыў усіх высокай маралі, але сам, як высветлілася выпадкова, не заўсёды яе прытрымліваўся.

З Пятром Васілеўскім, дарэчы, сваім земляком, аднакашнікам, Андрэй Ягоравіч часта ўступаў у палеміку. Абодва вострыя на язык, дасціпныя, хоць эрудыцыяй тады больш вызначаўся Васілеўскі. Аднак і Макаёнак хутка набіраў веды. У 1960-я гады яны пасварыліся — як я разумею, з-за фільма «Рагаты бастыён», дзе рэжысёрам па сцэнарыі Макаёнка выступаў Васілеўскі. Інакш кажучы, здарыўся творчы канфлікт. Андрэй не мог дараваць сябру правалу кінастужкі, якая задумвалася ім абсалютна іншай.

Мне было шкада, што разышліся такія разумныя людзі. Праўда, Шамякін і Васілеўскі засталіся добрымі сябрамі, але ўжо не сустракаліся так часта, як раней. Пра мінулае сяброўства чацвёркі напісала, у 2000-я ўжо гады, Галіна Ануфрыеўна Васілеўская, таксама пісьменніца, жонка Пятра Васілеўскага.

Свой узрыўны, цыганскі характар сам Макаёнак у сабе любіў і песціў. Нельга сказаць, што ён з задавальненнем лез у бойку, як певень, але, здаралася, браў за грудкі, напрыклад, Анатоля Вялюгіна. Дарэчы, караў паэта за тое, што той, падвыпіўшы, бывала, крыўдзіў Шамякіна, а мой бацька заўсёды ад несправядлівасці і нахабства губляўся і не мог адказаць забіяку. Не такім быў Макаёнак — спуску не даваў нікому. Праўда, на наступны дзень яны з тым жа Вялюгіным зноў разам «прычашчаліся» і абдымаліся, ды і Шамякін на Вялюгіна ніколі не злаваўся. А чым бліжэй да старасці, тым больш яны ўсе пачыналі адчуваць асаблівую цеплыню адзін да аднаго. Шамякіна цягнула да блізкіх па ўзросце калег — да таго ж Вялюгіна, Прыходзькі, Панчанкі, Брыля, Навуменкі. Толькі з Быкавым не складіся сяброўскія адносіны — зноў-такі па прычыне розных псіхатыпаў.

У сваёй «Тайне драмы» Шамякін успамінае людзей, з якімі сябраваў Макаёнак, а гэта вядомыя пісьменнікі Савецкага Саюза: беларусы Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Максім Танк, Пімен Панчанка, Васіль Быкаў, рускія Аляксандр Пракоф'еў, Афанасій Салынскі, Васіль Субоцін, Барыс Мажаеў, Андрэй Вазнясенскі, Яўген Еўтушэнка, украінцы Алесь Ганчар, Мікола Зарудны, Васіль Казачэнка, аварац Расул Гамзатаў і многія іншыя.

Бацька чамусьці не ўключыў у сваю кнігу пра сябра некаторыя цікавыя моманты адносін Макаёнка з калегамі з іншых рэспублік, — тое, што запомнілася мне. Так, аднойчы ў Маскве, у сяброўскай гаворцы за нязменным каньяком у кафэ

Цэнтральнага Дома літаратара высветлілася, што ў Яўгена Еўтушэнкі — беларускія карані, здаецца, дзед па маці беларус. Андрэй Ягоравіч, як заўсёды, загарэўся — знайсці малую радзіму знакамітага рускага паэта. Еўтушэнка, заўсёды лёгкі на пад'ём, прыехаў у Беларусь, і Макаёнак доўга вазіў яго па Магілёўскай і Гомельскай абласцях, і яны такі ж знайшлі далёкіх родзічаў Яўгена Аляксандравіча. Пра беларускага драматурга добразычліва ўспамінаў і вядомы рускі пісьменнік Уладзімір Салаухін, таксама з тых, хто, як і Макаёнак, заўсёды ішоў упоперак любога афіцыёзу.

У нас дома сябры — Шамякін і Макаёнак — часта абмяркоўвалі калег па літаратурным цэху. Не пляткарылі, а менавіта абмяркоўвалі як добразычлівыя крытыкі з эстэтычных пазіцый — і добрыя, і дрэнныя бакі кожнага. Іх ацэнкі ў 1960-я гады, як я зразумела пазней ужо, аказаліся ў цэлым справядлівымі. Прычым Шамякін не любіў нічога расказваць дзецям — усё больш-менш істотнае з пісьменніцкага жыцця я даведвалася або з размоў двух сяброў, якія чула праз сцяну татавага кабінета, або непасрэдна ад Андрэя Ягоравіча, які шмат што апавядаў маёй маме, а калі я стала студэнткай — ужо і мне. Шамякін у той час кіраваў Саюзам пісьменнікаў — быў першым сакратаром (Максім Танк — старшынёй). Бацьку даводзілася вырашаць мноства бягучых спраў, кантактаваць з велізарнай колькасцю людзей, таму ён часта затрымліваўся на працы. Макаёнак прыходзіў да нас раней канца рабочага дня і сядзеў, чакаючы сябра, у нашай заўсёды шматлюднай кватэры (дзеці, іх сябры, сёстры мамы, яе пляменніцы). Макаёнак асабліва сімпатызаваў адной з матуліных пляменніц — Тамары, тады студэнтцы, прывабнай дзяўчыне з надзвычай прыгожай, тоўстай касой.

Я вельмі любіла яго аповеды — сапраўдны для мяне ўніверсітэт. Ён бачыў маю цікаўнасць і гаварыў натхнёна, як толькі ён адзін умеў. Мне здаецца, яму хацелася ўкласці ў мяне ведаў як мага больш, бо са сваімі дзецьмі ён ужо бачыўся рэдка. Праўда, некаторыя звесткі, атрыманыя ад Макаёнка, я і сёння не магу агучыць па прычыне іх далікатнасці — прасцей кажучы, гэта чужыя таямніцы. А некаторыя сталі трывалым фундаментам маёй філалагічнай адукацыі. Ужо калі я вучылася на філфаку, Андрэй Ягоравіч гаварыў мне: «Ты пакуль што — «каструля», у цябе кладуць і кладуць веды, як агародніну для баршча, пакуль хто-небудзь не падпаліць агонь і не паклапоціцца пра гатоўку». Мяркую, у ім жыло імкненне якраз распаліць такі агеньчык — творчы — у сваёй хроснай дачцэ. Я цаніла сур'ёзнасць яго гутарак са мною. Прыйшоў ён, дарэчы, і на абарону маёй кандыдацкай дысертацыі ў 1975 годзе. Сімвалічнасць той працэдуры я зразумела і ацаніла пазней. Бо кіраўніком маім быў акадэмік Іван Навуменка, першым апанентам — выдатнейшы пісьменнік і даследчык прафесар Алесь Адамовіч, «балельшчыкамі» — такія асы-прафесіяналы, як Іван Шамякін і Андрэй Макаёнак, а таксама мае калегі па кафедры беларускай літаратуры БДУ — самі выдатнейшыя літаратары і вучоныя: Міхась Ларчанка, Алег Лойка, Сцяпан Александровіч, Дзмітрый Бугаёў, Рыгор Семашкевіч, Маргарыта Яфімава. З трыбуны Навуменка і Адамовіч гаварылі, уласна, для іх — дасведчаных слухачоў. Атрымалася выключна цікавая размова пра беларускую літаратуру, якая працягвалася за банкетным сталом у нас дома, ужо на новай кватэры, не на вуліцы Карла Маркса, а сімвалічна — на вуліцы Янкі Купалы.

Асаблівая тэма — гутаркі ў кватэры Івана Шамякіна пра палітыку. І мама, і яе родзічы, і я часта прасілі Андрэя Ягоравіча тлумачыць нам сутнасць падзей, што адбываліся ў краіне і ў свеце, а гэта быў багаты на значныя падзеі час (як і наш цяперашні). Скажам, у 1956 годзе адбыўся XX з'езд КПСС і ашаламляльны даклад на ім Хрушчова; у 1957 г. — асуджэнне «антыпартыйнай групы» Молатава, Малянкова і Кагановіча (усе — былыя калегі Хрушчова); у 1962 годзе — «карыбскі крызіс»; а ў 1964 годзе пазбавілі пасады і самога Мікіту Сяргеевіча.

Погляды пісьменнікаў на сацыяльныя працэсы ў той час вызначаліся выключнай шырынёй разумення і прадбачлівасцю. Аднак быў і іншы бок іх цікаўнасці да

палітыкі. Так, усе яны, тады маладыя і вясёлыя, вельмі любілі слухаць і апавядаць анекдоты на актуальныя тэмы. Калі сёння анекдоты скіраваны галоўным чынам на дыскрэдытацыю сям'і, то ў той час — савецкіх парадкаў. Той жа Макаёнак кожны дзень прыносіў новы анекдот, а часам і не адзін. Велізарная іх колькасць з'яўлялася тады. Праўда, праз дзесяць гадоў мне, ужо дарослай, сам пасталеўшы Андрэй Ягоравіч сур'ёзна гаварыў, адкуль яны браліся і бяруцца: на Захадзе існавала не менш як дзвесце навукова-даследчых інстытутаў, якія працавалі на забеспячэнне інфармацыйнай вайны, займаліся ідэалагічнай апрацоўкай насельніцтва СССР і краін сацыялістычнай садружнасці. Хоць я ўжо і была падкаванай у палітыцы дзякуючы пастаянным размовам дома, але ўсё ж з некаторым скепсісам успрыняла словы хроснага бацькі. Ужо ў ліхія 1990-я, праз шмат гадоў пасля яго смерці і ліквідацыі, не без знешняга ўздзеяння, СССР, я і сама прачытала ў замежнай прэсе пра дзейнасць гэтых інстытутаў: акрамя сачынення антысавецкіх анекдотаў, дыскрэдытацыі знакавых асоб, скажам, Чапаева, яны эфектыўна працавалі з нашай прэсай, беручы адтуль патрэбныя звесткі, прычым асабліва цанілі насценныя газеты розных устаноў, арганізацый, ВНУ і раённыя газеты, дзе па-за цэнзурай праскоквалі розныя важныя для геапалітычных супернікаў СССР звесткі. Інфармацыя збіралася па вельмі шырокім фронце, і пасля перамогі ў «халоднай вайне» метады і прыёмы яе ўжо не хаваліся.

Нам бы павучыцца тады (хоць бы па дзейнасці «радыёгаласоў») такой ідэалагічнай рабоце — у нас у краіне яна ўсё больш дэградавала, засушвалася і прыводзіла ў адчай думаючых людзей сваім дагматызмам. Супраць гэтага і паўставалі пісьменнікі, пра гэта і вялі пастаянныя размовы — пра глупства, ляноту і подласць партыйных чыноўнікаў, тыпу «слыннага ідыёлага» Міхаіла Шауры, якога Шамякін і Макаёнак добра ведалі, пра неадукаванасць, помслівасць і самалюбства трацкіста Хрушчова, пра палітычны інфантылізм Брэжнева, яго ўстаноўку на «арэлі» ў адносінах розных катэгорый інтэлігенцыі. Ледзь не штодня абмяркоўвалі беларускія пісьменнікі, каго пакаралі з так званага «патрыятычнага рускага» лагера, але для «раўнавагі» ўзнагародзілі з дысідэнцкага, а часам і наадварот; каму паківалі пальчыкам з «нацыяналаў», а каго ўганаравалі. Добра бачылі Шамякін і Макаёнак сутнасць дзейнасці пэўнай часткі творчай эліты, якая працавала на разбурэнне культуры, на зніжэнне маральных крытэрыяў, эталонаў прыгажосці. Усё нашы бацькі цудоўна бачылі. І з усё больш набіраючым хуткасць рэгрэсам, дэкультурызацыяй, нарастаючай энтрапіяй маглі змагацца толькі адным — сваім словам...

Імёны некаторых палітычных і культурных дзеячаў гучалі ў размовах пісьменнікаў пастаянна, і нават мне, малой, добра, на ўсё жыццё, запалі ў памяць. Ішлі бясконцыя абмеркаванні Сталіна і Хрушчова. Вельмі часта падключаліся да двух сяброў і нашы суседзі-пісьменнікі: Ян Скрыган, які сам толькі што вярнуўся з Сібіры, Янка Брыль, у якога браты пацярпелі, Іван Мележ, Іван Навуменка, Пятро Глебка. Прычым Шамякін розумам усведамляў памылкі і глупства Хрушчова, але ўсё ж правадыра нязменна апраўдваў, таму што, на думку бацькі, галоўнае дасягненне Мікіты Сяргеевіча перакрывала ўсе яго грахі — «не дапусціў рэпрэсій, рэабілітаваў невінаватых». І гэта пры тым, што і Шамякін, і Макаёнак ад рускіх і галоўным чынам ад украінскіх пісьменнікаў ведалі пра ўдзел самога Хрушчова ў рэпрэсіях 1930-х гадоў. Ужо намнога пазней мы з бацькам рашуча разышліся адносна асобы і дзейнасці Хрушчова, і мне чамусьці здаецца, што Андрэй Ягоравіч быў бы на маім баку. А ў той час Макаёнак, у цэлым згаджаючыся з Шамякіным, усё ж пастаянна па канкрэтных справах і перыядах партыйнага кіравання ўступаў у ярасныя спрэчкі. Не таму, што любіў спрэчку як такую, а таму, што спадзяваўся на прарыў да ісціны ў бясконцых абмеркаваннях і размовах, чакаў праясненага ў словах уласнага разумення неверагодна складаных перыпетый гісторыі. Увогуле ідэі ў яго выспявалі ў працэсе гаварэння.

Безумоўна, ні Макаёнак, ні Шамякін, і ніхто іншы не думалі пра разбурэнне Савецкага Саюза — тады ён здаваўся магутным, як ніколі. Аднак яны бачылі паступовае абывацельскае перараджэнне, маральнае гніенне партыйных улад, якія разбэшчвалі і народ. Пісьменнікі адчувалі, а ў пачатку 1980-х гадоў ужо і ведалі дакладна, што дабром гэта не закончыцца. Не баючыся знішчэння дзяржавы (пра такое і падумаць не маглі), яны баяліся патухання ў людзях, якія так многа перажылі, пачуцця патрыятызму, абавязку перад краінай, ліквідацыі нацыянальнай ідэнтычнасці народа. Я памятаю, як рашуча выступаў Андрэй Ягаравіч супраць ідэі Міхаіла Суслава аб «савецкім народзе». «Не можа быць такога паняцця — «савецкі народ»! — гарачыўся Макаёнак. — Ёсць беларускі народ, рускі, украінскі, польскі, грузінскі… Ідэя «савецкага народа» патрэбная, каб усіх нас нівеліраваць, падвесці пад адзін стандарт — таму што аднароднай масай лягчэй упраўляць…» Праўда, сёння мне здаецца, што мелася ў суслаўскай ідэі нейкае рацыянальнае зерне — паняцце савецкасці нас аб’ядноўвала, хоць, ясна, што праўду казаў і Макаёнак.

Я добра памятаю і абмеркаванне палітычных падзей пасля падзення Хрушчова. Мяне, падлетка, уразіла, што пісьменнікі не толькі ведалі пра асабістыя, чалавечыя ўласцівасці правадыроў, але і цудоўна ўяўлялі, «хто за кім стаіць»: гаварылі, напрыклад, пра тое, хто канкрэтна «пасадзіў на сталец» Брэжнева. У пачатку свайго праўлення Леанід Ільіч лічыўся абсалютна нікчэмнай, несамастойнай палітычнай асобай.

У вялікай ступені свае звесткі аб уладных структурах беларускія пісьменнікі чэрпалі ад рускіх калег, з якімі кантактавалі тады надзвычай актыўна — часта ездзілі разам у камандзіроўкі, у тым ліку за мяжу, сустракаліся на пісьменніцкіх з’ездах, пленумах, «круглых сталах», у выдавецтвах і рэдакцыях часопісаў. Макаёнак літаральна апантана паглынаў такія звесткі. А мне гаварыў: «Ніколі не мяркуй па знешнім фактары, па тым, якая ў каго рыторыка, заўсёды глядзі ў корань». З таго часу я заўсёды шукаю падаплёку розных падзей і ніколі не бяру на веру прыгожыя словы.

Збіраючы анекдоты, чуткі, звесткі, паколькі лічыў сваім абавязкам ведаць псіхалагічна-сацыяльную сітуацыю ў краіне, Макаёнак у той жа час сябе называў надзвычай лянівым. Ён шмат ездзіў і ахвотна сустракаўся з людзьмі, з самымі markрознымі калектывамі. Але ён мог год увогуле не пісаць, а потым садзіўся і ствараў п’есу за два тыдні. Прычым сам працэс пісання, у адрозненне ад Шамякіна, не любіў. Напісаць артыкул або прадмову да кнігі калегі, а тым больш даклад на пленуме, дапрасіцца яго было неверагодна складана. Яму падабалася «пракручваць» дыялогі і рэплікі ў галаве або агучваць іх перад слухачамі. Але Макаёнак надзвычай сур’ёзна працаваў над сабой — шмат, можна сказаць, апантана чытаў. Прычым кола яго чытання з гадамі рабілася ўсё больш рафінаваным. Памятаю, адзін раз ён у нас прасіў Баляслава Пруса (мы мелі Збор твораў), другі раз — зборнік Кафкі, потым Сэлінджэра, і так бясконца.

Маладыя чытачы, прачытаўшы мае папярэднія радкі, падумаюць, што такога проста не магло быць — не выдаваліся ў СССР замежныя класікі (мае студэнты, атручаныя буржуазнай прапагандай, часта такое мне заяўляюць). А вось і не так! Мой бацька з Масквы прывозіў літаральна чамаданы кніг на рускай мове, набытых у «Кнігарні пісьменніка». Выдавалася якраз шмат, але менавіта лепшае. Недасведчаныя ў савецкай выдавецкай палітыцы маладыя людзі маглі б урэшце і па гадах выданняў кніг паглядзець, хоць бы тыя ж Зборы твораў. Сёння думаю: «Як добра, што яны ў мяне захаваліся з савецкіх часоў. Так прыемна ўзяць у рукі прыстойна выдадзены том». Культура выдання, рэдагавання, нават афармлення была высокая.

Макаёнак браўся і за філосафаў, але асабліва цікавіўся гісторыкамі. Па ўспамінах Шамякіна: «На стале разгорнуты том Герадота. — Сумна? — Але мудра». Гэта Макаёнак адказаў: «мудра». Ад яго я ўпершыню пачула, скажам, імёны

М. Бярдзяева, А. Тойнбі, А. Лосева. У бібліятэкі ён ніколі не хадзіў — чытаў заўсёды дома ці на лецішчы. Чытаў удумліва і захоплена, любіў абмяркоўваць прачытанае. Увогуле любіў гаварыць. У дыялогах паміж сябрамі Шамякін гаварыў мала. І ніколі не спрачаўся. Нешта выказваў, а потым слухаў бясконцы маналог Андрэя, не пярэчачы. Пасля, калі Макаёнак пакідаў наш дом, бывала, выказваў думку супрацьлеглую толькі што пачутаму. Мы, яго родныя, здзіўляліся: «Чаму ж ты не сказаў гэта Андрэю?» — «Не хацеў крыўдзіць».

Не жадаў ён крыўдзіць сябра і тады, калі той выбраў не зусім гарманічную з ім па поглядах, інтарэсах, інтэлектуальным узроўні другую жонку — Любоў Іванаўну. Мы на той час ужо выраслі, і бацькі не раз абмяркоўвалі ў коле родзічаў сітуацыю з дарагім для сям'і чалавекам. Мама нязменна займала бок першай жонкі Алены Сяргееўны і іх агульных дзяцей. Дарэчы, яе ў гэтым горача падтрымлівала наша суседка Ядвіга Паўлаўна Навуменка. Сам Іван Якаўлевіч Навуменка і Шамякін, якія таксама шчыра сябравалі, трымаліся нейтралітэту, хоць сапраўдную думку бацькі пра Любу я, безумоўна, ведала. Памяркоўнасць творцаў, як я цяпер разумею, была недзе апраўданай. Па-першае, абодва пабеларуску талерантныя («Калі сябру так лепей, то і няхай»), па-другое, ужо як прафесіяналы-пісьменнікі меркавалі, што жыццё непрадказальнае і ў ім усё магчыма, і усё, што заўгодна, здараецца, таму варта ставіцца да любой сітуацыі па-філасофску. Так і ставіліся. Але пасля заўчаснай, у 1982 годзе, смерці Макаёнка нязменна згаджаліся, што другая жаніцьба жыццё яму скараціла. І абодва пакутавалі на сумленне, што паводзілі сябе ў адносінах да Андрэя досыць пасіўна.

Шамякін у сваёй «Аповесці пра сябра», створанай адразу пасля смерці Андрэя Ягоравіча, шмат што выкрасліў ужо нават пасля напісання, і ацэнку Любові Іванаўны даў дастаткова стрыманую, хоць пастаянна падкрэсліваў у ёй далёкую ад сапраўднай народнасці мяшчанскую сутнасць. Пры тым, што лічыла яна сябе інтэлігенткай.

Шамякін і Макаёнак выдатна бачылі ў людзях праяўленні абывацельскай псіхалогіі, усё жыццё змагаліся з ёю ў сваёй творчасці, і, дарэчы, у сабе вынішчалі, як маглі, супраціўляліся яе каварнаму пранікненню ў душу. Не заўсёды ўдавалася — патрэбна шчыра прызнаць, галоўным чынам, пад уплывам акружэння, у тым ліку сямейнага. Мае бацькі дагаджалі — па сваёй заўсёднай мяккасці, не жадаючы канфліктаў, — тым людзям, якія з'явіліся ў нашай сям'і. Назваць характар Андрэя Ягоравіча мяккім ніяк нельга, але і ён дагаджаў — дагаджаў, сцяўшы зубы. Часта прыязджаў да нас на дачу ў Ждановічы, каб выгаварыцца і супакоіцца: відаць было, што кіпеў ад гневу і адчаю. Апавядаў пра пастаянныя просьбы новай жонкі: уладкаваць на працу ці вучобу чарговага родзіча, купіць дыван, футра, залатыя ўпрыгожанні... Дарэчы, калі Макаёнак развёўся з Аленай Сяргееўнай, яна ні на што не стала прад'яўляць правы — ні на машыну, ні на дачу, адразу згадзілася з сумай, якую муж прапанаваў даваць на дзяцей, хоць, каб аліменты ішлі афіцыйна, яна ад яго фантастычных ганарараў атрымоўвала б намнога больш. А вось Любоў Іванаўна судзілася з дзецьмі Макаёнка пасля яго смерці. Мая мама і Ядвіга Паўлаўна Навуменка выступалі сведкамі на судзе — натуральна, на баку дзяцей. І такі ж выйгралі справу: хоць бы дача дасталася першай сям'і...

У асабістых кантактах Любоў Іванаўна была нават своеасабліва абаяльнай, хутчэй — забаўнай. Я памятаю, як яна апавядала асабіста мне пра метады яе выхавання і адукацыі Андрэем Ягоравічам. У іх двухпакаёвай кватэры ён павесіў на сцяну каля тэлевізара палітычную карту свету. Як толькі па навінах называлі якую-небудзь краіну, ён падымаў з канапы Любоў Іванаўну і прымушаў яе шукаць гэтую краіну на карце. А потым пасылаў глядзець у энцыклапедыі. На маю думку, правільны адукацыйны метад. Я не раз пра яго апавядала, але не магу не паўтарыць, бо вельмі добра характарызуе Андрэя Ягоравіча — ён жа і мой настаўнік таксама.

Шамякін у сваёй кнізе пісаў пра тое, што Любоў Іванаўна, урач Лечкамісіі, у пачатку знаёмства паняцця не мела пра такога драматурга — Макаёнка, бо ў тэатры, натуральна, не хадзіла, а пра Шамякіна чула як пра нейкага начальніка. Аднак ужо праз год пасля жыцця з Макаёнкам яна цудоўна арыентавалася ў адносінах акцёраў паміж сабою, іх жа з драматургамі і рэжысёрамі, і ўвогуле ва ўсёй тэатральнай «кухні».

Шамякін і Макаёнак з іх пісьменніцкай цікаўнасцю да чалавечых стасункаў, натуральна, гаварылі не толькі пра творчыя праблемы, але і пра асабістыя — канфлікты акцёраў паміж сабою і з рэжысёрамі. А Любоў Іванаўна ўсё ўспрымала ў адпаведным ракурсе. Мая маці якраз такія размовы слухала раўнадушна і нікому не перадавала.

Шамякін у «Тайне драмы» шмат піша пра творчасць драматурга — пісьменніцкую манеру Макаёнка, канцэпцыі яго п'ес, выспяванне задум. Аднак я не магу не спыніцца на моманце, вакол якога з'явілася ў апошнія гады шмат спекуляцый — у інтэрнэце і пэўных выданнях. Гаворка пра забарону твораў Макаёнка. Сапраўды, здаралася так, што некаторыя яго п'есы спачатку ішлі ў Расіі, у Маскве, а потым у Беларусі. Шамякін адзначае, што Пятру Міронавічу Машэраву не ўсё падабалася ў творах Макаёнка. Але крытыкаваў ён іх па-гаспадарску і часта даваў разумныя парады. Машэраў любіў пагутарыць з пісьменнікамі, праўда, больш гаварыў сам. Але Макаёнак з ім спрачаўся, і Пятру Міронавічу апанент падабаўся, яму было цікава з чалавекам, які не звяртае ўвагу на «табель аб рангах». У гэтай сітуацыі і Макаёнак паўстае смелым і прынцыповым, і Машэраў — сапраўдным дэмакратам. Але забароны п'ес усё ж былі. Што тут казаць? Кіраўнік рэспублікі не ва ўсім згаджаўся з камедыёграфам, і, магчыма, па-свойму быў праўдзівы. Праўдзівы з пункту гледжання сацыёлага, эканаміста, палітыка, які ведаў сваю велізарную гаспадарку шырока і поўна. Аднак і драматург быў праўдзівы, паколькі пісьменніка заўсёды больш цікавіць асобны чалавек, а не эканоміка краіны або чалавек у эканоміцы, — усё тое, што, бывае, чыноўнік, нават такой шырыні поглядаў на рэчы, як Машэраў, не улічвае, ігнаруе. Адыгрываў сваю ролю ў лёсе п'ес Макаёнка і наш правінцыялізм, страх угнявіць высокае саюзнае начальства. Усё ж Пётр Міронавіч, у многім самастойны ў межах рэспублікі, быў абмежаваны, залежаў ад думкі старых дзядоў-дагматыкаў у Палітбюро. Мы пра гэта таксама павінны памятаць.

У Маскве надзвычай ахвотна ставілі п'есы Макаёнка, але масквічам усё было прасцей — інтэлігенцыі, асабліва ліберальнай, улады нязменна патуралі, баяліся пакрыўдзіць, як бы сёння ўжо сталыя яе прадстаўнікі не стагналі і не плакаліся пра «жахі сацыялізму». Жах, на самай справе, у іншым. П'есы Макаёнка, у рэшце рэшт, у Беларусі таксама нязменна ставіліся. Горш тое, што яны перасталі ставіцца пасля смерці драматурга. І справа зусім не ў палітыцы, хоць добразычлівы да камедыёграфа Машэраў трагічна і таямніча загінуў за два гады да смерці Андрэя Ягоравіча, і прыйшлі іншыя кіраўнікі. Справа і не ў творчых пытаннях, а ўсяго толькі ў асабістым негатыўным стаўленні людзей, ад якіх залежаў рэпертуар беларускага акадэмічнага тэатра, да асобы Макаёнка. Вось калі помсліва прыпомнілі яго праўдалюбства, прынцыповасць, непрымірымасць да хлусні, востры язык. Трыццаць гадоў не ставіць лепшага камедыёграфа не толькі Беларусі — усяго Савецкага Саюза! І гэта не перабольшанне. Так гаварылі нават зайздросныя і пагардлівыя да правінцыялаў масквічы. Яны здзіўляюцца, што мы не ганарымся такім творцам, не згадваем яго. Сапраўды, яшчэ застаўся глядач, які здольны зразумець і сапраўдны драматызм макаёнкаўскіх не толькі трагікамедый, але і камедый, і іх падводныя цячэнні, і другі, трэці планы. Бо персанажы п'ес Макаёнка — адначасова і паўнацэнныя, жывыя, псіхалагічна глыбокія вобразы, і алегорыі. Беларускі знакаміты сталічны тэатр — тэатр не толькі купалаўскі, але і макаёнкаўскі, улічваючы тое, што ён для славы тэатра зрабіў. Замест таго — забыццё. Дзеля справядлівасці, аднак,

скажу, што ў апошні час некаторыя беларускія тэатры пачынаюць вяртацца да творчасці А. Макаёнка.

Калі я гавару пра тое, што выказала вышэй, у розных аўдыторыях, то часта бачу ў слухачах і суразмоўцах скепсіс. Ужо ўсталяваўся ў адносінах да Макаёнка стэрэатып успрыняцця, і звычайна мне адказваюць: «П'есы Макаёнка — кан'юнктура». Але пад кан'юнктуру можна падвесці што заўгодна — хоць казку пра Калабка. Любы твор не бывае па-за часам. Іншая справа, што мы лянівыя і не цікавімся мінулым — рознымі эпохамі, у тым ліку савецкай (мяркую па сваіх студэнтах, веды якіх пра СССР перакрываюць усе межы абсурду і дзікунства). Між тым мы ўсе выйшлі адтуль, і варта 70-гадовы перыяд ведаць хоць бы дзеля павагі да бацькоў і дзядоў.

Мала хто памятае сёння і яшчэ пра адзін бок дзейнасці знакамітага драматурга — пра яго працу на пасадзе галоўнага рэдактара часопіса «Нёман». Шамякін, будучы адным з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў, угаварыў у 1967 г. сябра пайсці на «Нёман». Рэдактарам ён аказаўся выдатным — смелым, незалежным ад літаратурных груповак, патрабавальным, свабодным ад густаўшчыны. Праўда, яго раздражнялі слабыя рукапісы, на якія прыходзілася марнаваць вольны час. Тады ён папракаў за такую пасаду Шамякіна. Той нязменна адказваў, што варта рабіць нешта на грамадскіх пачатках, ахвяраваць сваім часам для людзей.

Макаёнак зрабіў свой часопіс ледзь не лепшым у СССР. «Нёман» карыстаўся велізарнай папулярнасцю ў чытачоў. Тут ішоў вельмі строгі адбор па эстэтычных крытэрыях, а, з другога боку, Макаёнак не баяўся друкаваць вострыя палітычныя рэчы і ў той жа час лепшае з масавай замежнай культуры, скажам, Артура Хэйлі. Андрэй Ягоравіч умеў прадбачыць поспех таго ці іншага твора ў публікі.

Рэдактарам ён прапрацаваў трынаццаць гадоў, але ў апошнія тры гады настойліва прасіў вызваліць яго. Кіраўнікі рэспублікі доўга не згаджаліся. Нарэшце Шамякін пашкадаваў сябра і папрасіў за яго.

Пры гэтым сам Шамякін зусім не быў упэўнены, што зрабіў дабро для чалавека. Макаёнак пісаў мала, але думаў многа. І думкі яго былі невясёлыя, бо залішне многа падкідвалі яму бытавых праблем, якія яго злавалі. Ды і сітуацыя ў краіне дужа непакоіла. Лепш бы чытаў чужыя рукапісы.

Я ўпэўнена, што Макаёнак з яго выключным аналітычным розумам, энергіяй, прадпрымальнасцю здолеў бы падняць любую справу — часопіс нават драбяза для такога зубра. Аднак ён стаміўся, астыў, абрыдла яму цякучка, адносіны з аўтарамі, нярэдка графаманамі, з тупымі чыноўнікамі. Акрамя таго, Шамякін быў праўдзівы, калі абвінавачваў сябра ў яго нежаданні папрацаваць на грамадства. У Шамякіна грамадская праца якраз займала каласальна вялікае месца ў жыцці. Ці можна сказаць, што на пасадзе першага сакратара СП, Старшыні Вярхоўнага Савета, старшыні Камітэта міру і іншых грамадскіх пасадах ён дарэмна марнаваў час? Сам ён так не лічыў.

Але я думаю сёння, што кожны чалавек, ва ўсялякім разе, тонкі духоўна чалавек, неяк інтуітыўна адчувае, колькі яму для жыцця Богам адпушчана, а таму беражэ або не беражэ свой час. Шамякін больш чым на дваццаць гадоў перажыў Макаёнка. Сапраўды, Андрэю Ягоравічу патрэбна было шкадаваць свой час і не марнаваць яго на пустое. Праўда, на маю думку, бацька і не жадаў функцыянавання сябра ў нейкіх сферах і грамадскіх інстытутах, а непакоіла яго іншае. Памятаю, пры мне і пры Шамякіну Макаёнак аднойчы заявіў: «Я нікому нічым не абавязаны: я ваяваў, адстойваў краіну — мне ўсе абавязаны». Бацька тады, як заўсёды, прамаўчаў, не жадаючы спрачацца. Але, відаць, бачачы, што я з Макаёнкам унутрана згодная, потым завочна ўсяляк аспрэчваў сябра, неаднаразова горача даказваў, што такіх рахункаў — хто каму больш павінны — Радзіма табе ці ты Радзіме — у сумленнай асобы не павінна быць у прынцыпе. Таксама і ў каханні, у сяброўстве: аддаваць неабходна, не лічачыся, нават не думаючы пра «ты мне — я табе». І гэта былі не проста словы: я схіляю галаву перад бацькам за яго паводзі-

ны падчас цяжкай хваробы маці. Не ведаю больш высакародных паводзін, аддачы сябе любаму чалавеку.

Аднак Макаёнак быў асобай іншага складу. Пры ўсіх яго патрыятычных пачуццях жыла ў ім крыўда на родную дзяржаву — тая крыўда, якую песцілі ў сабе тады вельмі многія, ды песцяць і цяпер, не жадаючы лічыцца ні з чым — ні з эканамічнымі законамі, ні з сацыяльнай справядлівасцю, ні з фактарамі геапалітыкі, нават, як ні дзіўна гэта гучыць, з кліматам. «Мне недадалі! Мне!» П'есы Макаёнка ішлі ў Савецкім Саюзе надзвычай шырока — амаль што ў двухстах тэатрах; на працягу цэлага дзесяцігоддзя ён атрымоўваў самыя вялікія ганарары ў рэспубліцы. Але таксама, як і многія маскоўскія дысідэнты, быў незадаволены, магчыма, тым, што дзяржава брала вялікія падаткі. Пры гэтым ён часта гаварыў пра несвабоду, як, дарэчы, і іншыя інтэлігенты той эпохі. Я не стала б прыпісваць ім эгаізм і хцівасць: яны на самай справе адчувалі несвабоду. Аднак, як пасля высветлілася, больш, чым савецкая ўлада, ніякая іншая ўлада людзям мастацтва не дала. Падкрэсліваю: людзям мастацтва, а не дзеячам папсы і тэлевізійнай тусоўкі. Майстры атрымоўвалі ў СССР дачы, кватэры, машыны. Але ўсё роўна панавала незадавальненне (не ведалі, гаротныя, што іх чакае наперадзе!). Дарэчы, Шамякін да пачатку 1990-х гг. сваім лёсам быў задаволены і ні на што не наракаў, а Макаёнак — не. Відаць, гаворка тут павінна ісці пра ўнутраную свабоду. Яе недахоп Макаёнак адчуваў востра, але па законе аберацыі пераносіў на знешнія абставіны. Па сутнасці, Андрэй Ягоравіч невыпадкова выбраў шлях драматурга — род літаратуры, у аснове якога ляжыць канфлікт, супярэчнасць. Ён сам быў супярэчлівы па натуры, складаны неверагодна. Але на дзіва па-чалавечы цікавы — менавіта дзякуючы шырыні сваёй душы. Мне Макаёнак уяўляецца тыповым пісьменнікам-рамантыкам — па-рамантычнаму індывідуалістам, але і з высокімі парываннямі, болем за стан грамадства, з трагічным адчуваннем немагчымасці нешта змяніць.

Аднак, паўтараю: майго бацьку хваляваў у сябры ўсё больш праяўлены ў ім эгаізм. Па сутнасці, інтэлігенцыя ў СССР, у тым ліку ў Беларусі, якраз і раздзялілася па гэтай прыкмеце: геданістычны эгацэнтрызм, які абавязкова прыкрываўся прыгожай рыторыкай, высокімі словамі пра свабоду творчай асобы і гуманізм, і не агучанае так прыгожа адчуванне адзінства свайго лёсу з лёсам народа, імператыў ахвярнасці і абавязку. Раздзяленне пачало адчувацца вельмі рана — яшчэ па размовах у нас дома ў 60-я гады. А ў пачатку 80-х Шамякін цяжка перажываў перараджэнне, як яму здавалася, Макаёнка, пачатак пераходу таго ў іншы, супрацьлеглы ідэалагічны (хутчэй, этычны) лагер. Праўда, бацька тлумачыў гэта сямейнымі праблемамі Андрэя і, безумоўна, заўсёднай яго крытычнасцю ў поглядах на бюракратыю і ўвогуле на сітуацыю ў соцыуме. Тое, што ўсё прагніло, мы тады ўжо бачылі ясна. І ўсё ж сам Шамякін нават у кашмарныя «ліхія 90-я гады» і ў пачатку двухтысячных, да сваёй смерці, заставаўся верны ідэалам юнацтва. Ён пасля развалу СССР страціў вялікую суму грошай, але прыняў страту ціхмяна — не ён адзін, увесь народ пацярпеў, пазбавіўся назапашанага за ўсё працоўнае жыццё. Ды і не да таго было тату пасля страты сапраўды страшнай — смерці сына, майго брата Сашы. А ў творах постсавецкага часу заўсёдны пафас Шамякіна супраць абывацельшчыны, супраць нахабнай буржуазіі стаў мацнейшы, чым супраць савецкай наменклатуры — бародкаў і гуканаў — у ранніх раманах. Што ж тычыцца Макаёнка ў яго апошнія гады, то душэўны стан майго хроснага бацькі сапраўды быў надзвычай цяжкі.

Вядомы беларускі даследчык Пятро Васючэнка пяць гадоў таму, калі адзначалася 90-годдзе Макаёнка, у сваім юбілейным артыкуле ў «ЛіМе» напісаў, што Макаёнак «любіў ствараць вакол сябе міфы. Не дзіва, што гэтым пачалі займацца яго калегі, сябры». По-мойму, неасцярожная заява. Васючэнка не ведаў і не мог ведаць Макаёнка так, як ведала яго я. Міфы самімі творцамі не ствараліся (не да таго ім было, у адрозненне ад цяперашніх) — а ўзнікалі брудныя плёткі, як звы-

чайна вакол паспяховых і неардынарных людзей. Цяпер зразумела, што працаваў праект па знішчэнні аўтарытэту некаторых беларускіх савецкіх мастакоў — для таго, каб укараніць у свядомасці народа іншых, сваіх.

Міфы і плёткі — розныя рэчы. Макаёнак быў чалавекам арганічным і пры гэтым асобай з многімі «падкладкамі». Акрамя таго, Васючэнка кінуў цень на сяброў драматурга. Але дай бог, каб хто-небудзь так напісаў пра сябра, як Шамякін пра Макаёнка! У гэтым сэнсе «Тайна драмы» — твор фенаменальны, унікальны, у поўнай меры крытыкамі недаацэнены. Не дзіва, што недаацэнены: гаворка ж ідзе пра Шамякіна і Макаёнка, а іх імёны не павінны быць у абойме аўтарытэтаў у народа, хоць у савецкі час — былі.

Мушу адзначыць у абарону Васючэнкі, што бацька ў «Аповесці пра сябра», сапраўды, пра вельмі многае не напісаў: абмежаваны быў і рамкамі твора, і законамі жанру, і патрабаваннямі карэктнасці. Рознага роду ўмоўнасці, як мастацкія, так і маральна-этычныя, неабходна ўлічваць. Што ж тычыцца зместу аповесці, то ўсё тут праўда. Ды проста многія не жадаюць сёння ведаць, як у сапраўднасці было — гаворка ж пра савецкі час, стэрэатып успрыняцця якога ўжо склаўся дзякуючы СМІ, ды і міфам, што ідуць ад вядомых даследчыкаў. Пра Макаёнка створаны міф, але не яго сябрамі, а іншым лагерам, які натхнёна штурхаў краіну ў капіталізм... Ну, вось сёння яны дасягнулі свайго — капіталізм перамог. Мы сталі шчаслівейшымі?

Макаёнак і Шамякін — абсалютна розныя, яркія, непаўторныя творчыя індывідуальнасці. Іх пісьменніцкая і чалавечая адметнасць асабліва заўважна на фоне аднолькавых па поглядах, жыццёвых крэда, шляхах да поспеху многіх сучасных літаратараў. Не менш каштоўны — для разумення ўзроўню маральнага стану грамадства, для мэт выхавання насельніцтва — вопыт чалавечага, сапраўднага моцнага мужчынскага сяброўства двух такіх своеасаблівых людзей, як Шамякін і Макаёнак.



**Галіна СКРЫГАН**

# «ЧАС РОБІЦЬ УСЁ, ШТО ЯМУ ПРЫСПЯВАЕ...»

Гэтыя словы ў якасці загалоўка для напісанага я ўзяла з дзённікаў бацькі. Мне падалося, што яны вельмі хораша адпавядаюць таму настрою, які пануе на старонках яго запісаў. Менавіта пра гэты летапіс часу мне і хочацца распавесці, падзяліцца сваімі думкамі, пачуццямі.

Дзесяць агульных сшыткаў, акуратненька перавязаных матузом, трапіліся мне на вочы амаль што выпадкова, пасля смерці мамы. З першага погляду мне стала зразумела, што гэта дзённікі. Калі ж я паглыбілася ў тэкст, то ўсвядоміла: яго трэба прыводзіць у чытэльны выгляд. Некалькі разоў я спрабавала пачаць перадрук бацькавых дзённікаў, але кожны раз спынялася — нібы нейкая невядомая сіла не пускала мяне ў пантэон яго думак і дум. Справа зноў і зноў адкладвалася… Напэўна, трэба было дачакацца свайго часу. Існуе ж непарушны сусветны парадак, праўдзівасць якога заключана ў прароцкіх словах Эклізіяста: «Усяму свой час, і час усякай рэчы пад небам; час шукаць і час губляць; час кахаць і час ненавідзець; час вайне і час міру; час плакаць і час смяяцца…» І вось аднойчы настаў той дзень і час. Я расклала перад сабой дзесяць агульных сшыткаў. Здавалася, што цяпер радасна распачну сваю друкарскую працу на рарытэтнай у наш час бацькавай машынцы. Не паглыбляючыся ў падрабязнасці вытворчага працэсу, скажу толькі, што акуратнасць бацькавага почырку зусім не гарантавала лёгкасці яго разумення. І калі чытанне некаторых слоў не паддавалася ніякай логіцы, я адкладала іх «расшыфроўку» да спрыяльнага моманту, працягваючы рухацца далей.

* * *

Назва кнігі дзённікаў «Сэрцу горкая далячынь» з’явілася невыпадкова. Дзве фразы з архіўных запісаў бацькі «Спакою душы не будзе» і «Сэрцу горкая далячынь», датаваныя 1992 годам (незадоўга да смерці), востра і моцна кранулі маю душу. Магчыма, гэтыя фразы павінны былі стаць загалоўкамі нейкіх будучых твораў, якія так і не матэрыялізаваліся ў слове. Да іх было дададзена нешта накшталт зместу. Варта адзначыць, што з дзённікаў я даведалася: у бацькі амаль да самага скону былі мары напісаць 5-ы «круг» пад назвай «Дом», эпапею пра пакутніцкія гады ў Сібіры, Эстоніі, Фергане.

*«…у Эстоніі — частка біяграфіі, у Сібіры — частка жыцця.*
*І якія ўсюды слаўныя людзі!» (1974).*

Але вернемся да назвы кнігі. Мне падалося, што менавіта ў гэтай застылай у часе фразе — «Сэрцу горкая далячынь» — закладзена квінтэсэнцыя ўсяго жыццёвага шляху бацькі. Яна найбольш адпавядае ўсяму кантэксту дзённікаў, у якасці лейттэмы якога можна ўзгадаць радкі, напісаныя ў 1984 годзе: «Трывожуся і трывожуся. Мабыць, ужо ніколі не дайду да спакойнасці — такую зняверанасць выпрацавала ў мяне жыццё».

Канечне, для чалавека, які на працягу доўгіх год пакут зазнаў страшэнны боль надзеі і безнадзейнасці, у гэтым эмацыянальным настроі няма нічога

дзіўнага. Дзівіць і радуе менавіта тое, што чалавек, прайшоўшы гэтакую «акадэмію» жыцця… (бацька, калі што ўспамінаў дый расказваў, заўсёды гаварыў: «Калі я быў у акадэміі…», і мы адразу разумелі, пра што ідзе гаворка) не згубіў здольнасці радавацца свету, быць закаханым у жыццё. У пацвярджэнне гэтых слоў можна ўзгадаць урывачак з «Кругоў»: «У горы таксама ёсць месца для любові. Аднакава яны жывуць надзеяй». Напэўна, гэтая самая надзея і не дала загінуць майму бацьку, а таксама ягоным паплечнікам, падзяліўшым з ім жудасны лёс, апынуўшыся ў тыя бязлітасныя гады не ў тым месцы і не ў той час.



*Ян Скрыган у Караліщчавічах. 1962 г.*

* * *

Дзённікі пісаліся на працягу 18 гадоў — з 1974 па 1992. Здавалася б, не так і многа. Але ў дыяпазон гэтых 18-і гадоў умясцілася ўсё жыццё пісьменніка: са стромкімі віражамі і паваротамі, душэўнымі катастрофамі і ўзрушэннямі, незаменнымі стратамі, калі ў адно імгненне абрываецца сувязь часоў і крушэнне ўсіх надзей становіцца незваротнаю кропкаю.

І так ад старонкі да старонкі, па меры паступовага паглыблення ў атмасферу часу, перажываючы разам з бацькам самыя розныя жыццёвыя перыпетыі, я выразна прасачыла нябачнае дзяленне тэкставага матэрыялу на тэматычныя лініі. Прычым кожная з гэтых ліній цалкам самастойная, насычаная філасофскімі развагамі і ацэнкамі, напоўненая роздумамі, шчырымі перажываннямі.

* * *

Пяшчотай і любоўю прасякнуты радкі, дзе тата гаворыць пра родную мову.

*«Бывала, памятаю, калі ў Мінск да мяне прыязджала сястра Ульяна, усе сябры збіраліся, каб паслухаць яе гаворку. Колькі нейкай напеўнасці, мяккасці, душэўнасці было ў яе гаворцы. Паслухаўшы яе казалі: «Вось дзе наша беларуская мова!», «Вось якая гэта мілата!»* (1981).

Непадробным душэўным болем пранікнуты тыя радкі, дзе размова ідзе пра родную Беларусь, якую ён любіў да трапятання сэрца, да спынення дыхання.

*«Пасля абеду прылёг адпачыць. Узяў у рукі Альбера Камю. Зірнуў, што на гадзінніку такі час, што павінны перадаваць музыку па заяўках.*

*Музыка — любата. Гэтак і праляжаў з кнігаю ў руках, не зірнуўшы ў яе. Чароўная музыка. І недзе на канцы лучанкоўскую «Мой родны кут» у выкананні «Песняроў». Дарагая песня. Рэдкай удачы ў Лучанка. І ў песняроўскім гучанні. Аж здрыгануўся недзе пад канец, калі пасля слоў неяк як бы заплакала музыка, без слоў, перадаючы жальбу пра той родны кут. Божачка, якая гэта ілюстрацыя да слоў: паўза, а пасля немы крык любові па бацькаўшчыне, маладосці, па роднай душы, па дзяцінству. Родны кут!» (1983).*

* * *

Тужлівым лейтматывам праходзіць па старонках дзённікаў тэма ўспамінаў з мінулых гадоў, з гадоў да таго страшнага разлому, які ў помным 1936 годзе падзяліў усё жыццё на *да* і *пасля.* Гэты рэфрэн, што вярэдзіць душу, з'яўляецца нечакана, з настойлівай перыядычнасцю, не даючы сэрцу спакою да канца зямнога існавання:

*«Учора ў двары паштальёнка дала распісацца за ліст ад Севы. Канверт з чорнай рамкай: адразу зразумеў у чым рэч. Памерла Ліна.*

*Божа, як сціснулася сэрца!*

*Якая пакутніца. З Севінавага ліста бачу, яшчэ спадзявалася ўбачыцца, значыць, таксама было што сказаць.*

*У кожным цяжкім жыцці, мабыць, многа велічы. Што яна зазнала? І за што? Па сутнасці, усю бяду прынёс ёй я. І от з учарашняга дня нашу гэты яе вобраз і яе гора. Нават перад смерцю не суджана было абмяняцца позіркам, словам.*

*Вечны спакой ёй, харошай маёй.*

*Да цяжкага крыжу майго, што нёс у сваім усведамленні за яе пакалечанае мною жыццё, дадаўся новы — маўчанне магілы, у якой пахавана ўжо ўсё» (1977).*

Дарэчы, з Севам бацьку так і не наканавана было сустрэцца. Тут я зраблю невялікае адступленне, каб сказаць, што гэтую місію некратычнай нітачкі ад бацькі да сына нябёсы далі выканаць мне. Першы раз мы ўбачыліся з Севам у маі 2007 года. Цяжка перадаць усю моц перажывання, хвалявання, узрушэння, якія мы абое адчулі тады. Сустрэча адбылася надзвычай цёпла і душэўна. Апошні раз мы сустрэліся ўлетку 2011-га. Тады я прывезла да яго ў Дуйсбург вытрымкі з дзённікаў таты і паведаміла, што неўзабаве збіраюся іх надрукаваць асобнай кніжкай. Ён быў вельмі рады такой навіне, але ці то іранічна, ці то журботна сказаў, што наўрад ці дачакаецца — вельмі дрэнна сябе пачувае. Мне тады не хацелася верыць у гэты ягоны прагноз. Я была ўпэўнена, што мы разам парадуемся з нагоды выхаду ў свет такой дарагой нам кнігі.

Кніга дзённікаў была здадзена ў друк напрыканцы мая 2013 года, а праз месяц мы «пабачыліся» з Севам на ягоным пахаванні. Вось такія сюрпрызы лёсу… Мне вельмі хочацца спадзявацца, што словам Севы з відэаліста да 100-гадовага юбілею таты суджана спраўдзіцца: «…Ну што, мой тэрмін таксама канчаецца. Значыць, расце верагоднасць, што мы усё-ткі хутка ўбачымся ў нейкім іншым свеце. Трэба верыць…»

* * *

Шматпакутнаю чырвонаю стужкаю праходзіць праз усе дзённікі тэма, дзе тата звяртаецца да гадоў сваёй «акадэміі», шукаючы адказ на сакраментальнае пытанне: чаму ён застаўся жывы?

«*Зноў сон з тае далёкае рэчаіснасці. Нейкія нары, пасцелі, нейкія рукавіцы — брэзентавыя, шарсцяныя, я іх падбіраю да пар, нейкае перасяленне з месца на месца. Як цяжка прачнуўшыся ўсё гэта помніць. І нейкія земляныя работы… Яна апускаецца, блішчыць балотам, гэтая зямля…*

*Гэта ўжо цяжасць на сэрцы на ўвесь дзень» (1974).*

*«Сёння ў ночы прачнуўся, доўга не спаў. Можа таму, што часта пачуваю сябе нядобра праз гэтую пнеўманію, уздумалася пра смерць. І вось што ўздумалася: самае лёгкае, што прырода дала чалавеку, — гэта смерць; яна прыходзіць як ціхі ласкавы сон. Толькі без прачынання. Гэта сфарміравалася з ўласнага адчування. Калі там у дашчатых бараках, у страшэнную зіму, згала-*

*далы і знясілены лажыўся спаць і ўвесь час круціўся з боку на бок пад ліхенькай вынашанай коўдрай, хочучы спаць і баючыся заснуць, каб не замерзнуць. Няраз вельмі яўна я адчуваў ласкавую прыемную грань паміж засыпаннем і тым, што ўжо завецца нябытам. Сілаю волі прачынаўся ўжо адтуль, з тае заварожлівае ласкавасці» (1978).*

*«Часта мне ўспамінаецца маё 19-гадовае жыццё. І кожны раз прыходжу да аднаго: выпадак. Іменны ён лёг у аснову ўсяго майго далейшага жыцця. Лепш кажучы, таго, што я выжыў і лічу сябе нармальным ва ўсіх сферах жыцця. Гэта выпадак...» (красавік, 1991).*

*«Увесь час не перастаю дзівіцца, як я астаўся жывы» (ліпень, 1991).*

*«Чацвёртага чысла захацеў быў сказаць, як я астаўся жывы. Папраўдзе — дзіва. Як многа значыць у жыцці выпадак. Калі б не ён — даўно быў бы разам з Зарэцкім, Галавачом і Васілём Кавалём на тым свеце» (ліпень, 1991).*

А можа на самай справе ёсць у свеце механізмы, якія кіруюць законамі светабудовы? І выпадак — гэта датэрмінаваная неабходнасць. Іншымі словамі — выпадак апрыёры запланаваная і запраграмаваная з'ява ў сусветным status quo? Адказу на гэтае пытанне няма.

* * *

Я зрабіла нясмелую спробу спыніцца толькі на некаторых тэматычных кірунках. Але пры больш мэтанакіраванай дзейнасці можна адкрыць бязмежныя прасторы ў гэтым напрамку — аб'яднаць і радкі, прысвечаныя вытворча-службовай дзейнасці, і жанравыя сцэнкі, і разважанні пра літаратурныя з'явы і падзеі, грамадска-палітычнае жыццё і г. д.

Вандруючы па старонках дзённікаў, нельга абмінуць лаканічныя выказванні, філасофскія сентэнцыі і высновы, домыслы, трапныя яскравыя замалёўкі. З іх можна было б укласці асобны раздзел — афарызмаў. Некаторыя з іх могуць быць успрыняты і як творчыя запаветы.

*«Быць пісьменнікам — найперш трэба ўмець што сказаць. А вялікім пісьменнікам — па-свойму сказаць» (1974).*

*«Апавяданне павінна мець 6-8 старонак машынапіснага друку, а то і тры-чатыры. На 4-х старонках можна бог ведае колькі сказаць. А калі яно доўгае, то ўжо пустое, на яго і не варта траціць часу» (1975).*

* * *

Мой бацька, які за жыццё прайшоў праз усе кругі пекла, заўсёды верыў у перавагу розуму і справядлівасці. Любіў пагаварыць, пафіласофстваваць, каб зразумець вытокі тых ці іншых учынкаў. Вельмі любіў сустракацца з маладымі, што толькі пачынаюць свой жыццёвы і творчы шлях. У яго дзённіках незвычайным душэўным цяплом прасякнуты радкі, дзе тата ўспамінае сваіх сяброў юнацтва: Платона Галавача, Уладзіміра Хадыку, Васіля Каваля, Рыгора Мурашку, Юлія Таўбіна, Сымона Баранавых, Барыса Мікуліча... То была пара, калі з сябрамі-аднадумцамі марылася аб самай лепшай будучыні. І гэта самае лепшае абавязкова павінна было спраўдзіцца.

Вядома, і маладнякоўская «бурапеннасць», і «Літаратурна-мастацкая камуна», і іншыя розныя плыні, стылі, якіх было вельмі многа, па прызнанні таты «...пакінулі на мне свой глыбокі і доўгі след». Праз гады Ян Скрыган з разважлівасцю скажа: «Няхай сабе ў тых далёкіх пошуках і роздуме было многа наіўнага, але ж перад сённяшнім днём заўсёды быў учарашні». Гэта была філасофія яго жыцця.

Серафім АНДРАЮК

# ПАКЛІКАНЫ ЧАСАМ, ГІСТОРЫЯЙ

Пакаленне дзяцей вайны — яно ж пакаленне шасцідзясятнікаў, яно ж філалагічнае — з’ява ўнікальная ў нацыянальнай нашай літаратуры, наогул у нашым духоўным жыцці. Беларускае пакаленне дзяцей вайны мае глыбокае адрозненне ад таго ж пакалення іншых краін і народаў. Нават у тым жа Савецкім Саюзе. І выявілася гэта асабліва глыбока і адметна ў літаратурнай творчасці пісьменнікаў гэтага пакалення. Дастаткова згадаць тут хаця б прозвішчы Р. Барадуліна і І. Пташнікава, Н. Гілевіча і В. Адамчыка, А. Вярцінскага і М. Стральцова, Г. Бураўкіна і Б. Сачанкі, Я. Сіпакова і А. Кудраўца…

Вайна вызначыла характар і сэнс іх творчасці. Тая вайна, якую яны асабіста пабачылі і перажылі. А была то вайна асаблівая. Вайна ў самых розных яе праявах: баі, смерці, блакады, боль, страх, адчай, праявы мужнасці, самаадданасці. Ёю была ахоплена ўся тэрыторыя рэспублікі, усё яе насельніцтва: мужчыны і жанчыны, старыя і дзеці. То была вайна працяглая ў часе і ўсеахопная. У гэтым сэнсе ў значнай ступені сваімі людскімі сіламі, сваім духоўным напаўненнем, сваім характарам то была вайна беларуская. Добра відаць гэта, адчуваецца ў такіх кнігах, як «Я з вогненнай вёскі…» А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка, «У войны — не женское лицо», «Апошнія сведкі» С. Алексіевіч. Напэўна, зусім невыпадкова, што гэтыя кнігі, такія кнігі з’явіліся тут, на нашай зямлі. Беларускае жыццё іх спарадзіла. Для нашай зямлі, для нашых людзей Айчынная вайна, як гэта ні парадаксальна, ненатуральна прагучыць, у нейкі час стала з’явай штодзённай. Ненатуральная, абсурдная, д’ябальская штодзённасць. Такую вайну перажывалі, удзельнічалі ў ёй найперш жанчыны і дзеці. Яны ж асабліва балюча яе ўспрымалі, захоўвалі ў сваёй памяці, у сваім сэрцы.

І вось калі прыйшла пара, калі стала магчыма пра ўсё перажытае сказаць, а цяжар успамінаў стаў невыносны, дзеці вайны, тыя, хто быў надзелены творчым дарам, сказалі сваё слова пра тую жахлівую пару мінулага. Слова эмацыянальнае, балючае, праўдзівае. У чымсьці яно ўжо было праверана часам, у многім прадуманае, узгодненае з жыццём мірным. Яно выказвала не асобныя назіранні, уражанні, пэўныя з’явы, учынкі. Не, гэта было штосьці агромністае, страшнае, адваротнае самому сэнсу жыцця. Характэрныя ў гэтай сувязі адказы некаторых пісьменнікаў гэтага пакалення на пытанне: «Чым (якімі падзеямі, здарэннямі) засталося ў памяці дзяцінства?» (кніга «Шчыра, як на духу…». Мінск, 2002).

Бураўкін Генадзь: «Вайною, спаленымі вёскамі і вызваленнем…»

Зуёнак Васіль: «Вайна — тая, што называецца “Вялікай Айчыннай”…»

Кудравец Анатоль: «Вайной, цікаўнасцю да зброі і смерці».

Сіпакоў Янка: «Сіроцтвам… Але ж над галавою было высокае блакітнае неба, а пад нагамі — якая зялёная трава. Як ва ўсіх дзяцей».

У гэтай жа кнізе на пытанне: «Які ў вашым жыцці момант быў самы горкі, нешчаслівы?» — Сіпакоў адказаў: «Іх было два: калі за сувязь з партызанамі паліцаі забралі тату, а праз два тыдні прыехалі і па маму… Мне было тады шэсць гадоў».

Агульнае пераходзіла ў асабістае, асабістае ўваходзіла ў агульнае. Узаемадзеянне, узаемапранікненне асабістага і агульнага ва ўмовах драматычных, нярэдка трагічных, праз глыбокія перажыванні душэўныя, стрэсы рознага характару. І зразумела ж, дзеці ачувалі, успрымалі ўсё гэта выключна абвострана, балюча, бачылі асабліва выразна, непасрэдна. Назіранні, уражанні, веды дзяцей вайны ўзбагачаліся, паглыбляліся, набывалі пэўны змест і сэнс у агульных жыццёвых рэальных сітуацыях і варунках за кошт больш, можа, балючых, дзесьці глыбей спасцігнутых ведаў, перажыванняў, боляў іх маці, бабуль. Падзеі, факты, людзі, іх учынкі, усё тое, што яны бачылі, што перажывалі, было адно і тое ж. Таму зусім не выпадкова ў творчасці пісьменнікаў — дзяцей вайны такое месца займае вобраз жанчыны. І не так жанчыны-каханай, як жанчыны-маці, жанчыны-захавальніцы сям'і, жанчыны-працаўніцы. Дастаткова тут згадаць хоць бы творчасць Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча, Анатоля Кудраўца, Івана Пташнікава.

Ішлі гады. Жыццё мянялася — палітычнае, гаспадарча-эканамічнае, духоўнае. Раслі былыя дзеці вайны. Знікала з іх памяці ўсё дробнае, нязначнае: асобныя жыццёвыя факты, падзеі набывалі новыя сувязі, папаўняліся сучаснасцю, змястоўна ўзбагачаліся. Інтэлектуальна-эмацыянальнае накапленне і ўзбагачэнне творчай энергіі, ведаў патрабавала выхаду — свабоднага, натуральнага. І як толькі ўзніклі больш-менш належныя ўмовы, тое адбылося. Адбылося пад канец 50-х, у 60-я гады, калі наступіла ў краіне палітычная адліга. А багатыя, балюча-свежыя веды вылучалі новыя пытанні і патрабавалі адказаў. Адказы ж не заўсёды ляжалі на паверхні, не заўсёды былі простыя і адназначныя. Нарэдка творцаў яны адсылалі ў гісторыю, у мінулае. Вось гэтае творчае ўзбуджэнне мела сваім вытокам драматычна-трагічны вопыт гадоў мінулай вайны. Гэта — і для народа, і для яго творцаў. Для творцаў асабліва.

Разважанні на гэты конт мастака Паўла Драчова: «Нацыянальнае адраджэнне пасляваеннай Беларусі прыпала ўсё-такі на 60-я гады. І мы тады кожны пыталіся (не па чыімсьці загаду, а па загаду ўласнай душы); хто мы, што мы і куды мы? Як у Гагена сказана. Так і мы задавалі сабе гэтае пытанне і па кропельцы, па крупінцы збіралі кожны сам для сябе звесткі; раптам твор Караткевіча, раптам нейкае іншае бачанне вайны Васілём Быкавым ці дакументальная кніга "Я з вогненнай вёскі…", якую напісалі разам Я. Брыль, У. Калеснік і А. Адамовіч, і яна ўразіла таксама новай праўдай пра вайну, новыя вершы маладых паэтаў Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна».

А вось думкі пра той час кампазітара Сяргея Картэса: «Кожны час у гісторыі вызначаецца яркай падзеяй. У нас гэта быў перыяд "шасцідзясятнікаў": агульны творчы ўздым, жаданне зрабіць штосьці новае, сцвердзіць сябе і г. д. На жаль, гэты запал патушылі, і вельмі ўмела. Хаця многім здавалася, што, напэўна, мы ўжо выраслі з усяго гэтага. Але на самай справе "не выраслі", а проста гэта было прыдушана. І, безумоўна, не маглі быць 60-я гады ў Беларусі (і ў маёй памяці яны засталіся) без У. Караткевіча, Р. Барадуліна, артыстаў-купалаўцаў, чые імёны цяпер — гонар нацыянальнага тэатра, цэлай плеяды кінарэжысёраў: В. Чацверыкова, В. Турава, М. Пташука, тэатральных рэжысёраў: Б. Луцэнкі, В. Раеўскага, В. Мазынскага, А. Андросіка, Б. Эрына. Іх прысутнасць вызначала тагачасную атмасферу творчага Мінска».

П. Драчоў у інтэрв'ю ў 1995 годзе, С. Картэс — 2005.

Сёння словы гэтыя гучаць яшчэ больш праўдзіва, бо праўдзівасць іх праверана часам. Сказаны яны не проста сведкамі, тымі, хто жыў у той час, а творцамі таго часу. Словы гэтых творцаў звязаны непасрэдна з юбілейнымі датамі Уладзіміра Караткевіча — 65-годдзем і 75-годдзем. Наспеў чарговы юбілей творцы — 85. Словы, выказаныя раней творцамі іншых галін мастацтва (не літаратуры), у нашыя дні набываюць асаблівы змест і сэнс. Яны пра час і пра сябе, пра творчасць і жыццё, пра мастака і гісторыю. І ўсё гэта ў сувязі з творчасцю Караткевіча, у суаднесенасці з яго велічнай асобай.

Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч нарадзіўся 26 лістапада 1930 г. Памёр 25 ліпеня 1984… Пражыў няпоўныя 54 гады. Былі то гады няпростыя і нялёгкія. І для краіны, і для народа. Ды і для будучага пісьменніка. У аўтабіяграфіі пазней напіша: «…Пачалася вайна. Бамбёжкі. Эшалоны. Пачуццё бездапаможнасці падлетка… Некалькі разоў уцякаў з інтэрната на фронт. Затрымлівалі, вядома». Вайна застала яго ў Маскве ў сястры. Згубіў быў бацькоў. Шукаў на Разаншчыне, на Урале, у Арэнбургу. Там іх і знайшоў. Потым быў, ужо вызвалены, увесь разбураны Кіеў. Восенню 44-га сям'я вярнулася на радзіму, у Оршу. «І вось тут, — праз гады скажа пісьменнік, — упершыню ўбачылі *сапраўдны* разор, "зону пустыні", некалькі ўскраінных завулкаў, як канцы галінак ля згаслага вогнішча. Гарады, дзе нават руінаў не было. (Немцы разабралі іх на цэглу для абарончых патрэб.) Да голаду і холаду было не звыкаць, але тут, на выпаленай зямлі, так намерзліся, што часам хацелася памерці, абы толькі цябе пахавалі ў печцы».

І вось істотнае: «Але ад работы не бегаў». Сябры-аднакласнікі і аднагодкі таксама. Прызнаецца, што яны, магчыма, «агрубелі», але ж, напэўна, не ачарсцвелі: іх «цягнула да вершаў».

Уражанні ад перажытага, пабачанага ў гады вайны, няхай сабе, можа, і іншага зместу, чым у яго аднагодкаў, тых, хто перажыў фашысцкую акупацыю, перапаўнялі і сэрца, і свядомасць. Да таго ж радасць сустрэчы з родным кутом, з бацькоўскай хатай, радасць дыхаць паветрам сваіх лясоў і лугоў перапоўнілі юначыя сэрцы.

Успаміны пра горкія дні нядаўняга мінулага і радасць вызваленай зямлі, адчуванне свабоды вызначалі характар тагачаснай духоўнай атмасферы. Вылівалася ўсё гэта ў творчасці і У. Караткевіча, і многіх яго аднагодкаў.

Набытае ў гады вайны, зведанае: людзі, падзеі, факты, з'явы — паступова ў свядомасці дзяцей вайны (ды і не толькі) набывала пэўную логіку, сістэму, абагульнялася. Так нараджаліся творы шасцідзясятых, напісаныя былымі дзецьмі вайны. Патрэба ўзнаўлення падзей мінулага, балючых учарашніх дзён роднага партызанскага краю, то была патрэба агульная, народная. Чаму мы перамаглі? Як перамаглі? Якой цаной? Дзе браліся сілы? Такія пытанні патрабавалі адказу, патрабавалі паказу. Пакаленне шасцідзясятнікаў з усіх сваіх сіл імкнулася гэта рабіць. І рабіла — сумленна, праўдзіва.

У сваю чаргу вось гэты працэс асэнсавання фактаў, падзей нядаўняга мінулага, асабіста ўведаных і перажытых, аб'ектыўна штурхаў да выяўлення вытокаў. То была ўнутраная духоўная патрэба народа, яго творчых сіл. У прыватнасці — літаратурных.

Якраз на гэтай хвалі, яе ўздыме, з'яўляецца ў нас асоба Уладзіміра Караткевіча. Ён як творца аб'ектыўна быў пакліканы да выканання сваёй місіі — гістарычна-мастацкага выяўлення, спасціжэння мінулага народа, краіны. Суб'ектыўна быў падрыхтаваны да гэтай місіі. Прыйшоў у літаратуру, у актыўнае грамадска-чалавечае жыццё, шмат пабачыўшы і ўведаўшы. Краін і людзей.

Пазней, пасля вучобы ў Кіеўскім універсітэце і маючы за плячыма блуканні па Расіі ў гады ваеннага ліхалецця, ён пісаў: «Здалёку я асабліва палюбіў Беларусь і яе людзей. Яна ўяўлялася мне тады па незямному прыўкраснай. Уся зялёная, вільготная, з азёрамі, з народам, з ягонай пявучай і звонкай мовай, з легендамі і палямі, курганамі і рэкамі».

Трэба сказаць, што Караткевіч як чалавек быў перапоўнены любоўю да жыцця, да навакольнага свету, да людзей, да прыроды, надзелены выключнай прагай ведаў, пазнання гісторыі, сучаснасці, шчырай увагай і павагай да людзей, адкрытым таварыскім характарам. Радасна, аптымістычна ўспрымаў навакольны свет, гісторыю, чалавека. Усё гэта досыць поўна адбілася, выявілася ў творчасці. Напэўна, як мала ў каго з беларускіх пісьменнікаў. Караткевіч — пісьменнік і Караткевіч — чалавек адзіныя. *Гэты* пісьменнік выяўляе *гэтага ж* чалавека.

Канец 50-х—60-я гады — то быў час, калі ў жыцці нашага, беларускага, народа, моцна ашаломленага перанесенымі выпрабаваннямі, страшэннымі стратамі, прыгнечанага неймавернымі цяжкасцямі жыццёвымі, існавала моцная патрэба ўзняць вочы ад зямлі, такой дарагой і роднай, глянуць у бяскрайнюю сінечу неба, адчуць ласкавы подых ветрыка, ласкавае цяпло сонейка, пабачыць святло далёкіх зорак. Бо, гледзячы ў зямлю перад сабою, нельга ўгледзець гарызонт. Ды і дапытліва нельга азірнуцца назад. Ужо ў гады вайны ўзнікла неадольнае жаданне звярнуцца да нацыянальнай гісторыі, да яе гераічных старонак. І якраз гэты зварот да слаўнага мінулага ў гады найцяжэйшых выпрабаванняў памнажаў сілы народныя, дапамагаў больш моцна стаяць на зямлі, адчуваючы глыбінную сувязь з ёю.

Радасць дзён вызвалення і перамогі і разам з тым горыч загойвання незлічоных ран на целе і ў душы народа і краіны на нейкі час праблему звароту да мінулага як бы знялі з парадку дня. Але ненадоўга. Новая хваля цікавасці да гісторыі народа, больш за тое, унутраная патрэба прыпасці душой і памяццю да родных вытокаў мінулага выявілася выразна на пераломе 50—60-х гадоў. У творчасці Уладзіміра Караткевіча. Час, гісторыя, жыццё патрабавалі. Ён змог зрабіць гэта. Зразумела ж, што гэта найперш дзякуючы таму, што лёс дараваў яму выключны талент, шчодрае, адкрытае людзям і свету сэрца.

І яшчэ: сям'я, яе гісторыя. У аўтабіяграфіі напіша: «Гісторыю маю можна было б пачаць з таго, што роўна сто год таму назад (аўтабіяграфія была напісана 1 снежня 1964 г. — **С. А.**) мая зямля была ахоплена паўстаннем. Гарэла ўсё: фальваркі, вёскі, цэрквы, нівы. Адна бітва адбылася на поўнач ад Рагачова. Паўстанцаў разбілі, камандзіра іхняга расстралялі ў Рагачове. Ён быў мне сваяк з боку маці і яе радні. І такіх было многа. Гэтую ж гісторыю я апісаў у пралогу да рамана “Леаніды не вернуцца да зямлі”».

Бацькі былі людзі пісьменныя, сям'я інтэлігентная. У хаце было шмат кніг. Моцнае ўздзеянне на хлопчыка зрабіў дзед Васіль Грынкевіч, матчын бацька. Потым Караткевіч скажа, што якраз «ад яго… палюбіў прыроду, гісторыю (ён калісь рабіў раскопкі курганоў і шмат чаго цікавага распавядаў), навучыўся лавіць самоў “на квок”, палюбіў бадзяцца і іншае». Далей згадвае мноства легенд і паданняў, якія яму распавядаў дзед. І ці не тут вытокі непатольнай прагі да пазнання мінулага, навакольнага свету. Пазней, асабліва ў час навучання ва ўніверсітэце ў старажытным Кіеве, усё гэта набудзе навуковую аснову, сфармуецца ў пэўную гістарычную сістэму — мастацкую найперш. Мацавала, усяму надавала жыццё і паэтычны ўзлёт нязменная вялікая любоў да Радзімы і да чалавека.

Такім чынам, асабіста ўнутрана, духоўна У. Караткевіч быў гатовы да місіі, наканаванай яму жыццём, запатрабаванай часам. Місіі ўвасаблення айчыннай гісторыі ў мастацкім слове.

У паэме «Слова пра чалавечнасць» ёсць наступныя радкі:

Беларусь! Зялёная, залатая!
Край мой светлы, што выпіў мора пакут!
Да апошняй бярозы благаслаўляю
Светлы дзень, калі нарадзіўся тут.

Радкі гэтыя могуць стаць эпіграфам да ўсёй творчасці пісьменніка, для вызначэння яе ідэйнай накіраванасці. І вельмі істотна, што пісьменнік у паказе, адлюстраванні гісторыі (найперш тут) знайшоў сваё адметнае слова. Эмацыянальна яркае, выразнае. Слова паэтычна-рамантычнае.

Так, Караткевіч — пісьменнік рамантычнага складу, рамантычнага ўспрымання свету: ён, можа, не так малюе, як сцвярджае сваё бачанне, свой лад думак і пачуццяў. Адсюль асабліва высокі эмацыянальны напал у творчасці, яркае вонкавае выяўленне пісьменнікавай зацікаўленасці да ўсяго, пра што піша. Увогуле ж рамантычнасць у творчасці Караткевіча выразна бачыцца ў выбары незвычайных падзей і жыццёвых сітуацый, у сюжэтабудаванні, выкарыстанні элементаў таям-

нічага, якому пісьменнік у рэшце рэшт заўсёды дае рэальнае вытлумачэнне, у багатым выкарыстанні народнай творчасці, нарэшце, у асаблівай эмацыянальнай насычанасці мовы. У яго творах яркія характары, выключныя жыццёвыя факты, незвычайнай завостранасці канфлікты, барацьба пачуццяў, метафарычнасць, багатая вобразнасць, яркасць фарбаў, дзесьці як бы дзіцячае ўспрыманне свету, захапленне ім. Нават у звычайным, штодзённым ён знаходзіць паэзію, узнёсласць і дакладна яе перадае. Гэта і ў творах паэтычных, і ў прозе, і ў нарысах.

Вось хоць бы нарыс «Казкі янтарнай краіны». Пачатак: «Паміж латгальскімі азёрамі і Балтыйскім морам ляжыць Янтарная краіна.

І ўсё на гэтай зямлі мае янтарны колер.

І валасы ў людзей, і свежыя зрубы, і нават піва.

І вось у канцы мая, калі цвіце ружовы глог, мне нясцерпна захацелася ўбачыць гэтую краіну.

Калісьці ў казку адпраўляліся пехатою, але цяпер іншы час. Таму я паехаў у мінскі аэрапорт…»

Нарыс характэрны ў вызначэнні вытокаў і сутнасці рамантычнасці Караткевіча. Нарыс як бы з’яўляецца гімнам, паэмай жыццю, звычайнаму, штодзённаму, народнай шчырасці, прастаце, жыццярадаснасці простых латышоў. У вобразах людзей, з якімі давялося сустракацца, у іхнім побыце, звычках, узаемаадносінах з навакольным светам пісьменнік бачыць, адчувае тую паяднанасць, злітнасць, натуральнасць, якія толькі і могуць быць вартыя паэзіі. Самабытнасць штодзённага жыцця латышоў, іх духоўная чысціня, моц, душэўная ўраўнаважанасць сваёй рэальнай глебай маюць натуральную адданасць, вернасць традыцыям мінулага. А чым глыбей у зямлю пранікаюць карані дрэва, тым больш жыццёвых сокаў яно мае, тым больш моцнае і жыццяздольнае. Тое ж і з народам.

У нарысе Караткевіч піша: «Дзіўна, але ніякая гістарычная з’ява не знікае, не пакінуўшы за сабою слядоў і моцнага, часцей за ўсё жыццяздольнага, семя. Вы можаце знішчаць народ на працягу стагоддзяў, прышчапляць яму чужыя вераванні і чужую мову і пры гэтым верыць у сваю слушнасць, як у святло нябёс, і ўсё ж семя, наканавана і ўпарта, дасць свой парастак, ды яшчэ часам і на вашым трупе».

Такое ж высокае, прыгожае слова пісьменнік знаходзіў і калі пісаў пра іншыя краіны і народы. І разам з тым добра відаць, моцна адчуваецца, што пра які б народ ён ні пісаў, жыццё якога краю ні ўзнаўляў, галоўны яго клопат і пісьменніка, і чалавека — Беларусь, беларускі народ. Вера ў высокую і моцную жыццяздольнасць гісторыі, разуменне яе як урока, школы пазнання, адчуванне яе як крыніцы, асновы ўсяго, што ёсць сёння, што будзе заўтра, у будучым, ёсць першааснова рамантызму Караткевіча. Менавіта сама гісторыя (а яна найчасцей захоўвае факты, падзеі вялікія, значныя, людзей незвычайных, гераічных) як асабліва сугучная светаўспрыманню і светаразуменню пісьменніка, па-дзіцячы непасрэднаму, абвострана чуйнаму, была той крыніцай і той глебай, якая жывіла і пастаянна сілкавала талент пісьменніка.

У памянёным вышэй нарысе пра сваю паездку да латышскіх сяброў, аўтар гаворыць пра тое, што «повязь чалавека з усім і ўсімі», «з усімі вякамі і ўсімі людзьмі, што былі, ёсць і будуць на зямлі», робіць чалавека вялікім, нараджае «нейкі высокі сумны гонар, гордае і горкае пачуццё няяркай радасці за ўсіх, і ціхай тугі па еднасці чалавека». Ідэя гэтая з’яўляецца вызначальнай для многіх Караткевічавых твораў.

Рамантычнасць арганічная таленту пісьменніка, адпавядае высокім ідэям яго творчасці. Праўда, сам Караткевіч рамантычнасць уласнай творчасці рашуча адмаўляе. У адкрытым лісце чытачам часопіса «Молодая гвардия» Караткевіч пісаў: «Сейчас о ярком и необычайно красивом. В некоторых письмах говорилось даже о романтике. Глупость это. Все это у меня обычная реальность. Только надо видеть эту реальность удивительной, исключительной». У гутарцы з Т. Шамякі-

най сцвярджэнне гэтае паўтарылася: «Я не пісьменнік рамантычнага складу. Хто хоча, каб я яго паважаў — хай здасць гэта азначэнне, гэты ярлык у архіў. Я, можа, больш чым хто авантурыст (хоць ніколі не шукаў у авантуры выгады), і жыццё падсоўвае мне і такіх людзей, і такія выпадкі, якія не назавеш штодзённымі».

Магчыма, для самога пісьменніка, як ён піша, усё, што ён бачыў, на што звяртаў увагу, усё гэта сапраўды «звычайная рэальнасць». Але для чытача ўсё, пра што піша Караткевіч, незвычайнае, выключнае, яркае. У жыцці менавіта гэта найбольш яго прываблівала, менавіта гэта ён умеў асабліва ярка, эмацыянальна насычана паказаць у сваіх творах. І часам цяжка бывае зразумець: ці то ў яго здольнасць заўважаць у свеце ўсё асабліва яркае, кідкае, ці то ён надзелены талентам паказваць нават звычайнае як незвычайнае. А мо тое і другое — як адно.

Уладзімір Калеснік, які добра ведаў пісьменніка, сцвярджаў: «Караткевіч — рамантык ва ўсім, нават у катэгарычным адмаўленні рамантычнай прыроды свайго таленту».

Галоўнае, падкрэслім яшчэ раз, рамантычнасць надае сілу, красу, прывабнасць нейзвычайнаму таленту пісьменніка. Першасная, невычэрпная крыніца яе — гістарычнае мінулае Беларусі. Гісторыя дае не толькі жыццёвы матэрыял, найчасцей зусім невядомы, яркі, арыгінальны. Гісторыя насычае творы высокім патрыятычным пафасам, дае моцны эмацыянальны зарад адкрыцця і пазнання.

Не менш, відаць, важнай крыніцай рамантычнасці творчасці Караткевіча з’яўляецца прырода, асабліва прырода дзесьці як бы спрадвечная, слаба закранутая цывілізацыяй. Дастаткова згадаць хоць бы нарысы «Дрэва вечнасці», «Званы ў прадонні азёр», тыя ж «Казкі Янтарнай краіны», аповесць «Чазенія». Ды і ў іншых творах яркія, эмацыянальна насычаныя карціны прыроды з’яўляюцца вельмі істотнай часткай пісьменнікавага мастацкага свету. У далучэнні чалавека да прыроды, як і ў далучэнні да гісторыі — крыніца і аснова цэласнасці, паўнаты чалавечай асобы, яе арганічнасці і жыццёвасці, яе прастаты і чысціні.

Цікавасць жа да мінулага, яго вывучэнне, даследаванне, паэтызацыя — гэта не толькі патрэба душы мастака але і, можа, яшчэ ў большай ступені, патрэба грамадства, народа. Мастаком пачутая і выяўленая ярка, выразна. Хто мы? Адкуль выйшлі? Куды ідзём? Такія пытанні ў перыяды інтэнсіўнага разіцца грамадства востра ўзнікаюць перад кожным, патрабуюць адказу.

Васіль Быкаў у прадмове да Збору твораў У. Караткевіча пісаў: «…Беларускай літаратуры доўгі час неставала гістарычнай прозы, якая ў развітых і старых літаратурах з’яўлялася даўнім і раўнапраўным жанрам. Драматычны, а часам і трагічны змест гістарычных падзей, якімі так багата мінулае нашага народа, амаль не пакінулі літаратурных сведчанняў і, вядома ж, ляжалі па-за асабістым вопытам пазнейшых пакаленняў літаратараў. Для мастацкага ўвасаблення мінулага літаратура мела патрэбу ў таленце асобага раду, такім, які б, валодаючы багатым запасам канкрэтных гістарычных ведаў, меў яркае паэтычнае ўяўленне, каб з даўняй сівой мінуўшчыны чэрпаць натхненне для літаратурнай творчасці…»

Духоўнае развіццё грамадства, развіццё самой літаратуры ўнутрана былі падрыхтаваны да нараджэння такога таленту. Адчувалі ў ім патрэбу. І ён з’явіўся.

Той жа Калеснік згадвае сустрэчу Караткевіча са студэнтамі Брэсцкага педінстытута: «Мяне ўразіла, што многія студэнткі хвалілі аўтара за ўсхваляваны паказ мінулага свайго народа. Іх шчырыя, часта наіўныя рэплікі сведчылі пра голад гістарычнай праўды, якая звязвае чалавека з народам, нацыяй, з мінулым і будучым, робіць жыццё духоўна багатым, напоўненым патрыятызмам і гістарычнымі каштоўнасцямі, паднімае грамадзянскую годнасць».

Уладзімір Караткевіч жыў у гісторыі, жыў гісторыяй, гісторыя жыла ў ім. У сваіх творах ён паказвае, як беларускі народ, прайшоўшы праз нечуваныя выпрабаванні, перажыўшы нямала падзей трагічных, застаецца народам вялікай душы, светлага розуму, з усіх сіл змагаецца не згубіць сваё нацыянальнае аблічча. Нацыянальнае і народнае зліты, адзіны. Народ увасабляе дух нацыі, яе сутнасць.

Змагары за народ з'яўляюцца адначасна і змагарамі за Айчыну. Праз усю творчасць пісьменніка праходзіць ідэя пераемнасці пакаленняў, духоўнага адзінства народа. Тая ці іншая падзея мінулага, пэўны перыяд яго падаюцца не ізалявана, а як этап нацыянальнай і сацыяльнай гісторыі.

«Сівая легенда», «Цыганскі кароль», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Чорны замак Альшанскі», драматычныя творы, мноства вершаў, прысвечаных часам мінулым, насычаныя дыханнем гісторыі, перадаюць хаду гісторыі, яе рух, усе пранізаны пафасам сучаснасці. Паказваючы мінулае, гаварыла сучаснасць.

Вось радкі аднаго з першых вершаў гістарычнага зместу «Паўлюк Багрым»:

Беларусь мая, сонца,
Дарагая і родная маці!
На якіх раздарожжах
Згубіла ты шчасце сваё?
Ці удасца хоць дзецям
Шчаслівага дня дачакаці
Пасля мужнасці гэткай,
Пасля столькіх крывавых баёў?

І яшчэ:

Беларусь,
прачынайся!
Я цябе абуджаю!
Ты павінна прачнуцца,
Не праспі сваё шчасце ўначы,
Я гукаю цябе,
Дарагая, святая!
Адкажы ж, мая родная,
Не маўчы!..

Тут цяжка раздзяліць голас героя-паэта і аўтара-паэта.

І ў творах прозы, у падзейнай аснове якіх народныя паданні і легенды, і ў рамане «Чорны замак Альшанскі», дзе на мінулае аўтар глядзіць праз прызму ваенных і пасляваенных гадоў, і ў рамане непасрэдна гістарычным «Каласы пад сярпом тваім», як і ў гістарычным пралогу да рамана «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да зямлі») добра адчуваецца, відаць даволі грунтоўнае даследаванне рэчаіснасці, характараў, выключная здольнасць дакладна, пераканаўча перадаць мясцовы каларыт у шырокім разуменні гэтага слова, што азначае не толькі ўзнавіць побыт пэўнага часу і пэўнай мясцовасці, але і свядомасць народа, традыцыі, звычкі, вераванні. Увогуле пісьменнік засведчыў тут высокую здольнасць стварыць эмацыянальную атмасферу, агульны тон твора, які найбольш адпавядае ўзноўленым падзеям, іх зместу і сэнсу.

Гэта трывожная рамантыка, абвостраная ўзвышанасць пачуццяў у пралогу рамана «Нельга забыць», зноў жа ўзвышаная рамантычнасць і настрой захапленняў у «Сівой легендзе», задуменнасць і драматычная трывожнасць у «Дзікім паляванні караля Стаха», з'едлівая іронія і іранічная ўсмешка ў «Цыганскім каралі», гэта багатыя жывапісныя апісанні побыту, прыроды, батальных сцэн, якія ўсе насычаны моцнай жыццесцвярджальнай сілай, у рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», гэта атмасфера незвычайных прыгод і выяўлення высокіх чалавечых пачуццяў у рамане «Чорны замак Альшанскі».

У мастацкім спасціжэнні гісторыі, гістарычных падзей, стварэнні вобразаў гістарычных асоб немалая ўвага звернута аўтарам на выяўленне ролі народа ў гістарычным працэсе. Ужо ў «Сівой легендзе» выразна бачыцца ў асэнсаванні мінулага арганічнае спалучэнне гістарызму нацыянальнага і гістарызму сацыяльнага. У аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» якраз даследаванне сацы-

яльных прычын дазваляе вытлумачыць усё таямнічае, незвычайнае, пры гэтым ніколі не парушаючы жанравую адметнасць (твор прыгодніцкі) і нацыянальны эмацыянальны каларыт. У пачатку твора народ амаль не адчуваецца; бачна рамантычная адарванасць герояў ад навакольнага жыцця, таямнічасць падзей. Але ў канцы твора якраз народ паказаны вырашальнай сілай, бярэ на сябе асноўную сюжэтную (а гэта значыць) і ідэйную нагрузку. Народ як вырашальная сіла гістарычных падзей прысутнічае і ў «Сівой легендзе», і ў «Цыганскім каралі». Народная, а хутчэй народна-нацыянальная, думка становіцца галоўнай у праблематыцы і мастацкай структуры рамана «Каласы пад сярпом тваім».

Твор звязаны з падзеямі 1863—1864 гг., з асобай Кастуся Каліноўскага. Увогуле і падзеі гэтыя, і іх герой у творчасці Караткевіча займаюць асаблівае месца. Апрача гэтага рамана, можна згадаць пралог да рамана «Нельга забыць», трагедыю «Кастусь Каліноўскі», некаторыя апавяданні. Гэта творы, у аснове якіх канкрэтная гістарычная падзея, падзея трагічнага зместу. Падзея, у аснове якой пытанне нацыянальнае для беларускага народа. Твор гэты і сёння актуальны. Бо ўжо ў сучасных умовах робяцца спробы (матэрыялы друкаваліся ў апошнія два гады на старонках «Литературной газеты») паказаць Кастуся Каліноўскага як чалавека ў чымсьці не зусім адэкватнага ў сваіх паводзінах. Гэта ў адным выпадку, у другім — Мураўёва-вешальніка падаць як патрыёта Расіі, выдатнага гаспадарніка-кіраўніка. Падаўленне паўстання і жорсткая расправа з яго удзельнікамі — справа зусім нязначная. А як для нас?

Раман «Каласы пад сярпом тваім» у творчасці У. Караткевіча сваёй ідэйнай скіраванасцю, значнасцю гістарычнага матэрыялу, пакладзенага ў яго аснову, сваімі мастацкімі якасцямі, той роллю, якую ён адыграў у жыцці і ў літаратурным працэсе — твор этапны ў нашай нацыянальнай літаратуры, самы значны ў шматграннай творчасці пісьменніка.

Раман задуманы як шырокае мастацкае палатно пра адзін з самых драматычных перыядаў гісторыі беларускага народа. Гэта твор эпічны. Эпічнасць яго абумоўлена не толькі жыццёвым матэрыялам (у аснову пакладзены падзеі барацьбы беларускага народа за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне), але імкненнем пісьменніка даць значны ахоп падзей, паказаць, як гісторыя ўцягвае ў барацьбу розныя пласты людзей, выявіць розныя лініі паводзін асобных людзей, груп і класаў — у цэлым паказаць аб’ектыўную, гістарычна канкрэтную складаную карціну жыцця, ходу падзей.

Ахоп жыцця ў рамане даволі шырокі: панскі маёнтак, вёска, Пецярбург, Вільня, губернскі горад, універсітэт, гімназія, царскі палац; дваране і ўплывовыя магнаты, мясцовыя царскія чыноўнікі і людзі, якія робяць «вялікую палітыку», рэвалюцыянеры, пісьменнікі, вучоныя; быт, выхаванне, вучоба, праца, творчасць, палітыка. Увесь гэты разнастайны рэальны жыццёвы матэрыял падаецца ў сувязі з падзеямі, якія папярэднічалі паўстанню 1863 года, сюжэтна непасрэдна ці ўскосна звязаны са станаўленнем характару асноўнага героя, выспяваннем яго свядомасці, прыходам яго ў групу кіраўнікоў паўстання.

Раман пачынаецца з дзяцінства галоўнага героя Алеся Загорскага. Бацькі, прытрымліваючыся добрых старых звычаяў, аддаюць маленькага князя на выхаванне ў вялікую сялянскую сям’ю Кагутоў. Гэта называлася дзядзькаваннем. Алесь здружыўся з дзецьмі Кагутоў, старыя Кагуты сталі для яго як родныя. Ён захапляецца іх прастатой і чалавечнасцю, усёй душой адчувае любоў і павагу да іх. Жыццё на ўлонні прыроды, шчырае, праўдзівае і адкрытае, поўнае прыгажосці і паэтычнасці, стала для хлопчыка звычным.

Якраз у гэтых умовах закладваюцца ў душы і сэрцы Алеся Загорскага асновы дэмакратызму і гуманізму. Пазней ён з упэўненасцю зможа сказаць, што ён — мужык, князь і мужык. Праўда, да таго, як будуць сказаны гэтыя словы, герою давядзецца прайсці немалы шлях пазнання жыцця, вынесці не адно выпрабаванне, перацярпець шмат нягод і расчараванняў.

Пасля вясковага жыцця пачынаецца жыццё і выхаванне дваранскае: добрыя манеры, танцы, усведамленне сваёй чалавечай і арыстакратычнай годнасці, знаёмства з асновамі навук, вывучэнне замежных моў. Алесеў дзед, стары Вежа, абудзіў у юнаку цікавасць да мастацтва, любоў да гісторыі роднага краю. Сустрэча з Каліноўскім надае любові да роднага краю асэнсаваны і свядомы характар.

Чытач разам з юнаком Загорскім уваходзіць у незнаёмы, таямніча-рамантычны і прыгожы свет мінуўшчыны, разам з ім адкрывае забытыя і занядбалыя матэрыяльныя і духоўныя здабыткі народа, пранікаецца верай у яго будучыню, у яго вялікія творчыя сілы, бачыць яго нялёгкае сучаснае жыццё. Нічога падобнага ні наша літаратура, ні наш чытач не ведалі, не бачылі. Тут Караткевіч адкрывае новы мацярык — і матэрыяльны, і духоўны.

Знаёмства з гісторыяй Беларусі ў бібліятэцы старога Вежы, вучоба ў Віленскай гімназіі, знаёмства з некаторымі дзеячамі на ніве тагачаснай культуры (Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Станіслаў Манюшка, Тарас Шаўчэнка, Уладзіслаў Сыракомля), вывучэнне народна-паэтычнай творчасці сталі грунтоўнай навукова-гістарычнай асновай поглядаў Алеся на жыццё народа, краю. А калі ўлічыць яшчэ ўзмацненне ў тыя гады нацыянальна-вызваленчага руху ў Еўропе, то зусім правамернай падасца нам прамова маладога Загорскага падчас уступлення яго ў дваранскую зборню. Ён абвінавачвае дваранства ў тым, што яно не знае, не разумее, хто мы такія. Звяртаецца ў гісторыю, каб згадаць тых, хто «агнём і жалезам даказваў сваю любоў да айчыны». «Князь Віцень мог за радзіму ўзысці на вогнішча, Міхал Крычаўскі мог разбіць за яе сваю галаву, Дубіна — сесці на кол, а Мурашка — на распалены трон». Далей прамова гучыць як страсны заклік: «Наш край, мая зямля. Багатая, прыгожая, мяккая душамі людзей — яна чужая нам… Спытаюць: чым? Я скажу: мовай… Мова ў нас якая хочаце, толькі не свая. Свая яна — у сярэдняй часткі шляхты ды яшчэ ў нешматлікіх прадстаўнікоў буйной, перад якімі я нізка схіляю галаву. Бо нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай».

(Прайшло больш за пяцьдзясят гадоў, як былі напісаны гэтыя словы; паўтара стагоддзя, як яны прагучалі (так лічыць аўтар); больш за трыццаць гадоў няма ўжо аўтара. — Што змянілася?..)

Алесь Загорскі ні ў сваіх словах, ні ў сваіх паводзінах не быў выключэннем у тыя часы ні ў сваім асяроддзі, ні ў Віленскай гімназіі, ні ў Пецярбургскім універсітэце, ні сярод удзельнікаў «Агулу». Нацыянальнае пытанне хвалявала тады многіх. Можна тут прыгадаць хаця б палкую прамову Кастуся Каліноўскага на заключным пасяджэнні агула.

Пытанні нацыянальныя, адносіны да радзімы, роднай мовы ў рамане непасрэдна звязаны з пытаннямі сацыяльнымі, адносінамі да народа. Любоў і павага да мужыка, што былі прывіты Алесю яшчэ ў раннім дзяцінстве, набываюць усё больш свядомы характар. Тут як бы зліліся ў адно эмацыянальны і рацыянальны моманты ў яго натуры. Супраць дзікага, нечалавечага становішча пратэстуе перш за ўсё яго чулая, уражлівая душа. Пазней само жыццё прымушае шмат думаць, аналізаваць падзеі і факты і прыводзіць да стыхійнага, магчыма, на першым разе адмаўлення такога становішча сялян. Спрэчкі ў «Агуле», знаёмства з забароненай літаратурай — «Колоколом» Герцэна, антыпрыгонніцкімі творамі Чарнышэўскага — памагаюць Загорскаму выпрацаваць пэўную праграму практычнай дзейнасці ў адносінах да сялян. Ён яшчэ да афіцыйнага палажэння аб адмене прыгону адпускае сваіх сялян на волю і на адной з апошніх сустрэч кіраўнікоў паўстання рашуча прапануе вызваліць і даць зямлю сялянам.

Алесь Загорскі — унутрана цэласная, бескампрамісная, паслядоўная натура. Герою верыш, верыш яго думкам, пачуццям, верыш яго любові да радзімы і народа, не сумняваешся, шо ён павінен будзе стаць адным з кіраўнікоў паўстання. У развіцці гэтага характару добра прасочваецца ўзаемадзеянне агульнай сацыяльнай жыццёвай асновы і асабістай псіхалогіі, з чаго арганічна вынікае яго мастацкая праўда.

Якраз гэты герой нясе ў сабе ідэйны сэнс твора, увасабляе сацыяльна-гістарычны змест эпохі, яе прагрэсіўныя тэндэнцыі. Караткевічу выдатна ўдаецца ў вобразе Алеся Загорскага арганічна знітаваць біяграфію выдуманага героя і гістарычны змест і сэнс часу. Перад чытачом праходзяць і непаўторныя малюнкі кахання, сяброўства Алеся, і карціны, насычаныя багатым сацыяльным зместам. І ўсё адбываецца ў арганічным суладдзі з чароўнай прыродай Прыдняпроўя, карціны якой вылучаюцца яркімі фарбамі, моцнай лірычна-рамантычнай насычанасцю, багаццем і разнастайнасцю.

Ёсць мастацкая абумоўленасць у тым, што падчас пастрыжэння Алеся, акта, якім вызначаецца сталасць, у твор настойліва і імкліва ўрываюцца рэальныя жыццёвыя працэсы. У гэты дзень Алесь сустракае каханне, вернага сябра. У гэты дзень люты ў сваёй нянавісці памешчык Кроер учыняе расправу над сялянамі. У гэты ж дзень гутарыць Алесь з Мсціславам пра родную мову і пра адносіны да яе паноў і падслухоўвае выпадкова размову бацькі з віцэ-губернатарам Ісленьевым пра паўстанне дзекабрыстаў.

Акрэсліваецца асноўны сацыяльны антаганізм. Стары Вежа Загорскі адмаўляецца прыехаць да сына на свята: ён лічыць усіх цяперашніх дваран халуямі. Незалежная ў сваіх паводзінах і выказваннях Клейна тлумачыць, што гэта і сапраўды так: «Халуі ўсе. Што б дужы не зрабіў — змоўчаць. Вольнасць у іх адабралі — змоўчалі. Са старых паселішчаў сагналі — змоўчалі. Прымусілі права на шляхецтва даводзіць — і тут яны змоўчалі».

Тэма нацыянальнага ўціску і сацыяльнага прыгнёту пачынае гучаць усё мацней, як бы ў прамой залежнасці ад фізічнага і духоўнага росту героя. Ён расце, выходзіць у шырокі свет жыцця — і падзеі набываюць усё больш акрэслены сацыяльны характар, становяцца больш эпічнымі па сваім унутраным змесце. Персанажы са сферы асабістых адносін і побыту ўваходзяць у сферу грамадскую, сферу сацыяльна-палітычных інтарэсаў. У канцы рамана ўжо добра адчуваецца набліжэнне паўстання. Яно, як магніт, прыцягвае герояў, дае ім пэўнае асвятленне. У залежнасці і ў адносінах да яго складваецца ўзаемадзеянне персанажаў, арганізуецца счапленне падзей, размяшчэнне і ўзаемаўплыў сцэн і эпізодаў.

У рамане шырокі, грунтоўны гістарычны падыход да асвятлення паўстання 1863 года. Адчуваецца, што раманіст змог пранікнуць у сацыяльна-эканамічную сутнасць і нацыянальны змест падзей, паказаць іх гістарычнае значэнне для нацыі і народа. А падзеі ў творы багатыя сваім зместам, разнастайныя ўнутраным гучаннем. Ідэйна-кампазіцыйна яны разгортваюцца ў трох асноўных этапах. Па-першае, прыход да паўстання перадавой часткі беларускага і польскага дваранства. Па-другое, нарастанне стыхійнага сялянскага бунту. Па-трэцяе, сферы «высокай палітыкі».

Апошнім у творы адводзіцца значнае месца. Найперш маюцца на ўвазе эпізоды, звязаныя з саноўнікамі Санкт-Пецярбурга. У гэтых апісаннях непасрэдна прысутнічаюць аўтаравы лірычна-публіцыстычныя выказванні, нярэдка з сатырычна-выкрывальным ухілам, эмацыянальна завострана. Вось прыклад агульнапанарамнага апісання палітычнай атмасферы, якая панавала ў краіне падчас паступлення Алеся ў Віленскую гімназію: «Вялікія заваёвы чалавецтва імперыя аб’явіла лухтой, праўду — злосным падкопам, іншамысных — злачынцамі, што не хочуць велічы айчыны.

Бог быў падобны на будачніка, а будачнікі на разбойнікаў.

Шпіцрутаны і смугастыя будкі сталі сімвалам.

Шчаслівых не было.

Усё прыносілася ў ахвяру ідалу дзяржаўнай моцы».

Пазней (Алесь у гэты час едзе ў Пецярбург) пісьменнік дае глыбокае вытлумачэнне эканамічна-гаспадарчага становішча імперыі, выяўляе прычыны, што выклікалі падрыхтоўку рэформы. Увесь час чытач адчувае тыя палітычныя і сацыяльна-эканамічныя ўмовы, што вызначаюць агульную атмасферу, у якой

адбываецца духоўнае пасталенне героя. Гэтыя раздзелы і апісанні служаць як бы асновай для непасрэдна сюжэтных, звязаных з галоўнымі героямі, падзей.

Галоўную ўвагу ў творы пісьменнік надае паказу прыдняпроўскага дваранства. Дваранства зусім не выпадкова займае ў рамане значнае месца. Паўстанне 1863 г. насіла не толькі сацыяльны характар, але і нацыянальна-вызваленчы. Носьбітам і праваднікам нацыянальных і агульнадэмакратычных ідэй было ў значнай ступені перадавое дваранства. З'ява гэтая была гістарычна агульная для многіх нацыянальна прыгнечаных краін (Венгрыя, Італія, Польшча). На старонках твора ўвесь час падкрэсліваецца пераемнасць рэвалюцыйных традыцый — паўстанне дзекабрыстаў, паўстанне 1863 года.

Разам з тым прасочваецца ўся складанасць і супярэчлівасць дваранства як класа, тым самым прадугадваецца і трагізм яго барацьбы. Пераважная большасць сярэдняй і беднай шляхты ў душы захоўвае вернасць традыцыям ранейшай вольнасці. Яна і да сялян адносіцца памяркоўна (Раўбіч і тыя, хто ўваходзіць у яго закалат). Буйныя магнаты Загорскія заўсёды адчувалі сябе незалежнымі, яны не могуць змірыцца з нацыянальным уціскам. Значная частка дваран добра адчувае прыход капіталізму і ўсяляк імкнецца прыстасавацца да новых умоў, думае толькі пра сябе, свой асабісты дабрабыт. Для іх у жыцці няма нічога святога. Стары Вежа, вярнуўшыся з дваранскай зборні ў губернскім горадзе, страшэнна абураецца: «А што ў іх за душою? Расея ў іх за душою? Польшча ў іх за душою?! Польшчу яны прапілі. Расея для іх — чарналапатніца, свая зямля ім — мачыха. Сволач пан, кругом сволач…» Не была адзінай і рэвалюцыйная частка дваранства. У «Агуле» ўвесь час ідуць вострыя спрэчкі і дыскусіі.

Паказваючы маладое пакаленне дваранства, пісьменнік стварае шырокія малюнкі жыцця, быту, нораваў і ў дваранскіх сем'ях, і ў навучальных установах. Шматлікія масавыя сцэны выпісаны запамінальна: вечар у Загорскіх падчас пастрыжэння Алеся, калядныя гульні, бойка ў Віленскай гімназіі, бунт на лекцыі прафесара рэакцыянера Руніна. Усё пададзена досыць падрабязна, са шматлікімі каларытнымі дэталямі, псіхалагічна праўдзіва.

Калі ў паказе дваранства, у тым ліку жыцця гімназіі і ўніверсітэта, на першы план, побач з сацыяльным, выступае нацыянальны момант, то ў падыходзе да сялянства пераважнай, амаль адзінай з'яўляецца сацыяльная аснова падзей і характараў, хоць, праўда, дзесьці ў глыбіні і тут адчуваецца нацыянальная абумоўленасць асобных фактаў і ўчынкаў. Сялянства ў творы таксама падаецца даволі ўсебакова і поўна. У сялянскім пратэсце адчуваецца пастаянная непрымірымасць з існуючым ладам, імкненне да лепшага жыцця. Але пратэст гэты вельмі часта не асэнсаваны, выліваецца ў стыхійныя бунты (бунт сялян Кроера), нярэдка перарастае ў лютую нянавісць да паноў наогул (бунтар Карчак), недавер да іх (адносіны сялян да рэформ Алеся Загорскага).

Пісьменніку ўдаецца сюжэтна і кампазіцыйна добра паяднаць усё багацце падзей дзякуючы асноўнаму герою, які звязаны так ці інакш з усім, што адбываецца ў асяроддзі і дваранства, і сялянства. Асабісты лёс героя звязаны з гістарычнымі падзеямі, імі абумоўлены. Выдуманая фабула грунтуецца на гістарычнай аснове, надае ёй непасрэдна мастацкае выяўленне. Выдуманы герой і гісторыя развіваюцца ў творы, як бы ідучы насустрач адно аднаму.

Прыход Алеся Загорскага да паўстання зусім заканамерны. Многія сяляне, асабліва з вёсак жорсткага Кроера, даведзены страшэнным уціскам да роспачы. А народны мсцівец Корчак і яго «лясныя людзі» ў сваёй лютай нянавісці гатовы паліць і нішчыць усіх паноў. Раўбіч і яго акружэнне рыхтуюць змову, каб змагацца за свае ранейшыя шляхецкія вольнасці. Для Каліноўскага любоў да народа зліваецца з вялікай любоўю да Беларусі і кліча да змагання. Пецярбургскія саноўнікі Ланскі, Валуеў, Растоўцаў, Зеляной, Мураўёў дбаюць найперш пра свае асабістыя, найчасцей дробныя, інтарэсы. Усе гэтыя сюжэтныя лініі ідуць, здаецца, у розных напрамках, часта незалежна адна ад адной. Але ўнутрана

адчуваецца, як яны ўсё больш пачынаюць зближацца, каб потым сплесціся ў адзін вузел.

Шырыня думкі і майстэрства мастацкага сінтэзу даюць магчымасць пісьменніку надаць усяму разнастайнаму матэрыялу тое мастацкае адзінства, без якога няма сапраўднага твора. Для раманіста наогул, а для гістарычнага раманіста больш за ўсё, бадай, самым важным з'яўляецца правільнае разуменне гістарычнага руху і выдатнае веданне і адчуванне эпохі, пра якую ён піша. Каб паказаць падзеі, аддаленыя ад нас дзесяцігоддзямі і вякамі, падаць іх у эмацыянальным адчувальным выглядзе, зрабіць чытача як бы іх удзельнікам і сведкам часу, раманіст прытрымліваецца прынцыпу гістарызму не толькі ў асноўным — у правільным агульным разуменні дадзенай эпохі і яе месца ў гістарычным працэсе, але і ў менш значным — у стварэнні мясцовага каларыту ў апісанні побыту, прыроды, у выяўленні псіхалогіі характараў, наяўнасці характэрных падрабязнасцей, дэталей.

У гістарычных творах, падобных на раман «Каласы пад сярпом тваім», стрыжнем з'яўляецца пэўная філасофская, агульначалавечага зместу думка, для мастацкага выяўлення якой падыходзіць тая ці іншая рэальная аснова. Філасофская канцэпцыя нясе ў сабе гістарычны і чалавечы сэнс той падзеі ці падзей, пра што расказвае твор. У рамане Караткевіча глыбокая філасофская думка звязана з вобразам галоўнага героя, усім тым, што яму блізкае і дарагое і выражана ў назве рамана: «Каласы пад сярпом тваім».

У канцы рамана ў царкве поп чытае палажэнне аб адмене прыгоннага права. Алесь Загорскі слухае, разумее сутнасць гэтага абману, бачыць твары людзей, большасць якіх таксама адчуваюць трывогу, прадчуваюць немінучасць барацьбы і яе трагізм. «Алесь бачыў твары людзей, асабліва з іншых вёсак, бачыў усё гэтае беднае чалавечае мора, на якое глядзеў з купала пантакратар. Бедныя, бедныя людзі! Як каласы, як трава пад сярпом тваім, грубая сіла. Ну што ж, калі твая "неабходнасць" не можа даць ім палёгкі, і волі, і шчасця — тым лепей. Тады па тваёй "неабходнасці" яны стануць каласамі пад сярпом волі, радзімы, паўстання, бітвы, каласамі, якія памруць, магчыма, але памруць, каб вырасла новая рунь. Гэта будзе скора. Нядоўга чакаць». К канцу рамана ў яго эмацыянальнай атмасферы ўжо моцна гучыць трагічная мелодыя, якая для Караткевіча ў яго творчым стаўленні да мінулага Беларусі з'яўляецца адной з вядучых. З аднаго боку, паэтычна-рамантычная, з другога — драматычна-трагічная аўтарава канцэпцыя адлюстравання роднай гісторыі абумоўлівае і мастацкую структуру твора: кампазіцыю, сюжэт, агульную логіку развіцця падзей і логіку развіцця характараў, агульны эмацыянальны лад, размеркаванне фарбаў.

Барацьба дабра і зла ў іх розным сацыяльным і этычна-псіхалагічным пераламленні праходзіць амаль праз усе творы пісьменніка. «Балада пра ваўкалаку», «Паўлюк Багрым», «Слова пра чалавечнасць», «Кніганошы», «Сівая легенда», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Чорны замак Альшанскі», п'есы — усюды выключна вострая, непрымірымая барацьба высокай, прыгожай чалавечнасці з сіламі прыгнёту, рэакцыі, цемрашальства, душэўнай чэрствасці і абыякавасці. Нярэдка гэта сутыкненне героя з умовамі. Толькі герой Караткевіча не адзіночка — ён адзін з многіх. Але ў ім высокія чалавечыя якасці выяўлены ў асабліва завостранай рамантычнай форме. І абставіны, умовы — зноў жа гэта не абставіны і ўмовы наогул. Яны ўвасабляюць звычайна гістарычна канкрэтныя сілы зла і разбурэння. Пакуль існуе няроўнасць паміж людзьмі, існуюць антаганістычныя класы, розныя сацыяльныя сістэмы, войны, знішчэнне, не будзе спакою на зямлі высокай чалавечнасці, не будзе месца шчасцю паміж людзьмі, братэрству сэрцаў: скача па зямлі «дзікае паляванне караля Стаха», гінуць «каласы пад сярпом тваім», «леаніды не вернуцца да зямлі». Скалечана каханне ў «Сівой легендзе», загублена ў «Нельга забыць», трагізм адчуваецца ў «Каласах пад сярпом тваім». Але творы не

пакідаюць прыгнечанасці, роспачы. Яны прасякнуты глыбокай аўтаравай верай у жыццё, у чалавека. Асноўны ідэйны тон іх, ідэйны пафас рамантычна ўзнёслы, жыццесцвярджальны, наступальны.

Уладзімір Караткевіч валодае выключным веданнем гісторыі беларускага народа, роднага краю; яго выключна багатая творчая фантазія мацуе здольнасць мастацкага пранікнення ў дух і характар мінулых часоў, што ў сваю чаргу арганічна спалучаецца з праўдзівым шырокім узнаўленнем побыту, нораваў, увогуле жыцця розных слаёў грамадства мінулых часоў. Адчуванне: Караткевіч жыў у гісторыі, гісторыя жыла ў ім. Узнаўленне гісторыі ў яго свабоднае, натуральнае. Як і сучаснасці. Няма перагружанасці дробнымі факцікамі, падрабязнасцямі, якія быццам бы характэрныя для мінулых часоў. І гэта ў розных жанрах багатай творчасці пісьменніка.

Ідэйнай канцэпцыі рамана «Каласы пад сярпом тваім», яго паэтычна-рамантычнаму ладу адпавядае і галоўны герой. Раскрываецца ён пераважна ў сваёй духоўнай сутнасці. Учынкі Алеся, яго паводзіны вынікаюць з яго псіхалогіі, духоўнай сутнасці, фармаванне якіх адбывалася на сацыяльнай, а найперш нацыянальнай глебе.

Алесь Загорскі — тыповы герой Караткевіча, рамантычна ўзнёслы і паэтычна ўражлівы, з абвостраным пачуццём справядлівасці і чалавечнасці, з глыбокім адчуваннем нацыянальнай прыналежнасці. Пісьменнік уважліва прасочвае развіццё характару, яго духоўны рост і разам з тым імкнецца даць шматбаковае выяўленне яго. Вобраз падаецца ў яго гістарычных вытоках і гістарычнай абумоўленасці. Героі Караткевічавых твораў ведаюць, хто яны, хто іх бацькі, чыёй зямлі яны дзеці; іх грамадская філасофія, іх адносіны да жыцця, да сучаснасці маюць сваё карэнне ў гісторыі радзімы і народа.

Так, яны па сваіх унутраных якасцях і магчымасцях — асобы ў пэўнай ступені выключныя, незвычайныя. Разам з тым, здольнасць пісьменніка адчуваць характар, яго ўнутраны рух, бачыць і разумець гістарычную абумоўленасць характару, яго залежнасць ад умоў і абставін надаюць герою рэалістычную пераканаўчасць, жыццёвую верагоднасць.

Раман «Каласы пад сярпом тваім» вылучаецца стройнай, выверанай кампазіцыяй. Вялікая колькасць дзеючых асоб, гістарычных і выдуманых, многа матываў і эмацыянальных пластоў, розныя падзеі і сюжэтныя лініі, пласт гістарычны і маральна-этычны — усё складае адзіную сюжэтна-кампазіцыйную і стылявую плынь. Дасягаецца гэта таму, што аўтар па-мастацку доказна змог паказаць: учынкі і дзеянні герояў як вынік унутранага псіхалагічнага руху абумоўлены непасрэдна ці апасродкавана значнымі грамадскімі падзеямі. Шырокі ахоп гістарычных падзей, даследаванне сацыяльных сувязей арганічна спалучаецца з іх унутрана-псіхалагічным і маральна-этычным аналізам. Сувязь і абумоўленасць гістарычнага і выдуманага, агульнага і асабістага праходзіць не толькі па лініі сацыяльнага і нацыянальнага аналізу, але і па лініі асабістых узаемадачыненняў: Алесь Загорскі і Кастусь Каліноўскі — сябры. Да таго, як увесці ў дзеянне гістарычных герояў, у першую чаргу таго ж Кастуся Каліноўскага, пісьменнік стварае грунтоўны сацыяльна-псіхалагічны і бытавы фон эпохі.

Паказ гістарычных асоб шырокі. Галоўная ўвага з гістарычных дзеячаў адводзіцца Каліноўскаму. Вобраз гэты з мастацкага боку раскрываецца апасродкавана, праз успрыняцце Алеся Загорскага, і нясе ў сабе ідэалагічны і палітычны сэнс і змест падзей. У падборы і расстаноўцы гістарычных персанажаў адчуваецца сацыяльны прынцып, адпаведнасць гістарычнай праўдзе. Выяўленне агульнадэмакратычных тэндэнцый, даследаванне сацыяльна-палітычных вытокаў і прадумоў паўстання цесна звязаны з высвятленнем маральна-этычных праблем. Пісьменнік увогуле ўдзяляе вялікую ўвагу духоўным, псіхалагічным якасцям чалавека, не адрываючы яго ад гістарычна канкрэтнага сацыяльнага і нацыянальнага грунту. Гэта ў рамане «Каласы пад сярпом тваім». І не толькі.

Яшчэ раз падкрэслім.

У Караткевіча паэтычнае, захапляльнае ўспрыманне свету, чалавека. Ён любіць людзей, чалавека, захапляецца навакольным светам, увесь паглынуты гісторыяй, мінуўшчынай. Ён не проста ўзнаўляе навакольны свет, паказвае чалавека. Ён творыць свой свет, у аснове якога свет рэальны, гістарычны; ён стварае свайго героя, але ўзятага з гістарычнага жыцця народа, ім узгадаванага. Адсюль асабліва высокі эмацыянальны напал у творчасці пісьменніка, яркае знешняе выяўленне, яго зацікаўленне да ўсяго, пра што піша. Яркасць фарбаў, сіла пачуццяў, вастрыня канфліктаў, багацце, выразнасць абставін, моцная эмацыянальная насычанасць і інтэлектуальная напоўненасць у творах пісьменніка знітаваны і складаюць адзіны жывы арганізм, рухомы свет. Асабліва натуральны ён там, дзе ёсць жыццёвая фактычная аснова, падзейны рэальны стрыжань, фон, умовы ўзяты з навакольнага свету, пазнанага і адчутага пісьменнікам, там, дзе ўсё асабіста перажытае. Менавіта тут, у такіх творах, рамантычная хваля моцная, высокая, мнагаводная, ідзе з рэальных глыбіняў, утвараецца з водаў шырокага жыццёвага мора, хваля, узнятая вялікімі чалавечымі і грамадскімі бурамі.

Усё гэта ўласціва, характэрна не толькі для гэтага рамана. «Каласы пад сярпом тваім» — гэта не выключэнне, а найбольш яркае, глыбокае праяўленне яго творчасці. Вось як бачыць творчасць Караткевіча вышэй згаданы Сяргей Картэс: «У яго творчасці ўдала спалучаюцца дэтэктыўны пачатак і пошукі таямніц беларускай гісторыі, паэтычныя адносіны аўтара да дзеючых асоб, да прыроды, да таго часу, які ён апісвае. І фантазія, велізарная фантазія. Пры гэтым — зайздросная адукаванасць, каласальныя веды па гісторыі Беларусі, яе пакручастага лёсу. Вельмі важна, што ён раскрываў таямніцы беларускай гісторыі».

Дзіўная рэч. І пры жыцці пісьменніка, і пасля смерці творчасць яго, яго асоба, занялі ў свеце літаратурным, у свеце мастацкім, шырэй — нацыянальным духоўным выключнае месца. Відаць, немагчыма назваць пісьменніка, асоба якога займала б такое месца, мела б такое значэнне, як асоба Уладзіміра Караткевіча. З ім кантактавалі, таварышавалі па жыцці многія пісьменнікі. І не толькі пісьменнікі — мастакі, кампазітары, рэжысёры, артысты. Не літаратары ў большасці сваёй творча супрацоўнічалі. Усе яны траплялі пад уплыў і непасрэдна чалавечай абаяльнасці асобы Караткевіча, і ў большай ступені ў чароўны свет яго творчасці.

Вось што гаворыць вядомая артыстка Таццяна Мархель: «Ад сустрэч з ім засталося адчуванне адкрытасці і абсалютнай светласці. Хаця былі ў яго і цяжкія хвіліны, і балючыя, але мы заўсёды адчувалі святло яго душы. Мне здавалася, ён быў адкрыты для ўсяго свету: як да неба, лесу, зямлі, так і да людзей. Можа, таму і цяжка яму было, што не ўмеў нідзе затуліцца, душу сваю прыкрыць. А яна была такая сонечная…»

Вось яшчэ адно сведчанне — пісьменніка, прадстаўніка таго ж пакалення Янкі Сіпакова: «Ён быў мудры і дзёрзкі, разумны і наіўны, грубаваты і цнатлівы, непрымірымы і пяшчотны, яршысты і ціхмяны, задумлівы і вясёлы, дасціпны і справядлівы. І заўсёды сумленны».

І далей: «Радзіма. Народ. Мова. Жыццё. Справядлівасць. Любоў. Вайна і мір. Якія яшчэ тэмы могуць быць больш вострымі і больш важнымі для паэта!»

Артыкул пазначаны гадамі 1987, 2005. Гэта артыкул пра Караткевічаў зборнік паэзіі «Быў. Ёсць. Буду», пра паэзію яго наогул. Паэт і празаік у сваім артыкуле разважае пра паэта, чалавека, земляка, пра змест, сутнасць яго паэзіі, яе непасрэдную сувязь з чалавечай асобай творцы. Даводзіць: Караткевіч такі не толькі ў паэзіі, такі ён ва ўсёй сваёй творчасці: у героях, у манеры, тоне апавядання, у эмацыянальнай, рамантычна-паэтычнай, насычанасці твораў. Пра гэта гаварылі беларускія даследчыкі творчасці пісьменніка, увогуле тыя, хто супрацоўнічаў творча з ім. Цікавае на гэты конт выказванне польскага даследчыка літаратуры і перакладчыка Фларыяна Няўважнага. Разважаючы пра герояў празаічных твораў Караткевіча, ён сцвярджаў: «І калі гаварыць пра героя Караткевіча, — гэта сам

Караткевіч, распісаны ў розных абліччах. Гэта розныя постаці аднаго і таго ж вельмі неардынарнага найбагацейшага характару».

Уладзімір Караткевіч валодаў агромністымі ведамі, быў надзелены выключным запасам, дарам эмацыянальна-духоўнай энергіі, узброены сілай волі, быў паслядоўны і ўпарты ў дасягненні мэты. Мэта ў яго святая — шчасце Радзімы, шчасце Чалавека. Гэта адчувалі, бачылі, разумелі ўсе, хто яго ведаў. Нельга было не падпасці пад уплыў яго асобы, яго інтэлекту і шчырасці.

Прызнанні на гэты конт асобных дзеячаў мастацтва.

Кампазітар Дзмітрый Смольскі, аўтар музыкі оперы «Сівая легенда» (лібрэта У. Караткевіча): «…Гутаркі з Караткевічам паміж нашай працай над операй для мяне былі своеасаблівай школай грамадзянскай сталасці, я адкрыў для сябе цэлы свет […] Я ставіўся да яго як да роднага чалавека, да старэйшага брата. Ён здзіўляў мяне сваёй інтэлігентнасцю, адукаванасцю, самабытнасцю. А якая ў яго была мова: смачная, натуральная, як само дыханне. Я таксама з ім размаўляў па-беларуску…»

Арлен Кашкурэвіч, мастак, кніжны графік: «Што мяне адразу (пасля чытання рукапісу рамана “Каласы пад сярпом тваім”. — **С. А.**) уразіла — я ўбачыў іншую Беларусь. Мы, аказваецца, не толькі ў лапцях хадзілі, а ў нас былі і адукаваныя арыстакратычныя роды, і дзівосныя замкі, і княскія паляванні. А як прыгожа гучала беларуская мова, на якую мы па маладосці гадоў не звярталі ніякай увагі. Я пасля Валодзю гаварыў, што, дзякуючы яму, прачнулася мая нацыянальная свядомасць, цікавасць да сваіх каранёў і я як мастак пачаў працаваць над беларускай тэмай».

Яшчэ раз падкрэслім, і гэта адзначалі даследчыкі яго творчасці, прадстаўнікі іншых галін мастацтва, хто так ці інакш быў далучаны да яго свету, што Караткевіч як чалавек, і як пісьменнік непадзельныя. І гэта бясспрэчна. Які чалавек — такі і пісьменнік. У сваёй творчасці Караткевіч выявіўся з усёй паўнатой і глыбінёй. Таму тыя станоўчыя чалавечыя якасці, якімі так шчодра ён быў надзелены і якія адзначалі ўсе, хто добра яго ведаў, выдатна і досыць поўна ўвасобіліся ў яго паэзіі, прозе, драматургіі, публіцыстыцы, эсэістыцы. Усё гэта разам складае цэлы мастацкі свет — Караткевічаў. Ён вельмі цэласны, арганічны, багаты ідэямі, вобразамі, глыбока напоўнены інтэлектуальна і эмацыянальна. Ён актыўна жывы, актуальны і, разам з тым, шчыльна паяднаны з нашым гістарычным мінулым, пафасна скіраваны ў будучыню. Сёння гэты свет Караткевіча ў самой літаратуры папаўняецца, узбагачаецца, пашыраецца. У яго ўліліся новыя творчыя сілы, новыя імёны. Але стваральнік, творца яго — ён, Уладзімір Караткевіч.

У 1985 г. (год дзесьці прайшоў пасля смерці пісьменніка) Янка Брыль у эсэ «Наш Караткевіч» пісаў:

«Беларусь даўно чакала такога пісьменніка.

І радасна, што ён прыйшоў.

І горка, балюча, што ён не змог, не паспеў разгарнуцца яшчэ больш глыбока і шчодра».

Словы гэтыя і сёння гучаць так жа радасна, горка і балюча. І будуць гучаць.



Антаніна КАРАЛЁВА

# ВЯРТАННЕ ДА НАРОДА

Уладзімір Караткевіч — знакавы аўтар для беларускай літаратуры. У сваіх творах ён даў магчымасць беларускаму народу адчуць гістарычную повязь з продкамі, абудзіў нацыянальную годнасць і любоў да сваёй Радзімы.

Ягоны талент надзвычай шматгранны. Пісьменнік плённа працаваў як паэт, празаік, драматург, публіцыст і перакладчык. Ён стварыў творы самых разнастайных жанравых форм. Асаблівая заслуга Караткевіча ў распрацоўцы гістарычнай праблематыкі.

Адзін з самых значных яго гістарычных твораў — раман «Каласы пад сярпом тваім». Ён вызначаецца шматпланавасцю і маштабнасцю, вялікім колам праблем. Цікава прасачыць, як у ім раскрыта патрыятычная праблематыка. Вылучаюцца два аспекты — гістарычны і фальклорны. Галоўны герой рамана Алесь Загорскі паказаны перш за ўсё як патрыёт і змагар.

Ён — патомны дваранін. Яго аддалі на выхаванне ў сялянскую сям'ю Кагутоў. Гэта наблізіла хлопчыка да народа, ягоных звычаяў, традыцый, дазволіла глыбей спасцігнуць асаблівасці нацыянальнага беларускага характару: «Я мужык... Я князь, але я і мужык. Магчыма, мяне тым дзядзькаваннем няшчасным зрабілі. Але я таго няшчасця нікому не аддам. У ім маё шчасце. Яно мяне відушчым зрабіла. Вярнула да майго народа...» Алесь не можа абыякава ставіцца да зла і гвалту. Пратэстуе супраць прыгонніка Кроера, які здзекуецца з яго, ратуе раненага Чорнага Войну, гарапяціцкіх сялян ад Мусатава. Высакародна, па-душэўнаму цёпла і пяшчотна ставіцца да Майкі Раўбіч і прыгоннай актрысы Гелены Карыцкай. З вялікай цікавасцю вывучае гісторыю роднага краю, яго легенды і паданні. Ганарыцца тым, што ён беларус, але адначасова душа яго, як і ягоных сяброў па Віленскай гімназіі, поўніцца крыўдай за няшчасны лёс народа. Загорскаму ўласцівы гасціннасць, шчырасць, працалюбства, багатая культура. Калі Алеся прымаюць у дваранскі клуб, ён прамаўляе па-беларуску: «Пад столлю вялізнай залы гучала мяккая, як ручаіна, пявучая, як голас птушкі ў росных хмызах, гнуткая і цвёрдая адначасова, лаканічная мова. Гучала ўпершыню за шмат год».

Алесь згадвае і гісторыю-прытчу пра таленавітасць, глыбокую духоўнасць, самабытнасць беларускага народа:

«Бог дзяліў між народамі землі. Адным тое, другім — тое. Прыйшлі беларусы... Вельмі ж пану Богу спадабаліся. Ён і пачаў нас надзяляць: «Рэкі вам даю поўныя, пушчы — нямераныя, азёры — нялічаныя. Жанчыны ў вас будуць прыгожыя, дзеці — дужыя, сады — багатыя, грыбоў ды ягад — заваліся. Людзі вы будзеце таленавітыя...»

Для Загорскага асабліва дарагімі былі імёны Васіля Вашчылы, Міхася Крычаўскага, Мурашкі і іншых, якія ў мінулым імкнуліся змяніць жыццё да лепшага.

На фарміраванне грамадзянскай пазіцыі Алеся істотна паўплываў Даніла Загорскі-Вежа. Дзед раскрыў яму праўду аб прыгоне і парадках, якія панавалі ў Расіі, аб шляхах грамадскага развіцця. І таму ён зразумеў, што трэба змяніць рэчаіснасць, але яшчэ не ўсведамляе, як гэта зрабіць. У рамане Алесь паказаны

прыгожым, дзейсным, багатым, высакародным, шчырым патрыётам сваёй Радзімы.

Вобраз Алеся Загорскага не страчвае сваёй актуальнасці і сёння. Ён дапамагае выпрацаваць пазіцыю асобы, яе месца ў дачыненні да свайго народа, Радзімы, гісторыі.

Сярод рэальных гістарычных асоб у рамане варта вылучыць вобраз Кастуся Каліноўскага. Ён раскрываецца праз свае лісты, сустрэчы з рознымі людзьмі. Згадаем сустрэчу Каліноўскага з Алесем Загорскім, калі смела той назваўся беларусам:

«— Ты хто такі? — не вельмі ветліва спытаў ён.

— А табе што?

— Ну хто? Паляк? Мазур?

І тут ён (Алесь. — **А. К.**) пачуў такое, што аж вочы сталі круглыя ад здзіўлення.

— Беларус, — спакойна сказаў хлопец».

Таксама патрэбна згадаць і лісты Каліноўскага да Алеся: ліст пра тое, што ён едзе вучыцца ва ўніверсітэт у Маскву і хацеў бы па дарозе сустрэцца з Алесем, а таксама ліст, цяпер ужо з Пецярбурга. Усе яны прасякнуты патрыятычным зместам. Заслугоўвае ўвагі і спрэчка паміж прадстаўнікамі «чырвоных» і «белых», Каліноўскі, чырвоны, стаяў за самастойнасць нацыянальнага самавызначэння. І нарэшце, ягоны ліст да Загорскага з указаннямі, як рыхтаваць паўстанне: «...Будзем збіраць сілы на будучае. Сваіх пакуль што стрымлівай ад непажаданай гарачкавасці. Пашырай арганізацыю і думай аб зброі. Я таксама не марную часу... Арганізацыя ёсць, вось што галоўнае. Тэрмінова напішы, ці можаш паслаць дзве тысячы рублёў. Ёсць магчымасць танна купіць партыю зброі. Крадзеная інтэндантамі яшчэ ў вайну, і таму танная. Праўда, дубальтоўкі, а штуцэраў няшмат, але і тое добра. Жадаю поспеху, браце».

Розныя моманты з жыцця Каліноўскага сведчаць пра тое, што гэта быў чалавек дзейсны, для якога адзіна правільны шлях — гэта барацьба за вызваленне народа ад прыгоннага ўціску і свавольства царскага самадзяржаўя.

Такім чынам, Кастусь Каліноўскі, як і Алесь Загорскі, пададзены шчырымі патрыётамі, якія любяць свой край, сваю Радзіму.

Пры разглядзе патрыятычнай праблематыкі паказальны таксама і фальклорны аспект. Для Караткевіча фальклор быў арганічнай часткай духоўнай культуры народа. Нельга не звярнуць увагу і на вобраз грушы, якая з'яўляецца сімвалам жыцця, душэўнага руху, і на вобраз шыпшыны, што з'яўляецца сімвалам прыгажосці, трывучасці і жыццёвай моцы Беларусі, яе няскоранасці і велічы.

Але асобную ўвагу трэба засяродзіць на вобразе Дняпра. У творы гэта сімвал чалавечай ракі — чалавечага жыцця, яго хуткаплыннасці і ў той жа час вечнасці. А кожная вялікая рака пачынаецца з маленькай, з крыніцы. У гэтым сэнсе сімвалічна і сама назва першай кнігі рамана — «Выйсце крыніц».

Менавіта на беразе Дняпра — магутнай ракі — адбываюцца самыя значныя зрухі ў душы Алеся. На беразе Дняпра ён чуе вестку пра тое, што трэба вяртацца ў Загоршчыну. Там жа яго бацька гаворыць сыну ў час пастрыжэння словы: «Помні, усё жыццё ты будзеш піць ваду з Дняпра і абмываць гэтай вадой сваіх нованароджаных. І адабраць гэта ў цябе не можа ні чалавек, ні Бог, ні д'ябал. Адна смерць». На беразе Дняпра прыходзіць да Алеся ўсведамленне, што сяляне і шляхта — адно цэлае, народ. Ад'язджаючы ў Пецярбург, ён прыходзіць на бераг, каб развітацца з роднымі мясцінамі: «Алесь ішоў берагам Дняпра. Імкнулася, бегла некуды шырокая плынь. Сінія пагрозлівыя хмары стаялі, не рухаліся, за вялікай ракой. Кроплямі пралітай крыві чырванелі татарнікі. Ён мінуў курганы — іх было тут дзесяткі тры, розных — відаць, нейкі старажытны племянны могільнік, — і пайшоў угору па спадзістым адхоне. І на курганах, і тут, але радзей і радзей, магутна і сакавіта тапырыў свае дзіды баец-чартапалох. І Алесь ведаў, што ўсё гэта, навакольнае, ён ніколі не здолее забыць».

Такім чынам, можна сказаць, што вобраз Дняпра — гэта сімвал усведамлення галоўным героем адказнасці за сваю зямлю, род, нараджэння грамадзянскай пазіцыі Алеся, разумення, што ён таксама паходзіць з беларускага народа.

Глыбокі сэнс набывае і вобраз векавечных мораных дубоў. Дуб спрадвеку лічыўся сімвалам духоўнай стойкасці, духоўнай моцы. У рамане ён сімвалізуе вызваленне, барацьбу за свабоду Бацькаўшчыны: «Дзедавы вочы глядзелі ў сіняе неба, у якім магутна распасціраўся безліччу галін волат-дуб. Галіны пагойдваліся, нібы сам купал неба велічна гойдаўся на іх. Кроў зямлі цякла ў жылах дуба. А кара была шурпатая, як мужыцкія рукі. А галін было — не злічыць».

Разглядаючы патрыятычную праблематыку рамана «Каласы пад сярпом тваім», нельга не звярнуць увагу на легенды і паданні. Зварот пісьменніка да іх невыпадковы. Караткевіч імкнуўся раскрыць таямніцы нацыянальнага характару беларускага народа, гераічны і трагічны характар яго гісторыі. Як адзначаў пісьменнік, твор «пачынаўся… з прыдняпроўскіх легенд і паданняў». Звяртаючыся да фальклору ён хацеў узвялічыць свой край і людзей беларускага Прыдняпроўя, а таксама паказаць Беларусь, яе душу і прыгажосць.

У творы згадваецца і звычай дзядзькавання, і размова дзяцей на начлезе пра розныя страхі, чары і дзівосы, калі ўзнаўляліся малюнкі Сёмухі і Русальнага тыдня, і калядныя і велікодныя абрады. Ва ўсім гэтым адчуваецца народны, беларускі дух.

Праз легенды і паданні Загорскі разам з сябрамі адкрывалі для сябе родны край. Варта згадаць дысертацыі Алеся, адна з якіх пра прыдняпроўскія песні і легенды аб вайне, якія выклікалі захапленне ў вядомага лінгвіста І. Сразнеўскага: «Але вы зрабілі незвычайнае. Вы адкрылі «вялікае Чыпанга», як Марка Пола. Адкрылі новы, нязнаны свет. Адкрылі, магчыма, цэлы народ». Загорскі заклікаў звярнуцца да народа, паказаў яго жыццялюбства і сілу фальклору. Ён кажа Сразнеўскаму: «Не, народ не забілі. Ён жыве і чакае шчасця. І будзе жыць, як бы цяжка яму ні было».

У рамане прысутнічае і шмат песень, якія напаўняюць яго лірызмам, раскрываюць глыбіню душы. Гэта і песні пра каханне, і абрадавыя песні, напрыклад, пры апісанні Калядаў:

Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць;
Дзе каза хвастом, там жыта кустом;
Дзе каза ступою, там жыта капою;
Дзе каза рогам, там жыта стогам.

Твор багаты шматлікімі прыказкамі, прымаўкамі: «Галоўка, як макаўка, а розуму — як…», «Хто моўча, у таго дума не воўча» і інш.

Такім чынам, узнаўляючы старонкі гераічнага і трагічнага мінулага нашай Бацькаўшчыны, сцвярджаючы ідэю пераемнасці і повязі пакаленняў, вяртаючы народу памяць, Караткевіч стварыў ідэал чалавека незвычайнай прыцягальнай сілы і ўздзеяння, паказаў, якім павінен быць чалавек, жывучы на гэтай зямлі, каб яна заняла «свой пачэсны пасад між народамі». І ў гэтым найпершая заслуга пісьменніка.



Васіль МЯЛЕШКА

# АД «ЭЛЬБРУСАЎ ...ШЧАСЦЯ» ДА ШЧАСЦЯ ЗЯМНОГА

Жыў чалавек і няма яго. Быццам у Лету кануў. Праўда, паколькі гэта не звычайны смяротны, а пісьменнік, пасля яго засталіся публікацыі ў газетах і часопісах, кнігі, а ў астатнім… Нібыта і не ў даваенны час жыў, а дзесьці ў пазамінулым стагоддзі, ці яшчэ раней — значных біяграфічных звестак пра Цімоха Зарэчнага не захавалася. Толькі ўдалося ўстанавіць яго сапраўднае прозвішча — Рублёў. Як быццам, нарадзіўся ў 1910 годзе на Случчыне. Праўда, па ўдакладненых звестках у вёсцы Будзіна, цяпер Дрыбінскі раён. Вучыўся ці ў Беларускім педагагічным тэхнікуме, ці ў Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце. Працаваў у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», на радыё. Паводле дадзеных, якія ўдалося атрымаць крытыку і літаратуразнаўцу Лідзіі Савік ад колішняга дырэктара Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі С. Тулейкі, у час вайны з жонкай і дачкой жыў у Нясвіжы, выкладаў у гэтай навучальнай установе беларускую мову і літаратуру. З пачаткам вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, афарміўшы пашпарт на жончына прозвішча Лукашэвіч, вырашыў падацца ў Польшчу. Аднак С. Тулейка выказаў меркаванне, што Ц. Зарэчны за мяжу так і не выехаў, а ў тым жа 1944 годзе загінуў непадалёку ад чыгуначнай станцыі Гарадзея.

Звесткі ж біябібліяграфічнага плана пра Ц. Зарэчнага досыць аб'ёмныя і сведчаць аб ягонай творчай актыўнасці. Як і многія празаікі, ён пачынаў з журналістыкі. З 1928 па 1929 год часта друкаваўся ў «Савецкай Беларусі».

## Пачатак з нарысаў і фельетонаў

Першы нарыс Ц. Зарэчнага з'явіўся ў «Савецкай Беларусі» 11 ліпеня 1928 года. І назва гэтага твора — «Праз восем год», і загалоўкі наступных — «На новай зямлі — новыя людзі», «Адноўленая Кругляншчына», «Зерне новага на камяністай глебе», «Камуна «Шлях селяніна», «Мы ўсходзім на сацыялістычныя рэйкі», «Трактарам узнятая цаліна» і іншыя — самі гавораць за сябе. Ц. Зарэчны вітаў новае жыццё, паказваў змены, якія адбываліся на вёсцы, расказваў пра лепшых людзей, якія самааддана набліжалі светлае будучае. Не абыходзіў увагай і таго негатыўнага, што сустракалася на гэтым шляху.

Калі ў 1928 годзе аддаваў перавагу нарысу, дык праз год захапіўся жанрам фельетона. Праўда, сярод фельетонаў, напісаных ім, нямала і такіх, якія інакш як аднадзёнкамі не назавеш — «Конкурсныя экспанаты», «У контррэвалюцыйным коле», «Дэзертыры з пасяўнога фронту», «Гуляюць у псеўдакампанію»… Але пры ўсім Ц. Зарэчны словам валодаў і ў законах гэтага жанру разбіраўся добра. Часта выкарыстоўваў кідкія загалоўкі: «Царкавы табар», «Бабе разанскай не месца ў райвыканкоме», «Дагестан на Беларусі», «Фабрыка святых анекдотаў», «Раман у 28 раздзелах (Прадукцыя літгрупы «??? Кручкатвор ???»…

Толькі, як у той прымаўцы: па апратцы сустракаюць… Ц. Зарэчны рупіўся, каб і змест твораў адпавядаў пастаўленай задачы. Інакш кажучы, кампазіцыйная пабудова іх такая, што цікавасць чытача ўзрастае па меры выкрыцця аўтарам

тых, хто стаў аб'ектам крытыкі. У апошнім з вышэй згаданых фельетонаў гэта гора-працаўнікі са Случчыны, якія заняліся «кручкатворствам». Ц. Зарэчны адразу запрашае бліжэй пазнаёміцца з імі. Атрымалася як бы агітка, ды не палітычнага зместу (чаго-чаго, а гэтага хапала ў яго нарысах)…

Спрацоўвае прыём нечаканасці, калі абавязкова хочацца «пайсці» ўслед за аўтарам фельетона:

«Дзе дзесяць хвілін — жыццё ў крывым люстры!
За пяць капеек — людзі шыварат-навыварат!
За мінімум увагі — максімум эмацыянальнага пачуцця!
Купляйце, чытайце, апавядайце!
Не анекдот і не гумарэска!
Раман!
У 28 раздзелах!
Цэнтральны ж герой — незгараемая шафа.
Дапаможныя асобы — Слуцкі райвыканком, Ленінскае с.-г. крэдытнае таварыства, акрвыканкомы, пракуроры, наркамюст…»

Гэтым фельетонам Ц. Зарэчны засведчыў, што не толькі дасканала валодае законамі жанру, а пры ажыццяўленні задумы не проста фіксуе пэўныя падзеі (у дадзеным выпадку адмоўныя), а і зазірае ў саму сутнасць іх… Канешне, у творы няма ніякіх абагульненняў, дый яны і не патрэбны, паколькі разглядаецца канкрэтны выпадак.

Тое ж можна сказаць і пра нарысы Ц. Зарэчнага. Яны — як злепкі жыцця, і зноў жа, паводле жанру, прывязаны да пэўных рэалій, адлюстроўваюць лёсы канкрэтных людзей. Але Ц. Зарэчнаму ў нечым было цесна ў рамках дакументальнай абмежаванасці. Ён адчуў гэта раней, чым іншыя пісьменнікі, хто гэтаксама ў літаратуру ішоў ад журналістыкі. Калі многія з іх толькі праз шмат часу пасля дэбюту паспрабавалі сябе ў прозе, дык Ц. Зарэчны асмеліўся на гэта ўжо праз год пасля публікацыі першага свайго нарыса. У той жа «Савецкай Беларусі» ён у 1929 годзе выступіў з апавяданнем «Неразгаданая маладосць» (нумары за 4 і 7 жніўня).

## Не ў сваіх санях

Як для празаіка-пачаткоўца зварот да прозы ўпэўнены. Калі ж зірнуць на гэтае апавяданне ў кантэксце пошукаў сённяшняй беларускай прозы, дык атрымліваецца, што Ц. Зарэчны задоўга да сучасных празаікаў (Міхась Стральцоў, Іван Навуменка, Алесь Жук, Віктар Карамазаў і іншыя) паспрабаваў разабрацца ў псіхалогіі так званага гараджаніна першага пакалення. У гэта, здавалася, цяжка паверыць, але супраць фактаў не пойдзеш. Праўда, сама пастаноўка пытання, як таго і вымагаў час, зводзіцца не толькі да раскрыцця маральных пошукаў чалавекам месца ў жыцці, а і да ацэнкі яго паводзін і ўчынкаў з пазіцыі сумнавядомага класавага падыходу. Тым не менш, вобраз галоўнага героя «прафесара-студэнта» і «гордасці будучай агранаміі» Сяргея Новікава, як жартавалі з яго сябры — несумненная творчая ўдача Ц. Зарэчнага.

Кампазіцыйна твор не складаны і па сюжэце ў многім блізкі да аналагічных сучасных апавяданняў, калі герой, пажыўшы ў горадзе, едзе ў родныя мясціны, каб адпачыць душой, адысці ад тлуму. У такую дарогу скіраваўся і Сяргей Новікаў. Калі цягнік спыніўся на чарговай станцыі і з яго выйшлі пасажыры, «балаголы звярнулі ўвагу на маладога, акуратна апранутага чалавека з двума клункамі ў руках». Ды той не спяшаўся станоўча адказваць на іх запрашэнні падвезці яго, бо ведаў, што за ім мусіць быць фурманка. А неўзабаве ўбачыў свайго сябра Станіслава Лугоўскага, які паўтара года працаваў аграномам у суседнім мястэчку…

Калі да апавядання паставіцца патрабавальна, дык яго экспазіцыя зацягнутая, а тое, што адбываецца падчас гаворкі Новікава і Лугаўскога, не мае нічога істотнага для раскрыцця характару галоўнага героя. Гэтае раскрыццё адбудзецца значна пазней, па прыездзе яго ў родную вёску. Пачаткам жа стане тужлівы

роздум Сяргея па дарозе, калі ён будзе набліжацца да бацькоўскага котлішча. Радавацца трэба… Толькі асаблівых падстаў для радасці няма. Бо даўно чужы ў сям'і Сяргей, не знайшоў паразумення з блізкімі. Як і многіх з яго пакалення, новае жыццё моцна ўзяло яго ў свае абдымкі, а ці з наскоку на ўсім ранейшым паставіш крыж?

Шкада, што аўтар, перадаючы душэўны стан Новікава па меры яго набліжэння да роднай вёскі, не захацеў (а мо палічыў падобнае лішнім) глыбей разабрацца, па чым «плача сэрца» маладога чалавека. У апавяданні знайшлося месца толькі такой канстатацыі: «Пачатковая школа, 11 студзеня. Камсамол, непаразуменні з бацькамі. Ён — чужы чалавек у сям'і, вырадак пакалення Новікавых. А там развітанне з вёскай, і не развітанне, а хутчэй за ўсё дэзерцірства, і не ад вёскі — гэта адчуў усім нутром Сяргей — дэзерцірства ад бацькі, які не ведаў яго, ад маці, якая не разумее сына, ад братоў, якія смяяліся над ім».

І ўсё ж пры ўважлівым стаўленні да напісанага нельга не заўважыць істотнае. Ц. Зарэчны куды лепш разумеў прадстаўнікоў моладзі, якія імкнуліся ў горад, чым некаторыя сучасныя пісьменнікі, гатовыя абвінавачваць іх ледзь не ва ўсіх смяротных грахах. Новікаў перажывае «дэзерцірства… не ад вёскі». І гэта характэрна, бо ён разумее, што нельга ізалявацца ў нейкім адным асяроддзі, а трэба імкнуцца да большага і лепшага, але пры гэтым, што таксама важна і што разумее Сяргей, нельга здраджваць маральным пынцыпам, што складваліся і фарміраваліся стагоддзямі.

Спасціжэнне Ц. Зарэчным душы героя ва ўсёй складанасці яго перажыванняў адбудзецца крыху пазней, калі Новікаў сустрэнецца з сябрамі маленства — старшынёй сельсавета «таварышам Агурковым», з завучам школы Сцяпанам. Ды гэта паразумення не прынясе. Як быццам Сяргей з імі і свой, і разам з тым ён ім чужы. Сваім сярод іх ён не стане нават пасля таго, як Янка, «асабісты сакратар» Агуркова і той жа Сцяпан запросяць яго на рыбалку, а потым усе разам завітаюць на вечарынку. Пакутуе душа Новікава: «Чаму мне робіцца непрыемна, калі я гляджу на запэцканую, месяц не скіданую з пляча, сарочку Габруся, сына вядомага кулака Каўрыгі? І ў горадзе чаму я адчуваю сябе не ў сваіх санях і не чужым у экіпажы?» Сяргей — на духоўным раздарожжы. І вёска яго адштрухоўвае ад сябе, і ў горадзе яму няўтульна. «Экіпаж» то не чужы, але ж і «сані» не свае. Таму і шукае выйсце, каб выслабаніцца ад няпэўнасці. Першым крокам да гэтага і стала наведванне родных мясцін. Думаў, што цягам часу шмат чаго з роспачнага забылася. Аказалася — памыліўся. Зноў сумненні, зноў роспачнасць: «12 дзён… Як шпарка ляціць час? 30-12-18. 18 застаецца. Як мала і як многа! — Мала таму, што не хочацца ехаць у горад і многа ад таго, што не хочацца быць у вёсцы. Што за парадак?! Ага! Я хачу паехаць куды-небудзь, — павандраваць, павалацужыць, як кажуць. А далей? Зноў у вёску? Ні ў якім разе. У горад? Няма жадання».

Як не зразумець Новікава ў яговых «хістаннях»? Але паставіцца да ўсяго можна па-рознаму. У нечым пашкадаваць, у чымсьці асудзіць за празмерную інфантыльнасць. І гэта будзе апраўданым, лагічным, бо такое жыццё, калі і сам чалавек залежыць ад яго і абставіны ўплываюць на паводзіны кожнага. Ц. Зарэчны ў імкненні спасцігнуць сутнасць душэўнага разладу Сяргея, на жаль, далей пайшоў шляхам, які на той час выбіралі ці не ўсе творцы. Інфантыльнасць душы галоўнага героя ён спрабуе растлумачыць няўпэўненасцю ягонай грамадзянскай пазіцыі. Ды сам персанаж, па волі аўтара, у рэшце рэшт прыйшоў да падобнай высновы.

Адбылося гэта пасля наведвання Новікавым колішняй сяброўкі Ніны, якая пасля заканчэння педагагічнага тэхнікума працавала настаўніцай. Ніна душэўна ўраўнаважаны і маральна чысты чалавек. Апошняе не магло не паўплываць на стаўленне да яе Сяргея. У глыбіні яго душы нават з'явілася пачуццё любові, няхай да канца і не зразумелае і пакуль цалкам нявытлумачанае. А гэта яшчэ больш узмацніла ў душы дыскамфорт. Новікаў пераканаўся, што жыве не так, як трэба. Але як жыць? Сваімі сумненнямі, спробай пошуку выхаду са становішча, у якім апынуўся, і вырашыў падзяліцца ў лісце да дзяўчыны:

«Любая, дарагая Ніна!

Сумна за думкі: за погляды, за работу, за жыццё, за той хаос, што робіцца ў душы, за ўсяго самога сябе. Раней, на крыллях першых поспехаў, я шпарка ўваходзіў на так званыя «ганкі грамадскага становішча», а зараз, калі штосьці, хай ледзь-ледзь падобнае да гэтага, дасягнута, калі трэба ўзмацняць узятае з такімі цяжкасцямі, калі трэба ісці ў глыбіню — «чым далей у лес, тым болей дроў».

Герой Ц. Зарэчнага гатовы сябе бічаваць, каб толькі прыйсці да пэўнасці:

«Мне здаецца, што я варожы грамадзе, як і яна мне, што не патрэбны грамадзе, як яна мне — гэтыя дробязныя людзі, з такімі ж дробнымі, нікому непатрэбнымі і ўсім неабходнымі інтарэсамі. Хаос, хаос і хаос. І з гэтага хаосу выстарчальна выглядае пусташ. Пусташ у вялікіх і малых справах; пусташ у так званай мэтавай устаноўцы на жыццё; пусташ у грандыёзнай панараме жыцця.

І далей, з гэтай пусташы, злымі тыграмі глядзяць пытанні: Куды? — Чаго? Усе сілы аддаць грамадзе, якую зневажаеш? Заўсёды жыць у непаразуменні трагічных пытанняў, заўсёды сеяць усё лепшае ў гушчы і закавулкі жыцця, з мэтаю перарабіць гэтае глухое балота ў квітнеючы сад? На што? Дый нашто шчасце, калі не зразумелы больш глыбокія, каардынальныя пытанні жыцця?»

Аднак, як бы ні імкнуўся Ц. Зарэчны ўвязваць перажыванні і сумненні Новікава з яго нявдатнасцю ўліцца ў рэчышча сацыяльных зрухаў і сацыялістычных пераўтварэнняў, справа не толькі ў гэтым. І прычына не ў адной «неразгаданай маладосці». Канешне ж, у Сяргея ўзрост, калі нішто не хочацца браць напавер і з’яўляецца жаданне ў многім засумнявацца. Ад гэтага нікуды не пойдзеш. Але ж, не будзем забываць, ці не ў кожным творы ёсць не толькі тое, што сказана аўтарам, а тое, што прачытваецца паміж радкамі. У гэтым жа апавяданні Ц. Зарэчнага прачытваецца і пазіцыя самога аўтара. Ц. Зарэчны, пабываўшы ў многіх кутках Беларусі, бачыў не толькі добрае, але і сустракаў нямала негатыўнага. Не прамінаў пра гэта сказаць у нарысах і фельетонах. У апавяданні ж яму захацелася зірнуць на ўсё шырэй, а ў выніку ў нейкай ступені рупарам пісьменніцкай ідэі і стаў Сяргей Новікаў.

## Ці трэба слухаць крытыкаў

Магчыма, гэта толькі маё прыватнае меркаванне, псіхалогія творчасці — рэч складаная, але, уважліва перачытваючы твор, нельга адмаўляць, што, перш чым пачаў сумнявацца літаратурны персанаж, сумненні адолелі Ц. Зарэчнага. Як бы там ні было, яго першае апавяданне адрозніваецца ад наступных. У далейшым у Ц. Зарэчнага рэдка напаткаеш героя, які б у цэлым заставаўся жывым характарам. У іншых апавяданнях Ц. Зарэчнага (каб жа толькі яго аднаго!), перавага будзе аддавацца персанажам з «рэвалюцыйным гартам».

Падобную пераарыентацыю трэба вытлумачваць зменамі ў жыцці грамадства, калі паступова і няўхільна ўзмацняўся «класавы падыход», які тычыўся літаральна любой сферы дзейнасці, а журналістыка, літаратура станавілася рупарам партыі, а самі аўтары — падручнымі яе. На ажыццяўленне гэтага, як вядома, была скіравана ўся афіцыйная прапаганда, у падобным кірунку вялася паўсядзённая ідэалагічная работа, якую інакш, як апрацоўкай насельніцтва ў зададзеным кірунку, назваць нельга. На такія ўстаноўкі пісьменнікаў арыентавала крытыка, якая ўнесла немалую лепту ў з’яўленне заідэалагізаваных твораў.

Адчуў на сабе падобны ўплыў і Ц. Зарэчны, а паколькі на пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці друкаваўся шмат, не мог не трапіць у поле зроку яе. Да ўсяго, адна за адной пачалі выходзіць яго кнігі. Дзве — «Сустрэчы» і «Узбунтаваная зямля» — з’явіліся ў 1930 годзе. Зборнік нарысаў і апавяданняў «Маладосць» пабачыў свет у 1931-м. У 1932 годзе асобным выданнем выйшаў нарыс «Паэма пра геройства», напісаны разам са Сцяпанам Ліхадзіеўскім. Нарысы і апраўяданні, аб’яднаныя назвай «Пажары», датуюцца 1933 годам.

Хоць у гэтых кнігах ёсць творы, што пераходзілі са зборніка ў зборнік, тым не менш Ц. Зарэчны працаваў вельмі плённа. І не мог не пазіраць у бок крытыкі, каб

знаходзіцца на вышыні задач, пастаўленых ёю перад пісьменнікамі-дакументалістамі і журналістамі. А задачы, як відаць з артыкула Г. Дакутовіча «За дыялектычна-матэрыялістычны нарыс» («Маладняк», 1932, № 2—3) былі наступныя: «…паказаць у невялікіх формах складанасць і разнастайнасць класавай барацьбы ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва. У гэтым і заключаецца тое галоўнае, што характарызуе нарыс рэканструкцыйнага перыяду. Правільна паказаць класавы працэс, працэс будаўніцтва сацыялізму метадамі дыялектычнага матэрыялізму і разам з тым эмацыянальна ўздзейнічаць на чытача для арганізацыі ягонай волі на гэтую барацьбу за сацыялізм — вось што павінна ляжаць у аснове пралетарскага нарысу».

Свае ўстаноўкі крытык «апрабаваў», разглядаючы творчасць асобных нарысістаў. Знайшлося ў артыкуле месца і Ц. Зарэчнаму. Г. Дакутовіч, звяртаючыся да яго другой кнігі, пісаў: «Нарысы Ц. Зарэчнага, сабраныя ў зборніку «Узбунтаваная зямля», характэрны, з аднаго боку — даволі высокай мастацкай апрацоўкай канкрэтнага матэрыялу нашай рэчаіснасці, а з другога — слабай палітычнай завостранасцю. Не адрываючы пытанняў мастацтва ад пытанняў палітыкі, трэба сказаць, што мастацкасць нарысаў Зарэчнага, дзякуючы недастатковай палітычнай завостранасці, значна зніжаецца. Лірычныя месцы нарысу часта пераходзяць у сентыментальныя разважанні аб агульначалавечай прыродзе людзей».

Лёгка заўважыць, што Г. Дакутовіч папракаў Ц. Зарэчнага якраз за тое, дзе яго, па логіцы, трэба хваліць. «Разважанні аб агульначалавечай мудрасці людзей» — гэта ж тое, да чаго літаратура і мусіць імкнуцца, каб заставацца не звычайным фіксатарам падзей, а чалавеказнаўствам. Ды што Г. Дакутовічу да гэтага, калі ён, стварыўшы схему, ніяк не хацеў выходзіць за яе межы: «… класавая самасвядомасць, бальшавіцкае разуменне канкрэтнай рэчаіснасці падмяняюцца Зарэчным «прастатой і шчырасцю»…» Адразу рабілася выснова ў тым жа духу: «Не кожны «просты шчыры» чалавек бывае героем калектывізацыі».

Перапала Ц. Зарэчнаму, што ў яго «не заўсёды бываюць выразныя і акрэсленыя адносіны да сваіх герояў. Недастатковая класавая расшыфроўка тых ці іншых учынкаў сялян». А насцярожыў Г. Дакутовіча такі эпізод у адным з нарысаў: «Не паспелі зайсці ў хату да члена сельсавета, як пачалі выходзіць сяляне.

— У камуну прыехалі зганяць, — чуем мы шэпат.

Што ж, няхай шэпчуцца, усюды так».

Калі паставіцца да гэтага аб'ектыўна, непрадузята, атрымліваецца — хацеў таго Ц. Зарэчны ці не хацеў, але дакладна перадаў стаўленне сялян да прымусовага аб'яднання іх гаспадарак. А гэта «ўсюды так» сведчыць, што падобнае назіралася па ўсёй рэспубліцы. Тыя, хто любіў па-сапраўднаму працаваць, адчуваў сябе гаспадаром на зямлі, не жадалі ісці ў камуну. Г. Дакутовіч не прамінуў у сувязі, як на яго думку, з адсутнасцю ў Ц. Зарэчнага класавага падыходу, праіранізаваць: «Што ж, няхай шэпчуцца, нам усё ніпачым. І хто гэта шэпчацца, чаму няважна, бо гэта «ўсюды так».

Яшчэ добра, што гэта пісалася ў пачатку трыццатых гадоў, калі масавых арыштаў пісьменнікаў не было. Інакш адсутнасць «пільнасці» магла Ц. Зарэчнаму дорага каштаваць.

## Аналізаваць можна па-рознаму

Аднак і сярод крытыкаў знайшліся такія, хто здолеў паставіцца да твораў Ц. Зарэчнага з пункту гледжання іх мастацкасці, а не таго, наколькі яны адпавядаюць палітычным момантам дня. Першым гэта зрабіў Сяргей Знаёмы ў артыкуле «Крыху пра нарыс», таксама апублікаваным у «Маладняку» (1931, № 6—7). Як і Г. Дакаутовіч, ён звярнуў увагу на кнігу «Узбунтаваная зямля», а ў ёй у першую чаргу на аднайменны нарыс.

Знаёмішся з меркаваннямі С. Знаёмага і не можаш не здзіўляцца, наколькі яны адпавядаюць сённяшняму стаўленню да гэтага твора. Крытык папракаў Ц. Зарэчнага ў тым, чаго ён заслужыў: у лозунгавасці, дэкларацыйнасці, адсут-

насці жывых характараў: «Адчыніце яго кнігу «Узбунтаваная зямля» — чытайце: «З вышыні птушынага лёту панарама афарбоўваецца ў неразгаданы рамантызм: гасцінец бярозы (трэба бярозавы, на жаль, у цытаванні С. Знаёмым і далей сустракаюцца недакладнасці. — **В. М.**) — дарога ў нядзейсненае шчасце і сонечныя мары, курган сасновы — туман легенд і сумных разважанняў, нізіна альховая — словы-шэпты крохкіх лісцяў, рэчка вербалозая — плёсы ды каханне ў цвяту… і ціхенькае гу-у-у напудранага млыну». «І далей, — разважае С. Знаёмы, — пасіўна-сузіральнае апісанне Клімаўшчыны. Аўтар сам нічога не бачыў, ён толькі, як апавядаў сакратар РК КПБ Соскін запісаў і… атрымаўся нарыс. А ў гэтым нарысе, калі пакінуць у баку т. т. Соскіна, Міцькога і самога аўтара, дык не застанецца нічога, акрамя пустых, непатрэбных, шмат кім пераказаных слоў».

Рэзка сказана, але ад праўды нікуды не дзенешся. На якім эпізодзе ў нарысе не запыніш увагу, ураженне не лепшае. Ц. Зарэчны партыйныя ўстаноўкі, відаць, зразумеў вельмі просталінейна, а магчыма, што, цалкам верагодна, хацеў часцей друкавацца (а хто з творцаў у маладым узросце гэтага не жадае?), таму і пісаў такое, што адразу ішло ў друк. Яно часта ніякай крытыкі не вытрымлівала. Як і гэтая мясціна ў нарысе, на якую таксама звярнуў увагу С. Знаёмы: «Вывады? Яны кароткія да немагчымасці і правільныя да аксіёмасці. Сялянства калгасаў ня пужаецца (тут С. Знаёмы іранізуе: «Дзякуй за Амерыку». — **В. М.**), у калгасы ідзе, толькі трэба кожнае мерапрыемства і кожны крок падпарадкаваць задачам пераводу гаспадаркі на сацыялістычныя рэйкі. У раённай суцэльнай калектывізацыі трэба ўлічыць наступнае:

1) Калгасы патрабуюць машын і машын.

2) Калгасы патрабуюць тэхнічных і кіруючых кадраў.

3) Калгасы патрабуюць арганізацыйна-гаспадарчых кадраў.

Без задавальнення гэтых трох асноўных патрабаванняў, энтузіязм калгаснікаў можа ісці ўпустую і не дасягаць пажаданых вынікаў.

А таму скажам мовай лозунгаў:

Эканомце энергію адзінак!

Эканомце энергію мас!

Накіроўвайце энтузіязм у берагі планавай прозы!

Стварайце ўмовы для грандыёзнай натуры!

Знішчайце трэскі на хвалях узбунтаваных палёў!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І мы пабудуем бескласавую грамаду».

Што тут зазначыць? Ды, бадай, нічога гаварыць не трэба, бо гэта зрабіў сам С. Знаёмы яшчэ не адзін дзясятак гадоў назад: «Вось вам, бачыце, усё ёсць. І машынізацыя, і тэхнізацыя, і кадры, і план, і «бескласавая грамада» — усё. Але няма галоўнага, няма нарысу. Няма паказу таго, што сапраўды ўжо ёсць, чаго дасягнулі і як. Аўтар пераказаў рэзалюцыі з’ездаў, але не паказаў, як яны праводзяцца ў жыццё. Вось і ўсё».

## Што добра, а што не…

Уважліва паставіўся да кнігі Ц. Зарэчнага «Маладосць» Янка Шарахоўскі, змясціўшы пад крыптонімам «Я. Ш.» свой водгук у часопісе «Чырвоная Беларусь» (1932, № 1). Гэта разгорнутая анатацыя, у якой аўтар коратка перадае змест асобных твораў і разглядае творчасць Ц. Зарэчнага не ізалявана, а ў кантэксце тагачаснай літаратуры. Прынамсі, на яго думку, у апавяданні «Зямля ў вятрах» відавочны матывы, «сугучныя «Голаму зверу» М. Зарэцкага», апавяданне «Вынаходца» блізка «Гуце» Р. Кобеца.

З ранніх апавяданняў Ц. Зарэчнага вылучаецца «Сустрэчы», упершыню апублікаванае 24 лістапада 1939 года ў газеце «Савецкая Беларусь». Яно напісана «на стыку» нарыса і прозы. Пра блізкасць да дакументальнай асновы сведчыць і лірычны ўступ: «Я ніколі не запамятаю гэтых сустрэч! Яны абвеяны радасцю

вясны і смуткам восені, змрокам вечара і пахам яблынь, бурлівай імклівасцю і сонечнымі марамі.

Дзіўныя, нечаканыя сустрэчы! Яны патанулі ў жоўтых красках лапухоў, у плёску вёсел на рэчцы Заранка, у яварах і чаротах каля млыну.

Пра гэтыя сустрэчы мне і хочацца расказаць…»

У апавяданні няма нейкіх мастацкіх адкрыццяў, але ёсць у ім не менш важнае — праўдзівыя малюнкі паўсядзённага жыцця, пераканаўча перададзена сувязь чалавека з прыродай, наваколлем. Ц. Зарэчны піша нягучна, але шчыра: «Ападаюць кляновыя лісці. Пакружацца на ветры, пажоўклыя, і лягуць на зямлю спаць. Прыедуць завозчыкі на млын, з брудам-граззю змесяць залацістыя: «Не ляжыце, не ляжыце, — хто кладзецца на зямлю — памірае».

На млыне і адбываецца адна з сустрэч апавядальніка з галоўным героем твора Анісімам, якая, па асацыяцыі, выкліча ў памяці папярэднія, а ў выніку паўстане чалавек з яго звычайным і разам з тым, як гэта і заўсёды бывае, адметным жыццём. Але пакуль да знаёмства з Анісімам Ц. Зарэчны ўзнаўляе атмасферу, што пануе там, дзе штодня збіраецца шмат людзей. Назіральнасці яму не займаць, а ў выніку гаворка, як кажа сам Ц. Зарэчны, завозчыкаў на дзіва індывідуалізаваная. Рэпліку, другую кіне чалавек, а, глядзіш, і пацякла гамонка нязмушана, зацікаўлена, а за ёю — побыт народны, без ведання якога пісьменнік не можа быць па-сапраўднаму псіхалагічна-дакладным і выверaным у ацэнках. А гэта Ц. Зарэчнаму ўдаецца, ён умела стварае эфект тваёй прысутнасці на млыне, сярод у многім забітых, але па-свойму мудрых вясковых мужыкоў, якіх аб’ядналі нялёгкія турботы пра хлеб надзённы:

«Прывезлі на млын збожжа, звонкае ды ядранае, і дужасць мужыцкую, затоеную ў магутных выносlівых плячах». Кожны гатовы ацаніць, прыкінуць, а якое збожжа ў суседа:

«— А, бач, ячмень з галаўнёй.

— І кукаль сустракаецца.

— А бы масла ды скварка былі, — і са скавароднікамі можна паснедаць.

— Каб былі «абы» і да «або», дык і зусім скавароднікаў не трэба.

— Не, жартуеш, бліны і скавароднікі, галоўнае.

— Гэта ўжо з другой песні.

— Ці з першай, ці з другой, а бульба бульбай застаецца.

— Ну, і няхай застаецца.

— І ты бульбянікам век дажывеш.

— От пагроза: і бульбянікам стрэхі крыюць.

— Не стрэхі, а вільчакі.

— Яшчэ лепш! Галава бульбянік, галава ва ўсёй хаце.

— Галава без галавы.

— Можа і праўда, нездарма такі разумны».

На якое імгненне забываеш, што чытаеш мастацкі твор. Быццам сам знаходзішся на млыне. І ўжо не толькі аўтар апавядання кідае позірк на млынара, які нечакана з’явіўся: «Я агледаю млынара, — яго боты на падковах, кажух бялёсы, каўнер сарочкі вышыванай, і ўспамінаю, што дзесьці бачыў такія вочы, — не васільковыя і не шэрыя, з іскаркамі прагнага жадання і самых разнастайных супрацьлегласцяў… Дзесьці бачыў ці сніў, ці проста думаў пра такія вочы. Хочацца падыйсці да чалавека з такімі вачыма і адкрыта сказаць: «Здаецца, знаёмыя, калісьці сустракаліся… а калі не, дык будзем знаёмы…»

Апавяданне з некалькіх частак і кожная з іх асобны эпізод з сустрэч апавядальніка з гэтым млынаром. Анісім паступова раскрываецца перад субяседнікам, прытым з самых розных бакоў. Паводле аўтарскай задумы, ён паступова становіцца чалавекам, які ўсведамляе неабходнасць жыцця ў грамадзе, пераконваецца ў патрэбе калектыўнай працы. Невыпадкова апошняя сустрэча з ім адбываецца тады, калі апавядальнік на млыне «замест млынара-арандатара Белавецкага сустрэў члена праўлення «Нівы», загадчыка гаспадарчай часткі калгаса. Ён жа Анісім, ён жа не Анісім, — два чалавекі пад адной шапкай». І невыпадкова Ані-

сім падрабязна расказвае, як у хуткім часе ў вёсцы забудуюць некалькі новых вуліц — «Першае Мая, Пралетарскую, Ленінскую, Савецкую…»

Завяршэнне твора блізкае да падагульненняў, якія Ц. Зарэчны любіў рабіць у сваіх нарысах: «Тры разы сустракаў Анісіма і тры разы выносіў з гэтых сустрэч уражанні. І часам запытваўся: альбо я да яго павярхоўна прыглядаўся ў першыя дзве сустрэчы, альбо душа чалавека падобна да вадкасці, якая прымае формы ўсялякае пасудзіны?

Напэўна, апошняе. Абставіны фармуюць чалавека, толькі ім абавязаны ў развіцці людзі. І разам з тым, тыя ж самыя людзі ствараюць абставіны і ўмовы для жыцця, тыя ж самыя людзі арганізоўваюць, разбураюць, будуюць. Усё гэта мае выгляд замыкальнага круга, які паступова рухае гісторыю ў вышыню».

Толькі не гэта сведчыць на карысць таго, што Анісім як характар атрымаўся, а тое, што знаходзіцца як бы па-за мастацкай задумай. Ц. Зарэчны хораша перадаў лучнасць героя з роднай зямлёй, а яшчэ паказаў яго не растраціўшым душэўнай шчодрасці, хоць і выглядае ён у нечым дзіваком: «Анісім — рамантык. Апошні рамантык на зямлі. У яго светлыя думкі аб чалавеку, за імі ён бачыць людзей. Не можа адрозніць Сцяпана ад Лявона, Панаса ад Аўгена, — не па імях, а па іх хатах, каровах, конях… Анісім па-сялянску разважлівы, мудры, бо здатны задумацца над тым, над чым іншыя і не задумваюцца. Яны прывыклі жыццё браць такім, якім яно ёсць. Анісім жа хоча да ўсяго дайсці сам, усяму даць уласную ацэнку». І гэта яму ўдаецца тады, калі ўзвышаецца над абставінамі: «Кожны з нас на скаварадзе смажаны. Супонька ў хамуце парвалася, падуза на аглаблі павісла, мажары — шалтай-балтай — ні чорту качарэжка, ні Богу свечка, жыта худое, ярыца ў мятлюгу, бэлька ў пуні зламала спіну карове — вось адкуль злосць у сэрца пераходзе. Трэба ж на кім-небудзь злосць спагнаць, а то сэрца набракне, распухне — захварэць можа. Біць кулаком па шуле — яшчэ больш злым будзеш, адарваць вушы каняку — не зразумее Сіўка-бурка палявая. Патрэбен нехта такі, каб перамучыла,перакорчыла яго злосць твая, каб лягчэй зрабілася табе ад гэтага. Ну, жонка пад рукамі. Чаму ж не пацешыцца?»

## Сосны і… сажа мінулага

Талент Ц. Зарэчнага спрабаваў прабіцца скрозь схематызм, якога часта патрабавала ад літаратуры крытыка ва ўгоду палітычнай кан'юнктуры. Ён пераадольваў штучнасць, зададзенасць сюжэтных хадоў і калізій і набліжаўся да жывога жыцця, да звычайнага чалавека, які найчасцей быў далёкі ад глабальных праблем сучаснасці, але які не проста існуе, як каму-небудзь можа падацца, а радуецца гэткім звыклым і, здавалася, падобным адзін да аднаго будням.

Усё лепшае ў апавяданнях Ц. Зарэчнага значна пазней адчуў І. Плашчынскі, выступіўшы ў «Звяздзе» 6 чэрвеня 1941 года з артыкулам, што так і называецца «Апавяданні Цімоха Зарэчнага». Канешне, І. Плашчынскі даваў ацэнку новым творам пісьменніка (да іх мы ніжэй звернемся), тым не менш гэта праўдзіва і ў дачыненні да «Сустрэч»: «У апавяданнях Зарэчнага выяўляецца вялікае адчуванне прыроды. Прыроду любіць пісьменнік, любяць яго героі». І яшчэ: «Неад'емная якасць апавяданняў Зарэчнага — іх лірычнасць. Пісьменнік неяк па-асабліваму закаханы ў сваіх герояў. Апавяданні выяўляюць веданне аўтарам вясковага жыцця, людзей, іх быту, прывычак, іх жывой мовы. У паказе чалавечых пачуццяў у пісьменніка няма мітусні, ён часта стрымана гаворыць пра глыбокія перажыванні». Варта прыслухацца і да такога меркавання І. Плашчынскага: «Яго апавяданні часам носяць характар эскіза, але не карціны, эскіза, дзе занатаваны асобныя жыццёвыя выпадкі, за якімі не відаць чагосьці большага. Пісьменнік мала фантазіруе, у яго апавяданнях часта ўжываецца элемент нарыса, які падмяняе мастацкі паказ. Часамі для стварэння сюжэтнай закончанасці пісьменнік уводзіць у апавяданне штучныя элементы. Зарэчнаму не заўсёды ўдаецца канцоўка».

Сказанае будзе праўдзівым і ў дачыненні да апавядання «Сосны», у якім шмат

эмацыянальнасці, узнёсласці, знайшлося месца лірызму, але адсутнічае значнасць абагульненняў, а тым самым усё зводзіцца да яшчэ адной канстатацыі хуткаплыннасці жыцця. Праўда, сам вобраз соснаў нясе значную мастакоўскую нагрузку. Сосны — увасабленне бацькоўскага кута. Ц. Зарэчны знаходзіць самыя пранікнёныя словы, каб перадаць гэтую спаконвечную лучнасць з зямлёй, хоць месцамі не пазбаўляецца празмернай узнёсласці: «Пахнуць сосны празрыстасцю янтарнай смалы, слязьмі купальскага кахання, каралямі спелай маладзіцы; пахнуць шумам шурпата-ўпэўненым, лапуховым, трывогаю векавечна-ўнутранай, дурнап’янавай, сумам надломлена-хваравітым; пахнуць сосны сакавітасцю сыраежак і баравікоў, шыгаллём вільготнае зямлі, дымам закопчаных смалакурняў. Бабіным летам пахнуць сосны».

Новы ўсплёск успамінаў і чарговая хваля цеплыні кранае сэрца, бо ажывае даўняе, што прыйшло ў душу на пачатку жыцця і запомнілася назаўсёды: «А больш за ўсё пахнуць сосны ўспамінамі аб маленстве. Лазіў па стромкіх дрэвах — высока, аж дух зацінала, і сэрца загаралася жахам; суніцы і чарніцы збіраў на ўзгорках і равах, — люба разгарнуць папараць і знайсці чырвоны вугалёк-ягадзіну; зязюлю слухаў стомленымі дзянной сумятнёй вечарамі, — яна зычыла штось лёгкакрылае і жыццё сунічнае; коні вадзіў на начлег, — былі ваўкі, пугамі чокалі вартаўнікі, як сабачы брэх трывожыў цемень ночы… На ўскрай леса, за альшараю, жыта каласілася, сокам зямлі набухала, смачныя прожмы з пульхных зярнят, нат смачней за казку аб папоўскім парабку і за слёзы дзяцінай радасці».

Як і Сяргей Новікаў з апавядання «Неразгаданая маладосць», кіруецца герой гэтага твора Алесь у родную вёску. І гэтаксама чужы ён там, і гэтаксама разумее, што ранейшага жыцця не вернеш. Дый, папраўдзе, Алесь яго і не жадае. Яму «пахнуць сосны чужынаю роднай зямлі, узбунтаванымі рэбрамі сухаватых галін, вольным подыхам сякер і ланцугоў… Крокам у шчаслівы заўтрашні дзень пахнуць сосны.

Але больш за ўсё пахнуць сосны сажаю мінулага…»

«Сажа мінулага» — у духу часу, калі ўсё старое адмаўлялася, як непатрэбнае, асуджалася, як рэшткі «праклятай даўніны». Ц. Зарэчны, прытрымліваючыся такой пазіцыі, не збіраўся асабліва заглыбляцца ва ўнутраны свет персанажа дый душа Алеся яго не надта цікавіла. Прыехаў, пагледзеў на ўсё, успомніў, як жыў некалі ў вёсцы і, калі ласка, нічога не шкадуе. У гэтым сэнсе Сяргей Новікаў куды больш цікавы як мастацкі характар. Яго сумненні, ваганні сведчаць на карысць таго, што чалавек шукае ісціну, яму хочацца разабрацца ў рэчаіснасці, каб не быць, як кажуць, збоку прыпёку.

## Герой на рэвалюцыйных ростанях

Цімох Зарэчны належаў да пісьменнікаў, якія, верачы ў свой талент, працуючы апантана, смела бяруцца за новыя творы. Само па сабе гэта добра, бо садзейнічае лепшаму выяўленню мастакоўскага даравання. Але падсцерагае і небяспека слізгання па паверхні жыццёвых з’яў, падзей, асабліва, калі аўтар аднačасова працуе над некалькімі творамі. Тым самым адбываецца як бы распыленне таленту. Ц. Зарэчны, як відаць, падобную небяспеку не прымаў пад увагу. Пішучы апавяданні, часам звяртаючыся да нарысаў, ён з пачатку трыццатых гадоў браўся і за вялікія празаічныя жанры.

Напрыклад, у часопісе «Полымя» (1931, № 4) апублікаваны ўрывак з аповесці «Зямля ў вятрах», у «Чырвонай Беларусі» (1932, № 22) з’явіўся раздзел «Сонечная будучыня» з рамана «Белы камень». У тым жа годзе газета «Літаратура і мастацтва» (нумар за 27 чэрвеня) прапанавала ўрывак з рамана Ц. Зарэчнага «Стахван Багмут». Акрамя таго, Ц. Зарэчны працаваў над аповесцямі «Маці і сын» (урывак змешчаны ў газеце «Калгаснік Беларусі» (1935, 23 чэрвеня), «Андрэй Блажко» (урывак у «Звяздзе» за 11 ліпеня 1940 года).

Уяўленне аб гэтых творах, пры ўсім жаданні, атрымаць няпроста. Урыўкі, фрагменты не могуць засведчыць, наколькі плённа адбывалася ўвасабленне

аўтарскай задумы, дый не заўсёды яна па гэтых першых публікацыях выяўляецца акрэслена. Выключэнне хіба згаданы раздзел з рамана «Белы камень», у якім Ц. Зарэчны звяртаўся да падзей рэвалюцыі. Аўтар так прадстаўляў свайго галоўнага героя: «па фальшываму пашпарту — Андрыян Карпаў Рыбакоў, сын мешчаніна мястэчка Жлобін Магілёўскае губерні — Лявон Ясонаў Кавальчук, сын пастуха з-пад Оршы, студэнт другога курса Пецярбургскага інстытута медыцыны, блізкі сябра нябожчыка Рыбакова, член партыі сацыял-рэвалюцыянераў, па перакананнях напалову анархіст, для якога некалі былі Бакунін, Крапоткін і Эльбехер недасяжнымі велічынямі, напалову сацыял-дэмакрат, які ўлотаўку ад таварышаў паважае Леніна, па-свойму, інакш, чым таварышы, тлумачыць Маркса і Энгельса, чытае Кауцкана, Пляханава і Леніна…»

Першы раз Кавальчук уцёк з катаргі ў 1904 годзе. Ад рэвалюцыйнай барацьбы не адмовіўся. Пакаранне зноў не прымусіла чакаць, але прысуджаныя яму два гады высылкі ў Сібір не адбываў: у адным з персанальных астрогаў зрабіў падкоп і ўцёк. Па пашпарце сябра, якога расстралялі ў час маніфестацыі 9 студзеня, Кавальчук апынуўся «ў глушы беларускіх лясоў у Раманавічах», уладкаваўся «памочнікам доктара, старога знаёмага Адольфа Шульца, добрага немца, пылкага рэвалюцыянера ў маладосці». Па недарэчнасці тут жа, у Раманавічах, Кавальчука арыштавалі. Уцячы няцяжка, але лёгка выклікаць падазрэнне, а пакуль ніякіх улік супраць яго няма. Знаходзячыся пад арыштам, Кавальчук успамінае сваё ранейшае жыццё. Сярод згадак ці не самая прыемная — знаёмства з Маланняй, «вясёлай гімназісткай апошняга класа», якая з'яўляецца дачкой таго, хто пасадзіў Кавальчука за краты.

Сюжэт варты таго, каб стаць асновай значнага твора і не ў апошнюю чаргу дзякуючы таму, што галоўны герой належыць да людзей, якія ў сваёй рэвалюцыйнай апантанасці не адразу прыстаюць да нейкага пэўнага берага. Было Ц. Зарэчнаму над чым паразважаць, было што прааналізаваць. Пры ўмове, калі пазбавіцца дыдактычнасці, палітызаванасці. На жаль, апошняга ён далёка не заўсёды мог пазбавіцца.

## Запалітызаванасць — пастаянная небяспека

Гэта відаць з аповесці «Эльбрусы чалавечага шчасця» («Маладняк», 1931, № 9—12 і 1932, № 1).

Твор прапаноўваўся аўтарам у друк па меры напісання. Асобнымі раздзеламі ў ім прадстаўлены некаторыя апавяданні («Думы», «Трывога»). Сярод раздзелаў і «Зямля ў вятрах», які, як адзначалася вышэй, быў дэклараваны Ц. Зарэчным як урывак з аднайменнай аповесці. Акрамя таго, у карысць падобнага меркавання сведчыць і тое, што ў асобных нумарах «Маладняка» пад чарговымі раздзеламі ўказваецца дата іх завяршэння. Паспешлівасць можна вытлумачыць адным: творы, падобныя «Эльбрусам чалавечага шчасця», лічыліся надзённымі, паколькі адпавядалі партыйным устаноўкам, скіраваным на паказ літаратурай сацыялістычнага будаўніцтва і ў першую чаргу раскрыцця жыцця рабочага класа. Рэдактары літаратурна-мастацкіх выданняў ці не спаборнічалі, хто першым знойдзе нешта падобнае для публікацыі. Таму «Маладняк» і запыніў увагу на аповесці Ц. Зарэчнага, які хутчэй за ўсё з'яўляўся членам гэтага літаратурнага аб'яднання.

У «Эльбрусах чалавечага шчасця» ёсць усе атрыбуты вытворчай аповесці і, што істотнае, аповесці трыццатых гадоў. У творы сутыкаюцца прадстаўнікі новага і старога свету, вядзецца барацьба з парушальнікамі працоўнай дысцыпліны — прагульшчыкамі, п'яніцамі, дэбашырамі, выкрываюцца бракаробы. Як і трэба было, заўсёды на належнай вышыні аказваюцца камуністы і камсамольцы. А яшчэ, вядома, зрываюцца маскі з ворагаў савецкай улады, а перадавыя дзеці лёгка адмаўляюцца ад сваіх бацькоў, нуздатных жыць па законах новага часу.

Аднак Ц. Зарэчны ў многім пераўзышоў тых, хто працаваў у літаратуры поруч з ім. Здаецца, больш «рэвалюцыйна», чым пісаў ён у гэтым творы, пісаць было немагчыма. Са свайго роду ўступу да першага раздзела «Думы» адчуваец-

ца, што аўтар быццам у нейкім палітычным экстазе страчвае ўсялякае пачуццё меры. Пры гэтым скажона разумее жаданне чалавека разабрацца ў сабе: «Бываюць думы — што волава: важкія, цягучыя. І не страхануць іх, не аслабаніцца ад іх: блытаюцца пад нагамі — што дзераза, спавіваюць чалавеку — што сон пасля цяжкой працы, — думы ахмяляючыя, алавяныя, думы — што бронза: пры чатырохзначных градусах распадаюцца яны на мільёны малекул, пры кулі — злучаюцца ў камок з шчыльнасцю, якой не бывае на зямлі, з вагою, якой, напэўна, не мае зямля (каб можна было ўзняць яе на рукі).

Думы — што бронза, а бронза — што мільён малекул. Не працаваць тады: плаваць у сваіх думах — і не ў чаўне-душагубцы, і не на караблі — плаваць у самім сабе, у штормах і смерчах сваіх дум дадзена ж думаць чалавеку! І часам тоне ён у сваіх думах — не вытрымліваюць плечы, і падае галава на жвір, у домну, у градусы ўзбунтаванае лавы».

Па задуме аўтара аповесці такія няпростыя і нялёгкія, пакутлівыя разважанні адольваюць найперш намесніка дырэктара гуты Насту Корбут і яе бацьку Рамана Корбута. Што да Насты, дык яе больш хвалююць справы прадпрыемства, чым лёс блізкага чалавека. З бацькам яна даўно не знайшла паразумення, а цяпер і ўвогуле адвярнулася ад яго. Інакш паступіць Наста, у рэвалюцыйным максімалізме якой сумнявацца не даводзіцца, не магла. А бацька можа пражыць і на хутары, куды яго, былога галоўнага інжынера гуты, выслалі.

У Рамана ж Корбута роздум куды больш трывожны. У якія дзверы ні стукаецца, яго ніхто слухаць не збіраецца. Ні ў райкаме партыі, ні ў райвыканкаме. Не вераць і верыць не збіраюцца. Кулаком аб'явілі і намерваюцца ў Сібір высылаць.

Людзей, падобных Раману Корбуту, Ц. Зарэчны шкадаваць не збіраўся, таму і паказваў гэтага персанажа адпаведным чынам. Рабіў усё дзеля таго, каб чытач з агідай і асуджэннем ставіўся да таго, хто перашкаджае будаваць новае жыццё. Для прыкладу, аўтар так падае вяртанне Корбута з мястэчка Яравога, куды той хадзіў у пошуках праўды: «Чалавек не заўважае празрыстасці восені, яе пераліваў, колеру: з сіняга ў жоўты, з жоўтага ў бялёсы; берагі яго старога цела — яшчэ пругкага, як іржаўлены дрот і дзябёлага, як выцягненая з дна возера гняціна — перапоўнены атрутай зласлівасці, горкай, як палын, і калючай, як пераспелы дзядоўнік». Зайшоўшы да былога шынкара, Корбут з роспачы не проста выпівае кілішак, а «заказаў самагону з тытунём, з перцам, з гарчыцаю, — выпіў гэта залпам з бутэлькі».

Наста ж, зразумела, павінна выклікаць пачуццё спагады, больш за тое — ці не захапленне. Яна ж забывае пра асабістае ў імя агульнага! Для яе лёс бацькі — нішто ў параўнанні з жыццём прадпрыемства, краіны. Але слухаеш інжынера Сакалоўскага, калі той кажа: «Бацьку свайго, Наста, не ведаеш ты. Ён такі няшчасны і прыбіты, — выратуй яго, затрымай. — Ты ўжо можаш, — а то позна будзе, Наста… Бацька твой — што сокал з падрэзанымі крыллямі… Яму дапамога цяпер патрэбна. Ты ж яго дачка, дапамажы…» — слухаеш і не адчуваеш пагарды да Рамана. Наадварот, прыкра становіцца з-за Насты, няздатнай на чуласць, суперажыванне, у душы якой не засталося месца звычайнай спагадзе.

Не ведаю, ці так гэта, але мне здаецца, што Ц. Зарэчны, пішучы такое, унутрана разумеў, што ў паводзінах Насты з'яўляецца штосьці ненатуральнае, якое ідзе насуперак чалавечай прыродзе. А паколькі разумеў, спрабаваў апраўдаць учынак Насты, калі яна не прыслухалася да просьбы Сакалоўскага і прагнала яго са свайго пакоя. Па волі аўтара апынулася «Наста на канапе, ніцма ў думках, у сонечнасці і вятрах, і марозах і вясне: дадзена ж думаць чалавеку! І калі чалавек моцны, адзінка магутнейшай, узыходзячай па ганках барацьбы да вышынь жыцця масы — ён не загіне, плячо ў плячо будзе ісці разам з усімі — праз ірвы, крутаяры, балоты, — на гару, на горы, на Эльбрусы чалавечага шчасця — усё вышэй і вышэй — к сонцу! — у сонечнасць і вясну!»

Імкнуцца да «Эльбрусаў чалавечага шчасця» нікому, канешне, не супрацьпаказана. Каб жа толькі пры гэтым не страчвалася чалавечнасць, каб жа заставалася месца гуманнасці! У грамадстве раз'яднаным, падзеленым на класы, гэтаму, на жаль, месца станавілася ўсё менш і менш, а тыя, каго аб'яўлялі яго ізгоямі, ні на

якую спагаду разлічваць не маглі. Раман Корбут, наколькі можа, імкнецца дабіцца праўды, нават слухаецца Сакалоўскага і піша заяву «ў раённы камітэт Яроўскай кампартыі», просячы як след разабрацца ў ягоным лёсе.

Заяву то піша, а ў глыбіні душы разумее — ні на што добрае яму спадзявацца нельга: «Яму, Корбуту, цяпер усё адно: магіла! Ён гэта памятае заўсёды і кожнага незнаёмага чалавека сустракае з апаскаю: ці не па яго, Рамана Корбута, ідзе ён, ці не яго, былога ўласніка гуты, прагоніць гэты чалавек на далёкую поўнач — у марозы, у сумёты снягоў, да белых мядзведзяў… А заява — адна мішура! Усё адно магіла! Гэта толькі пыл у вочы, заслона, каб адцягнуць на некалькі хвілін надыходзячае, каб пры знадворнай спакойнасці бушаваць усімі адчуваннямі: смерць, смерць, смерць!»

Зноў жа, не жадаючы таго, Ц. Зарэчны дабіўся вялікай мастацкай праўды, зірнуўшы ў душу «класавага ворага». Але рабілася гэта неяк мімаходзь, не паводле мастакоўскай задумы, а насуперак ёй. Асноўную ж задачу Ц. Зарэчны падначаліў іншаму: як мага больш публічна востра (пра якую мастацкасць пры гэтым магла ісці гаворка?!) паказаць, як на гуце ўсталёўваюцца новыя парадкі, як сацыялістычныя адносіны да працы перамагаюць старое. А ў сувязі з гэтым, як і магло чакаццца, замаскіраваным ворагам аказаўся і той жа Сакалоўскі, які заступаўся за Рамана Корбута. Як высветлілася, ён ні які і не Сакалоўскі, а пан Вялікабрынскі. Дый майстар Калакалуха — ніколькі не лепшы. І калі ён прамаўляе: «Я прапаную гуту абвясціць ударнай, наладзіць вытворчыя манеўры, працаваць усім, як належыць! І яшчэ прапаную: над прагульшчыкамі, хуліганамі, п'яніцамі наладзіць грамадскі суд», — пускае пыл у вочы, бо для Калакалухі, калі горш, дык лепш.

У аповесці не толькі схематычнасць сюжэтных ліній, асобных калізій. Мастацкасці бракуе і ў раскрыцці персанажаў, якія з'яўляюцца носьбітамі новага, перадавога. Усе яны нейкія безаблічныя, пазбаўленыя жывых рыс, хоць і былі падставы, каб пра іх расказаць шырока. Але Ц. Зарэчны абмежаваўся звычайным шматслоўем, узмоцненым …палітычнай траскатнёй. А ў выніку вобраз, заяўлены як індывідуальнасць, «тануў» у агульных развагах. Тыповы прыклад: «У Гарушкі, у нядаўняга вясковага хлапчука, была затоеная мэта, глыбокае жаданне вучыцца, вучыцца і вучыцца, ісці па лесвіцы ведаў на самую гару, каб відаць была ва ўсёй неабсяжнай шырыні разгоністая роўнядзь, з ірвамі, з крутаярамі, азёрамі і рэчкамі, і па ёй, на ўзгорках і нізінах, строгія карпусы фабрык, заводаў, абрысы вялікай будоўлі, узнятыя да неба трубы, гулы гуты, гордыя і магутныя…»

За вытворчым працэсам у творы звычайнага чалавека не відаць: «Гута надрывалася, быццам адчуваючы надыход смерці. На гуце было бязладдзе, неарганізаванасць, — прарыў.

Шкломаса з кожным днём горшылася, шкло выходзіла з яе цьмянае, з каменьчыкамі, у пузырах. Ад неасцярожнага дотыку яно трэскалася».

Не атрымаў мастацкага развіцця і вобраз студэнта-практыканта Астапа Паркана, а ён, як відаць з заключных старонак твора, знаходзіўся ў аўтара на асобай прыкмеце. Пасля таго, як на гуце выкрылі замаскіраваных ворагаў і іх памагатых, менавіта Астапа прызначылі новым дырэктарам. Выпадак нават для таго часу рэдкі. Але і ў абмалёўцы гэтага персанажа Ц. Зарэчны не пазбавіўся эскізнасці, таму і атрымаўся гэты шматабяцаючы вобраз, як і астатнія. Яго роздум — роздум чалавека, няздатнага на ўласную ацэнку таго, што адбываецца наўкола. Прынамсі, гэтак падаў Паркана Ц. Зарэчны, калі ў яго вусны ўклаў наступнае: «А колькі такіх Сакалоўскіх да гэтага часу ходзіць сярод нас? Яны ўдала маскіруюцца, б'юць сябе ў грудзі за сусветную рэвалюцыю і адначасова думаюць, як бы ўзлезці на высокую хвалю гэтае рэвалюцыі і накіраваць яе бурны шквал на вострую скалу або ў ціхую затоку, на смерць».

«Эльбрусы чалавечага шчасця» — усё ж твор, які, не маючы вялікіх мастацкіх вартасцей, заслугоўвае ўвагі, бо ён таксама частка гісторыі беларускай літаратуры, а калі больш канкрэтна — прозы трыццатых гадоў, якой не заўсёды ўдавалася пераадольваць схематызм, адысці ад хадульных сюжэтаў. Аб гэтым сведчыць і заканчэнне твора, дзе гаворыцца, як гутаўцы закладваюць падмурак новага заво-

да. Адразу ж ідзе «P. S. “Эльбрусы чалавечага шчасця” маюць да гэтага толькі ўскоснае значэнне. Аповесць завецца «Зямля ў нетрах». Значыць, у падзагаловак новага твора Ц. Зарэчны збіраўся вынесці назву аднаго з раздзелаў «Эльбрусаў чалавечага шчасця».

## Каго любіць рака

Працягваў Ц. Зарэчны пісаць і апраўяданні. Калі параўнаць апублікаваныя перад Вялікай Айчыннай вайной (у 1940 і 1941 гадах), з тымі, што з’явіліся на пачатку мастакоўскага шляху Ц. Зарэчнага, поспехі адчувальныя. Не прайшло гэта і міма крытыкі. Падрабязна на новых творах Ц. Зарэчнага спыніўся ў артыкуле «Агляд апавяданняў 1940 года» М. Клімковіч («Полымя рэвалюцыі», 1941, № 3). Аўтар сведчыў: «У мінулым годзе надрукавана шэсць апавяданняў Цімоха Зарэчнага на палескія тэмы. Многае ў гэтых апавяданнях радуе нас за маладога пісьменніка. У прыватнасці, радуе адчуванне прыроды, уменне намаляваць пейзаж (апавяданне «Чуры»), уменне стварыць мініятурны, але яркі малюнак: канец апавядання «У госці», калі Андрэй слухае музыку свайго прыёмнага сына ў калгасным клубе і шэпча: «грай, сынку, грай»; малюнак у апавяданні «Арцём з Чырвонай Горкі», калі бацька вязе хворую дачку па неабдымных балотах Палесся да доктара, а потым нясе яе на руках па грудзі ў вадзе, бо яна пачала кідацца ў чоўне і магла яго перакуліць; пачатак апавядання «Мяжа», дзе паказаны вясковыя хлопцы і іх барацьба супраць засцянковых шляхцічаў. Ад усяго гэтага вее сапраўдным жыццём, усё гэта пранізана сапраўднымі пачуццямі, літаратурна гэта зроблена высока».

Міхась Клімковіч, аднак, даючы ў цэлым высокую ацэнку згаданым апавяданням (і ацэнку заслужаную, апраўданую), не прамінуў зрабіць і некаторыя заўвагі, што ў рэшце рэшт таксама слушна: «… усё гэта яшчэ толькі дасканалыя і трапныя часткі далёка недасканалага цэлага, гэта невялікія прыгожыя малюнкі, узноўленыя ў не зусім зграбную, вялікую, груба вычасаную рамку. Каб усё гэта стала на месца, патрэбна вучоба, патрэбна дасканаласць майстэрства».

Свае заўвагі М. Клімковіч канкрэтызаваў. Мне падаецца, што найбольш слушныя тыя, якія тычацца двух твораў. Так, М. Клімковіч прыйшоў да высновы, што «найбольш слабае апавяданне Зарэчнага «Цёзкі». Яно пабудавана на анекдоце: знаны конюх Палесся Мікола Сівак сустракае агранома на станцыі і на працягу дарогі спрабуе чарніць самога сябе, расказваючы старасвецкія байкі з кнігі «Прымхі і забабоны палешукоў». Робіцца гэта для таго, каб выпытаць у агранома, ці верыць той у чартаўшчыну! Аграном з такой жа мэтай робіць выгляд, што ён згаджаецца. Па прыездзе ў калгас узаемнае непаразуменне развязваецца: людзі, якія лічылі адзін аднаго дурнямі, знаходзяць, што яны абодва прытвараліся. Сапраўдны вобраз Міколы Сівака, лепшага конюха Палесся, новага чалавека ў апавяданні не створаны».

Яшчэ большую патрабавальнасць М. Клімковіч прад’явіў да апавядання «Чуры»: «Яно сапсавана непатрэбным, халодна зробленым пачаткам і «ідэалагічнай» — у дрэнным сэнсе гэтага слова, г. зн. прышытай ні к сялу ні к гораду канцоўкай («журавы — гэта душы памёршых, якія збіраюцца … адпомсціць панам»).

Адным з лепшых апавяданняў, па-мойму, з’яўляецца «Шчасце». Праўда, яно надрукавана ў 1941 годзе («Полымя», № 3), таму не магло трапіць у агляд М. Клімковіча. Герой твора — каваль Логін, чалавек працавіты, таварыскі. Ён інвалід: «У дзяцінстве, лятучы на каньках з гары, упаў і пакалечыў нагу. У лубкі бралі, цагліну прывязвалі, а нічога не дапамагло — кульгавым астаўся. Мабыць, таму і не жаніўся…»

Кінулася ў вочы Логіну значна маладзейшая за яго Марына — гарэза, весялуха, а яшчэ і пакпіць любіць. Незаўважна Логін закахаўся ў яе. Сватоў пасылаў, ды дзяўчына адмовіла. І хто ведае, чым бы ўсё скончылася, калі б Марынка не перакулілася ў чаўне, а Логін прыйшоў ёй на дапамогу. Цяпер ён перакананы: «Рака мяне любіць. Праз яе, можна сказаць, шчасце сваё знайшоў».

Па ўсім відаць, апавяданне мае дакументальную аснову, бо ў канцы яго пра ўсё з Логінам гутараць журналіст і прадстаўнік з раёна. А Логін не хавае сваёй радасці. Прызнаецца: таму і пакахала яго Марынка, што знайшоў патрэбнае слова: «— Слова гэта тайнае, душэўнае… Скажаш — і камень з сэрца спадзе, сіла багатырская прыдзе, горы варочаў бы. Ноч вакол, завіруха свішча, а табе свет краскамі ззяе, вясёлкаю пераліваецца…»

Пасля ўсяго пачутага журналісту толькі і застаецца сказаць: «— а ты паэт, дзядзька!»

Да Логіна, як «унутрана цэльнай, непасрэднай і багатай натуры», паставіўся І. Плашчынскі. Праўда, заўвагі, якія ён пры гэтым зрабіў аўтару апавядання, ніякай крытыкі не вытрымліваюць: «Але ўсё ж тэма была больш багатай, чым яна выглядае ў апавяданні. Мы шкадуем, што пісьменнік не сказаў, як нараджалася ў дзяўчыны вялікае ад усякіх умоўнасцяў пачуццё. І гэта не было б адхіленне ад сюжэтнай устаноўкі. Тут патрэбна было ўсяго некалькі фраз, якія б раскрылі духоўнае харաство чалавека і якія з’явіліся б эмацыянальным акампаніментам да матыва Логінава (так называе героя І. Плашчынскі. — **В. М.**) і далі б апавяданню натуральнае сюжэтнае завяршэнне».

Атрымліваецца, што І. Плашчынскі шукаў у творы тое, чаго, па логіцы, у ім не магло быць, бо галоўны герой і так паказаны не проста як чалавек, а як асоба дзейсная, жывая.

Напрошваецца ў сувязі з гэтым паралель з аповесцю «Эльбрусы чалавечага шчасця». Там Ц. Зарэчны, як вядома, менш за ўсё клапаціўся, каб раскрыць у чалавеку чалавечае, на першы план ставіў грамадскія і вытворчыя ўзаемаадносіны, а самі звычайныя зямныя радасці станавіліся нявартымі ўвагі. У апавяданні ж толькі той, у каго паразуменне з блізкімі людзьмі, знаходзіць сваё сапраўднае шчасце. Такі падыход — сведчанне эвалюцыі ў мастакоўскім падыходзе Ц. Зарэчнага да адлюстравання жыцця, разумення неабходнасці звароту да вечных маральных асноў, да агульначалавечых праблем.

* * *

Калі б Ц. Зарэчны пражыў больш, несумненна, што ён з цягам часу мог стаць і цікавым дзіцячым пісьменнікам. На карысць гэтаму сведчыць апавяданне «Буслянё» (хлапчук Юхімка пасяброваў з птушанём, якое вывалілася з гнязда). Але ў большай ступені так меркаваць можна на падставе невялікай аповесці «Руднянскі пастушок» (выйшла ў 1941 годзе). Твор напісаны займальна, знайшлося ў ім месца рамантыцы гераічнага. У аповесці шмат прыгод, што, безумоўна, не можа не прыцягваць юнага чытача.

Вобраз жа галоўнага героя Іўкі атрымаўся праўдзівым дзякуючы глыбокаму псіхалагізму, з якім Ц. Зарэчны падышоў да раскрыцця ўнутранага свету хлапчука, які гадаваўся і сталеў у віхурны час. Мара Іўкі — мара тых, каму ў маленстве нестае радасці жыцця: «Вось ён атрымае пастушковую плату, паедзе ў горад, паступіць у школу. Іўка хоча быць машыністам. Ён часта бачыць сябе і ў сне на паравозе: поезд грыміць на вялізным жалезным масту, паабапал сцелецца дым, прарэзліва гудзе гудок. Ён будзе вадзіць кур’ерскія паязды. Але машыніст павінен быць граматным. Чатырох груп сельскай школы мала. Трэба вучыцца далей. А бацькаў паёк невялікі: зараз вайна, разруха (маецца на ўвазе Грамадзянская вайна. — **В. М.**). Трэба самому станавіцца на ногі. Вось Іўка і пайшоў у пастухі. У яго будзе многа хлеба. За хлеб ён купіць кнігі, прылады. Кватэру ў горадзе яму дадуць, настаўнікам плаціць не трэба. Толькі б хутчэй прышла восень ды заціхла вайна, гул якой даносіцца да Рудні». Але Іўка спазнаў шмат нягод, пакуль выгналі ворагаў. Творы, падобныя «Руднянскаму пастушку», маюць вялікае выхаваўчае значэнне, вучаць дзяцей быць смелымі, мужнымі.

…Быў чалавек і няма яго. Быццам у Лету кануў, але творы засталіся. Творы пісьменніка Цімоха Зарэчнага.

**Людміла СІНЬКОВА**

# ВАЙНА ВАЧЫМА БЕЛАРУСА
## (Афганскія апавяданні Сяргея Дубовіка)

***Тут сходзіліся плямёны***
***Спрэчкі сілаю канчаць…***
Якуб КОЛАС

Як беларус глядзіць на вайну — як часта, непасрэдна ў твар, з якімі для сябе наступствамі — пра тое беларусы гаварылі і гавораць усяму свету. Нашу літаратуру якраз і паважаюць за мяжой перадусім па ваеннай тэме, да якой звярталася літаральна кожнае пакаленне беларускіх пісьменнікаў. І гэтая тэма аніяк не робіцца менш актуальнай з часоў, яшчэ старэйшых за Гамераву «Іліяду».

На мяжы 1980—90-х гг. адной з самых вострых тэм для познесавецкага грамадства стала вайна СССР у Афганістане, якая пазначана ў гісторыі СССР датамі 27.12.1979—15.02.1989 гг.. У ёй удзельнічалі 32 тысячы беларусаў — абсалютная большасць з іх, канешне, былі юнакі, цывільныя прызыўнікі або навучэнцы і выпускнікі ваенных вучылішчаў. І сярод гэтых тысяч маладых хлопцаў знайшліся тыя выбраныя, хто вярнуліся з Афганістана, каб расказаць пра перажытае: Сяргей Дубовік, Алесь Крыванос, Іван Сяргейчык, Алесь Дзмітрыеў. З любога ваеннага пекла заўсёды прыходзіць і той, хто не зможа прамаўчаць.

Зразумела, што цягам часу найбольш інтэнсіўна проза з асэнсаваннем «афганскага», «чачэнскага», «грузінскага», інш. паваеннага вопыту пачала развівацца ў Расіі. Там існуе самая вострая патрэба асэнсавання такіх праблем, як посттраўматычны сіндром у часткі ветэранаў, звязаны са скасаваннем на вайне біблейскага табу на кроў і гвалт; бескантрольнае распаўсюджванне ваеннай зброі; злачынная практыка з цывільнага жыцця, перанесеная ў экстрэмальныя сітуацыі сучаснай вайны; эскалацыя міжнацыянальнай варажнечы і падобных разбуральных, крызісных з'яў у пасляваенным грамадстве.

Аднак беларуская проза мае, бадай, самы грунтоўны вопыт у асэнсаванні гэтых праблем. Больш за тое: насамрэч якраз з беларускай ваеннай прозы многае пачыналася з твораў М. Гарэцкага, К. Чорнага, Я. Брыля, І. Шамякіна, І. Навуменкі, А. Адамовіча, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава, В. Адамчыка, І. Пташнікава, В. Казько, С. Алексіевіч… Імя ж Васіля Быкава ведае ўвесь цывілізаваны свет.

Падкрэслім таксама, што беларускі чытач, абазнаны замежны чытач і кінагледач ужо ў вялікай ступені выхаваны на эстэтыцы максімальнай праўдзівасці ў творах пра вайну (варта прыгадаць папулярнасць у свеце фільма Элема Клімава па сцэнарыі Алеся Адамовіча «Ідзі і глядзі», 1985), на эмоцыях болевага шоку і малюнках такой рэальнасці, якую А. Адамовіч параўноўваў з магмай, плазмай: ад судакранання з беларускім вопытам вайны прыўкрасныя выдумкі на гэтую тэму, роўна як і нейкія ідэалагічныя міфы, проста выпараюцца, бы вада пры агні. Дамінуе боль як досвед рэальнага чалавека (і яго пакалення). Гісторыя ж, якая складваецца з прыватных людскіх лёсаў, павінна быць без купюр, каб ахвяры не апынуліся пазбаўленымі сэнсу.

Такім чынам, спецыфічна-беларускі погляд на любую вайну вызначаецца менавіта тым, што цэлай беларускай нацыі ў адносна недалёкія часы давялося перажыць найвялікшыя пакуты. Такі вопыт народа даў нашым пісьменнікам асаблівую відушчасць, праніклівасць, інтэлектуальную глыбіню. І яшчэ — чуйнасць менавіта да болю асобнага чалавека. Звычайнага, якога яшчэ называюць «маленькім». І не так важна, ці гэта чалавек са зброяй, ці без яе: тут адрозненне палягае ў тым, ці чалавек гэты з сумленнем, ці без яго; ці здатны ён суперажываць пакутам, ці гвалціць без дай прычыны — ва ўмовах той фактычнай усёдазволенасці, што нясе вайна. Менавіта памятаючы пра гуманнасць нават у нялюдскіх умовах, персанаж беларускай ваеннай прозы вырастае ў Героя, самавітую асобу. Трацячы ж чалавечасць у душы — падае ў бездань бруду, злачынства і здрады.

Менавіта на поле такой традыцыі прыйшоў з новым ваенным вопытам, з новай праўдай пра вайну познесавецкіх часоў Сяргей Дубовік.

Яго проза якраз і вылучаецца спецыфічна-беларускай і адначасова ўласнай, дакладна знойдзенай аўтарскай апавядальнай нотай. С. Дубовік, які служыў у Афганістане ў 1981—1983 гг. камандзірам сапёрнай роты, а затым ваенным карэспандэнтам, апублікаваў нізку сваіх «афганскіх» твораў у 1992 г.[1] Ён адразу ж зрабіў акцэнт на нешматслоўнасці, на вылучэнні толькі сутнаснага: гэта заяўлена ў жанравым падзагалоўку *«кароткія апавяданні»*. Чытач разумее, што яму будзе расказана толькі пра выбраныя, найкрасамоўныя факты, якія імгненна вырастаюць з лакальнага ў разгалінаваныя мастацкія вобразы. Прафесійная адукацыя журналіста і мастацкі талент С. Дубовіка дапамаглі яму зрабіць гэты дакладны выбар дакументальна-мастацкай наратыўнай стратэгіі. У цэлым ён адмовіўся ад гарманічнай апісальнасці на карысць дынамізму, хуткай змены апавядальных планаў, энергічнасці мастацкага выказвання. Хоць уменне маляваць найперш для ўспрыняцця зрокавага, назіральна-расслабленага ў яго прозе таксама выявілася — напрыклад, у зачыне апавядання «Памінкі ў Сардобе».

Першыя фразы «Памінак у Сардобе» якраз яскрава-маляўнічыя, звязаныя з цікаўным поглядам юнака-апавядальніка на тую экзатычную краіну, з якой цяпер будзе спалучаны яго лёс. *«Раней тут быў караван-сарай. Вярблюджыя сцежкі перапляталіся мудрагелістымі ўзорамі на шматкіламетровым дыване стэпу, быццам маршчыны на твары старога афганца, сыходзіліся тут, у Сардобе, каб бегчы далей на ўсход — у Пакістан, Індыю… Старыя сцены крэпасці памятаюць набегі качэўнікаў-рабаўнікоў, кроў сівабародых купцоў, дзікі роў адбітых у гаспадароў вярблюдаў <…>. Ад крэпасці засталіся сцены ды некалькі прыбудовак, дзе размясціліся салдаты сапёрнай роты»*.

Аднак ужо з другога абзаца чытач трапляе ў тую самую сітуацыю экстрэмальнасці, безвыходнасці і хранічнага стрэсу, што пануе на любой вайне. Тут жыццё толькі звонку можа выглядаць будзённым. Банальны побыт з вадавозкай ды кухняй імгненна ўзрываецца адным раптоўным стрэлам-забойствам капітана Слаўкі Макуцэвіча, які бегаў да знаёмага дуканшчыка (*«карцела памяняць чэкі на афгані па добрым курсе»* — таксама абсалютна звычайная дэталь той вайны, афіцэрскага побыту). Гэтая смерць робіцца завязкай сюжэта пра «памінкі ў Сардобе» — памінкі па Слаўку…

Падзеі разгортваюцца з катастрафічнай імклівасцю: выстрэльвае сціснутая спружына самасуду, што абрынецца на таго, хто першым патрапіць пад руку. Гэта акажацца *невысокі худы афганец*, з трыма патронамі ў кішэні — яго *«забралі з машыны, што праязджала»*. Допыт ператворыцца ў катаванне, расстрэл і закопванне змучанага цела ў яме, на тым месцы, дзе нядаўна закапалі *«ротнага сабаку, задушанага машынай»*. Вайна, здаецца, дароўнівае да нуля чалавечае жыццё. Вось толькі ў памяці апавядальніка і чытача застаецца тая жорсткасць, што нібы

[1] Дубовік, С. Груз «200»; Памінкі ў Сардобе; «Негры»; «Інтэрнацыянальнае» выхаванне; Крывавыя цюльпаны: Кароткія апавяданні // Маладосць. — 1992, № 10.

рыфмуецца са спрадвечнымі пакутамі мясцовых людзей і жывёлы, згаданых у першых, амаль наіўна-маляўнічых сказах. Разам з лейтэнантам Сашам Клабуцкім чытач не можа не бачыць гэтага «маленькага» чалавека на вайне*: бедны афганец*, *невысокі худы афганец*, праз гадзіну — ужо беспрытомнае *збітае цела* пад сцяной, пхнутае прыкладам аўтамата; *сляды слёз на запыленым твары*, *худыя босыя ногі* на гарачым пяску ля ямы… Папаўся — змяніць нічога нельга, сабачая смерць.

Апошняя фраза — *«Бразгаў у вядро кухар, склікаючы салдат на снеданне»* — ізноў фіксацыя самай што ні на ёсць будзённасці. Усё вяртаецца (ці надоўга?) у тую, што і на вайне бывае, *«маліну»*, дзе свае неадменныя законы, дзе спрытнейшы, нахабнейшы можа і *«разжыцца»*, *«пацягнуць»*, бо, як вядома, каму вайна, а каму маці родная. З чалавека звера зрабіць няцяжка — цяжка вярнуць яму чалавечае аблічча.

Герой жа С. Дубовіка, Саша Клабуцкі, застаецца найперш з суадчуваннем болю, бо падобнага вопыту, мабыць, зашмат у беларускім калектыўным бессвядомым. *«Паглядзець на смерць «духа» «сабралася паўроты»*, а таму, хто не біў, цяжка. Гэты погляд на афганца як на чалавека, выпадковую, але непазбежную ахвяру, якой спачуваеш, і дае чытачу адэкватны досвед пра жыццё падчас вайны. Яго будзённасць падманлівая, яна толькі вонкавая. Сутнасць — трагедыя і яе ахвяры. Першаю ж ахвяраю і быў Слаўка Макуцэвіч, цяпер ужо *«груз «200»*, цынкавая труна, якую вернуць на радзіму.

Адна з самых цяжкіх ісцін пра вайну ў Афганістане ў тым, што для нашых юнакоў яна была трагедыяй, у якой скралі яе высокі сэнс — катарсіс. Замест высокіх катарсічных пачуццяў, звязаных у класічнай трагедыі з нейкімі найважнымі, анталагічнымі вартасцямі, цэлае пакаленне сутыкнулася з вопытам балючага падману, гвалту і начальніцкага цынізму за спінамі салдат падчас вайны. Таму савецкі юнак або сумленны афіцэр у Афганістане — двойчы ахвяра ў параўнанні з афганцам, які ваюе на сваёй зямлі: зацята, бясконца. Якраз афганскае татальнае партызанства падкрэслена ў апавяданні «Груз «200». *«Гэта вайна непадобная на класічныя, па якіх вучыліся і вучацца сёння камандзіры, хутчэй партызанская. Яе метады, якія добра «абкаталі» за доўгія гады маджахеды, не толькі спецыфічна ўсходнія, афганскія. Яны не грэбуюць і вопытам іншых, у тым ліку і беларусаў: выпіскі з мемуараў партызанскіх камандзіраў знаходзілі ў сумках палявых камандзіраў афганскай апазіцыі. Мы шчодра дзелімся вопытам…»* — саркастычна зазначае апавядальнік.

У творах Сяргея Дубовіка «Груз «200», «Інтэрнацыянальнае» выхаванне», іншых вельмі ўражліва расказана менавіта пра такіх ахвяр, як Слаўка Макуцэвіч, хлопцаў з савецкага войска, якія гінуць нават не ў часе баявых дзеянняў, а пасярод самых што ні на ёсць будняў, у стасунках паміж сваімі.

У апавяданні, якое так і называецца — «Груз «200», С. Дубовік расказвае пра тое, як яго герой суправаджае труну з целам забітага хлопца да бацькоў, на Украіну, у сяло пад Кіевам. Гэта, здавалася б, самы «заіграны» сюжэт з магчымых на «афганскую» тэму. Аднак аўтабіяграфізм, непрыдуманасць аўтарскага досведу адразу ж ламаюць інерцыю чытацкіх чаканняў, і мы паглыбляемся ў тое найважнейшае, што не павінна згубіцца, знікнуць у нябыце разам з сыходам пакалення, якое было пахавана ў цынкавых трунах. Паступова, праз ашчадныя дэталі, галоўная ідэя пачынае гучаць з вялікай сілай, уздымае хвалю вострых эмоцый — па кантрасце з лаканізмам фактаграфічных, нібы справаздачных згадак пра саму камандзіроўку ў *«Чорным цюльпане»*[1].

---

[1] *«Чорны цюльпан»* — гэта і *адзіны самалёт да Кабула, які лётае па крузе, збіраючы «цынкі»* (скрынкі-труны) па гарнізонах; гэта яшчэ і *дашчаны модуль на ўскраіне медсанбата* з ямай у земляной падлозе, бо пяском дасыпаюць *«цынкі»* для вагі *«ці калі наогул няма чаго класці»* (с. 61).

Гэтае найважнейшае — думка пра фарысейства. Як вядома, сярод праведнікаў з часоў Хрыста знаходзіліся тыя найправеднейшыя, якія лічылі, што лепш за ўсіх на свеце ведаюць ісціну. Гэта — фарысеі. Такія заўсёды лічаць, што маюць права павучаць, муштраваць і змушаць усіх астатніх да фанатычнага служэння сваім уласным догмам. «Фарысей шчыры адносна літары закона і хлусіць адносна яго духу; фальшывіць перад сваім сумленнем і гвалціць сумленне іншых»[1]. Таму святасць фарысея крывадушная, і за ёю хаваюцца хцівасць, славалюбства, дэспатызм. Гвалт новых дзяржаўных фарысеяў, якія ўвязаліся ў афганскую вайну, мяняючы аднаго свайго стаўленіка (Хафізулу Аміна) на другога (Бабрака Кармаля), і спраўдзіўся ў познесавецкія часы.

Чаму ж украінскі дваццацідвухгадовы юнак з апавядання С. Дубовіка «Груз «200», *«прыгожы, бялявы хлопец з залатымі лейтэнанцкімі пагонамі»* на фотаздымку, выпускнік ваеннага вучылішча, які служыў сваёй дзяржаве, як і яго дзедветэран (цяпер юнак — ужо абпаленае чорнае цела, «цынк» з ім — без шкельца, каб родныя не бачылі таго, што засталося замест твару), зрабіўся тым безыменным «грузам»? Таму што з самага пачатку афганскай кампаніі, са снежня 1979 г. інфармацыя пра яе засакрэчвалася, фільтравалася. Ажно да 1987 г. факт вайны СССР у Афганістане па-фарысейску шыфраваўся пад біркамі «абмежаваны кантынгент», размаітая «дапамога па просьбе афганскіх таварышаў»… Прычым пачыналася з ваенспецаў, а дзесяць гадоў ваяваць давялося цывільным прызыўнікам.

Сяргею Дубовіку, аднак, няма патрэбы з публіцыстычным пафасам называць гэтыя, некалі «сакрэтныя», факты. Яму дастаткова быць мастаком і намаляваць жменьку дэталей, каб фактаграфію, якая хутка сыходзіць з парадку дня і сціраецца з людской памяці, захаваць у слове, ператварыць у яскравы, багаты на сэнсы адбітак сапраўднага жыцця. Напрыклад, расказаць, што на «грузе «200» прозвішчы нябожчыкаў напісаныя *толькі крэйдай*: для суправаджаючых, каб не згубілі сярод іншых грузаў і не пераблыталі, ведалі, дзе чый. Выгружаюць «*цынкі*» (слова з новага, сталага слэнгу) у «*ваенкаматаўскі «рафік» у канцы аэрадрома, далей ад людскіх вачэй»*, выязджаюць на вуліцу *«праз службовыя вароты»*, — і ўсё, што з імі адбываецца, робіцца нібы з «чорнага ходу», з-пад палы. І збіраюцца ж гэтыя «цынкі», нібы саромнае нешта, нібы нейкія непажаданыя выдаткі, па гарнізонах, *«каб пасля, па больш зручным маршруце, развезці родным — у Расію, Прыбалтыку, Беларусь, на Украіну…»* Хаваюць прывезенае з адказнымі суправаджаючымі на мясцовых могілках таксама ледзь не ноччу.

І ўвесь час — нібы абавязак ва ўсіх: ілгаць. Фармулёўка адна, стандартная: *«Загінуў пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку»*. Нібы прыкрая кругавая парука крывадушша. Чытач прыгадвае: гэта звыклая для былой дзяржавы прыкрасць, бо з тым жа фарысействам сутыкнуліся і ветэраны-калекі Вялікай Айчыннай, якія заканчвалі жыццё на Валааме, на Салаўках, і першыя ахвяры Чарнобыльскай аварыі. Нездарма фарысейства — грэх пракаветны, ярмо з цяжэйшых. Але герой-апавядальнік С. Дубовіка, шануючы пачуцці бацькоў забітага хлопца, расказаў ім выдуманую гісторыю пра геройскую гібель сына таму, што праўда для іх была б невыноснай.

А яна ў тым, што юнаку прыйшлося заплаціць жыццём за яўнае начальніцкае глупства і за тую злачынную побытавую завядзёнку, якая пастаянна і няўхільна з гэтага глупства вынікала. *«Маршал Усцінаў загадаў увесці ў абмежаваным кантынгенце «сухі» закон, дбаючы пра маральнае аблічча савецкіх салдатаў і афіцэраў. І ляцелі ў «Афган» набітыя гарэлкай верталёты і самалёты, боўталіся бутэлькі ў бочках наліўнікоў, закопваліся снарады і загружаліся ў скрынкі ад іх бутэлькі, каб пад такім камуфляжам правезці праз граніцу»* (с. 61). Канешне ж, лейтэнант, камандзір узвода на свой дзень нараджэння не мог купіць неабход-

[1] http://alkruglov.narod.ru/whatisfar.html-1 Александр Круглов (Абелев). Афоризмы, мысли, эссе.

нае спіртное ў ваенторгаўскай краме. Ён мусіў спачатку накупляць у той краме «*джынсаў, «батнікаў», сонцаахоўных акуляраў*» і ехаць туды, куды прапаршчыкі «*пратапталі дарогу для генеральскіх застолляў*»: мусіў абмяняць барахло «*ў пагранічнікаў на гарэлку*».

І здарылася непазбежнае. На дарозе лейтэнанта, які ехаў без суправаджэння ў «газіку», чакала засада. Ён «*паспеў выскачыць з кабіны, схавацца за колам, выпусціць некалькі чэргаў. Але аўтамат заклініла — трапіў пясок. Яго не застрэлілі. Падкраліся ззаду, стукнулі па галаве, падпалілі машыну. Агонь заўважылі пагранічнікі. Лейтэнанта знайшлі побач з дагараючай машынай, абгарэлага і страшнага…*»

Драматычны эпізод апісаны лаканічна, дынамічна, амаль намінатыўна. С. Дубовік пазбягае пафаснасці, меладраматызму. Але якраз гэта змушае чытача Дадумваць і абвастрае эмоцыі. Затым мы разумеем, што пафас усё роўна непазбежны: людскія пачуцці павінны мець выйсце. Жыццё непамысна адбіраць моўчкі.

Таму ўрэшце за міфічны «інтэрнацыяналізм» салдату пасмяротна дадуць «*ордэн Чырвонай Зоркі*» і адкрыюць «*стэнд у школьным музеі*». Яго магілу змогуць ушанаваць землякі. Апавядальнік зазначае, што, з болем і ўхвалой, згадваючы забітага лейтэнанта, не стаў гаварыць яго бацьку менавіта пра «інтэрнацыянальны абавязак»: «*…не ведаў, што казаць. Бо не ведаў, каму мы што павінны*»).

На першым выяўленчым плане ў апавяданні застаецца падзейны рад, а сярод эмоцый дамінуе жалобная прыкрасць: ад бязглуздасці таго, як змарнавана жыццё хлопца; ад бязглуздасці ўсёй афёры ваеннай (бо гэта менавіта афёра: з двайной бухгалтэрыяй, з падманам, з абдуранымі); ад таго, *як* хаваецца праўда; ад таго, што самому трэба хлусіць, браць ва ўсім удзел — гэта значыць, што мусяць «адмываць» усё самі ж ахвяры, выканаўцы гэтай бязглуздзіцы (начальства толькі п'е і стрыжэ купоны); ад мізэрнасці «кампенсацыі» хоць бы бацькам… Гэта ізноў жа — проза вайны, яе будні, яе банальнасці.

Дэвальвацыя каштоўнасцей на той вайне нярэдка прыводзіла да выпадкаў пераходу на бок праціўніка, да прыняцця ісламу. Пра падобнае чытаем у апавяданнях С. Дубовіка «Негры» і «Інтэрнацыянальнае» выхаванне». Яны вылучаюцца асабліва смелым і глыбокім раскрыццём цяжкай тэмы. Загалоўкі — амаль афарыстычныя, у іх выдатна адлюстравана ідэя бунту супраць гвалту з салдата, яго духу і цела.

Так, знакамітая дзедаўшчына ў савецкім войску ды здзеклівая муштра падначаленых даўно перасталі быць нейкім сакрэтам. У прозе былых «афганцаў» гэтая тэма загучала з новай абвостранасцю. Напрыклад, у Расіі з паказальных у гэтым сэнсе можна назваць многа каментаваны, уганараваны (быў у шорт-лістах «Рускага Букера», 1993 г.) раман «Знак звера» Алега Ермакова, пісьменніка родам са Смаленска (гады службы ў ДРА 1981—1983).

Той жа самай тэме прысвечаны і два названыя вышэй апавяданні беларуса С. Дубовіка.

«Негры» — гэта два хлопцы-навабранцы, якіх адправілі на чорную работу: у качагарку, «*абаграваць штабны модуль*». І з гэтага моманту «*салагі*», якія на вайсковы загад «*не пярэчылі, сабралі рэчмяхі і пайшлі ўслед за старшыной*», пачалі ператварацца ў нейкіх парыяў, чорных ад прыкарэлага вугальнага пылу рабоў, якім ні памыцца, ні паесці разам з усімі не выпадала, і ад вачэй заезджага начальства іх хавалі, каб не псаваць уражання аб парадках у часці. Калі ж, пасля ацяпляльнага сезона, настаў ім час вярнуцца з вугальнай ямы ў сваю казарму, то змяніць штосьці ў стаўленні да іх ужо аказалася немагчымым: яны мусілі прыслужваць, рабіць самыя брудныя работы, з імі стараліся без патрэбы не загаворваць, «*тым больш на вачах*»… Яшчэ і той самы старшына пачаў бэсціць іх за нязводны бруд публічна, перад строем.

Апавяданне напісанае як навела, нібы на адным дыханні; красамоўныя лаканічныя эпізоды вельмі хутка збіраюцца да крытычнай мяжы, і наступае парадаксальная кульмінацыя: *«Паціху ўсё супакоілася. Хлопцы не пярэчылі <...>»*. А затым — нечаканая, рэзкая развязка, якая імгненна мяняе ўсе акцэнты і зусім па новаму адкрывае расказаны сюжэт: «*Яны зніклі пасля абеду*». Канешне, іх зброі, аўтаматаў, таксама не аказалася на месцы. У фінале, пасля апісання пярэпалаху, паведамляецца: *«Хлопцаў так і не знайшлі. <...> людзі з афганскага царандоя чулі аб двух «шураві», што жылі ў мясцовай бандзе. Іх быццам бы збіраліся пераправіць у Пакістан. Што здарылася з хлопцамі далей, ніхто не ведае. Як не ведаюць, якіх «неграў» бачылі ў «духаў» — нашых або з іншай часці...»*

Гэтае апавяданне С. Дубовіка пра бесчалавечнасць, якую нармальнаму чалавеку немагчыма стрываць, уражвае не менш, чым вядомы пазнейшы фільм У. Хаціненкі «Мусульманін» (1995 г.) — па сваёй сутнасці сугучны твору беларускага аўтара.

Пра вайну як вялікі бардак найгучна сказаў у свой час Эрнест Хэмінгуэй, і гэтую фразу часта паўтараў В. Быкаў, зважаючы на тое, колькі салдацкай крыві льецца паміж сваімі: з-за таго, што бруд у людскіх адносінах, у грамадстве абавязкова пераносіцца на вайну з мірнага жыцця. Толькі ў экстрэмальных сітуацыях вайны ўсё імгненна ўзбуйняецца, робіцца відавочным: і бруд, і яго кошт, і тое, каму прыходзіцца плаціць жыццём па абсурдных рахунках.

Новую рэальнасць «афганскіх» часоў, новы ўнікальны досвед на гэтую, на жаль, не старэючую тэму мы адкрываем для сябе ў апавяданні С. Дубовіка «Інтэрнацыянальнае» выхаванне».

Яно пачынаецца са сцэны ваеннага трыбунала, які называецца *«спектаклем»*, бо судзяць за звыклую для ўсіх прысутных дзедаўшчыну сяржанта-інгуша Ісхакава. Ён кіраваў здзекамі з дзесяці навабранцаў інжынерна-дарожнай роты. Затым чытач пачынае сачыць-суперажываць, нібы сведка, за тымі драматычнымі падзеямі, якія прывялі да гібелі салдата, разумеючы ў самы драматычны момант разам з *«салагам»* Фядулавым, што «*няма нікога на белым свеце, хто б заступіўся, выратаваў*». Гэтага хлопца, Фядулава, дзеля здзеку аблітага бензінам, пад вокліч *«танцуй, папуас!»*, сяржант Ісхакаў, ухапіўшы за каўнер, падцягнуў да вогнішча і штурхнуў так, што той упаў і загарэўся. *«Ён не качаўся па зямлі, стараючыся збіць полымя, — крычаў дзікім, нечалавечым голасам. Пакуль выцягнулі з палаткі коўдру і накінулі на салдата, было позна. Ён ляжаў на зямлі, абхапіўшы чорнымі абгарэлымі рукамі абпаленую галаву»*. Але нават падобныя цяжкія сцэны, як падкрэслівае апавядальнік, не з’яўляюцца тым адзіным, пра што ён хацеў расказаць. Яго вярэдзіць спакойна-самаўпэўнены выгляд, абыякавыя паводзіны на судзе Ісхакава, верагодны лёс забойцы. Аказваецца, яго затрымалі выпадкова: «*Знайшоў афганскі царандой — нехта падказаў за грошы — у непрыкметным дукане на ўскрайку Файзабада. Арыштавалі ўзброенага з цэлым цынкам патронаў да аўтамата. Аднаго дня не хапіла, каб пераправіць са спадарожным караванам у Пакістан*». І калі б Ісхакаў усё ж паспеў перабегчы на другі бок мяжы, то, магчыма, апынуўся б на месцы таго персанажа, якога бачыць па тэлевізары апавядальнік у фінале твора: «*Па трапе самалёта, махаючы рукой і весела смеючыся, спускаецца яшчэ адзін вызвалены маджахедамі савецкі ваеннапалонны, аблашчаны роднымі і Радзімай»*. Вось з такім «інтэрнацыяналізмам» у рэальнасці сутыкнуліся салдаты ў Афганістане: абясцэньваюцца нацыянальна-этнічныя і дзяржаўныя межы, застаецца ў цане толькі подласць без мяжы; пакуль не «папаўся» — спрытны гвалтаўнік ходзіць у героях. Адно ахвярамі *«інтэрнацыянальнага» выхавання* застаюцца ўсё тыя ж маладыя хлопцы…

Здавалася б, перажываючы так шмат цяжкога, калі на тваіх вачах пастаянна раскашуе зло, можна ўвогуле страціць веру ў трываласць дабра. І ўсё ж беларускі вопыт сведчыць пра адваротнае. Беларусы, якіх падчас Другой сусветнай вайны выпальвалі цэлымі вёскамі, не толькі не страцілі сваёй добразычлівасці

да свету, да людзей. Мы, наадварот, навучыліся востра суперажываць чужому болю і вышэй за ўсё цаніць мір, гармонію вакол сябе, у душы і ў прыродзе. Падобнае беларускае светаадчуванне яскрава выяўлена ў апавяданні С. Дубовіка «Крывавыя цюльпаны». Яно крыху выбіваецца з «афганскай» падборкі тым, што ваенная тэма ў ім выглядае хутчэй фонавай, чым асноўнай, і лірычна-роздумная інтанацыя замяняе саркастычную і бескампрамісна-праўдзівую.

У «Крывавых цюльпанах» апавяданне арганізуецца апісаннямі афганскай прыроды. Салдаты ахоўваюць мінную паласу, пасты-зямлянкі паўз якую нязменна стаяць з 1979 года — з самага пачатку вайны. «*Габляваныя дошкі ад снарадных скрынак паспелі пачарнець, а насыпаная зверху зямля ўдзірванела*». Але кожную вясну «*шэрыя фарбы, бясконцыя вятры «афганцы» і бязлюддзе*» змяняюцца вясновым абуджэннем наваколля, кароткім і цудоўным цвіценнем чырвоных кветак. У такі час сюды «*напрасіўся*» паглядзець на прыгажосць радавы Мікола Пятрашка, які далучаецца да тутэйшых салдат-«старажылаў», армян Спартака і Рэваза, якія спачатку «*з недаверам паглядвалі на яго, аб нечым гаворачы на сваёй мове, а пасля звыкліся*».

Пэўная раўнавага і згода паміж героямі парушаецца падчас, здавалася б, зусім нязначнага здарэння. На міннае поле, ля якога яны нясуць службу, забег джэйран.

*«— Падарвецца, зараза, — зашаптаў Рэваз. — Не дастанеш пасля.*

*І ў тую ж хвіліну трэснуў выбух, быццам паламалася сухая палка.*

*— Усё, гатоў, — Спартак кінуўся па бінокль.*

*Па чарзе глядзелі, як намагалася падняцца на ногі бедная жывёліна».*

З гэтага моманту для чытача асабліва выразна пачынае гучаць у тэксце выразны кантрапункт: героі зусім па-рознаму ўспрымаюць рэчаіснасць. Для апавядальніка і Міколы Пятрашкі джэйран — «*бедная жывёліна*», для другіх персанажаў, да якіх яшчэ далучаецца зухаваты Ашот, — выключна свежына, мяса, якое дастаюць з міннага поля, рызыкуючы жыццём. Беларусу ж непамысна так рызыкаваць дзеля страўніка; адчуванне каштоўнасці жыцця ў Міколы не прытупляецца. У яго не знікае не толькі спачуванне да працяглай агоніі джэйрана, але застаецца ўвогуле абвостраная датклівасць да ўсяго наваколля: прагная патрэба глядзець на раскошу цюльпанаў, узірацца ў ранішнюю лінію гарызонту, падстаўляючы твар ветру, зняўшы з галавы панаму, пакуль яшчэ не пячэ сонца…

Джэйран на шурпу вынесены з міннага поля шчасліва, але Мікола не можа не запытацца ў зухаватага Ашота: *«А каб падарваўся?.. — Каб ды каб — мора было б, — засмяяўся Ашот і ўскочыў у кабіну машыны. — Заганяйце вярблюдаў на міны. Прыеду — выцягну, пакаштуем вярблюджаціны…»*

Ці добра гэта, што нікому нічога і нікога не шкада? Міколу ж *«робіцца страшна за тую далёкую прыгажосць»*: ніхто не думае пра міны, якія тут застануцца пасля вайны, і ніякіх карт гэтых мінных палёў, якія ён з таварышамі вартуе, няма. Значыць, думае Мікола, *«будуць падрывацца на ржавых мінах джэйраны, вярблюды, людзі»...*

Без дабра, дабрыні немагчыма жыць чалавеку. Беларусы гэта ведаюць. Адсюль — і пункт гледжання апавядальніка, і фарміраванне ацэначнасці, пагляду на персанажаў ва ўсіх апавяданнях Сяргея Дубовіка. Яго герой вяртаецца з вайны ў Афганістане са сваёй праўдай: з асуджэннем гвалту, абсурду, з цвярозай ацэнкай фарысейства. І яшчэ — з незабітай душой, сумленнем. Вайна застаецца найвялікшай трагедыяй: з крывёй і ахвярамі. Але колькасць чалавечых пакут падчас вайны наўпрост залежыць яшчэ і ад сумлення: субстанцыі ідэальнай, якая, тым не менш, вызначае самыя найматэрыяльныя рэчы. Вось пра што не стамляецца нагадваць беларуская проза XX і XXI стст.

Зоя МАТУСЕВІЧ

# ЛАБАРАТОРЫЯ РАСІЙСКАГА МЮЗІКЛА Ў БЕЛАРУСІ

З кожным годам Беларускі музычны тэатр пашырае сваё супрацоўніцтва і абмен гастролямі з рознымі расійскімі тэатрамі, але пакуль што сабрат па жанры ў яго адзін — Свярдлоўскі тэатр музкамедыі. Упершыню за сваю 82-гадовую гісторыю гэты калектыў прыехаў на гастролі ў Мінск у далёкім 1955 годзе, калі беларускага тэатра музкамедыі наогул не існавала. З таго часу ён назапасіў столькі творчых дасягненняў, што ў 1986 годзе першым у Саюзе сярод тэатраў свайго жанру атрымаў званне «Акадэмічны».

Наогул, за Свярдлоўскай музкамедыяй ужо даўно замацавалася рэпутацыя першай у многіх пачынаннях. Шмат хто з савецкіх кампазітараў аддаваў сюды на апрабацыю свае творы, якія потым разыходзіліся па тэатрах усёй краіны. І на многіх афішах прэм’ерных спектакляў, якія захоўваюцца ў музеі тэатра, указана, што права першай пастаноўкі належыць менавіта Свярдлоўскай музкамедыі. Так што абсалютна заслужана яе называлі лабараторыяй савецкай аперэты. Пазней у гэтым тэатры, таксама ўпершыню ў Саюзе, быў пастаўлены замежны мюзікл. А ў постсавецкі час ён зноў пачаў лічыцца лабараторыяй — але ўжо расійскага мюзікла.

Небывалы факт: з 1933 года, з часу заснавання тэатра, у яго было толькі тры галоўныя рэжысёры, і усе — знакавыя асобы ў сферы музычнага тэатра. Да 1961 года — народны артыст РСФСР Георгій Кугушаў, які сцвярджаў аперэту як жанр, здольны ўвасабляць як рамантычную, так і патрыятычную тэматыку; пад яго кіраўніцтвам свярдлоўскі тэатр стаў прапагандыстам савецкай музычнай камедыі. Пераемнікам Кугушава стаў народны артыст СССР Уладзімір Курачкін, які працягваў работу па стварэнні рэпертуару савецкай аперэты, а таксама стаў першапраходцам у жанры мюзікла. А з 1986 года і па сённяшні дзень галоўным рэжысёрам Свярдлоўскай музкамедыі з’яўляецца народны артыст РФ Кірыл Стрэжнеў, які, працягваючы развіваць багатыя традыцыі сваіх папярэднікаў, стварыў новы тэатр аўтарскай рэжысуры.

І вось у 2012 годзе гэты праслаўлены калектыў упершыню прыехаў да свайго беларускага сабрата па жанры, які таксама ўжо носіць званне акадэмічны. Гастролі тады працягваліся 20 дзён, і мінскі глядач пазнаёміўся з залатой калекцыяй спектакляў Свярдлоўскай музкамедыі, сярод якіх былі тры расійскія мюзіклы, удастоеныя самай прэстыжнай узнагароды — Нацыянальнай тэатральнай прэміі «Залатая маска», прытым у розных намінацыях.

А Беларускі музычны тэатр з гастролямі ў адказ змог паехаць у Екацярынбург у 2014 годзе, дзе на працягу 10 дзён паказваў свае лепшыя спектаклі і правёў заключны гала-канцэрт.

І вось сёлета ў верасні Свярдлоўская музкамедыя зноў прыехала да нас, і на гэты раз яе гастролі працягваліся 26 дзён. Трэба адзначыць, што гэты гастрольны праект праходзіў у рамках рэалізацыі Плана мерапрыемстваў па развіцці супрацоўніцтва паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Свярдлоўскай вобласці.

Госці з Урала прывезлі дзесяць лепшых спектакляў розных жанраў, якія адзначаны тэатральнай прэміяй «Залатая маска», а таксама прэміямі іншых

тэатральных фестываляў і конкурсаў. І пяць з і — эксклюзіўныя пастаноўкі, аналагаў якім няма на сцэнах тэатральнай Расіі. Што яшчэ цікава, чатыры спектаклі з дзесяці тэатр прывёз у Мінск у другі раз — настолькі яны спадабаліся публіцы ў час мінулых гастроляў.

Гастрольная афіша была сфарміравана такім чынам, што кожны спектакль паказваўся па некалькі разоў, а дзіцячы мюзікл «Котка» Уладзіміра Баскіна — аж пяць разоў. Пра гэту незвычайную пастаноўку, створаную паводле вядомай казкі Кіплінга «Котка, якая гуляла сама па сабе», трэба сказаць некалькі слоў асобна. Справа ў тым, што ў спектаклі павінен быць заняты жывы коцік, а паколькі запланавана пяць паказаў мюзікла, то вырашылі знайсці пяць хвастатых артыстаў. Таму яшчэ задоўга да пачатку гастроляў у Мінск прыехалі прадстаўнікі Свярдлоўскай музкамедыі, якія правялі сапраўдны кашэчы кастынг, выбраўшы з вялікай колькасці прэтэндэнтаў пяцярых найбольш крэатыўных. А ганарар за выступленне коцікаў атрымалі іх гаспадары, якім быў уручаны сертыфікат на прагляд усіх гастрольных спектакляў.

У Мінск прыехаў поўны склад акцёрскай трупы, хор, балет, аркестр тэатра. Але гэта яшчэ не ўсе ўдзельнікі гастроляў. Справа ў тым, што Свярдлоўская музкамедыя не проста тэатр, а холдынг, у які ўваходзяць асобныя творчыя калектывы: інструментальны ансамбль «Изумруд», эксцэнтрык-балет Сяргея Смірнова, вакальная група «NON SOLO» і Дзіцячая студыя. Усе названыя калектывы прымаюць удзел у спектаклях тэатра, а таксама ажыццяўляюць уласную творчую дзейнасць.

Першым быў прадстаўлены мюзікл «Кацярына Вялікая», напісаны кампазітарам Сяргеем Дрэзніным па п’есе Міхаіла Рошчына і Аляксандра Анно, які так высока ацанілі гледачы ў мінулы раз (паказальна, што білеты на яго былі раскуплены яшчэ вясной). Гэта першы эпічны рускі мюзікл, жанравую форму якога пастаноўшчыкі вызначылі як музычныя хронікі часоў імперыі. Ён з’яўляецца самым шырокамаштабным праектам за ўсю гісторыю тэатра, які працуе ў горадзе, названым у гонар імператрыцы. Больш таго, пасля прэм’еры «Кацярыны Вялікай» «Российская газета» пісала: «Аналогов спектаклю нет ни в практике, ни даже в теории современного музыкального театра».

Пастаноўку гэтага незвычайнага мюзікла ажыццявіла Ніна Чаусава — адзін з самых запатрабаваных рэжысёраў Масквы, а дырыжорам-пастаноўшчыкам з’яўляецца галоўны дырыжор тэатра Барыс Надэльман. У 2009 годзе спектакль атрымаў дзве «Залатыя маскі» — у намінацыях «Лепшая жаночая роля ў аперэце/мюзікле» і «Лепшая работа мастака па касцюмах у музычным тэатры». Лаўрэатамі гэтай прэстыжнай прэміі сталі салістка тэатра Марыя Вінянкова — выканаўца ролі прынцэсы Фіке (Кацярыны ў юныя гады) і мастак па касцюмах Павел Каплевіч (які таксама быў запрошаны з Масквы). Ім была распрацавана эксклюзіўная тэхналогія вырабу «прарошчанай тканіны», якая імітуе старадаўнія габелены і парчу. Цікава, што ацаніць яе незвычайную фактуру і прыгажосць можна толькі пры тэатральным асвятленні.

Гэты спектакль вельмі складаны па сваёй структуры і кампазіцыйнай будове. І час, і падзеі ў ім падаюцца шматпланава і не лінейна. А для ролі Кацярыны наогул выкарыстана паралельная структура вобразаў: яна прадстае перад гледачом у вобразе нямецкай прынцэсы Фіке — будучай жонкі Пятра III, і ў вобразе Вялікай імператрыцы. Паралельная структура вобразаў галоўнага персанажа параджае і паралельную сістэму сюжэта, калі падзеі і факты падаюцца не лінейна, а асобнымі карцінамі, якія ў цэлым нагадваюць своеасаблівы калаж, больш уласцівы кіно, чым тэатру.

На сёлетніх гастролях, як і на мінулых, мінскі глядач убачыў у ролі Фіке Марыю Вінянкову. А ў ролі імператрыцы ў першы раз прадстала народная артыстка РФ Ніна Шамбер, а цяпер яшчэ адна выканаўца — Ірына Грыневіч. Як ні дзіўна, але вобраз Фіке раскрываецца ў спектаклі значна глыбей, чым вобраз

сталай Кацярыны-імператрыцы. Справа ў тым, што падзеі, звязаныя з юнай нямецкай прынцэсай, а затым — жонкай наследніка прастола, найбольш чалавечныя і найбольш кранальныя, а таму выклікаюць масу эмоцый і перажыванняў: першае знаёмства Фіке з заснежанай Расіяй і першае галавакружэнне, потым — незайздросны лёс нелюбімай жонкі і нешчаслівай маці, у якой аднімаюць яе першынца, праз пэўны час — пачатак любоўных прыгод і палацавы пераварот. А калі Кацярына ўжо становіцца імператрыцай, то ў віхуры дзяржаўных спраў і гістарычных падзей яе вобраз губляе чыста чалавечае напаўненне і набывае рысы манументальнасці.

У цэлым галоўных персанажаў у гэтым спектаклі аж 39: Пётр III, імператрыца Лізавета, граф Арлоў, князь Пацёмкін, Емяльян Пугачоў і іншыя вядомыя гістарычныя персоны… Прахадных роляў, таксама як і прахадных сцэн, тут няма, бо кожная з іх з'яўляецца адным з састаўных элементаў кампазіцыйнай будовы спектакля. А калектыўны партрэт імператарскага двара, арміі, народа ў масавых сцэнах ствараюць артысты хору і балета, дзякуючы чаму спектакль і набывае асаблівы размах і маштаб.

Наступны твор — мюзікл «Яма» паводле аповесці Аляксандра Купрына — напісаны таксама Сяргеем Дрэзнінам (дарэчы, кампазітар, які жыве ўжо доўгі час у Парыжы, прыязджаў у Мінск падчас і першых, і другіх гастроляў, так што мінскі глядач пазнаёміўся з ім непасрэдна). А паставіла гэты спектакль два гады таму тая ж самая пастановачная група, якая ажыццявіла пастаноўку «Кацярыны Вялікай».

Зразумела, што вострасацыяльная накіраванасць аповесці «Яма» з яе публіцыстычнай рэалістычнасцю, якая нярэдка гранічыць з натуралізмам, — тэма правакацыйная і складаная, тым больш для музычнага тэатра. У свой час Купрын, імкнучыся да гуманістычнага эфекту гэтага твора, атрымаў зусім процілеглы — яго рэзка крытыкавалі за дэманстрацыю «споднягa». Пісьменнік гэта прадбачыў, таму і звяртаўся да чытача са своеасаблівым эпіграфам-прадмовай: «Знаю, что многие найдут эту повесть безнравственной и неприличной, тем не менее, от всего сердца посвящаю её матерям и юношеству». Можна з упэўненасцю сказаць, што і тэатр ствараў гэты спектакль менавіта як папярэджанне і перасцярогу маладым ад непапраўнага кроку, бо падобныя сацыяльныя хваробы вельмі жывучыя і, змяняючы сваё аблічча, не мяняюць сваёй сутнасці.

І тут неабходна адзначыць, што пастаноўшчыкам удалося вельмі далікатна абысці ўсю рызыкоўнасць і пікантнасць гэтай тэматыкі: яна прысутнічае ў спектаклі як бы фармальна — проста стварае фон, на якім буйнымі мазкамі вымалёўваюцца лёсы насельніц дома на Ямской. Лібрэтыст Міхаіл Барцянёў не імкнуўся да літаральнага пераказу аповесці Купрына. Завязкі, кульмінацыі і развязкі сюжэта тут, па сутнасці, няма. Галоўнай гераіні няма таксама. Сцэнічнае дзеянне будуецца ў асноўным па прынцыпе панарамы, і зноў-такі — на нелінейным чаргаванні карцін з невялікіх навэл, якія ў сукупнасці раскрываюць характары і абставіны жыцця чатырох самых розных дзяўчын, аб'яднаных адным лёсам. На шляху кожнай з гераінь узнікае лёсавызначальны момант, і кожная з іх свядома ці падсвядома робіць свой выбар. Але ў выніку ўсе гэтыя гісторыі заканчваюцца трагічна — выбрацца з ямы не дадзена нікому.

Усе чатыры выканаўцы гэтых роляў стварылі непаўторныя характарныя вобразы, і галоўнае — паказалі, як кожная з іх гераінь перажыла сапраўднае, але трагічнае каханне.

Так, Соня ў выкананні Вольгі Балашовай з самага пачатку прадстае чыстай і вельмі наіўнай у сваім шчырым каханні да камівояжора з дзіўным імем Гарызонт, які ў літаральным сэнсе прадае яе гаспадыні дома на Ямской, а яна нават не падазрае, куды ён яе прывёз.

А бясстрашная Тамара ў выкананні Марыі Вінянковай надзвычай самаадданая ў сваёй ахвярнай любві да Сенькі-злодзея. Вобраз гэтай гераіні атрымаўся



*Сцэна са спектакля «Яма».*

самым яркім і выразным за кошт найбольш эфектных сцэн з яе удзелам. Напрыклад, чаго варта вельмі экспрэсіўная сцэна ўцёкаў Тамары, калі яна ў чырвоным плашчы ўзбіраецца ўверх па высачэзнай і хісткай рашэцістай агароджы, і яе ўразлівы сілуэт, высветлены пражэктарам, выдзяляецца яркай плямай на фоне чорных сілуэтаў яе праследавацеляў. Тут артыстка вельмі выразнымі штрыхамі дэманструе і свой акцёрскі тэмперамент, і бліскучую акцёрскую тэхніку.

На долю моцнай характарам і бескампраміснай Жэні выпаў самы трагічны лёс. Выканаўца гэтай ролі Таццяна Макраусава паказала неадназначнасць натуры сваёй гераіні, і асабліва моцнай была шчымлівая сцэна яе развітання з маладзенькім кадэтам. Падчапіўшы ад аднаго са сваіх кліентаў «дурную» хваробу, Жэня пачала помсціць іншым, свядома заражаючы іх. А калі да яе зноў прыйшоў шчыры ў сваім юначым каханні кадэт, іх дыялог ужо нагадваў размову людзей, якія існуюць у розных вымярэннях: «Ты не баішся заразіцца, Коля?..» — ужо як бы аднекуль здалёк пытаецца яна. — «Не баюся — я ж хаджу толькі да цябе. А калі што, дык ты ж мне скажаш…» А яна сказала толькі адно: «Нацалуемся яшчэ…», ухіляючыся ад яго гарачых абдымкаў. А назаўтра павесілася.

І зусім процілеглай па сваёй сутнасці выглядае праставата-наіўная Люба ў выкананні Святланы Ечмянёвай. Студэнт Ліхонін, спачатку вельмі шчыры ў сваіх намерах, спрабуе выцягнуць яе з ямы і прыстроіць на якую-небудзь чэсную работу. Працэс «сацыяльнай адаптацыі» Любы ён пачынае з урокаў, бо тая толкам і чытаць не ўмее. І ўсё гэта адбываецца на кватэры Ліхоніна, у прысутнасці яго таварышаў, якія глядзяць на Любу па-ранейшаму — як на прадстаўніцу дома на Ямской. Паступова бедны студэнт выбіваецца з сіл, і Люба вяртаецца ў сваё былое асяроддзе — іншага шляху ў яе няма.

Нелінейны, амаль кліпавы прынцып пабудовы дзеяння адпаведным чынам адлюстроўваецца і ў характары музыкі гэтага твора. У адрозненне ад музычнай драматургіі «Кацярыны Вялікай» з яе жанравай вызначанасцю і эпічным размахам, у «Яме» нават цяжка прасачыць развіццё той ці іншай тэмы. У гэтым мюзікле кампазітар смела спалучае некалькі музычных пластоў, якія, у сваю чаргу, вызначаюцца жанравай і стылістычнай разнастайнасцю. Тут ёсць усё: і джаз, і сімфа-рок, і арыі амаль opернага маштабу, якія спалучаюцца з бытавым рамансам і нумарамі ў стылі кабарэ. І дзякуючы таму, што аўтар музыкі — выдатны стылізатар, увесь гэты музычны калейдаскоп успрымаецца арганічна.

І музычныя характарыстыкі асноўных гераінь мюзікла таксама розныя па жанры і стылі: шчымлівы раманс «Гранатавы бранзалет» Соні, якая так даверылася свайму спакусніку; пранікнутая журбою балада аб нешчаслівым каханні Любы; экспрэсіўна-дэманічная арыя помсты Жэні, выкананая ў лепшых традыцыях рок-оперы… А Тамары ў дадатак да музычнай даецца яшчэ і візуальная характарыстыка — відэасцэна рабавання натарыуса, выкананая ў стылі нямога кіно, што яскрава сведчаць аб яе смеласці і нават безразважнасці.

Мастак-пастаноўшчык Павел Каплевіч у гэтым спектаклі наогул шырока выкарыстоўвае відэаэфекты. Пры дапамозе відэапраекцыі вырашаны некаторыя элементы сцэнаграфіі, напрыклад, паказваецца фасад сумна вядомага дома, у вокнах якога рухаюцца сілуэты яго насельніц… Відэазастаўкі служаць таксама своеасаблівымі перабіўкамі паміж асобнымі сцэнамі спектакля.

Наступны арыгінальны праект, які ствараўся па заказе тэатра, знаходзіцца па-за рамкамі ўсіх жанравых традыцый і больш-менш звыклага фармату. Гэта reality-мюзікл «www.СИЛИКОНОВАЯ ДУРА.net», напісаны кампазітарам Аляксандрам Пантыкіным і паэтам Канстанцінам Рубінскім. У 2008 годзе ён быў таксама ўдастоены «Залатой маскі» па дзвюх намінацыях: «Лепшая работа рэжысёра ў аперэце/мюзікле» і «Лепшая работа дырыжора ў аперэце/мюзікле»; лаўрэатамі гэтай прэміі адпаведна сталі галоўны рэжысёр тэатра Кірыл Стрэжнеў і галоўны дырыжор Барыс Нодэльман — пастаноўшчыкі спектакля.

Па змесце гэта драматычны спектакль, а па форме — музычны. Яго сюжэт заснаваны на вострых, поўных драматызму калізіях з жыцця сённяшніх выпускнікоў школы, іх настаўнікаў і бацькоў. Зразумела, у першую чаргу спектакль адрасаваны маладзёжнай аўдыторыі, але вельмі пажадана, каб яго паглядзелі і дарослыя, у прыватнасці — педагогі.

Наконт назвы спектакля: магчымыя асацыяцыі с касметычнай хірургіяй трэба адразу адкінуць, тут слова «сілікон» становіцца абазначэннем камп’ютарных тэхналогій, а ў больш шырокім сэнсе — віртуальнай рэальнасці. А «силиконовой дурой» аднакласнікі называюць выдатніцу Нору (Юлія Дзякіна), якая замест рэальных маладзёжных тусовак захапілася віртуальнымі сустрэчамі ў чаце. Кожны вечар яна выходзіць на сувязь з таямнічым незнаёмцам, які ведае пра яе ўсё, а яна пра яго — нічога… акрамя таго, што ён яе любіць. Гэта Нора адчула душой і сэрцам, і сама праніклася цёплым пачуццём да... невядома каго. Хто ён? Які ён? Можа, 40-гадовы дзядзька?.. Дзяўчынка просіць свайго таямнічага незнаёмца адкрыцца, і ён абяцае: ужо хутка…

Хіба магло Норы прыйсці ў галаву, што кожны вечар яе чакае ў чаце аднакласнік Міця (Мікіта Тураў) — сціплы акулярык і такі ж выдатнік, як і яна сама. Ён жыве ў доме насупраць і неадрыўна сочыць за яе акном. І глядзіць на яе ў час іх віртуальных размоў. А вось сказаць ёй хоць слова пры сустрэчы ў школе ніяк не адважыцца, адкладвае гэта да выпускнога вечара.

Міцю перыядычна наведвае яго бацька (Мікалай Капленка), які ўжо даўно не жыве з сям’ёй, але лічыць сваім абавязкам навучыць сына, як трэба паводзіць сябе з процілеглым полам. Адным разам прыносіць яму дыск, на якім запісаны ўсе тэлефонныя нумары гараджан, і тлумачыць, для чаго гэта можа спатрэбіцца. Другі раз спявае песню (у сваім узросце не развітваецца з гітарай), якой можна пакарыць усіх дзяўчат… І Міця засвоіў бацькаву навуку: песня пра дрэвы, якія да цябе «всегда лицом и никогда спиной», стала своеасаблівым гімнам яго юначага кахання. Гэта мелодыя стала і самым запамінальным лейтматывам мюзікла — яна як бы аб’ядноўвае трох названых персанажаў і прыводзіць іх да драматычнай развязкі.

Стваральнікі спектакля не імкнуліся да глыбокага раскрыцця вобраза бацькі, ён хутчэй паказаны як фігура знакавая (таму і безыменная). Гэта тыповы «папік», які западае на малалетак. Пры дапамозе тэлефоннага даведніка метадам тыку ён пачынае размову з Норай, якая чуе знакавыя для сябе словы з песні аб дрэвах… На крылах кахання яна ляціць на доўгачаканую сустрэчу, і яе зусім не бянтэжыць салідны ўзрост загадкавага незнаёмца — яна ж у думках дапускала такое. Гэта калізія з’яўляецца галоўнай у сюжэтнай лініі «бацькі і дзеці».

Але ў спектаклі ёсць і другая, нават больш разгорнутая сюжэтная лінія — «настаўнікі і вучні». Па-першае, паказваецца калектыўны партрэт настаўніцтва з яго міжасобасным супрацьстаяннем, з аднаго боку, і ўгодлівасцю да высокага начальства, з другога. А па-другое, і што самае галоўнае, закранаецца менавіта педагагічны аспект прафесіяналізму настаўнікаў. Для многіх з іх асоба старшаклас-



*Нора (Юлія Дзякіна).*
*«www.СИЛИКОНОВАЯ ДУРА.net»*

ніка, яго ўнутраны свет — нават не тайна за сямю пячаткамі, а тое, што іх не цікавіць наогул. Крытэрый ацэнкі школьнікаў грунтуецца на самым простым і распаўсюджаным падыходзе: адпавядаюць ці не адпавядаюць чаканням настаўнікаў паводзіны і словы вучняў. Вось гэтым і карыстаюцца найбольш пранырлівыя з іх: гавары тое, што ад цябе хочуць пачуць, і ўсё будзе ОК!

Самым таленавітым у майстэрстве паставіць усё з ног на галаву і пры гэтым выглядаць вельмі шчырым і непасрэдным з'яўляецца Лёша-Дурэмар (Аляксей Літвіненка). Для яго ўжо даўно стала звыклым «забіць касяк» ды яшчэ ўцягнуць у такі занятак іншых, зарабляючы на гэтым. А здзелка коштам у тысячу зялёных далася яму яшчэ лягчэй: трэба было толькі перастаць бегаць за Норай, бо на яе паклаў вока Мажор (Аляксандр Мязюха) — вучань з паралельнага класа, сынок мясцовага алігарха. І ў ананімным псіхалагічным тэсціраванні, якое праводзілася ў школе па загадзе чыноўніка з міністэрства (Павел Дралаў), Дурэмар з цынізмам расказаў пра ўсё, чым займаецца па-за сценамі школы. Прычым з рук класнай (Ірына Грыневіч) анкеты для так званага ананімнага тэсціравання атрымалі толькі Лёша-Дурэмар і Міця. Хто ж з іх не пабаяўся расказаць праўду? Класная палічыла за лепшае выклікаць на шчырую размову Лёшу: ён хоць і дрэнна вучыцца, але ж усё так правільна разумее!.. Ну і пачула ад яго тое, то хацела пачуць. І вось настаўніца ставіць кляймо на лепшага вучня школы: Міця такі замкнёны і бледны з выгляду таму, што наркаман!.. І гэту «навіну» настаўніца паведамляе яго маці (Святлана Качанава). Падобная гісторыя выйшла і з дзяўчынкамі гэтага класа. Іра (Кацярына Курапатка), якая вучыцца горш за ўсіх, расказала ў анкеце ўсё, што ведаюць пра яе аднакласнікі, але не ведаюць настаўнікі: і пра сваю работу ў стрыпбары, і нават… пра крэатыўныя процізачаткавыя сродкі. Але ж педагогі вырашылі, што такія эратычныя фантазіі могут быць толькі ў надзвычай сціплай Норы, якая ні з кім не сустракаецца…

І не лёс выпускнікоў хвалюе настаўнікаў, а асабліва дырэктара школы (Уладзімір Смолін), якому паўгода да пенсіі, а іх асабістая рэпутацыя. І чыноўніка з міністэрства гэта таксама хвалюе. Таму крамольныя анкеты ён замяняе на загадзя падрыхтаваныя, якія задаволяць усіх.

Інтрыга раскрыецца на выпускным вечары. Бацька Міці прыйдзе павіншаваць свайго сына. І будзе спяваць пад гітару… А Нора з усёй нястрымнасцю пачуццяў і ўпэўненасцю, што ён прыйшоў менавіта да яе, кінецца яму на шыю!.. Але папік будзе стаяць як укапаны, не вымавіўшы ні слова. Усё гэта будзе адбывацца на вачах у Міці, і настаўнікі скажуць, што ў яго пачалася ломка… І калі нарэшце раскрыецца падмена і Нора, не ведаючы, куды дзецца ад жахлівай праўды, акажацца на валасок ад гібелі, Міця паспее яе падхапіць і ўратаваць ад апошняга кроку.

Пры ўсёй вастрыні праблем, якія закранаюцца ў спектаклі, яго ўсё ж можна назваць рамантычным. Тут ёсць і сентыменталізм, і меладраматызм, і кранальная лірыка — асабліва ў сцэнах віртуальных размоў у чаце. Усё гэта перадаецца і сродкамі музычнай драматургіі, напрыклад, мелодыя першага «інтэрнэтнага»

дуэта Норы і Міці ціха ўзнікае ў фінале, калі яны з узарванымі душамі ўсё ж цягнуцца адзін да аднаго. Пасля ўсяго, што адбылося, яны ўжо не будуць ранейшымі, і невядома, як складзецца іх лёс. Але стваральнікі спектакля ўсё ж не пакідаюць сваіх герояў без надзеі…

Спектакль-рэвю «Парк савецкага перыяду» (які так спадабаўся мінскаму гледачу ў мінулы раз) таксама адносіцца да ліку тых, якія ствараліся непасрэдна ў тэатры. У ім няма ні аўтара музыкі, ні аўтара лібрэта, і ён больш нагадвае тэатралізаваны канцэрт, створаны па матывах савецкіх аперэт з выкарыстаннем песенных хітоў вядомых савецкіх кампазітараў. Галоўны рэжысёр тэатра Кірыл Стрэжнеў, якому належыць ідэя гэтага спектакля і які з'яўляецца яго пастаноўшчыкам, запрасіў да супрацоўніцтва сцэнарыстаў Аляксея Удовіна і Яўгена Касімава, якія і аб'ядналі асобныя музычныя нумары і прыдуманыя імі невялікія размоўныя сцэны ў скразное дзеянне. У выніку атрымалася рамантычная прагулка ў часе пад незабыўную музыку вядомых кампазітараў, у якой расказваецца аб гісторыі нашай некалі агульнай краіны (дырыжор-пастаноўшчык Уладзімір Вішнеўскі).

Парк — гэта сімвал усёй краіны, на танцавальнай пляцоўцы якога адбываюцца падзеі чатырох даваенных і чатырох пасляваенных дзесяцігоддзяў. І будуецца дзеянне на характэрных знаках і музычных сімвалах кожнага з гэтых перыядаў. У нейкім сэнсе гэта тэатральная версія «старых песень пра галоўнае».

Асаблівае месца ў спектаклі адводзіцца парку пачатку 1940-х гадоў, калі музыка становіцца трывожнай і на сцэне з'яўляюцца прыкметы і знакі пачатку вайны. Невялічкія, але пранізлівыя размоўныя эпізоды, якія паказваюць расставанне сямейных пар і маладых закаханых, калі ўсе абяцаюць пісаць пісьмы з фронту і вярнуцца з вайны жывымі…

У якасці дакументальнай ілюстрацыі да гэтай пастаноўкі аўтары сцэнарыя выкарысталі рэальныя тэксты пісьмаў з фронту. І можна толькі ўявіць пачуццё артыстаў, якія ў час наведання нашага новага Музея Вялікай Айчыннай вайны ў адной з яго залаў убачылі фотаздымак і сапраўднае пісьмо байца, змест якога ім знаёмы, а таксама даведаліся, што ён не вярнуўся з фронту. А вечарам на сцэне нашага тэатра яны гралі «Парк савецкага перыяду», адчуваючы, які ўплыў на ход спектакля аказала іх дзённая экскурсія ў музей.

У гэтай пастаноўцы шмат персанажаў, але сярод іх няма галоўных і другарадных, усе яны — абагульненыя вобразы і героі свайго часу, якія выконваюць знакавыя песні таго ці іншага перыяду з гісторыі краіны. І заняты ў ёй як ветэраны сцэны, так і многія маладыя артысты, якія выконваюць творы, вядомыя ўсім пакаленням савецкіх людзей: І. Дунаеўскага, У. Салаўёва-Сядога, В. Мурадэлі, А. Новікава, Ю. Мілюціна, М. Багаслоўскага і іншых вядомых кампазітараў. Да таго ж усе сцэны спектакля аб'яднаны адпаведным пластычным малюнкам і харэаграфіяй на тэмы рэтра (балетмайстар-пастаноўшчык Сяргей Смірноў).

А ў фінале спектакля, калі гучаць папуры на тэмы савецкіх песенных шлягераў, адбываецца нешта незвычайнае: гледачы аб'ядноўваюцца з артыстамі ў адзіным эмацыянальным парыве, падхопліваючы знаёмыя мелодыі з песень М. Фрадкіна, А. Фельцмана, А. Бабаева, А. Эшпая, А. Бранявіцкага, А. Бабаджаняна, А. Астроўскага, Я. Радыгіна, Ю. Саульскага, Ц. Хрэннікава.

Даволі нечаканым па інтэрпрэтацыі ўсім вядомага рамантычнага сюжэта Аляксандра Грына аказаўся мюзікл Максіма Дунаеўскага «Пунсовыя ветразі» ў пастаноўцы Кірыла Стрэжнева і Барыса Надэльмана. Па сутнасці, лібрэтысты Міхаіл Барцянёў і Андрэй Усачоў прыдумалі зусім іншую, амаль брутальную гісторыю, у якой ад рамантычнай феерыі Грына застаўся толькі яе асноўны сімвал — пунсовыя ветразі. Засталіся і старыя героі, але да іх далучыліся новыя, з удзелам якіх разгортваюцца самыя нечаканыя, рэалістычна-абвостраныя калізіі, якіх ніколі не было ў філасофска-псіхалагічнай аповесці Грына. Карацей кажучы, стваральнікі спектакля спусцілі ўзнёслую Асоль з завоблачных высяў на грэшную зямлю.



*Сцэна са спектакля «Пунсовыя ветразі».*

З самага пачатку спектакля мы бачым не прыдуманую пісьменнікам паўфантастычную краіну з яе ціхім рыбацкім пасёлкам, напоўненым сонцам і лёгкім марскім брызам, а нейкую падкрэслена рэалістычную берагавую лінію з паламаным маяком, дзе цэнтральнае месца займаюць таверна Менерса і начная ўстанова «Маяк» на чале з гламурнай Мадам. Мора і неба ў гэтым месцы зліліся ў нейкую суцэльную змрочную стыхію, якая беззваротна можа паглынуць чалавека.

І ўжо ў першай карціне адбываецца забойства маці маленькай Асоль… Яе бацька, марак Лангрэн, канчаткова сышоў на бераг і пачаў майстраваць цацачныя караблікі, зарабляючы такім чынам на жыццё. Аднойчы бацька падарыў маленькай Асоль караблік з пунсовымі ветразямі, якія вырабіў з шаўковай стужкі, што засталася ад яе маці...

Ёсць у спектаклі і персанаж Эгль. Але гэта не грынаўскі «збіральнік песень, легенд, паданняў і казак», які прадказвае Асоль, што да яе прыплыве прынц на караблі з пунсовымі ветразямі, а нейкі таямнічы тып без пэўных заняткаў, словы якога нават цяжка зразумець. І невядома, пад уздзеяннем сваіх мар ці загадкавых слоў незнаёмца Асоль пачала апантана чакаць казачнага прынца, набыўшы рэпутацыю вар’яткі.

І зусім не рамантычны флёр ахутвае яе штодзённае існаванне, а суровая рэчаіснасць, дзе правілы гульні задаюць гаспадары і наведвальнікі вясёлых устаноў. І Асоль, спрабуючы выбіцца з нястачы, ідзе ў «Маяк», дзе пачынае развучваць «мясцовы рэпертуар», каб неяк зарабіць на жыццё. Але гэтага не можа дапусціць малады Хін Менерс, сын гаспадара таверны, які калісьці загубіў маці Асоль. Ён па-сапраўднаму кахае гэту вар’ятку і не можа дапусціць, каб яна спявала ў такой сумніўнай установе. Насуперак волі бацькоў Хін прапаноўвае Асоль стаць яго жонкай. І яна, ужо стаміўшыся чакаць свайго прынца, згаджаецца…

І вось настае кульмінацыйны момант: на бераг сышоў капітан шхуны Грэй, які апынуўся ў тым самым «Маяку», дзе і ўбачыў Асоль, а заадно і даведаўся, што яна так доўга чакала прынца, які прыплыве да яе на караблі пад пунсовымі ветразямі. З гэтага моманту ў спектаклі пачынае праяўляцца першапачатковая рамантычная сутнасць твора: Асоль імгненна пазнае ў асобе Грэя свайго прынца і нават не адмаўляецца ад жаніха — ён проста перастае для яе існаваць! А Грэй, не трацячы ні хвілінкі часу, прымае вынаходлівае рашэнне — замочвае ў бочцы чырвонага віна белую парусіну!..

Змрочны фон і змрочны настрой першай дзеі з яе драматычнымі калізіямі зусім адыходзяць, і спектакль набывае грынаўскую атмасферу — пры дапамозе відэапраекцыі паміж высокіх хваль сіняга мора ўдалечыні ўзнікае сілуэт карабля пад пунсовымі ветразямі, а перад гледачом паўстае сапраўдны рамантычны дуэт. Марыя Вінянкова і Ігар Ладзейшчыкаў ствараюць яркія вобразы сваіх персанажаў пераважна музычнымі сродкамі, дзе ўсёпераможным заключным акордам гучыць іх фінальны дуэт.

Неабходна таксама сказаць пра выканаўцу ролі маленькай Асоль — удзельніцу Дзіцячай студыі тэатра Насцю Памацілаву, якая зрабіла на гледача ўражанне і сваёй ігрой, і ўпэўненым вядзеннем вакальнай лініі. Хочацца адзначыць і маладога артыста Леаніда Забоева ў ролі Хіна, які прадстаў у спектаклі не прахадным персанажам, а сапраўдным драматычным героем.

Цікава выглядаюць у гэтай пастаноўцы сімвалічныя вобразы стыхій — Хвалі і Вятры, якіх вынаходліва ўвасобілі артысты Эксцэнтрык-балета Сяргея Смірнова. А калі гаварыць пра музыку гэтага твора ў цэлым, то ў ёй не адчуваецца развіцця асобных тэм, затое выразна гучаць многія музычныя нумары, асабліва — фінальны дуэт Асоль і Грэя, які ўжо стаў шлягерам.

На мінулых гастролях нашым гледачам вельмі спадабалася камедыя-фарс «Цётка Чарлі», якую тэатр прывёз і на гэты раз. Магчыма, тут не апошнюю ролю адыгралі асацыяцыі са знакамітым фільмам «Здравствуйте, я ваша тётя». І фільм, і спектакль заснаваны на бліскучай фарсавай п’есе англійскага драматурга Брэндана Томаса, якая была створана ў канцы XIX стагоддзя і набыла сусветную вядомасць. Але музыку да фільма напісаў кампазітар Уладзіслаў Казенін, а да спектакля — Аскар Фельцман. Лібрэта па знакамітай п’есе стварыў сатырык Уладзімір Палякоў, а вершы — Роберт Раждзественскі.

Няма патрэбы пераказваць усім вядомы сюжэт. Галоўнае ў гэтым спектаклі — не хітраспляценне яго перыпетый, а бліскучая ігра акцёраў, дзеля чаго гэтыя перыпетыі і прыдумваліся.

Рэжыжёр-пастаноўшчык спектакля Кірыл Стрэжнеў, дырыжор-пастаноўшчык Уладзімір Вішнеўскі. У адрозненне ад усіх іншых пастановак, у гэтай не задзейнічаны ні хор, ні балет — усё трымаецца выключна на акцёрах. Вельмі вялікае значэнне мае пластычны малюнак спектакля, які з’яўляецца надзвычай яркім выразным сродкам, асабліва ў дачыненні да галоўнага персанажа. Таму работу харэографа-пастаноўшчыка Ашота Назарэцяна варта падкрэсліць асобна.

У галоўнай ролі — студэнта Бабса і па сумяшчальніцтве Цёткі Чарлі — бліскуча выступіў Яўген Талстоў. Гэта, бясспрэчна, бенефісная роля, якая дазваляе ўбачыць увесь акцёрскі дыяпазон выканаўцы, што немагчыма было б зрабіць, прагледзеўшы некалькі спектакляў з яго ўдзелам. Выдатная харэаграфічная падрыхтоўка, высокая тэхнічнасць і своеасаблівы акцёрскі тэмперамент, памножаныя на абаянне і непасрэднасць, проста пакараюць гледачоў. А да ўсяго гэтага — выдатны густ і тонкае пачуццё меры.

Класічны блок гастрольнай афішы быў прадстаўлены двума спектаклямі, затое якімі! Па ўсім відаць, што ў Свярдлоўскай музкамедыі з класікі больш за ўсё любяць творы Імрэ Кальмана. Сёння ў рэпертуары тэатра шэсць класічных аперэт, чатыры з якіх — гэтага кампазітара. У мінулы раз у гастрольнай афішы гасцей было дзве аперэты, прычым абедзве — Кальмана: «Прынцэса цырка» і «Цыган-прэм’ер». На сёлетніх гастролях былі прадстаўлены таксама дзве апэрэты, і абедзве — гэтага ж аўтара: «Графіня Марыца» і «Герцагіня з Чыкага». Прычым першая з іх вылучаецца такімі асаблівасцямі, якіх няма ні ў адным тэатры Расіі і былога Саюза, а другая наогул вернута з небыцця, таму разгледзім іх больш падрабязна.

Вядома, что ў жанры аперэты музыка Кальмана не мае сабе роўных па своеасаблівай узнятасці і прыгажосці, адточанасці меладызму і аркестроўкі. Пры гэтым яна заўсёды пранізана венгерскімі матывамі. І «самай венгерскай» з яго аперэт лічыцца «Графіня Марыца», якую яшчэ часта называюць венгерскай рапсодыяй. У ёй так яскрава вылучаюцца сольныя і харавыя нумары, пранікнутыя нацыянальным каларытам, так прыцягваюць знаёмыя рытмы чардаша і так арганічна ўспрымаецца чаргаванне рознахарактарных музычных эпізодаў, заснаваных на народна-песенным матэрыяле…

У нашых тэатрах гэтая аперэта (як і ўсе іншыя) ідзе ў розных інтэпрэтацыях і з рознымі перакладамі лібрэта і часцей за ўсё называецца проста «Марыца».

Не раз яе ставілі і ў Свярдлоўскім тэатры музкамедыі. Але ж апошняя пастаноўка, якую госці з Урала сёлета прывезлі ў Мінск, тым і адметная, што з'яўляецца сучаснай рускай версіяй «Графіні Марыцы», пастаўленай у 2001 годзе ў Будапешцкім тэатры аперэты. Перанос гэтага спектакля на сцэну Свярдлоўскай музкамедыі ў 2005 годзе ажыццявіла пастановачная група з Будапешта: рэжысёр-пастаноўшчык Міклаш Габар Керэні і рэжысёр Андраш Ацэл, харэограф Енё Лёчэі, мастак-сцэнограф Агнеш Дзярмаці, мастак па святле Іштван Фоцман. Дырыжорам-пастаноўшчыкам з'яўляецца галоўны дырыжор тэатра Барыс Нодэльман.

Так што заўзятым прыхільнікам жанру прадаставіўся нечаканы шанц пачуць і ўбачыць сапраўдную венгерскую аперэту з партытурай Кальмана без купюр і арыгінальным лібрэта Юліуса Брамера і Альфрэда Грунвальда, якія супрацоўнічалі непасрэдна з кампазітарам.

Адметнасцю гэтай пастаноўкі з'яўляецца багацце венгерска-цыганскіх матываў з іх бліскучымі імправізацыямі. І што цікава — вядомыя з традыцыйнай «Марыцы» музычныя нумары часта ідуць не ў тым парадку, да якога мы прывыклі. Напрыклад, выхадная арыя Марыцы гучыць не з першым яе з'яўленнем на сцэне, а пасля некалькіх мізансцэн, калі ўсе пачуцці гераіні ўжо выказаны і замест слоў яна пачынае спяваць… Такім жа чынам у канву спектакля ўплятаецца і мноства танцавальных нумароў, якія ілюструюць і ўмацоўваюць сцэнічнае дзеянне, а не выглядаюць як дывертысмент.

Працуючы з пастаноўшчыкамі з Будапешта, артысты Свярдлоўскай музкамедыі на сваёй шкуры адчулі, якое вялікае месца ў сапраўднай венгерскай аперэце займаюць танцы і наколькі вялікае значэнне ў іх надаецца тэхніцы. І тут гаворка ідзе, зразумела, не пра артыстаў балета, якія выконваюць асобныя танцавальныя нумары, а пра салістаў-вакалістаў, і перш за ўсё — пра каскадную пару, якая павінна валодаць тэхнікай акрабатычнага танца (як ні дзіўна, але тут напрошваецца параўнанне з амерыканскім мюзіклам). Мяркуючы па тым, што мы ўбачылі, Анастасія Ермалаева ў ролі Лізы і яе партнёр Уладзімір Фамін у ролі Іштвана ў цэлым адпавядаюць нашым уяўленням пра каскадную пару, пры гэтым бачна, што ім сапраўды давялося шмат папрацаваць менавіта над танцамі, і ўсё ж… Наколькі апраўданы падыход да вакалістаў як да прафесійных танцоўшчыкаў, асабліва ў плане тэхнікі і тым больш акрабатычных трукаў, якіх патрабуюць такія танцы?.. Усё ж Свярдлоўская музкамедыя — не Будапешцкая аперэта, дзе артысты гэтага амплуа па сваёй тэхнічнасці блізкія да выканаўцаў брадвейскіх пастановак.

Наогул у гэтым спектаклі прадстаўлены ўсе аперэтачныя амплуа і персанажы ў асноўным тыя ж, што і ў знаёмай нам «Марыцы», але не ідэнтычныя. Напрыклад, тут няма такога камічнага персанажа, як барон Зупан, любімым заняткам якога з'яўляецца развядзенне свіней і які хоча зладзіць «вялікае свінства», паклаўшы вока на гаспадарку Марыцы. У нашых тэатрах такія героі ў лібрэта аперэт траплялі не выпадкова — у савецкія часы па ідэалагічных прычынах усіх баронаў і графаў трэба было прадстаўляць не інакш, як прыдуркаватымі прастачкамі.

У будапешцкай версіі аперэты ўсё выглядае не так спрошчана. Тут адзін артыст іграе двух персанажаў: высакароднага маладога барона Іштвана, які, каб разыграць Марыцу, прыкідваецца вельмі самаўпэўненым і напорыстым баронам Жупанам. І артыст Уладзімір Фамін проста бліскуча прадставіў гэтага як бы не існуючага вострахарактарнага персанажа.

Ну а галоўныя героі аперэты — багатая графіня Марыца і збяднелы граф Тасіла, які працуе ў яе маёнтку ўпраўляючым, — у сваіх галоўных рысах такія ж, якімі мы іх і ўяўляем. У гэтых ролях прадсталі Вольга Балашова і Дзмітрый Салаўёў, прадэманстраваўшы зладжаны дуэт і ў музычных нумарах, і ў размоўных сцэнах. І пры гэтым у іх вобразах і ў выканальніцкай манеры ўлаўліваецца ўсё ж больш венгерскага, нацыянальнага, чым у нашых традыцыйных пастаноўках.

У цэлым і сцэнаграфія, і касцюмы, і сама атмасфера спектакля ствараюць той непаўторны каларыт і настрой, якіх немагчыма было б дасягнуць пры іншай пастаноўцы спектакля.



*Сцэна са спектакля «Герцагіня з Чыкага».*

А аперэта «Герцагіня з Чыкага» — наогул рэч неардынарная, і можна сказаць, невядомая нават прыхільнікам жанру. І гэта не дзіўна — пасля сваёй прэм'еры ў Вене ў 1928 годзе яна не ставілася нават на Захадзе, не кажучы ўжо пра СССР.

Творы Кальмана вылучаюцца перш за ўсё непаўторным спалучэннем фальклору і рамантычнай драмы, венгерскага чардаша і венскага вальса. А ў «Герцагіні з Чыкага» кампазітар упершыню адышоў ад венгерска-венскіх рытмаў і інтанацый: у гэтым творы чардаш і вальс пацясніліся, уступіўшы месца факстроту і чарльстону. Таму «Герцагіню з Чыкага» і называюць самай амерыканскай з венскіх аперэт, бо яна стала яскравым сведчаннем прыхільнасці Кальмана да джазу (лічыцца, што ён быў проста зачараваны творчасцю Гершвіна).

І толькі ў самым канцы ХХ стагоддзя, праз 70 гадоў пасля прэм'еры ў Вене, гэта аперэта была пастаўлена ў Чыкага. А ў пачатку ХХІ стагоддзя яе паставілі нарэшце там, дзе яна нарадзілася, — у Вене, а потым і ў Санкт-Пецярбургу.

І, нарэшце, у 2012 годзе «Герцагіня з Чыкага» з'явілася ў сталіцы Урала. І што адметна, для работы над такім своеасаблівым спектаклем Свярдлоўская музкамедыя запрасіла пастановачную групу з ЗША: музычны кіраўнік Грэгары Апелка прыехаў у Екацярынбург з Чыкага (дзе ён меў непасрэднае дачыненне да пастаноўкі гэтай аперэты), рэжысёр Майкл Унгер — з Нью-Ёрка і харэограф Пацці Каломба — з Лос-Анджэлеса. Па заказе тэатра пераклад арыгінальнага лібрэта на рускую мову ажыццявіў драматург Аркадзь Застырэц.

Калі адштурхоўвацца ад нашых звыклых уяўленняў пра аперэты Кальмана, то гэты спектакль выглядае па меньшай меры дзіўным — і па музыцы, і па прынцыпе пастаноўкі. Але апошняе «дзіва» якраз заканамернае — яго ж ставілі амерыканцы! І калі ўлічваць, наколькі магутны пласт у амерыканскай культуры складае шоу, то тады не трэба здзіўляцца, што ў гэтай аперэце так шмат прыёмаў і элементаў ад гэтага яркага жанру. Таму «Герцагіню з Чыкага» больш дакладна было б назваць аперэтай-мюзіклам.

Тут няма ўласцівай для аперэт Кальмана шчымлівай меладраматычнай лініі, хоць фармальна яна і прысутнічае. І што самае важнае, галоўны канфлікт твора заснаваны не на сутыкненні прадстаўнікоў сацыяльных пластоў унутры аднаго грамадства, а на сутыкненні дзвюх культур, двух светапоглядаў — на супрацьпастаўленні каштоўнасцей Старога і Новага Свету.

Сюжэт твора даволі экзатычны: дачка чыкагскага мільярдэра Мэры прыязджае ў Еўропу і ў будапешцкім начным клубе «Grill Americain» сустракаецца з кронпрынцам аднаго з карлікавых каралеўстваў (за якім угадваецца асколак былой Аўстра-Венгрыі). Кронпрынц са сваёй світай у колькасці двух чалавек прыходзяць сюды інкогніта. Тут яны сутыкаюцца са славутым венгерскім музы-



*Сцэна са спектакля «Герцагіня з Чыкага».*

кантам, які замест скрыпкі трымае ў руках саксафон. Кронпрынц просіць яго забыць на хвіліну пра джаз і ўспомніць чардаш і вальс…

Але ж Мэры і яе асабісты сакратар Джымі яскрава дэманструюць амерыканскі напор — напачатку праз свае танцы. Больш таго, Мэры прапаноўвае кронпрынцу станцаваць разам з ёю чарльстон. І ўся інтрыга будуецца вакол танцаў, на проціпастаўленні чардаша і вальса, з аднаго боку, і факстрота з чарльстонам — з другога. А ў больш шырокім сэнсе — на супрацьпастаўленні дзвюх культур, двух светапоглядаў.

«Герцагіня з Чыкага» — самая танцавальная з аперэт Кальмана. І для нас яна нязвыклая і цікавая ў тым ліку і амерыканскімі танцамі, якія з'яўляюцца своеасаблівай рухаючай сілай спектакля: незвычайная харэаграфія, адточаная тэхніка, дынаміка і чыста амерыканскі драйв (не трэба забываць, хто іх ставіў). Няцяжка таксама здагадацца, хто выйграе гэту своеасаблівую дуэль, дзе сутыкнуліся не проста танцавальныя стыхіі, а ўзнёсласць і практычнасць. «Не практычнасць, — удакладняе кампаньён Мэры, — амерыканская хватка!»

А далей — болей. Мэры купляе замак кронпрынца — яго адзіную спадчынную маёмасць. А сама становіцца «сертыфікаванай герцагіняй», бо толькі маючы еўрапейскі тытул, яна зможа стаць жонкай кронпрынца. Вось і думай, што ў сістэме каштоўнасцей тут першаснае, а што другаснае: капітал ці прыналежнасць да саслоўнай вярхушкі.

Як і ў класічнай аперэце, у гэтым спектаклі разыгрываецца любоўная лінія рамантычнай пары і любоўная лінія камічнай пары (але гэта далёка не Сільва з Эдвіным і не Стасі з Боні). Рамантычнай парай тут з'яўляюцца кронпрынц і Мэры — персанажы заведама несумяшчальныя. І калі кронпрынц у выкананні Яўгена Ялпашава — сапраўдны аперэтачны герой, стрыманы і высакародны, то Мэры ў выкананні Людмілы Лакайчук — сапраўдная мюзіклавая гераіня, яркая, тэмпераментная і крэатыўная.

А ў камічнай пары вобразы настолькі арыгінальныя і самадастатковыя, што нясуць значную долю драматургічнай нагрузкі не толькі ў дуэце, але і кожны паасобку. Гэта — шапялявая прынцэса суседняга каралеўства, якая ўжо даўно заручана з кронпрынцам, і Джымі — сакратар Мэры. Выканаўцы гэтых роляў Таццяна Макраусава і Ігар Ладзейшчыкаў, як кажуць, адзін аднаго варты — абодва

энергічныя, раскаваныя і вельмі непасрэдныя, таму іх дуэт зусім не здаецца несумяшчальным. Пад уздзеяннем магнетычнай абаяльнасці Джымі прынцэса вельмі хутка пераймае амерыканскія манеры, а пры дапамозе амерыканскіх медыцынскіх тэхналогій пазбаўляецца ад шапялявасці і атрымлівае асляпляльную галівудскую ўсмешку.

У гэтай аперэце наогул вельмі шмат ад галівудскага гламуру: ад шыку і рафінаванай вытанчанасці касцюмаў, прычосак, макіяжу амерыканскага кіно 30-х гадоў мінулага стагоддзя — таго часу, калі жанчыны ў модных фасонах сваіх убораў пачалі адкрываць ногі. Касцюмы і сцэнаграфію ў стылі мадэрн да спектакля прыдумаў вядомы піцерскі мастак Вячаслаў Окунеў, які паспяхова супрацоўнічае з многімі замежнымі тэатрамі, у тым ліку і з беларускімі.

І нарэшце, падарунак для аматараў сапраўднага амерыканскага мюзікла — «Скрыпач на даху» Джэры Бока. Адразу трэба адзначыць, што гэта — ліцэнзійная пастаноўка, якая ажыццёўлена па спецыяльным пагадненні з агенцтвам *Music Theatre International (MTI)*, што прадстаўляе праваўладальнікаў і знаходзіцца ў Нью-Ёрку. Тэатр атрымаў ліцэнзію на выкарыстанне арыгінальнай партытуры Джэры Бока і арыгінальнага лібрэта Джозефа Стайна. А гэта азначае, што нельга не толькі рабіць ніякіх купюр, а нават нельга змяніць ні адной ноты і ні аднаго слова. Таму пераклад лібрэта на рускую мову ўзгадняўся з праваўладальнікамі.

Ажыццявіць гэты праект у многім удалося дзякуючы таму, што ў 2011 годзе Свярдлоўскі тэатр музычнай камедыі (адзіны ад Расіі) стаў членам амерыканскага Нацыянальнага альянсу музычных тэатраў. А паставілі спектакль у наступным, 2012 годзе. Такім чынам, гэта першая ў Расіі ліцэнзійная пастаноўка славутага амерыканскага мюзікла, прэм’ера якога адбылася ў 1964 годзе на Брадвеі.

І усё ж умовы ліцэнзіі дазвалялі зрабіць не кальку брадвейскага спектакля, а прымяніць сваё пастановачнае рашэнне. Да звыклага тандэма пастаноўшчыкаў Стрэжнеў—Нодэльман далучыўся яшчэ адзін лаўрэат прэміі «Залатая маска» — славуты піцерскі харэограф Галі Абайдулаў.

Асаблівая цікавасць мінскіх гледачоў да гэтай пастаноўкі заключалася яшчэ і ў тым, што ў мінулым сезоне галоўны рэжысёр Беларускага музычнага тэатра Міхаіл Кавальчык выпусціў спектакль «Шолам алейхем! Мір вам, людзі!», які хоць і не з’яўляецца аналагам брадвейскага «Скрыпача на даху», але ў драматычных калізіях поўнасцю з ім супадае, таму што ў іх адна і тая ж літаратурная аснова (але не адно і тое ж лібрэта). Асноўнае адрозненне паміж гэтымі спектаклямі заключаецца ў тым, што мінская пастаноўка заснавана на арыгінальнай музыцы беларускага кампазітара Алега Хадоскі. Ён, зразумела, не мог абысці музыку Джэры Бока і не выкарыстаць асноўныя хіты з яго мюзікла, без якіх немагчыма ўявіць гэты твор[1].

Такім чынам, галоўнае адрозненне паміж гэтымі пастаноўкамі — у музыцы. І для аматараў жанру, прыхільнікаў менавіта амерыканскага мюзікла, спектакль Свярдлоўскай музкамедыі стаў сапраўдным падарункам — яны пачулі арыгінальную музыку Джэры Бока. У прынцыпе, яна не складаная. Музычная драматургія твора будуецца на некалькіх сумна-пявучых мелодыях, а асноўная лейтінтанацыя задаецца адзінокай, журботнай мелодыяй скрыпкі, якую мы чуем і ў мінскай пастаноўцы. І ў адным, і ў другім спектаклі ў кульмінацыйныя моманты з’яўляецца скрыпач са сваёй адзінокай мелодыяй. Але ў пастаноўцы Стрэжнева ён заўсёды знаходзіцца дзесьці высока, «на даху», адкуль яго выхоплівае прамень пражэктара, а ў пастаноўцы Кавальчыка падобны эфект выкарыстоўваецца толькі ў пачатку спектакля, а пасля ў патрэбныя моманты скрыпач выходзіць на авансцэну ці наогул далучаецца да сцэнічнага дзеяння. І таму можна сказаць, што ў Стрэжнева гэты вобраз больш сімвалічны, а ў Кавальчыка больш функцыянальны.

---

[1] Рэцэнзія на спектакль «Шолам алейхем! Мір вам, людзі!» змешчана № 2, 2015 г.



*Тэўе (Анатоль Бродскі) у «Скрыпачы на даху».*

Наогул, усе хітовыя нумары у абодвух спектаклях пабудаваны па адным і тым жа прынцыпе: уступная песня Тэўе, знакаміты пранікнёны дуэт «Ты мяне любіш?», знакавыя ансамблевыя і харавыя сцэны, уключаючы заключны харавы нумар развітання з мястэчкам. Але, зразумела, гучанне ў іх living рознае.

І яшчэ адно істотнае адрозненне: у спектаклі Свярдлоўскай музкамедыі галоўнай рухаючай сілай з'яўляецца музычная драматургія (як і ва ўсіх амерыканскіх мюзіклах), а ў спектаклі Беларускага музычнага тэатра — драматургія п'есы. Міхаіл Кавальчык узяў за аснову свайго спектакля не лібрэта Джозефа Стайна да «Скрыпача на даху», а паўнавартасную п'есу Рыгора Горына «Памінальная малітва», створаную для драматычнага тэатра. (Як вядома, у аснове і лібрэта, і п'есы ляжыць адзін і той жа твор — знакаміты «Тэўе-малочнік» Шолам-Алейхема).

Дзеючыя асобы ў абодвух спектаклях, у прынцыпе, адны і тыя ж (аб невялікіх разыходжаннях будзе сказана ніжэй). Адрозненні заключаюцца ў глыбіні распрацоўкі іх характараў. Так, у пастаноўцы Кірыла Стрэжнева галоўны герой, па сутнасці, адзін — Тэўе-малочнік. А ўсе астатнія як бы ствараюць фон, на якім ён дзейнічае, і служаць для раскрыцця яго чалавечай сутнасці. Нават вобраз Голды — жонкі Тэўе — не паказаны так паўнакроўна, як у спектаклі Міхаіла Кавальчыка. У прыватнасці, у «Скрыпачы на даху» няма (ды і не магло быць) глыбока драматычнай сцэны, калі Голда, паміраючы, на адлегласці дапамагае дачцэ пры родах, уклаўшы ў свой энергетычны пасыл апошнія жыццёвыя сілы. Пры гэтай сцэне гледачы проста не могуць стрымаць слёз, і падобных псіхалагічна і эмацыянальна насычаных момантаў у пастаноўцы Кавальчыка нямала. Не такімі ярка характарнымі атрымаліся ў Стрэжнева таксама вобразы свацці Енты і ўрадніка, а такога персанажа як Менахем — гратэскава-завостранага і па-сапраўднаму смешнага — у яго пастаноўцы наогул няма.

У спектаклі Свярдлоўскай музкамедыі ёсць іншае, што ўласціва амерыканскаму мюзіклу наогул — адточанасць і бездакорнасць формы, якая ў пэўным сэнсе падпарадкоўвае сабе змест. Гэта выдатны ансамблевы спектакль, дзе ствараюцца абагульненыя, калектыўныя вобразы і дзе асобныя героі асабліва не вылучаюцца. І на гэтым фоне па-асабліваму знакавым выглядае вобраз Тэўе, у ролі якога прадстаў Анатоль Бродскі, прадэманстраваўшы незвычайную акцёрскую арганіку і сцэнічную культуру, і што самае галоўнае — тонкае адчуванне жанру.

Як і ўсялякі амерыканскі мюзікл, спектакль Свярдлоўскай музкамедыі вызначаецца своеасаблівым пластычным малюнкам, цесна звязаным з харэаграфічным, што змацоўвае яго сэнсавыя сімвалы і надае яму цэласную форму. Функцыю аднаго з такіх змацоўваючых элементаў выконвае вельмі своеасаблівы персанаж — жабрак Нохем (якога няма ў мінскай пастаноўцы).

Гэта хутчэй не роля, а пластычны вобраз, які ўзнікае ў кульмінацыйныя моманты жыцця Тэўе і ўсяго яўрэйскага мястэчка. Сваімі харэаграфічна-пластычнымі эцюдамі, мовай танца ён як бы надае асаблівы сакральны сэнс падзеям, якія адбываюцца цяпер і павінны адбыцца ў будучым.

Работа Галі Абайдулава ў гэтым спектаклі вызначаецца тонка знойдзеным балансам паміж цытатамі з арыгінальнай харэаграфіі Джэрама Робінса з брадвейскай пастаноўкі і ўласнымі харэаграфічнымі знаходкамі. Тое ж самае можна сказаць і пра работу Уладзіміра Іванова — балетмайстра-пастаноўшчыка мінскага спектакля. Напрыклад, у абедзвюх пастаноўках мы бачым знакаміты харэаграфічны шэдэўр — танец з бутэлькамі на галаве, які выконваецца на вяселлі дачкі Тэўе. Але пасля гэтага Уладзімір Іваноў адразу дае галавакружна-экспрэсіўны танец, які эмацыянальна вельмі ўзбагачае сцэну вяселля, а потым яшчэ танец дзяўчат і нават — сумесны. І ўсё гэта — з адметнымі рысамі нацыянальнай яўрэйскай харэаграфіі.

Наогул, спектакль Беларускага музычнага тэатра больш раскаваны і больш дынамічны ў параўнанні са стрыманасцю і нават некаторай зацягнутасцю спектакля Свярдлоўскай музкамедыі (што тлумачыцца немагчымасцю рабіць купюры і неабходнасцю вытрымліваць пастаноўку ў духу 60-х гадоў мінулага стагоддзя). Да таго ж ён больш маляўнічы ў сцэнаграфіі і касцюмах у параўнанні з чорна-белай гамай, у якой вытрыманы «Скрыпач на даху» (персанажы якога як быццам сышлі са старых фотаздымкаў). Але пры гэтым мы бачым і неверагодную тэхналагічнасць амерыканскага мюзікла (уключаючы нават яго светлавое вырашэнне), унутраную збалансаванасць і знешнюю завершанасць яго формы. Таму само сабой напрошваецца супрацьпастаўленне па прынцыпе формы і зместу. Амерыканскі мюзікл больш дасканалы па сваёй форме, а наш — больш глыбокі па сваім змесце.

* * *

Планавалася, што гастролі завершацца маштабным гала-канцэртам з удзелам усіх творчых калектываў тэатра, але па шматлікіх просьбах гледачоў яшчэ адзін прайшоў дадаткова.

Акрамя таго, на сцэне Палаца прафсаюзаў адбыўся канцэрт інструментальнай групы «Изумруд» і вакальнай групы «NON SOLO». Артысты тэатра таксама далі бясплатныя выязныя канцэрты для працоўных калектываў трох мінскіх заводаў — аўтамабільнага, трактарнага і маторнага. І прынялі ўдзел у правядзенні Свята горада, выступаючы на канцэртных пляцоўках Мінска.

За час гастроляў было арганізавана таксама шмат цікавых і плённых сустрэч. Так, генеральны дырэктар Свярдлоўскага тэатра музкамедыі Міхаіл Сафронаў правёў творчую сустрэчу са студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, сустрэчы з дырэктарамі школ Мінска і прарэктарамі вышэйшых навучальных устаноў Беларусі.

Артысты групы «Изумруд» правялі майстар-класы з навучэнцамі Мінскага каледжа мастацтваў, а галоўны рэжысёр тэатра Кірыл Стрэжнеў — са студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

Так што гастрольная праграма гасцей з Урала была больш чым насычанай. І яны з задавальненнем арганізуюць падобныя сустрэчы для нашых артыстаў, галоўнае — хутчэй вызначыцца з паездкай, што залежыць не толькі ад жадання тэатра.



Наталля ЗАЯЦ

# ПАЭТАВА СЯЛІБА




**Васіль ЗУЁНАК**
**АЗІРНУЎШЫСЯ, НЕ СКАМЯНЕЦЬ...**

*Серыя «Беларуская паэзія XX стагоддзя»*
*Мн.: Мастацкая літаратура, 2013*

З 1999 года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіць серыя «Беларуская паэзія XX стагоддзя». Дзякуючы гэтым досыць кампактным па фармаце і аб'ёме кнігам можна атрымаць уяўленне пра лірычную творчасць класікаў і сучаснікаў М. Багдановіча, У. Дубоўкі, М. Танка, П. Панчанкі, У. Караткевіча, Р. Барадуліна, А. Пісьмянкова і іншых выбітных паэтаў. У 2013 г. гэты пачэсны шэраг папоўніў і зборнік яркага прадстаўніка філалагічнага пакалення, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі В. Зуёнка. У кнігу «Азірнуўшыся, не скамянець...» увайшлі выбраныя вершы і фрагменты з паэмнай пенталогіі «Пяцірэчча». Змешчаныя ў храналагічным парадку, яны ўяўляюць сабой своеасаблівую біяграфію пісьменніка — паказваюць, што хвалявала аўтара на розных адрэзках літаратурнага і жыццёвага шляху.

Сам пералік назваў у змесце кнігі выяўляе тэматычныя дамінанты лірыкі В. Зуёнка: «вайна», «прырода», «лес», «вёска», «горад», «памяць», «вечнасць», «слова», «паэзія», «сусвет», «зоркі», «агонь», «сонца», «Чарнобыль», «мама», «хата», «двор», «Бог», «вечнасць», «малітва»... Акрамя таго, у змесце пазначаны геаграфічныя каардынаты быцця творчасці паэта: рака Нача, вёска Мачулішча, Халопенічы, Узнацк... З самага пачатку, з другой паловы 1950-х, мастакоўскі погляд В. Зуёнка сягае ад вясковай хаты — да касмічных вышыняў, ад побыту звычайнага чалавека — да лёсу нацыі, ад маленькай былінкі — да «галактычных» філасофскіх праблем, ад гістарычных глыбіняў — да праекцый у будучыню.

Кніга сведчыць пра зацікаўленасць аўтара пытаннямі жыцця і смерці, маральнай чысціні асобы, узаемаадносін чалавека з прыродай, захавання нацыянальнай самабытнасці народа. На працягу стагоддзя яны паспяхова разглядаліся паэтам, набывалі ідэйнасэнсавую аб'ёмнасць, шматграннасць і глыбіню. У творах раскрываецца глабальнае самаадчуванне лірычнага героя як часцінкі Сусвету: «Адзінота, самота, згрызота... — // А планета бушуе навокал... // І бяжым статкавацца, каб потым // Уцякаць — далёка-далёка... // Каб забыцца на шумны гармідар, // Засланіўшыся цішынёю... // Я не з тых, каб з такой піраміды // Зноў ляцець у натоўп галавою. // Што бяседы, што вечарынкі — // Я даўно за сабою пры-

кмеціў: // Мне хапае адной травінкі, // Каб не быць адзінокім у свеце…» Адзіным і непадзельным аб’ектам мастацкага даследавання, асабліва ў натурфіласофскай лірыцы, выступае трыяда «Прырода — Космас — Бог» ва ўзаемадачыненні з чалавекам. Паказальны ў гэтых адносінах верш-запавет 1994 года, прысвечаны ўнуку: «Знай: калі з’явіўся ты на свеце, // Значыць, хтосьці думаў пра цябе. — // Космасу, Прыроды, Бога дзеці — // Мы заслон Хаосу, што ў гульбе // Дзікага, сляпога беспрасвецця // Без душы і розуму гібеў. // Знай: усё асвечана ў Прыродзе — // Кожны мае свой высокі знак. // Вольны быць пад сонцам на выгодзе // Чалавек і дробненькі чарвяк, // То жыві і ты з усімі ў згодзе, // Злу не патакаючы аднак...»

Акрамя вершаў, у кнізе змешчаны фрагменты паэтычнага эпасу «Пяцірэчча». У томе выбранага пенталогія займае 83 старонкі — прыблізна трэцюю частку ад аб’ёму арыгінальнага тэксту. Безумоўна, такі спосаб прэзентацыі твора не самы лепшы, тым не менш урыўкі з паэм «Сяліба», «Прыцягненне», «Маўчанне травы», «Лукам’е» і «Падарожжа вакол двара» хоць і часткова, але даюць уяўленне пра ідэйна-эстэтычны змест пенталогіі. «Лукам’е», «Сяліба» і «Прыцягненне» аб’яднаны ў паэтычную трылогію пад агульнай назвай «Агонь і сонца» з аўтарскім падзагалоўкам «Паэма Радзімы». Агульнае для іх — клопат пра ўвесь Сусвет: ад берагоў рачулкі Начы да недасяжных планет, ад даўняй крывіцкай сялібы да Сялібы-Зямлі. У трылогіі судакранаюцца розныя часавыя і прасторавыя сферы: сівая мінуўшчына, глыбіні вякоў («Лукам’е») — сучаснасць (пераважна «Сяліба») — будучыня, касмічныя вышыні («Прыцягненне»). «Маўчаннем травы» і «Падарожжам вакол двара» аўтар аддае даніну павагі памяці бацькі Васіля Захаравіча і маці Куліны Канстанцінаўны. У абодвух творах праз аповед пра асабістае (лёс сваёй сям’і, страту маці) паэт стварае эпапею лёсу беларусаў на працягу шчодрага на драматычныя падзеі XX стагоддзя: войны, калектывізацыя, рассяляньванне вёсак, Чарнобыль...

У выбранае ўключаецца толькі самае рэпрэзентатыўнае — тое, што найбольш ярка і годна характарызуе творчасць паэта. В. Зуёнку, доўгі час галоўнаму рэдактару часопісаў «Бярозка» і «Маладосць», добра вядома рэдактарская справа — такі вопыт найлепшым чынам паўплываў на мастацкую якасць і «выбранасць» уласнай паэзіі. Дарэчы, здадзены ў выдавецтва аўтарскі рукапіс утрымліваў намнога больш твораў. У кнігу ж увайшлі вершы, адабраныя рэдактарам В. Шніпам, які, відаць, кіраваўся ўласным адчуваннем слова ды прымаў пад увагу абмежаваны аб’ём серыі. Тым не менш нават у такой лаканічнай форме кніга «Азірнуўшыся, не скамянець…» паказвае багаты мастацкі плён В. Зуёнка — вынік яго паўвекавой літаратурнай дзейнасці. Будзем спадзявацца, знаёмства з гэтым томам «Беларускай паэзіі XX стагоддзя» стане добрым стымулам для аматараў літаратуры далучыцца да набытку выключна таленавітага сучаснага аўтара, заахвоціць прачытаць яго іншыя, народжаныя ўжо ў XXI стагоддзі, творы.



Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ЗВІНЯЦЬ СТРУНЫ СЭРЦА...




*Алесь ДЗЯТЛАЎ*

**ПАМЫЛКА СТАРОГА ГЛУШЦА**

*Мн.: Мастацкая літаратура, 2014*

«Пішу, як жыву» — так назваў Янка Брыль уласную кнігу лірычных мініяцюр. І, пэўна, толькі пра тое, што перажыта, і можна пісаць мініяцюры, абразкі, «зацемкі» ці як паіншаму, інтымна, вызначаюць малую форму аўтары. Бо ў цесных рамках невялічкага твора кожнае слова набывае асаблівую вагу, павінння быць да месца, лагічна выверана, добра знаёма пісьменніку.

Алесь Дзятлаў больш за дваццаць гадоў працаваў у часопісе «Родная прырода». Таму і апавяданні, лірычныя мініяцюры яго кнігі «Памылка старога глушца» ніяк нельга назваць штучнымі, надуманымі, клішыраванымі. Замілаванне роднымі краявідамі, своеасаблівае «адраджэнскае» ды біблейскае ўспрыманне прыроды як найвялікшага цуду адчуваецца ў малой прозе пісьменніка. «Здаецца, што кветачкі — чыстыя дзіцячыя вачаняты, сінія-сінія, светла глядзяць на лес, сонца, на людзей», — пранікнёна заўважае Алесь Дзятлаў. Амаль усе творы кнігі вызначаюцца ўзнёслымі паэтычнымі назвамі: «Срэбны цуд», «Полымя на снезе», «Чырвонае дзіва», «Кропля блакіту», «Белапенная квецень», «Існасць душы» і г. д. Пра гэта трапяткое стаўленне да прыроды сведчыць і фіксаванне драбнейшых змен навакольнага асяроддзя. Так звычайна закаханыя заўважаюць нябачныя для старонняга вока змены настрою любага чалавека… Пылок шэрані з галін, што пераліваецца срэбрам на сонцы, крык кнігаўкі на балоце, што прадвяшчае ясны дзень, дружная сямейка пралесак, «сатканых з чыстага блакіту неба» — нічога не абмінае вопытны позірк творцы. Чытаючы такія падрабязныя пейзажныя замалёўкі, жыва ўзгадваеш прозу Паўстоўскага, дзе «лёгкі пошум дажджу і пах спелай пшаніцы»…

Цудоўна ведаючы палітру і ноты беларускай прыроды, Алесь Дзятлаў стварае карціны зрокавыя і гукавыя. Нездарма свае мініяцюры аўтар называе эцюдамі. Удала карыстаецца ён магчымасцямі гукапісу, малюючы, да прыкладу, раптоўны руды сполах на

снезе — бег імклівай лісіцы: «І раптам на белай роўнядзі каля бярэзніку мільганула нешта вогненна-рудаватае, нібы вырваўся аднекуль кволенькі касмылёк полымя». Цікавыя, дасціпныя ў пісьменніка і параўнанні: чырванагрудыя гілі важна пазіраюць, як «дзяды на покуці», рагамі аленяў падаюцца чорныя сукі-куксы…

Мудрая павучальнасць пры гэткай квяцістасці стылю — яшчэ адна цікавая рыса творчай манеры Алеся Дзятлава. Многаму можна навучыцца ў прыроды, звяроў, птушак — галоўная ідэя твораў кнігі «Памылка старога глушца». Чаму менавіта? Ды хаця б нястрымнай жыццярадаснасці («верабей хутка забывае крыўды, шчыра радуецца кожнай удачы, не перажывае ў горы»), ці самаахвярнай салідарнасці («сарока ў лесе папярэдзіць лясных насельнікаў пра чужака, дзяцел не адгоніць лясных птахаў ад пня, з якога моцнай дзюбай дастае розных лічынак, чужая зайчыха пакорміць любое маленькае зайчанё, што трапілася ёй на вочы»). А яшчэ пры ўяўнай прастаце і відавочнасці сэнсу творы Алеся Дзятлава філасафічныя, глыбокія. Узяць хаця б эцюд «Першы». Крокі адзінокага лыжніка на свежым снезе — гэта пачатак новага шляху (не толькі свайго, а яшчэ некага, хто пойдзе пасля). Заўсёды складана пачынаць новую справу, здабываць вопыт для сябе і іншых, аднак «некаму ў жыцці заўсёды трэба ісці першаму».

Спасціжэнне прыроды для Алеся Дзятлава — крыніца натхнення і тэрапія душы, што ён неаднаразова падкрэслівае ў кнізе: «Раніца звонкая, марозная; прыпынішся, услухаешся ў глухі пошум хвойніку, замружышся ад зыркіх промняў сонца, з асалодай п' еш свежы водар лесу — і адразу ўздымецца настрой».

Ад захаплення, апантанасці «звіняць струны сэрца», як удала выказаўся майстар лірычных мініяцюр Змітрок Бядуля. Стройны звон сардэчных струн перадае і пейзажная проза Алеся Дзятлава. А гэта, пагадзіцеся, самая прыемная на свеце музыка.




*Алесь БАДАК*

**ЗОРКА ДЛЯ ВАВЁРКІ**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

Вы калі-небудзь задумваліся над тым, як пішуцца дзіцячыя казкі і гісторыі? Як знаходзіць натхненне дарослы чалавек, які павінен прыгадаць свае дзіцячыя эмоцыі і перажыванні, пэўным чынам перабудаваць уласную сістэму мыслення на дзіцячы ўзровень? Бо калі пісьменнік глядзіць на дзіця «з вышыні», прамаўляе з падкрэслена павучальнай інтанацыяй, не разумеючы важнасці яго праблем, — гэта адразу заўважна. Алесь Бадак у інтэрв'ю часта раскрывае сакрэты творчай кухні. Галоўныя з іх — цішыня і спакой: «Калі пісьменнік стварае, ён як быццам бы аддзелены ад свету сцяной». Толькі так, адгарадзіўшыся ад мітусні і праблем, можна адкрыць для сябе неверагодны фантастычны свет, свет жывых рэчаў, які так любіў Андэрсен.

«…І калі доўга-доўга слухаць цішыню і глядзець у кут, куды не трапля-

юць месяцовыя промні, можа падацца, быццам у пакоі нехта шэпчацца і варушыцца», — менавіта так пачынаецца казка Алеся Бадака «Акварэлькі» з новай кнігі «Зорка для вавёркі». З дзяцінства мы прызвычаіліся думаць, што ноччу ажываюць лялькі, салдацікі… Але, аказваецца, нават звычайныя акварэльныя фарбы могуць весці ўласнае начное жыццё і турбавацца за лёс свайго гаспадара. З гумарам, жыва вядзецца казачны аповед. Галоўнага героя, вучня першага класа, пісьменнік называе няйначай як Андрэй Сцяпанавіч Салавейчык. А чаму б і не? Вакол маленькага чалавека таксама можа свет круціцца! Прага да творчасці, самавыяўлення — тое, чаму ніколі нельга перашкаджаць пры выхаванні дзяцей. Рамантычнае светабачанне — крыніца натхнення і паўнавартаснага развіцця. «Мы можам назаўсёды забіць у яго жаданне маляваць», — хвалююцца акварэлькі ў казцы. Вытанчаная стройная кампазіцыя — вызначальная рыса творчай манеры Алеся Бадака, яскрава праяўляецца і ў яго творчасці для дзяцей. Адкрыты фінал прымушае дадумаць самім, стварыць уласную фантастычную гісторыю.

Звяртаецца Алесь Бадак і да наіўнага тлумачэння свету як першаснай асновы фальклорных твораў, у тым ліку твораў дзіцяга фальклору: тлумачыць паходжанне чаплі кваквы, якую яшчэ называюць начной чапляй, у алегарычнай форме раскрывае сутнасць кругавароту вады ў прыродзе, разважае над назвай расліны кураслеп, над тым, хто запальвае ў небе зоркі… Увогуле, добрая, шчымлівая пачуццёвая атмасфера казак кнігі, асабліва апошняй, «Зорка для вавёркі», нечым нагадвае эмацыйны тон казачных гісторый Сяргея Казлова пра Вожыка і Медзведзяня.

Сур'ёзная сучасная праблема дзіцячай адзіноты, калі бацькі цэлымі днямі працуюць, не знаходзяць часу для заняткаў з дзецьмі вырашаецца ў казцы «Стары тэлефон». Ды і іншыя чарадзейныя гісторыі шчодра перасыпаны мудрымі выслоўямі, парадамі, папярэджаннямі кшталту: «Перш чым нешта рабіць, трэба добра падумаць», «А ты сам што ўмееш рабіць?», «Сапраўдным талентам заўсёды дома зайздросцяць». Не ганарыцца, імкнуцца не толькі да кніжнай навукі, але і да выпрацоўкі важных чалавечых якасцей, не чарсцвець душой — вось якія пасланні можна атрымаць, уважліва чытаючы кнігу «Зорка для вавёркі».

Нават казачныя сюжэты Алесь Бадак прызвычаіўся браць з паўсядзённага, жыццёвага. Чаму б і нам не паспрабаваць проста паслухаць цішыню. А раптам пачуем што-небудзь цікавае?




*Сяргей ДАВІДОВІЧ*

**ДЗЕДАВА ЖАЛЕЙКА**

*Мн.: Мастацкая літаратура, 2015*

Не стаў я «крутым» і «новым»,
Мы з сённяшнім днём — не радня.
Застаўся душой вясковым,
Не трактар люблю — каня…

Так выказаўся некалі Сяргей Давідовіч наконт уласнага светаадчування

і характару таленту. І можна было б пагадзіцца з Сяргеем Фёдаравічам, калі прыгадаць яго прасякнутыя мяккім гумарам карціны з сюжэтамі вясковага жыцця. Але прааналізаваўшы глыбей, заўважаеш, што і ў жывапісе Давідовіча, і ў яго літаратурных творах шмат наватарскага, нават мадэрновага. Алегарычнасць, тонкае веданне псіхалогіі чалавечых узаемаадносін, інтэлектуальнасць — тыя рысы творчасці, якія, безумоўна, выяўляюць чалавека з шырокім кругаглядам, зацікаўленага ў прагрэсіўным развіцці, а значыць, сучаснага. Чалавека, які рупіцца за свабоду творчай думкі, веравызнання, самавыяўлення. Прычым такімі пазітыўнымі ідэямі пісьменнік і мастак дзеліцца не толькі з дарослымі, адукаванымі чытачамі, а і з дзецьмі, падлеткамі. З маленства глыбока задумвацца пра прызначэнне чалавека на зямлі, жыць сваім розумам, але і прыслухоўвацца да парад старэйшых — верны шлях да таго, каб стаць «сапраўдным чалавекам». Новая кніга казак і прыгод для дзяцей Сяргея Давідовіча «Дзедава жалейка» — першая прыступка да атрымання гэтага годнага звання.

Здаецца, кніга мае назву алюзійную, якая адсылае да літаратурнага працэсу пачатку мінулага стагоддзя, але ад састарэлага, нецікавага для сённяшніх чытачоў у ёй няма абсалютна нічога. Разумны баланс сучаснага і традыцыйнага — так можна коратка ацаніць змест захапляльнай кнігі. Кожная казачная гісторыя ў ёй — гісторыя адкрыццяў, пашырэння душэўнай тэрыторыі маленькіх герояў. Яўсейка даведваецца пра невычэрпную сілу мастацтва, Сцёпка — пра тое, што звычайныя кніжкі могуць падарыць новы свет, Алесь — як абраць прамую дарогу па жыцці, Хвядоска — як адшукаць свае карані, а ўсе мы — як пісаць казкі. Падобна шведскай пісьменніцы Пэрніле Стальфэльт, Сяргей Давідовіч не баіцца расказваць дзецям пра смерць: у казцы «Яўсейка і дзедава жалейка» хлопчык губляе дзядулю і ратуецца ад смутку з дапамогай чароўных гукаў музычнага інструмента, у казцы «Волік» бычок атрымлівае ўсведамленне, што мусіць быць забіты на мяса, як і ўся свойская жывёла... Вядома, што кніга «Дзедава жалейка» разлічана далёка не на «дашкалят», аднак праблемы, што ўзнімаюцца ў ёй, на дзіва сур'ёзныя нават і для падлеткаў: праблема бацькоў і дзяцей, памяці і пашаны продкаў, нават... праблема вымірання чалавецтва. Але не трэба пужацца, што юных чытачоў будзе бянтэжыць і адштурхоўваць падобны змест. Арганічна і далікатна аўтар як бы «закідае вуду» ў свядомасці дзяцей, рыхтуе глебу для далейшых разважанняў, каб не наступіў «эгаістычна-драпежны перыяд кан'юнктурна-бездухоўнай эры». Здзіўляе і ўменне пісьменніка ўвесці сюжэтныя падзеі казак-прыгод у беларускі культурны кантэкст. Сучасны хлопчык Яўсейка нечым нагадвае Коласавага Сымона-музыку, а Стасік спявае для іншапланецян «Касіў Ясь канюшыну». Увогуле, казкі Сяргея Давідовіча — элементы вельмі шырокага культурнага зрэзу: ён выкарыстоўвае як традыцыйныя казачныя формулы (напрыклад, камень на ростанях), так і аўтарскія фантазійныя формы (дыялог Івана Крылова са сваімі героямі, майстар-клас па напісанні казак і г. д.). Тыя, хто цікавіцца іншапланетнымі падарожжамі і апавяданнямі пра эру будучага, таксама знойдуць для сябе шмат цікавостак у свеце творчай фантазіі Сяргея Давідовіча. Дэталёвыя апісанні знешняга выгляду іншапланецян, іх планетарнай сістэмы, транспартных сродкаў — усё гэта, несумненна, зацікавіць сучасных дзяцей і падлеткаў, якія вераць у бясконцасць разумовай прасторы. Жывая сувязь чалавека з Сусветам падкрэсліваецца лейтматывам еднасці чалавека з іншапланетнымі істотамі: нават імя дзяўчынкі з іншага вымярэння, Кісатс, утворана пры дапамозе адваротнага парадку літар імя зямнога хлопчыка Стасіка. Да таго ж фэнтэзі-прыгоды прасякнуты прагрэсіўнымі ідэямі гуманізму і пацыфізму, зямлянам ёсць чаму павучыцца ў сваіх братоў па розуме: «У дзяржаве, а яна адна на

планеце, няма арміі, няма зброі — адпаведна, няма і войнаў, таму ўсе намаганні і сродкі накіроўваюцца на навукова-сацыяльныя праграмы. За кошт гэтага жыхары той планеты дасягнулі небывалых навукова-тэхнічных і сацыяльна-эканамічных вяршыняў». Аднак погляд Сяргея Давідовіча скіраваны не толькі ў далёкія нябёсы. Ён знаходзіць раўнавагу паміж тэхнічнымі сродкамі, штучным інтэлектам і «жывой душой». Зразумець мову жывёл і раслін, жыць у гармоніі з прыродай — усяго гэтага дасягнуць можа сучасны чалавек з адкрытым чулым сэрцам. Заатэрапія — сапраўднае ратаванне ў наш час бясконцай мітусні і матэрыяльнага разліку: «Здаецца, абняў бы яго [каня], прытуліўся да жывой душы — і падужэў бы, і ўся хворасць адступіла б …»

Сучасны, прагрэсіўны і ў той жа час традыцыйны, прыземлены характар таленту дапамагае Сяргею Давідовічу заставацца цікавым сённяшнім падлеткам і ненадакучліва, без залішняга маралізатарства, вучыць іх захоўваць чысціню пачуццяў, развіваць вобразнае мысленне. «А вось, глядзі, стаяць дзве маладыя бярозкі. Думаеш, яны моўчкі стаяць? Гэта ж дзве дзяўчынкі, якія шчыра дзеляцца сваімі дзявочымі сакрэтамі. Ты прыкладзі вуха спачатку да адной, затым — да другой і даведаешся, што яны закаханыя вунь у тых клёніка і дубка. І голлем сваім яны цягнуцца сарамліва да іх. Жадаю вам шчаслівай сустрэчы!» — раіць усім мудры пісьменнік-казачнік. Няхай жа такіх шчаслівых сустрэч у жыцці кожнага з нас будзе як мага больш!



# ЛІСТАПАД

У **лістападаўска-снежаньскім** (здвоеным) нумары за **1948 год** «Полымя» пачало друкаваць раман Міхася Лынькова «Векапомныя дні». Гэта быў адзін з першых беларускіх раманаў пра Вялікую Айчынную вайну і, у прыватнасці, пра партызанскі рух на акупіраванай фашыстамі тэрыторыі, і, відавочна, самы амбіцыёзны па сваёй задуме твор, які неўзабаве быў названы эпапеяй і выклікаў пэўныя асацыяцыі з «Вайной і мірам» Льва Талстога. Праўда, Талстой узяўся за свой раман, калі з часу напалеонаўскага нашэсця прайшло не адно дзесяцігоддзе, Лынькоў жа пісаў, што называецца, па гарачых слядах: ужо ў 42-м, з'яўляючыся рэдактарам франтавой газеты «За Савецкую Беларусь», што выходзіла на Заходнім, Цэнтральным і Бранскім франтах, ён пачаў збіраць матэрыял для «Векапомных дзён». Пазней у друку можна было прачытаць урыўкі з будучага твора, і нарэшце пад канец 48-га «Полымя» змясціла першую кнігу рамана. Трэба сказаць, што крытыкі і чытачы даволі прыхільна сустрэлі новы твор пісьменніка, што абнадзеіла яго ў нямарнасці сваёй задумы, і калі ў 1951 годзе першая кніга «Векапомных дзён» выйшла асобным выданнем, аўтар назваў яе раманам-эпапеяй. Гэтае вызначэнне дружна падхапіла крытыка: Я. Герцовіч сваю рэцэнзію ў «Полымі» на «Векапомныя дні» назваў «Эпапея пра гераізм народа», рэцэнзія У. Канца ў «Віцебскім рабочым» называлася «Эпапея векапомных дзён», В. Карабана ў «Палескай праўдзе» — «Эпапея народнай барацьбы»… У 1958 годзе «Векапомныя дні» выходзяць ужо ў чатырох кнігах, і рэцэнзіі на іх пішуць Д. Бугаёў, П. Дзюбайла, Ф. Куляшоў, Н. Пашкевіч, К. Хромчанка… Многія з іх на той час былі яшчэ маладымі крытыкамі, але сёння іх імёны гавораць самі за сябе. Праўда, у адрозненне ад водгукаў на тую, палымянскую публікацыю 48-га года, цяпер некаторыя аўтары ў сваіх артыкулах паказваюць не толькі станоўчыя бакі рамана. Так, напрыклад, Алесь Адамовіч у артыкуле «Сталасць маладой літаратуры», які ён уключыў у сваю кнігу «Культура творчасці», што пабачыла свет у 1959 годзе, пісаў: «Векапомныя дні» Міхася Лынькова належаць да ліку твораў, у якіх аўтарскі вопыт і вопыт народны арганічна злітыя, да ліку твораў, у якіх важныя падзеі паказаны як бы праз успрыняцце самога народа, праз яго мастацкую ацэнку. Такія творы нечым вельмі блізкія да фальклорных, яны заўсёды аптымістычныя і жыццярадасныя па змесце, па фарбах.

Чым далей адыходзяць у мінулае «векапомныя дні» вялікіх пакут і нябачанай гераікі Айчыннай вайны, усенароднай партызанскай барацьбы, тым больш узвышаная памяць аб тых днях: многае прымае формы легендарныя. Ды гэта і заканамерна: памяць народа ўтрымлівае самае галоўнае, пакідаючы ўбаку выпадковае, другараднае. Вартасць гэтага рамана не столькі ў праўдзівасці дэталей, бытавых падрабязнасцей, колькі ў шырыні і багацці агульнай карціны партызанскай барацьбы на Беларусі. На першым плане ў рамане іменна гераіка ўсенароднай барацьбы з азвярэлым фашызмам. Для рамана характэрны пафас народнага подзвігу, непераможнай стойкасці духу, пераконанасці ў сваёй праўдзе, паэтыза-

цыя партызанскай, народнай кемлівасці, перад якой смешна бездапаможнай выглядае велізарная ваенная машына ворага. Вось у чым прырода і лынькоўскага гумару.

У творы, так задуманым і выкананым, часта зусім апраўданымі з'яўляюцца сітуацыі і вобразы, якія ў «звычайным» рамане могуць здацца недастаткова праўдзівымі, ідэалізаванымі, спрошчанымі. І ўсё ж пачуццё меры не павінна парушацца. А між тым героям рамана подзвіг даецца часам занадта ўжо лёгка.

Больш за ўсё шкодзіць раману, рыхліць яго кампазіцыю, прыдае асобным месцам твора адценне рытарычнасці празмерная схільнасць «пагаварыць», якой хварэюць усе героі твора. Калі для Чмаруцькі такое «пляценне славес» апраўдана (натура яго ўжо такая!), то ў адносінах да некаторых іншых персанажаў тут яўнае парушэнне мастацкай меры».

Алесь Адамовіч мог сабе дазволіць рабіць такія заўвагі. І справа не толькі ў тым, што раман у чатырох кнігах выйшаў ужо ў час хрушчоўскага кіравання СССР. Але яшчэ і ў тым, што сам Адамовіч у 1942 годзе, яшчэ школьнікам, быў сувязным, а ў 1943-м — байцом партызанскага атрада імя Кірава 37-й брыгады імя Пархоменкі Мінскага злучэння.

Як адносіўся Лынькоў да падобных заўваг? Пэўна, як кожны творца, балюча. Але як сапраўдны майстра слова, на творчым рахунку якога былі многія знакавыя для беларускай літаратуры творы (аповесць «Міколка-паравоз», шматлікія апавяданні) ён сам бачыў уласныя пралікі і разумеў, што цяпер, пры такіх умовах і на такой аддаленасці ад вайны (не на такой, праўда, як было ў Талстога, тым не менш) ён ад пачатку пісаў бы па-іншаму. Але ўсё што мог зараз, пасля таго як раман атрымаў шырокі розгалас, — толькі бясконца правіць і скарачаць. Праўда, гэтая аддаленасць не давала яму магчымасці — у сілу ўласных пераконанняў, мастакоўскіх і жыццёвых — напісаць пра вайну так, як гэта зрабілі пасля яго маладзейшыя калегі, у прыватнасці, Васіль Быкаў, пра што, думаецца, сведчыць ліст да яго Міхася Лынькова, напісаны 16 студзеня 1971 года:

«Паважаны Васіль Уладзіміравіч!

Даўно атрымаў ад Вас пісьмо, але своечасова не адказаў, а таму вось і каюся «во гресех своих», і ўшчуваю сябе, і прашу прабачэння.

А прычына спазнення звычайная: адалявае старасць з усімі сваімі «хворямі» і трасцамі. Галоўны ж мой вораг — пракураныя амаль што да рэштак лёгкія. Адсюль вар'яцкая задышка, калі для таго, каб прайсці які квартал, трэба зрабіць некалькі прыпынкаў і нахапацца паветра, як хапае яго выкінуты на бераг шчупак…

Аднак адхіліўся я ад тэмы майго пісьма. Перш за ўсё — шчырае дзякуй за Ваша пісьмо, навагодняе павіншаванне і пажаданні, за напамінак аб маёй колішняй маладосці. Даўно мне хочацца пагаварыць з Вамі па некаторых праблемах нашай літаратуры, па асобных пытаннях, звязаных непасрэдна і з Вашай творчасцю. Але ўсё не траплялася зручнага выпадку. Спадзяюся, што такі выпадак будзе. Вельмі рады за Вашага Сотнікава. Думаю, што Вы зразумелі прычыны і сутнасць гэтай радасці. Я ніколі ў жыцці не крывіў душой, а таму і не магу сказаць, што я як чытач быў задаволены ўсімі Вашымі рэчамі. З некаторымі з іх, а таксама з некаторымі асобнымі палажэннямі, асобнымі сітуацыямі быў я нязгодны. Ну, а такія творы, як «Альпійская балада», «Трэцяя ракета» і шмат якія іншыя, прымаліся мной, як гэта гаворыцца, на сто працэнтаў. Але ўсё гэта — тэма для нашай асабістай гаворкі».

Дзмітрый Бугаёў у сваёй прадмове да кнігі выбраных твораў Міхася Лынькова (куды «Векапомныя дні» не ўвайшлі нават адным раздзелам), што пабачыла свет у 2013 годзе ў серыі «Беларускі кнігазбор», пісаў: «Шмат напакутаваўся пісьменнік і з «Векапомнымі днямі». Матэрыялы для гэтага велізарнага рамана ў чатырох кнігах празаік пачаў збіраць яшчэ ў 1942 годзе... Але інтэнсіўная праца над ім за пісьменніцкім сталом пачалася з 1947 года. Ды ішла яна часта з вялікім скрыпам, са шмат-

лікімі перапынкамі. Перашкаджалі і службовая занятасць, і розныя няшчасці. Асабліва ўзрушыла Міхася Ціханавіча бяда з Соф'яй Захараўнай, ягонай маладой, поўнай жыццёвых сіл жонкай, якую ён узяў праз тры гады пасля гібелі першай сям'і (першую жонку пісьменніка Хану Абрамаўну Аранкову і сына Марыка фашысты забілі ў 1942 годзе. — **А. М.**). У верасні 1948-га яна трапіла ў аўтамабільную аварыю. Становішча было настолькі крытычнае, што Міхась Ціханавіч думаў нават пра самагубства. Пяць месяцаў ён дапамагаў медыкам выходжваць жонку. І яна стала на ногі. Пра «Векапомныя дні» ў гэты час не было чаго і думаць. Скаргі на цяжар працы над імі ў пісьменніцкіх лістах ідуць адна за другой. 1.X.49: «Працаваў на поўную моц сваіх сіл — гнаў раман. Не ведаю, я адолею яго ці ён мяне». 5.IV.1950: «Страшэнна стаміўся… Апошнія старонкі першай кнігі рамана даюцца з цяжкасцю». 25.III.1952: «Амаль год, як не напісаў ніводнай старонкі для 2-й кнігі «Векапомных дзён»». 12.VI.1955: «Націскаю на другую кніжку рамана, які цяжкай гарой наваліўся на мае плечы, і я пачынаю пабойвацца, што гэтая гара зусім прыцісне мяне». 6.IV.1956: «Гэта не праца ўжо, а сапраўдная катарга». 23.II.1957: «Я ўсё націскаю на свае «Векапомныя дні», абалдзеў ужо ад іх да замарачэння… папраўляю, рэжу, скарачаю».

Гэта ўжо рыхтавалася чатырохтомнае выданне рамана, надрукаванае ў 1958 годзе. Тут кожная ранейшая кніга была падзелена на дзве. Але і яно не задаволіла пісьменніка. Праз дзесяць гадоў ён апублікаваў новую рэдакцыю твора, зрабіўшы ў ім шэраг новых паправак і скараціўшы каля 400 старонак. Раман урэшце быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Але аўтар і пасля гэтага сёе-тое правіў у ім і нават збіраўся перапісваць яшчэ раз. Ды здароўе падводзіла ўсё больш і больш, а таму гэты намер ужо не ажыццявіўся. І кананічным цяпер лічыцца выданне 1968 года.

Дарэчы, асобнае «кананічнае» выданне «Векапомных дзён» па-беларуску выйшла ў 1969 годзе. Апошняе ў перакладзе на рускую мову ўбачыла свет ў Маскве ў 1979 годзе, пасля смерці пісьменніка, якога не стала ў 1975-м. Потым раман быў змешчаны толькі ў 4 і 5 тамах яго васьмітомнага Збору твораў, што выходзіў у 1981 — 1985 гадах.

Думаў калі пра гэта сам Міхась Лынькоў ці не, але самым яго вядомым і папулярным творам стала аповесць «Міколка-паравоз», напісаная яшчэ ў 1935 годзе. Напісаная лёгка, шчодра перасыпаная тым самым знакамітым лынькоўскім гумарам, пра які, можа, і не да месца, а можа, з намёкам пісаў Алесь Адамовіч у дачыненні да рамана «Векапомныя дні».

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***



**У МІНСКУ «ПОЛЫМЯ» МОЖНА НАБЫЦЬ:**
- **магазін № 13, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін № 18, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін «Глобус», вул. Валадарскага, 16.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 284-84-61,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 13.11.2015 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 17,82. Тыраж 1934 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 23 300 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск